# 8/2005



# ПОЛЫМЯ

Таіса Бондар
Эдуард Зубрыцкі
Сяргей Патаранскі
Валерыя Кустава
Вершы

Павел Савоська
Апошні сезон
Аповесць

Уладзімір Гусакоў
Новая аграрная
і экалагічная стратэгія

Ева Лявонава
Не адзінокі востраў
(В. Быкаў
і сусветная літаратура)

**КАНДРАТ КРАПІВА**

## ДВА ПАРАДЫ

### I. Парад крыжаносцаў

За Брусель і за Парыж,
За Бялград і за Афіны,
За пажары, за руіны
Начапіў ім Гітлер крыж.
(Крыж жалезны — ганьбы знак,
Чорны, як душа фашыста.)
Цешыў ён сваіх сабак,
Абяцаў ім урачыста,
Што за лета, да зімы,
Будзем знішчаны і мы.
З крыкам — гох! пад гукі маршаў
Рушылі яны на Ўсход,
Стаў зямлю Радзімы нашай
Дратаваць фашысцкі бот.

### II. Парад крыжоў

Гневам, помстаю гарачай
Іх сустрэў герой-народ:
Смерцю чорнаю сабачай
Тут палёг фашысцкі зброд.
За пакуты, кроў і слёзы,
За разбой і грабяжы
Ім драўляныя, з бярозы,
Забяспечаны крыжы.
Хай ім сыпле Гітлер ласкі,
Хай ім Гебельс бае казкі
Хоць у сотню языкоў —
Мы прынялі іх па-наскі:
Засталіся толькі каскі
Ад арыйскіх чарапкоў.

***1942***



60-годдзе
ПЕРАМОГІ

# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС

8

(910)

2005
жнівень

ВЫДАЕЦЦА СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2005

# ЗМЕСТ





**ЗАСНАВАЛЬНІК — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**



Таіса Бондар

# «НАПЕРАДЗЕ — СЛАВА АЙЧЫНЫ...»

* * *

Пад дождж, пад дробны перастук
Ці кропляў сну, ці крокаў
Ішоў па ўскрайку дня пастух
За статкамі аблокаў.

І я ўзіралася ў яго
З надзеяй, што пазнаю...
Сінеча выйдзе з берагоў
Ад краю і да краю,

І на паверхні хвалі дзень
Акрэсліць знакі Неба —
Ключы да лёсаў і падзей,
Жаданняў і патрэбаў.

І ўкленчу я, пазнаўшы міг
Далёкай стрэчы з Любым...
Ніхто не бачыў нас дваіх
Тады, за крок ад згубы.

---

***Бондар Таіса Мікалаеўна** нарадзілася 20 лютага 1945 года ў гарадскім пасёлку Рудзенск Мінскай вобласці. Скончыла факультэт англійскай мовы Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў (1967). Настаўнічала ў горадзе Фалешты (Малдавія), загадвала аддзелам выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», была намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Беларусь», галоўным рэдактарам часопіса «Всемирная литература». Цяпер — дырэктар РВУ «Літаратура і Мастацтва».*

*Аўтар паэтычных кніг «Захапленне», «Акно ў восень», «...І голас набыла душа», «Святочны снег», «Чырвоны месяц года», «Спадчынны боль», «Адна», «Хачу назваць цябе каханым», «Час душы, мой час вячэрні», «Рагнеда», кніг прозы «Час, калі нас любілі», «Паветраны замак на дваіх», «Спакуса», «Ахвяры», «Павуцінне» і інш.*

*Лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне» (2004).*

І ўсе гадаюць: цуд, не цуд —
Грахі забраць з сабою?
І ўсе дагэтуль чыняць суд
Над цудам і любоўю.

* * *

На скрыжаванні ўсіх дарог,
У крузе ўсіх сямі нябёсаў —
Той абярэг, які зберог
Мой дом, мой род ад склёну лёсу.

Было — не раз, не два склінаў
За мудрасць спаконвечнай сілы,
І ўсё ж любоў, а не віна
Апратку спомінаў насіла.

І ўсё ж адно любоў штоміг
Прад абразом маліла Неба
За ўсіх — за мёртвых і жывых,
Хто выжыў, жыў не толькі з хлеба,

Хто зведаў горкі смак бяды
Падчас сусветных ліхалеццяў
І заставаўся маладым
Насуперак уласнай смерці.

І выстаяў мой дом, мой род,
І зноў, як скрозь, світаць прасторам
На скрыжаванні ўсіх нягод,
У ззянні ўсіх сямі прастолаў.

* * *

Колькі міфам скажоных радкоў...
Недавер да мяне, да жанчыны,
На працягу вякоў і вякоў
Вымагае больш важкай прычыны!

Дзе мяжа між крылом і крылом,
Калі птушка жыцця — у палёце?
Дзе прасцяг, што не ўмыўся святлом
Пасля ночы, адданай самоце?

Расцячэцца святло — і з яго,
З чыстых промняў яго прарастае
Не зямны, а нябесны агонь,
Не агонь, а сінеча густая.

З ночы ў дзень... Хто лічыў тыя дні?
З мары ў мару... Хто лгаў свайму сэрцу?
Даўні міф сам сябе бараніў,
За любоў спаганяючы смерцю.

Перасохла крыніца — па дну
Марна чэрпаць і чэрпаць з адчаем:
Дзве жыццёвыя сцежкі ў адну
Не адчай, а любоў спалучае.

Не адчай, а любоў!

* * *

Сем крэмавых ружаў,
Сем кветак святла,
У золак,
У шэрань яго загарнутых,
Прыцягваюць зорку,
Што ў сон уплыла, —
Мне сніцца
Мелодыя гэтай мінуты,

Мелодыя шчасця,
Шчаслівай любві,
Не страчанай,
Проста забытай аднойчы
На ўзбоччы,
Між п'яных вясною рабін...
Ніхто з нас дваіх
Не вярнуў гэтай ночы.

Сем крэмавых ружаў
Прысніліся зноў —
Праз столькі гадоў
Забыцця і самоты! —
Хоць сэрца даўно ўжо
Баіцца дароў,
Прынесеных снамі
Праз снег і сумёты.

Жыццё даганяе
Зіму за зімой,
І дзіўна,
Што ўсё яшчэ сняцца і ў сцюжу
Мелодыя стрэчы
З любоўю сваёй,
Мелодыя шчасця,
Сем крэмавых ружаў...

* * *

Непрымальнасць рэальных падзей,
Безнадзейнасць любой прапановы...
Кожны век, кожны год, кожны дзень
Слова страчвае сэнс адмысловы.

Сэнс ад Бога. Азначаны Ім...
І блукаюць бяздомныя душы
Між жыццём і адчаем сваім,
Між сваім і чужым раўнадушшам.

Не падняцца над ім, не ўзляцець,
Не абсекшы ўсе повязі з векам,
Не разбіўшы нябесную цвердзь
У душы, ў яе цёмным люстэрку.

Хтосьці сплюне: бяздарная смерць...
Хтосьці ціха ўздыхне: адпакутваў...
Марна верыць, што можна ўзляцець
Над жыццём, да сцяжыны прыкутым.

І ніхто не зірне ў вышыню,
І ніхто не заўважыць свячэння
Там, дзе ноч пакланілася дню,
Перш чым прастрань акрылася ценем.

* * *

Абраз, відочна старадаўні,
Згарэлы, страчаны шматкроць:
Дванаццаць вучняў і Настаўнік,
Дванаццаць і Адзін — Гасподзь!

Ні сведчанняў, ні сведкаў цуду,
Якому слугавала смерць.
І, хто з дванаццаці — Іуда,
За смерцю ўжо не разглядзець.

Знаёмы жэст? Знаёмы профіль?
Іканапісец прасачыў
За кожным з іх не на Галгофе,
Не на палотнішчы начы,

Раскрыленым святой любоўю
Вялікай грэшніцы... Не, не,
Мо суцяшэнне і слабое,
Але абраз пазнаў мяне.

Знайшоў мяне ў базарным гудзе
Перанаселеных эпох,
І я не мару больш аб цудзе:
Я ў ім і з ім, Хрыстос — мой Бог.

* * *

То ветрана, то сонечна, то хмарна...
Блікуюць цені, танчаць міражы,
І іх, як гэты дзень, адпрэчваць марна:
Ні ў ветра, ні ў нябёс няма мяжы.

Пагляд то патанае ў чыстай сіні,
То адплывае з ёй за далягляд —
Туды, дзе ззяюць купалы Расіі
Над сценамі яе струхлелых хат.

Здаецца, бачу шэрыя падворкі,
Зарослыя ўспамінамі старых
Пра веліч спраў былых, пра лёс свой горкі,
І — баранюся крыўдаю за іх.

За іх (за нас!), прад памяццю бяссільных.
Была вайна — і ёй няма мяжы.
Гады... ўспаміны... — ў золаце на сіні
Адбіткі іх нагадваюць крыжы.

І страшна думаць, што ў цішы дрымотнай
Даспее новы навальнічны час...
То сонечна, то хмарна і самотна
З былога
неба дзівіцца на нас.

* * *

Жыццё не знаходзіць прытулку
У садзе няспраўджаных мар:
То вусцішна надта, то мулка,
То шмат неразветраных хмар.

А можа, адна і прычына,
Што ўсё застаецца ў былым:
І мары, і слава Айчыны,
І шчасця пажухлы палын?

Надарыцца цуд — і падманіць,
Наблізіцца выйгрыш — і шах...
Спазніліся словы прызнання,
Спазняецца вера ў свой шлях.

І марна шукаць вінаватых,
І смешна апраўдваць жыццё
За рэдкую радасць, за страты,
За спробы кідацца наўцёк.

Ці ж можна ўцячы ад прычыны,
Якая далёка ў вяках?
Наперадзе — слава Айчыны.
І ўсё яшчэ доўжыцца шлях...

* * *

Хто запісаўся ў прарокі,
Хто прапісаўся ў свой лёс,
Жэстам адчайна шырокім
Плюнуўшы ў пространь нябёс.

Так, бы, вярнуўшы Сусвету
Горыч пагарды, спачыў
І ад яе, і ад мэты
Выжыць хто ведае чым.

Выжыў — а што ў ім жывога?
Жыў — не лячыўся пастом,
Горкую піў, перад Богам
Каяўся рэдка: за што?

Не за дапітую ж пляшку!
Піў за свае. Не за так.
Звацца пракорам няцяжка:
Кожны разумнік — мастак.

Здэцца, сам Бог за плячамі:
Помні, маліся, жыві...
Толькі не слоў-павучанняў
Прагла душа, а любві.

Вось без любві і сканала —
Ведама ж, не першыня!
Шмат пражыла або мала —
Не дачакалася дня.

* * *

Не чую ні змогі, ні стомы,
Хоць дні запаволілі рух,
Ізноў спакушаючы домам
У садзе былых завірух.

І я паддаюся спакусе
На хвілю, на момант які:
Ну, што там памкненне? — не ўкусіць...
Ну, што той спакой? — напрасткі...

А сэрца працівіцца праўдзе,
Узраставай, даўняй — любой:
Ніякая праўда не згладзіць
Віны... Яшчэ доўжыцца бой,

Не той, супраць ворагаў, іншы —
За душы людзей, за дзяцей.
І мне, захлынуўшыся цішай,
Чакаць, покуль кроў зацвіце?

Мне, Богам на бойку пасланай,
Адседжвацца ў садзе гадоў?
Не, не! І банальна, і рана.
Ды й дом для мяне не гатоў.

* * *

Вечарэе ў душы. І святло
Не іскрыць, — пацямнеўшы, як срэбра.
Чыста фонам — гарачае тло
Дагарэлага толькі што неба.

Пагукала б у высь, — а каго
Мне гукаць, як Гасподзь мой са мною?
Астудзіла б яе, ды агонь —
Не зямны, хоць асветліць зямное.

Вось і цешуся шчасцем Зямлі
У чароўную гэту хвіліну,
Не спрабуючы срэбны прыліў
Утрымаць, затрымаць ва ўспамінах.

Штосьці ўспомніцца часу назло,
Штосьці знікне... Не шчасце. Не неба!
Вечарэе ў душы. І святло,
Пацямнеўшы, нагадвае срэбра.

Срэбра вечара ў крапінах хмар,
Срэбра возера ў люстры вячэрнім...
Бы нагадвае, чый гэта дар,
Бы падказвае, хто яго верне...

* * *

Споміны спрадвек не ваяры.
Што ім бараніць? За што змагацца?
Лёс, чым здолеў, тым і адарыў:
Праца... зноў і зноў цяжкая праца...

І не пад прымусам, як бубняць,
І не за капейчыну — за веру,
Што ўсім разам выняньчыць, падняць
Новы век, што шчасце — не хімера.

І, прызнацца, як чаго й шкада —
Гэтай веры, векам растаптанай...
Для каго — барыш, каму — бяда,
Хто ў тым разбярэцца сёння сп'яну?

Час ідзе. Дзяльба яго ідзе.
Слова — Слова! — больш цаны не мае.
Ні падзей не бачна, ні людзей —
За рэкламаю чужога раю.

Споміны? Я не збіраю іх —
Як ніколі не збірала фота, —
Не знайшоўшы сярод дзён былых
Дум ці слоў, адкладзеных на потым.

* * *

Хлусня паўсюль... З палос газет.
З эфіру. На экране.
Смяецца, п'е, гуляе свет
На ўласным пахаванні?

Замбіраваны рытмам дзён,
Аглух да здзеку й болю?
То гвалт. То гуд сірэн. То звон
Званоў нядолі-долі...

І ў паўтарэнні — не надрыў,
А радасць па-вар'яцку:
Жывы — жыві, даюць — бяры,
Хоць чарку сну, хоць цацку.

Жывём. Бяром. Не напавер,
А за душу ў загуле,
Дзе воля, як адна з хімер,
Паказвае нам дулю.

Чаго шукалі — набылі,
Што мелі — загубілі...
Каго пытацца, што Зямлі
Анёлы пратрубілі?

* * *

Дыпноты, форумы, рыбалкі...
Запіты боль... Заспаны страх...
Даўно не маршалы, — маршалкі
Рыхтуюць змовы пры дварах.

І наракаць на іх наіўна —
Сабе, як кажуць, даражэй:
Пад час падкладзеную міну
Ніхто, нішто не ўсцеражэ.

Наступіць міг — яна ўзарвецца,
Разнёсшы на друзкі прасцяг.
І ўсё таму, што згасла ў сэрцах
Любоў, спужаўшыся жыцця,

Жыцця, пазбаўленага веры
У сэнс ахвярнасці сваёй...
Смяяцца? Ўспомніць пра галеры?
Абгарадзіцца мітуснёй?

Ды не, наўрад ці дапаможа:
Загналі ў цем сябе саміх,
Чакаем бліску... Дай нам, Божа,
Спадзеўку на Цябе ў той міг!







**Павел САВОСЬКА**

# АПОШНІ СЕЗОН

***Аповесць***

*«Вся Чукотия есть не что иное, как громада голых камней, климат же здесь самый несносный».*

Капітан Іосіф Білінгс, 1792 год

## Частка першая

Дзесьці ў канцы верасня ўдарыў моцны марозік. Падмаражваць, праўда, пачало значна раней. І вяршыні навакольных сопак даўно пабялелі. Снегам на Чукотцы здзівіць цяжка, ён можа выпасці нават усярэдзіне кароткага лета.

У горнага майстра разведучастка Сцяпана Артамонава з самай раніцы быў прыўзняты настрой. Праз які тыдзень можна будзе выязджаць на праходку шурфаў. Апошні шурфовачны сезон. Як ён яго чакаў! Нейкіх восем месяцаў — і скончыцца ў яго тэрмін адпрацоўкі пасля інстытута, а там... Шасцімесячны адпачынак і звальненне. Хопіць! Налюбаваўся і красунямі-сопкамі, і палярным ззяннем... Няхай цяпер іншыя пасмакуюць паўночнай рамантыкі.

На Чукотку Сцяпан трапіў не па ўласным жаданні. У яго і ў думках не было браць размеркаванне ў гэткую далячынь. Ды выбіраць не даводзілася.

Пачалося ўсё яшчэ на трэцім курсе інстытута. Палітэканомію ў іх выкладала Таццяна Іванаўна Бугаёва. Удзельніца вайны, жанчына сур'ёзная,

---

*Савоська Павел Піліпавіч* нарадзіўся 2 студзеня 1941 года ў вёсцы Зарудзічы Смаргонскага раёна. Пасля вучобы ў Друйскім тэхнічным вучылішчы служыў у Савецкай Арміі.

*Нейкі час настаўнічаў, быў экскаватаршчыкам, грузчыкам на лесанарыхтоўках у Сібіры.*

*Скончыў Ленінградскі горны інстытут, працаваў на Чукотцы ў старацельскай арцелі «Мінерал», на Паўднёвым Урале, у Латвіі, на Віцебскім аб'яднанні «Кераміка», у газетах «Культура» і «Кнігарня». Зараз — механік кар'ера.*

*Апавяданні П. Савоські друкаваліся ў часопісах «Беларусь», «Работніца і сялянка». Ён аўтар кнігі прозы «Запіскі халасцяка».*

са сваімі поглядамі на жыццё. А ён узяў ды выступіў аднойчы на семінары ў абарону Мікалая Бухарына. Сцяпан шмат пра яго ведаў. А тут усе пачалі ні за што ні пра што яго бэсціць. Слова за слова... Карацей кажучы, усчалася спрэчка. А Таццяна Іванаўна так разнервавалася! Падышла да яго. Твар збялелы, а ў вочы — страх зірнуць. Сцяпан стаяў ля акна, і яму нават падалося, што выкладчыца ўдарыць яго па твары.

Таццяна Іванаўна на імгненне затрымала на ім свой раз'юшаны позірк і, нічога не сказаўшы, порстка павярнулася і выйшла з аўдыторыі. На перапынку да яго падышла Таня Калмыкова. У мінулым годзе яны разам працавалі ў студэнцкім атрадзе на будоўлі газаправода «Бухара-Цэнтр».

— Ну, Сцёпа, заварыў кашу! А як цяпер экзамен ёй будзеш здаваць? — ціха спытала яна.

— Не ведаю, — разгублена адказаў ён. А пасля зірнуў на Таню і дадаў: — Якая ж ты прыгожая...

— Дагаварыўся! — Таня ўсміхнулася, і яны выйшлі з аўдыторыі.

Да экзамену яшчэ два месяцы, можна было падрыхтавацца. Але праз які тыдзень да яго прыйшлі і забралі проста з лекцыі два супрацоўнікі Камітэта дзяржаўнай бяспекі. Яны былі ў цывільным, з каротка падстрыжанымі валасамі. Адзін з іх моўчкі паказаў Сцяпану пасведчанне супрацоўніка КДБ і сказаў, што з ім жадае пагаварыць палкоўнік. Яны выйшлі на вуліцу, селі ў чорную «Волгу» і паехалі.

Калі зайшлі ў кабінет, адзін з суправаджаючых коратка адрапартаваў: «Таварыш палкоўнік! Ваша заданне выканалі!»

За сталом у элегантным шэрым касцюме, пры гальштуку, сядзеў чарнявы хлопец. На выгляд яму было не больш за трыццаць. Ён падняўся з-за стала, падышоў да Сцяпана і працягнуў руку.

— Артамонаў Сцяпан Аляксеевіч, — удакладніў палкоўнік і пільна ўгледзеўся ў Сцяпана. — Прысаджвайся.

Потым палкоўнік вярнуўся, узяў папку і пачаў даставаць з яе паперы. Сцяпан таксама прысеў.

— Тут вось якая справа, — працягваў палкоўнік, — на цябе рэгулярна паступаюць скаргі з інстытута.

— Скаргі?

— Так-так, яны самыя...

— Дык я ж нічога такога...

— У адной з іх, — перабіў яго палкоўнік, — напісана, што студэнт трэцяга курса Артамонаў Сцяпан распаўсюджвае сярод студэнтаў нездаровыя чуткі наконт палітычнага ладу нашага жыцця. — Ён перастаў чытаць і запытальна зірнуў на Сцяпана.

— Якія чуткі? Што вы?! Проста выказваў свае думкі на семінарах...

— А вось яшчэ. «Наведвае сакрэтны гурток. На семінарах пастаянна ўхваляе сістэму арганізацыі працы на заводах капіталістычных краін». Ну і гэтак далей...

— Хлусня! Хто мог такое напісаць?! — з абурэннем ускрыкнуў Сцяпан. — Наведвае гурток! Смехата ды і толькі! Тры разы на тыдзень хаджу на трэніроўкі па валейболу, а пасля яшчэ і ў шахматны клуб. Летась выканаў нарматыў першага разраду па шахматах.

— А як праходзяць у вас семінарскія заняткі?

— Рыхтуемся, а пасля выказваем свае думкі.

— А з выкладчыкамі якія адносіны?

— Добрыя. Вось толькі нядаўна крыху паспрачаўся з Таццянай Іванаўнай. Яна ў нас палітэканомію выкладае.

— А што здарылася?

— Я за Мікалая Бухарына заступіўся, а яна так разнервавалася, што...

— Так... — Палкоўнік адкрыў яшчэ адну папку. — Толькі не думай, што хачу цябе напалохаць, але вось спіс студэнтаў, усяго дваццаць сем прозвішчаў, выключаных з інстытутаў Ленінграда без права паступлення ў вышэйшыя ўстановы нашай краіны.

— За што? — шэптам спытаў Сцяпан.

— Летась раскрылі гурток ва універсітэце. Мелі сваю праграму, друкавалі лістоўкі, нават зброю збіралі...

— Нічога сабе... Але ж я да іх аніякага дачынення не маю. — Сцяпан смела зірнуў у вочы палкоўніку.

— А такія прозвішчы табе нічога не гавораць: Вагін, Платонаў, Іваноў?

— Упершыню іх чую.

— Дык вось, яны стварылі ва універсітэце арганізацыю пад назваю «Усерасійскі хрысціянскі саюз вызвалення народаў». Гэта былі сур'ёзныя людзі. У іх была нават свая служба бяспекі. Калі мы іх арыштавалі, то знайшлі спісы з адрасамі і тэлефонамі ваенных і партыйных кіраўнікоў Ленінграда. Для чаго б гэта?

— Не ведаю, — адказаў Сцяпан.

— З цягам часу і Сцяпан Артамонаў трапіў бы ў поле іх зроку.

— Чаму?

— Бо ты веруючы, — адказаў палкоўнік. — І не адпірайся, мне ўсё вядома. Дарэчы, у адным з даносаў напісана, што ты агітаваў за веру ля Смаленскай царквы, так? І было гэта якраз на Святую Пасху.

— Я не агітаваў. Проста расказваў студэнткам з універсітэта, што вось-вось будзе вынас Плашчаніцы з целам Хрыста... Яны нічога не ведалі пра царкоўную службу...

— Верыць у нас нікому не забаронена, — перабіў палкоўнік. — Гэта асабістая справа кожнага. Нават Ісус Хрыстос вучыў, што маліцца трэба не выстаўляючы сябе на паказ. А што не маеш дачынення да бунтаўшчыкоў, то гэта добра, — усміхнуўся палкоўнік. — Як там наша Гродзенская вобласць мацуецца? Я, праўда, з-пад Мастоў, а ты са Смаргоншчыны, так?

— Жывуць землякі. Я вось хачу пасля экзаменаў на касьбу паспець, — адказаў Сцяпан.

— Студэнцкія гады самыя шчаслівыя. — Палкоўнік на хвіліну задумаўся, а пасля дадаў сцішаным голасам: — А недахопаў у нас хапае. Думаеш, нават я — палкоўнік КДБ, з усім згодзен? Але ж не крычу пра гэта на кожным скрыжаванні.

Тут Сцяпан асмялеў і спытаў:

— Няўжо вы палкоўнік? Вам жа дзесьці крыху за трыццаць, так?

— Трыццаць чатыры, — ён усміхнуўся. — Але ж у мае гады некаторыя даслужыліся і да звання генералаў.

На развітанне ён моцна пацiснуў Сцяпану руку і пажадаў паспяхова скончыць інстытут.

Пасля такога папярэджання Сцяпан пачаў адмоўчвацца на семінарскіх занятках. І не з-за таго, што спалохаўся, а проста крыўдна стала, быццам у людным месцы плюнулі ў твар.

А неўзабаве і летняя сесія падаспела. Яму адразу ж пашчасціла — палітэканомія стаяла ў раскладзе апошняй. Падрыхтаваўся даволі грунтоўна.

Таццяна Іванаўна прымала экзамены разам з маладой прывабнай аспіранткай, якая зусім нядаўна з'явілася на кафедры. Многія хлопцы старалісяісці здаваць да яе.

У Сцяпана і ў думках не было трапіць да аспіранткі. Але тут здарылася нечаканае. Калі пасля падрыхтоўкі ён падышоў да Таццяны Іванаўны, то тая мельгам зірнула на яго і коратка кінула:

— Фаіначка, прымі экзамен у гэтага студэнта, бо я за сябе паручыцца не магу.

Тая са здзіўленнем зірнула на Сцяпана і ўсміхнулася. Ён пачаў адказваць. Аспірантка слухала ўважліва. А пасля, калі ён скончыў, быццам чагосьці спалохаўшыся, зрабіла сур'ёзную міну на твары і пачала ганяць па ўсім курсе. Адказаў на ўсе пытанні.

— Выдатна, — прамовіла аспірантка, звяртаючыся да Таццяны Іванаўны. Тая адшукала Сцяпанаву залікоўку і сказала:

— Але калі мы паставім Артамонаву чацвёрку, ён на нас не пакрыўдзіцца, так?

— Згодзен і на чацвёрку, — ціха адказаў ён.

— Вось і цудоўна! — Таццяна Іванаўна распісалася ў залікоўцы, а пасля дадала: — Веды ў яго ёсць, але гэта яшчэ не самае галоўнае.

Па праўдзе кажучы, Сцяпан не спадзяваўся, што ўсё так удала скончыцца.

Напярэдадні размеркавання дэкан сабраў іхнюю групу, каб загадзя дамовіцца, хто куды паедзе на працу. Сцяпан па паспяховасці займаў пятае месца ў групе. Але гэта яму амаль нічога не давала. Былі ж хлопцы, што пажаніліся з ленінградкамі. Іх нікуды не пашлеш... Нельга было кудысьці пасылаць і тых, хто прыехаў па накіраванні свайго прадпрыемства. І так сталася, што Сцяпану не было з чаго выбіраць — заставалася адна Чукотка. Заўважыўшы, як хлопец засмуціўся, дэкан паспрабаваў яго суцешыць: «Не сумуй! Такую практыку атрымаеш — лепей не трэба! Станеш сапраўдным горным інжынерам!»

Івана Іванавіча Сцяпан паважаў. Ён і выкладчык быў нядрэнны, і ў любы момант гатовы быў абараніць студэнта. Мог адвячоркам зайсці да іх у госці ў інтэрнат. І не дзеля праверкі, а проста так...

Атрымаўшы дыплом, накіраванне на працу і грошы на дарогу, Сцяпан заехаў да сваёй маці, якая жыла ў невялікай вёсачцы за Маладзечнам. Бацькі ў Сцяпана не было. Ён памёр ад запалення лёгкіх, калі сын вучыўся на другім курсе.

Маці з хваляваннем узяла ў рукі ягоны дыплом, уздыхнула, а пасля нечакана заплакала... «У такую далячынь пасылаюць! Божа ж ты мой... Ды яшчэ аднаго!»

Суцяшаў як мог. І не стаў спяшацца з ад'ездам. Трэба было выкапаць бульбу. Маці перажывала і з-за таго, што Сцяпан дасюль нежанаты. А яму ж як-ніяк дваццаць сем гадоў стукнула. Яна не ведала, што Сцяпан меў намер ажаніцца.

Яны з Таняй Калмыковай, якая яму падабалася ці не з першага курса, нават заяву падалі. А праз які месяц яна перадумала. Яе абраннікам стаў дэкан факультэта журналістыкі, якому было пад пяцьдзесят. Жонка яго загінула ў аўтамабільнай катастрофе. Засталіся трохпакаёвая кватэра, «Волга», дача... Што яшчэ трэба? І выглядаў той дэкан някепска: высокі,

хударлявы. Лёгкая сівізна пасавала да яго маладжавага твару. Можа, і сапраўды Таня яго пакахала. Але ў Сцяпанавай душы пасялілася крыўда на ўсіх дзяўчат і жанчын. Добра яшчэ, што неўзабаве ён пачаў працаваць над дыпломным праектам і стаў менш бываць у інстытуце.

Ад'язджаючы на Чукотку, Сцяпан паабяцаў маці, што будзе пісаць кожны тыдзень, а праз год абавязкова прыляціць у адпачынак.

Але пасля першага шурфовачнага сезона, які працягваецца на Чукотцы з кастрычніка і амаль да заканчэння мая, яго адразу ж накіравалі на прамыўку руславых шурфаў. Даводзілася ўкалваць па чатырнаццаць гадзін у суткі. А летам нечакана кінулі на прыіск, дзе з дапамогай спецыяльных прыбораў прамывалі золата.

Сцяпан меў права на адпачынак, ды начальства яго не адпускала, бо не хапала горных майстроў.

Непрыкметна праляцеў і другі шурфовачны сезон. А пасля ўжо не было як ехаць. Яшчэ крыху папрацаваць, і ён атрымліваў шасцімесячны адпачынак з наступным звальненнем.

Да свайго апошняга выезду ў тундру Сцяпан Артамонаў рыхтаваўся асабліва старанна. Трэба было шмат пра што паклапаціцца: нарабіць вяровачных лесвіц, праверыць, каб хапала шурфовачных ломікаў, прагледзець вараткі.

Шурфоўка — праца для сапраўдных мужчын. Тут трэба мецьі здароўе, і вопыт. Шурф — амаль той жа вясковы калодзеж, памерам паўтара на адзін метр. Яго праходзяць у векавой мерзлаце падрыўным спосабам. Спачатку ломікам дзяўбуць невялічкія паглыбленні (буркі), закладваюць туды ўзрыўчатку і падрываюць. Пасля выбуху пароду адгружаюць у вялізныя бодні і пры дапамозе варатка падымаюць на паверхню, выкладваюць у праходкі, якія абавязкова нумаруюць.

Потым тое, што здабылі, прамываюць і вызначаюць колькасць металу ў кубічным метры пароды. Самае складанае — забурыцца. Гэта значыць, ломікамі (шурфоўшчыкі тут ласкава называюць іх «карандашамі»), прабіць бурку. Чым глыбей атрымаецца — тым лепш. Але ж на адну адпалку трэба прабіць дзве, а то і ўсе тры.

А калі валун трапіцца, то справы зусім кепскія. Ляжыць такі камянюка на ўвесь шурф ды пасмейваецца — паспрабуй з ім управіцца!

Сцяпану з самага першага шурфовачнага сезона пашчасціла ў галоўным: шурфоўшчыкі былі ў яго вопытныя. Не першы год працавалі на Чукотцы. Амаль усе землякі. Брыгада падабралася з пяці чалавек — па два чалавекі ў звяне і падрыўнік.

Гэтым разам з імі збіраўся ехаць і навічок — Міхаіл Пятровіч Праватораў, былы шахцёр, чалавек пяцідзесяцігадовага ўзросту. Спачатку Сцяпан не хацеў яго браць, але калі даведаўся, што Праватораў былы франтавік ды яшчэ дваццаць год адпрацаваў у шахце, то даў згоду. Дый шурфоўшчыкі за яго прасілі. Дзіўна было, чаму Праватораў у такія гады падаўся на Чукотку.

Аднойчы Сцяпан зайшоў да Міхаіла Пятровіча. Той сядзеў на ложку і чытаў кнігу. Убачыўшы Сцяпана, хуценька паклаў кнігу на тумбачку і зняў акуляры.

— А дзе ж гэта нашы мужыкі падзеліся? — спытаў Сцяпан, сядаючы на табурэтку.

— У кіно падаліся, — адказаў Міхаіл Пятровіч. Ён толькі што пагаліўся, і ў пакоі стаяў водар трайнога адэкалону.

— Так-так... — Сцяпан запытальна зірнуў на Міхаіла Пятровіча і спытаў: — Як настрой?

— Так сабе. Хутчэй бы ў тундру. Надакучыла тут аціраццa.

— Дні праз два выправімся, — адказаў Сцяпан.

— Тут жа заснуць немагчыма. Дзень і ноч гарэлку глушаць, — паскардзіўся Міхаіл Пятровіч.

— Толькі што прамывачны сезон скончыўся. Нічога не паробіш — традыцыя. Я вось усё хацеў спытаць... — Сцяпан на хвіліну змоўк, а потым усё ж дадаў: — Якім ветрам занесла вас на Чукотку?

— І сам не ведаю. — Міхаіл Пятровіч уздыхнуў. — Выйшаў на пенсію і адразу ж засумаваў. Захацелася, як і ў маладыя гады, зірнуць за край зямлі. Каб жонка была, то наўрад бы паехаў, а так...

— А што — развёўся?

— Ды не. Два гады таму яна памерла. Напісаў у Магадан. Прыслалі запрашэнне ў геафізічную партыю. Усё лета па сопках сноўдаў, надакучыла. А грошы мне не вельмі і патрэбны. Два сыны даўно самастойна жывуць, нават унукаў маю. А наконт працы, Аляксеевіч, не сумнявайся — не падвяду. Праўда, на шурфах не працаваў, але не падкачаю. У шахце прахадчыкам укалваў.

— Ды я і не сумняваюся! — Сцяпан усміхнуўся. — Проста ўспомнілася, як мне самому не хацелася сюды ехаць пасля вучобы.

— Яно так... — Міхаіл Пятровіч пачухаў патыліцу. — Калі пасылаюць — ехаць няма ахвоты, а калі сам — чорту на рогі ўзаб'ешся.

— А са здароўем як? — спытаў Сцяпан.

— Камісію прайшоў. Праўда, бывае, часам нага крыху на змену пагоды пабольвае. Асколак там у мяне. Ды ў такім месцы, што ўрачы і не рэкамендуюць яго даставаць.

— Былі паранены?

— Не адзін раз.

— А калі трапілі на фронт?

— У самыя першыя дні вайны. А да гэтага я ў тэхнікуме вучыўся, але ў саракавым годзе трапіў, амаль прымусова, у пяхотнае вучылішча. Час такі быў — рыхтаваліся да вайны. І ўжо ў жніўні сорак першага, калі ад нашай роты засталося сем чалавек, трапіў у палон. Быў паранены ў нагу і плячо. Немцы гналі калону палонных на захад. Параненых, хто не мог рухацца, прыстрэльвалі. Мяне мае таварышы падтрымлівалі да апошняга. Адчуваючы, што больш няма сіл, я азірнуўся і ўбачыў падводу. Два немцы ледзь утрымлівалі гнядога жарабца. Доўга не думаючы, я ўхапіўся рукамі за драбіны, з апошніх сіл падцягнуўся і прымасціўся ззаду. Канваіры нічога не прыкмецілі. Вакол было столькі пылу. Салдат, які трымаў лейцы, заўважыў мяне, калі крыху ад'ехалі. Сцебануў два разы пугай. Хацеў яшчэ, але той, што ехаў з ім, штосьці сказаў. Яны зарагаталі. Хвілін праз дваццаць, абагнаўшы калону, прыехалі ў вёску. І тут з-пад плота выскачыў вялізны певень і з лямантам пабег да ракі. Немцы хуценька прывязалі жарабца і кінуліся за ім, а я злез з падводы і папоўз да бліжэйшай хаты. Ля самых веснічак сівы дзед падхапіў мяне пад пахі. З хаты выскачыла бялявая дзяўчынка гадоў чатырнаццаці, і яны разам зацягнулі мяне ў склеп.

Міхаіл Пятровіч змоўк, дастаў з пачкі цыгарэту, шчоўкнуў запальніцай.

— А што далей было? — ціха спытаў Сцяпан.

— Паправіўся, год партызаніў, а потым зноў франтавыя дарогі. Дайшоў да Берліна. А пасля вайны закружыла жыццё...

— А ці былі вы пасля ў той вёсцы?

— Сорамна прызнацца, але так і не давялося. І збіраўся ж не адзін раз. Тая дзяўчынка, а звалі яе Галя, даглядала мяне... Бінтавала, прыкладвала травы. Па сённяшні дзень памятаю яе дрыготкія рукі... Праўда, ужо з Берліна, прыслаў ёй з дзедам у вёску Канстанцінаўку дзве пасылкі.

— Думаецца мне, — Сцяпан падняўся з зэдліка, — што і цяпер яшчэ не позна наведаць сваіх выратавальнікаў.

— Яно так... — Міхаіл Пятровіч уздыхнуў. — Пасля шурфоўкі падамся дамоў, а там і ў Канстанцінаўку пад'еду.

— Ну што ж — адпачывайце, набірайцеся сіл, хутка ў тундру. А хлопцам перадайце, што заўтра ў дзевяць гадзін павінны быць у начальніка.

Сцяпан развітаўся і выйшаў. На інтэрнацкім ганку крыху пастаяў, паглядзеў на неба: у неабсяжнай далечыні ярка зіхацелі зоркі. «Добры марозік будзе», — падумаў ён і накіраваўся да аднапавярховага будынка, у адным канцы якога былі службовыя кабінеты кар'ера, а ў другім два пакоі для прыезджага начальства — так званая мясцовая гасцёўня. Сцяпан жыў тут у невялічкім пакойчыку, дзе стаялі ўсяго тры ложкі.

Выпіў чаю, пасля распрануўся, лёг у ложак і паспрабаваў чытаць. Але чамусьці не атрымлівалася. Ён адклаў кніжку і выключыў святло. І адразу ж успомнілася маці. Як яна там цяпер жыве? Напэўна, яшчэ не ўправілася з бульбай. Хутка ўжо ён кіне гэты халодны край і паедзе дамоў. Засталося якіх паўгода — гэта не тэрмін. Вось толькі б з маці нічога не здарылася. У яе заўсёды, як нацягаецца кашоў з бульбаю, пабольвае сэрца. А ў яго акрамя яе нікога няма.

А як хацелася пакупацца ў сваёй рэчцы. Шмат дзе даводзілася яму пабываць, але рэчкі, прыгажэйшай за іх Вяллю, ён не бачыў. Яе шырыня месцамі даходзіла да ста метраў — больш і не трэба. А якая вадзіца! Залезеш — вылазіць не хочацца. У дзяцінстве цэлымі днямі прападаў на рэчцы. Лавіў на вудачку рыбу, а калі хацелася падсілкавацца, то на палянках уздоўж ракі было шмат калачоў. Яны падобныя на садовыя клубніцы, толькі крыху меншыя. І такія салодкія. Ён знаходзіў палянку, клаўся на жывот і... пачынаўся цудоўны абед. Наядаўся, як казаў калісьці стары дзед Мажуль, «ад пуза». Праўда, вечарам даставалася ад маці, але ратаваў бацька. Ён разглядваў у кацялку акунькоў ды плотак і прыгаворваў: «Ты зірні! На тры патэльні хопіць!»

А на Чукотцы хіба пакупаешся? Нават улетку тут прыганяе да берага льдзіны. Можна распрануцца, нават пазагараць, але гэта толькі на пачатку чэрвеня, а потым налятаюць камары.

Вось ужо брыдота! Нашы камары ў параўнанні з чукоцкімі — проста анёлы нябесныя. На Чукотцы ўлетку камары лётаюць цэлымі аблокамі. І такія нахабныя, што могуць вывесці з раўнавагі любога падарожніка. Але Сцяпана ратавала барада. Узімку яна саградала, а летам бараніла ад камароў.

Ад камароў ратаваў ліпурдзін. Сцяпан налівaў яго ў невялічкую бутэльку і заўсёды насіў з сабою. Памажаш рукі, твар і з гадзіну адчуваеш палёгку.

Камары трымаюцца месяцы два. І асабліва даймаюць, калі няма ветрыку. Прападаюць яны дзесьці ў канцы жніўня.

Сон не браў Сцяпана. Ён варочаўся з боку на бок, думаў... Ды і як тут было заснуць, калі заўтра яго чакаў ад'езд у тундру. Яшчэ і яшчэ раз аб-

думваў; каб чаго не забыцца. Бо потым, з-за якой-небудзь дробязі можаш трапіць у такі прасак, што і дзесятаму закажаш. Здаецца, усё падрыхтавана, трэба будзе толькі загрузіць сані вугалем. Першы раз ён і то смялей выязджаў у тундру, чым цяпер. Тады было ўсё невядомае, цікавае, і ён амаль не хваляваўся.

З раніцы трэба будзе яшчэ раз зайсці да начальніка. Выклікае. Здаецца ж, заўчора пра ўсё пагаварылі. Але ж нешта ёсць, калі просіць зайсці. З начальнікам Сцяпану таксама пашчасціла. Андрэй Іванавіч быў спакойны, а галоўнае — разумны кіраўнік. Паважалі яго за тое, што ён ніколі на нікога не прыкрыкнуў. Хаця, здаралася, і было за што. Шурфоўшчыкі — народ біты, палец у рот не кладзі. Іншы раз такое могуць адмачыць, што і з дзесятак псіхолагаў не разбярэцца.

Але Андрэй Іванавіч нават у самай складанай сітуацыі заставаўся спакойным. І гэтым як бы абяззбройваў свайго субяседніка. Нават самі шурфоўшчыкі не адзін раз прасілі: «Прыкрыкнулі б вы, Андрэй Іванавіч, а то сорамна!»

Ён толькі ўсміхаўся ды пагладжваў сваю густую сівенькую бародку. Сцяпан так і не мог зразумець аднаго: ці ён такім быў ад нараджэння, ці здолеў сябе так перавыхаваць.

Яму і самому хацелася быць падобным на Андрэя Іванавіча, але, як ні стараўся — нічога не атрымлівалася. Здаралася, што даводзілася не толькі крычаць, але і брацца загрудкі са сваімі рабочымі.

У першы ж шурфовачны сезон трактарыст вёз ім у тундру прадукты і ўжо на самым пад'ездзе зламаў вадзіла, пры дапамозе якога сані счапляюцца з трактарам. Адчапіў ён сані і прыехаў да іх, каб забраць такое ж вадзіла ў адным з балкоў, дзе яны жылі. Балкі — гэта такія вагончыкі на палазах. Усярэдзіне стаіць грубка, якая паліцца днём і ноччу. Але вадзіла было ў іх толькі адно — пры балку Аляксея Гарбунова. І той не даў яго трактарысту. Давялося ўмяшацца ў гэтую справу Сцяпану. Ён адчуваў, што калі цяпер не настоіць на сваім, то грош яму цана — які ж пасля гэтага ён горны майстра.

І тут нечакана на яго кінуўся, быццам паранены вяпрук, сам Гарбуноў з ломікам у руках. Сцяпан ухіліўся ад удару, сам рынуўся на яго і, адабраўшы ломік, моцна прыціснуў да балка і закрычаў: «Прыб'ю на месцы!»

Шурфоўшчык быў хударлявы, ніжэйшы за Сцяпана, было яму гадоў сорак, але выглядаў ён на ўсе пяцьдзесят. Чукотка старыць імгненна. Той раптоўна збялеў і мяшком асунуўся на зямлю.

Непрыемная гісторыя. Але што было рабіць? Правалындайся яны гадзіну-другую, то ад прадуктаў засталіся б адны ўспаміны. Мог белы мядзведзь пагаспадарыць ці расамаха.

Але калі разабрацца, ва ўсім вінавата кіраўніцтва кар'ера, бо ўжо не адзін год абяцала, што вадзілы будуць ля кожнага балка. Справа вырашылася толькі тады, калі ў тундры пабывала камісія з Магадана. Іхні ўчастак атрымаў не толькі вадзілы, але і новенькія балкі. Старыя ўжо даўно спарахнелі і ў моцную пургу так рыпелі, што страшна было ў іх знаходзіцца.

Урэшце Сцяпан вырашыў, што заўтра ўсё яшчэ раз праверыць і, супакоіўшы сябе гэтым, непрыкметна заснуў.

## Частка другая

На наступны дзень а дзесятай гадзіне раніцы Сцяпан з цяжкасцю здолеў прывесці шурфоўшчыкаў да начальніка. А ўсё з-за таго, што яны дасталі дзесьці пяць пляшак гарэлкі ды ўсю ноч замачвалі ад'езд у тундру. Да таго панапіваліся, што ляжалі быццам тыя снапы на полі. Дурная традыцыя, тут нічога ўжо не паробіш. Начальнік гэта разумеў.

Калі яны зайшлі і павіталіся, ён зняў акуляры, уважліва паглядзеў на кожнага, а пасля сказаў:

— Сядайце. Апахмяліцца паспелі?

— Каб жа было... — з цяжкасцю прамовіў Аляксей і ўздыхнуў.

— Яшчэ вугаль трэба загрузіць, а вы ўжо з самага ранку гатовенькія.

— Загрузім! — адказаў Валянцін. — Вось гарачага чайку па кружцы вып'ем — як рукой здыме.

— Сёння вас адпраўляю, — прамовіў начальнік, раскрываючы папку чырвонага колеру. — Хопіць лынды біць!

— Нам бы ў дарогу, так сказаць, для сугрэву душы... — падаў голас Кузьма.

— Толькі па бутэльцы на нос, — адказаў Андрэй Іванавіч, — а пасля хуценька дадаў: — І то з цяжкасцю выбіў, бо даўно завозу з Певека не было. Але на Кастрычніцкія святы ўсё будзе ў поўным парадку. А цяпер ёсць для вас не вельмі прыемная навіна. Я быў супраць такой пастановы, але ж тут ёсць доля і вашай віны.

— Павялічылі дзённую выпрацоўку? — з абурэннем у голасе прамовіў Валянцін.

— Так. Праўда, усяго дзесяць сантыметраў, — адказаў начальнік і, пакуль яго ніхто не перабіў, хуценька дадаў: — Норма цяпер у вас будзе дзевяноста сантыметраў. А каб яшчэ і прэмія выйшла, то трэба даваць цэлы метр за змену.

— Каб нам якую тэхніку далі або яшчэ што прыдумалі, — прамовіў Аляксей. — А то, як быў ломік, так і застаўся, а норма расце кожны год.

— А хто вінаваты? — Начальнік запытальным позіркам абвёў прысутных. — Вось няхай вам Кароціч раскажа, як раней шурфавалі. Сорак пяць сантыметраў за змену — і баста! Паспрабуй толькі перавыканаць, то брыгадзір адразу ж турне з тундры.

— Яно так, — сцішаным голасам адказаў Валянцін.

— А вы за мінулы сезон, разам з брыгадай Каваленкі, амаль у два разы перакрылі нарматыў выпрацоўкі!

— Даліна такая трапілася, — заступіўся за шурфоўшчыкаў Сцяпан, — самі ж ведаеце — вадзяныя лінзы, а валуноў амаль і не было.

— Па ўсёй краіне такое творыцца, на любым заводзе. Тут ужо нічога не паробіш, — дадаў начальнік і закрыў папку.

— Пытанні будуць? Пытанняў няма, — павесялелым голасам сам адказаў ён. — Тады ўсе адразу ж на загрузку вугалю. А ты, Сцёпа, застанься.

Калі шурфоўшчыкі выйшлі, начальнік з хвіліну моўчкі пазіраў на Сцяпана, а пасля сказаў:

— Ну што, Сцёпа? Апошні ў нас з табою сезон?!

— Выходзіць, так, — адказаў Сцяпан.

— Я пачну пенсіённае жыццё, а ў цябе якія планы? Можа, застанешся на годзік-другі?

— Што вы! Мяне маці чакае не дачакаецца. Дый пра жаніцьбу трэба думаць, трыццаць год у снежні стукне — даўно пара!

— Ну, у твае гады ажаніцца яшчэ не позна. А цяпер пра справы. Трэба праверыць усё... А праз які тыдзень будзем закідваць у тундру брыгаду Валодзі Каваленкі.

— А дзе ён цяпер?

— Павінен з адпачынку прыляцець, ды штосьці затрымліваецца. Можа, у апошнім сезоне апярэдзіш яго ў сацспаборніцтве? Як думаеш?

— Хто яго ведае. Хлопцы ў яго маладыя, учэпістыя, заробкі любяць. Куды нам цягацца!

— Яно так. Метраж даюць — рэкордны па ўсёй Чукотцы! А ў цябе, Сцёпа, на гэты раз самае адказнае заданне. Тваю даліну на будучы год будзем старацелям здаваць. Тут трэба і шурфоўку правесці на ўзроўні дый з прамыўкай не падкачаць. А то пасля клопатаў не абярэшся. Ведаю я старацеляў — той яшчэ народ. Ледзь што не атрымліваецца — на нас бочкі коцяць.

Выехалі толькі на наступны дзень. А ўсё з-за таго, што не быў адрамантаваны да канца адзін з трактароў. Генка Глазкоў да позняга вечара корпаўся ў рухавіку. Начальнік і не падганяў, бо калі ў тундры здарыцца паломка, гэта небяспечна.

Першы трактар цягнуў за сабою вялізныя сані, да самага верху гружаныя вугалем. На другіх былі прадукты і інструменты, а на трэціх узрыўчатка.

І хаця ўжо пачалася палярная ноч, дзесьці а палове дванаццатай дня ўсё-ткі крыху развіднівала, але ўжо праз якіх пару гадзін зноў насоўвалася цемра. Адзіным паратункам быў Месяц. У зацішныя марозныя ночы ён так асвятляў даліну і сопкі, што нават на зайцоў можна было паляваць.

У мінулым годзе, калі выязджалі ў тундру, здарылася бяда. Трактар, які вёз сані з прадуктамі, праваліўся па гусеніцы, нібы завіс, не жадаючы трапіць на дно акіяна. А ўсё з-за таго, што Генка не захацеў аб'язджаць вялізную гурбу снегу. А пад той гурбай лёд быў значна танчэйшы, чым у іншых месцах. Толькі выскачылі з кабіны, як трактар з санямі пайшоў на дно. Але праўду ў народзе кажуць, што адна бяда не прыходзіць. Застаўся у іх апошні трактар з вугалем. Паехалі далей. Дзесьці кіламетраў праз трыццаць зноў непрыемнасць — заглух рухавік. Гадзіны тры прамучыліся, так і не запусцілі.

Давялося пешшу дабірацца да доміка паляўнічага Мікалая Іванавіча. Яны заўсёды рабілі ў яго прыпынак. Той быў карэнны жыхар — чукча, паляваў на пясцоў, здабываў і нерпу. Тады ледзь дабраліся. Раней Сцяпан быў упэўнены, што замерзлы акіян роўны, быццам поле. А на самай справе ён увесь у таросах. Вялізныя ледзяныя глыбы, да трох метраў у вышыню, прычым кожная выглядае па-свойму. Тут не толькі на трактары, але і пешшу не вельмі разгонішся. Запраста можаш сутыкнуцца з белым мядзведзем. Праўда, не было яшчэ выпадку, каб той першы напаў на чалавека. Хіба што, калі паранены або мядзведзіцы не спадабаецца, што занадта блізка разглядаюцца яе малыя.

Аднойчы пашчасціла Сцяпану ўбачыць мядзведзіцу з двума мядзведзянятамі. І што яны рабілі? Каталіся, як дзеці, на азадку з горкі.

Справа ў тым, што пурга так трамбуе снег, што яго можна выраўняць хіба што толькі сякерай.

А пад вясну з'яўляюцца і бурыя мядзведзі. Яны крыху меншыя, чым белыя, але такія злосныя, што ратунку ад іх няма. Зайцоў лавіць цяжка,

і яны, вечна галодныя, палююць на еўражак, якія вельмі падобныя на звычайных суслікаў.

Бывалі выпадкі, калі галодныя бурыя мядзведзі накідваліся на адзінокіх падарожнікаў, нават калі ў тых былі за плячыма стрэльбы.

Сцяпан не любіў размаўляць у дарозе. Генка гэта разумеў і таксама маўчаў. Было яму ўсяго трыццаць год, а выглядаў на ўсе сорак з гакам. Ніколі не напіваўся, але амаль заўсёды быў «пад мухай». Вось і перад рэйсам прыняў сваю норму.

Галоўнае цяпер было пераадолець перавал Рагаты. Не такі ўжо ён і высокі, але ж вельмі стромкі, заўсёды цяжка было на яго караскацца. Асабліва цяпер, калі яшчэ не праклалі ніводнага саннага следу.

— Як думаеш, — парушыў маўчанне Сцяпан, — возьмем Рагаты з першага заходу?

— А куды ён дзенецца! — усміхаючыся, адказаў Генка і дадаў: — Праскочым на адным дыханні! А там, — ён махнуў рукой, — будзем крыць морам ажно да самай нашай даліны.

На перавал падняліся даволі лёгка, бо на ім яшчэ было мала снегу. І спускацца трэба было асцярожна. Але ўсё абышлося. Цяпер да мора заставалася кіламетраў трыццаць. Можна нават крыху падрамаць.

Чукотка старыць чалавека імгненна. А ўсё з-за таго, што тут не расце лес. А раз так, то і кіслароду малавата. Урачы гавораць, што да дваццаці пяці працэнтаў яго не хапае, а мо і больш. У першы свой прыезд у тундру Сцяпан на сабе адчуў, што тут штосьці не так. Ён задыхаўся, калі на лыжах узыходзіў нават на невялікі пагорак.

Пры недахопе кіслароду ўзрастае нагрузка на сэрца. Нават чукчы, якія жывуць тут не адну тысячу год, так і не змаглі прыстасавацца да такога жыцця. Шмат хто хварэе на сэрца, а ў апошнія дзесяцігоддзі і на лёгкія. Спачатку Сцяпан думаў, што ўсе гэтыя хваробы звязаны з кліматам: усё зіма ды зіма, а лета кароткае і халоднае. Дый ежа, калі на тое пайшло, усё мяса і мяса. Праўда, бывае, што і рыба трапляе на стол. А з ягад — адна марошка. Чукчам-пастухам або паляўнічым збіраць яе няма калі.

Не адзін раз даводзілася чуць Сцяпану, што раней чукчы жылі даўжэй.

Урэшце выехалі на ўзбярэжжа Усходне-Сібірскага мора. Хоць якое там мора — Ледавіты акіян. Спыніліся. Сцяпан выскачыў з кабіны і азірнуўся.

Якая моц, якая веліч! Закуты ў малады лёд, увесь у таросах акіян, здавалася, задрамаў да будучай вясны. Сцяпану заўсёды хацелася зняць перад ім шапку. Дзесьці там, далёка-далёка, дзе зыходзяцца льды і неба, — Паўночны полюс. Перамахнуўшы цераз яго, можна трапіць у такую далёкую Канаду або Амерыку.

Каб размяць ногі, а заадно хапянуць свежага паветра, з кабін павыскоквалі ўсе шурфоўшчыкі. Сцяпан з Генкам спусціліся на лёд. Прайшліся крыху, бо прагноз прагнозам, а тут усякае можа здарыцца.

— Лядок яшчэ не вельмі і моцны, — сказаў Сцяпан. — Так што трымайся бліжэй да берага і абмінай снежныя гурбы.

— Не хвалюйся, Сцёпа! Адзін раз далі прамашку, то з кім не бывае!

Пасля кароткай размовы з трактарыстамі зноў рушылі ў дарогу. На ўсялякі выпадак Сцяпан прыадчыніў дзверцы ў трактары. Хаця, і ён пра гэта ведаў, былі выпадкі, што і пры адкрытых дзверцах трактарыст не па-

спяваў выбрацца з-за рычагоў, бо машына імгненна ішла на дно. Цяпер галоўным было дабрацца да доміка чукчы Мікалая Іванавіча, а там ужо можна, калі што-якое, то і па ўзбярэжжы прабівацца да сваёй даліны.

І з надвор'ем пакуль што шчасціла. Навокал стаяла цішыня, браўся марозік, на небе скрозь хмары прабіваліся, паблісквалі зоркі. Урэшце праз якую гадзіну ў святле фар паказаўся домік. Пад'ехалі бліжэй, спыніліся і прыглушылі рухавікі. Замка на дзвярах не было, ён тут без патрэбы.

Сцяпан дастаў з кішэні ліхтарык. Зайшлі ў невялічкія сенцы, а пасля і ў домік. На сцяне, ля самай лямпы, на цвіку вісела запіска: «Паехаў на Шэлагскі. Буду дзён праз дзесяць!»

— Ого! — прысвіснуў Генка. — У якую далячынь падаўся! Да Шэлагскага больш за сотню кіламетраў.

Запалілі лямпу і вырашылі згатаваць чаю, каб крыху падмацавацца, а пасля зноў у дарогу. Дроў у Мікалая Іванавіча хапала. Праз хвілін дзесяць загула грубка. Чай на Чукотцы ў пашане: саграва́е душу, надае новыя сілы. Па два кубкі выпілі, крыху пасядзелі, пасля прытушылі грубку, ды зноў у дарогу.

На дарозе ўсё часцей пачалі трапляцца таросы, якія трэба было абмінаць. Яны так надакучылі, што Генка ўрэшце не вытрымаў:

— Давай, Сцёпа, па беражку рванём, а то выкручваемся, як той мянтуз на патэльні.

— Паспрабуй! Толькі выберы больш пакатае месца! — адказаў Сцяпан, пільна ўглядаючыся наперад.

Хутка яны ўжо імчалі па ўзбярэжжы на пятай перадачы, толькі снег курэў з-пад гусеніц. Генка стараўся хутчэй дабрацца да месца, каб удосталь выспацца. Даліна называлася Левы Кайнваам. На геалагічнай карце ўсё проста, а на самой мясцовасці разабрацца шмат цяжэй, тут указальнікаў няма.

Праўда, Генка быў тут летам з маркшэйдэрам на ўсюдыходзе — праводзілі разметку шурфовачных ліній. І там, дзе павінен быць шурф, забівалі ў крыху адталую тундру калок, і каб пурга яго не звалiла, абкладвалі камянямі. Іх тут не пералічыць.

Адзіным указальнікам спраўна служылі два невялічкія караблі, або, як усе іх тут называюць, — ліхтары. Калісьці іх у вялікі шторм выкінула на бераг, і з тае пары яны так і прыпісаліся тут. Тоны карыснага металу! Але ж нікому да іх няма справы.

Ліхтароў усё не было. І Сцяпан, убачыўшы, як соладка пахрапвае з правага боку ад Генкі Валянцін Кароціч, сам вырашыў крыху падрамаць. Тут не цягнік, але ж пакімарыць можна. Бывае, так падкіне, што ляціш потырч носам проста ў лабавое шкло. Але нічога, праз якую хвіліну-другую сон зноў бярэ ў свае чэпкія абдымкі.

Сцяпан заплюшчыў вочы і стараўся ні пра што не думаць, але сон не браў. Здаецца ж, усё пакуль ідзе спраўна ў ягоным жыцці, без асаблівых выкрунтасаў, але неспакойна на сэрцы.

Трэба было думаць, што рабіць далей. Валянцін спаў і ўсміхаўся скрозь сон. Вось хто шурфоўшчык ад Бога! У маладосці нават у тэхнікуме вучыўся. Але пасля вучобу давялося кінуць, бо не было каму дапамагаць. Ён у цёткі вырас. Вось і падаўся на заробкі. Спачатку ў Сібіры, на лесапавале, а калі ўзмужнеў, то перабраўся на Чукотку. Цяпер ужо праз два гады на пенсію. Валянцін — што працаваць, што выпіваць — усё з размахам і імпэтам!

А жыццё сваё пасля выхаду на пенсію распланаваў з самага першага дня. Хацеў купіць хатку ў ціхім куточку на Палессі, адразу ж ажаніцца і пражыць роўна сотню год! А з жонкаю спаць да васьмідзесяці пяці. Вось так: ні больш, ні менш! На добрым падпітку ён не адзін раз расказваў пра будучае сваё сямейнае жыццё захмялеўшым шурфоўшчыкам. Тыя толькі рагаталі і паляпвалі Валянціна па плячы.

У нечым быў падобны на Валянціна Кароціча і Аляксей Гарбуноў. Маладзейшы за яго — усяго сорак гадоў. Невялічкі, хударлявы, прагны да працы і гарэлкі. На Чукотцы дзесяты год. Карцёжнік — якіх свет не бачыў. Раней жыў у Віцебску. У яго там была і жонка, і кватэра. Але... Пацягнула на заробкі. Год папрацаваў, другі, а потым развёўся. Цяпер вось цешыў сябе тым, што аліменты яму засталося плаціць усяго тры гады.

Кузьма Буданаў, хаця і нарадзіўся ў Беларусі, быў з мясцовых бічоў. Яго начальнік падабраў дзесьці ў Певеку. У трыццаць гадоў трапіў Кузьма на Чукотку. І з тае пары пятнаццаты год блукаў па яе неабсяжных прасторах. Кім яму толькі ні даводзілася працаваць: і рыбаком быў, і паляўнічым, і пастухом у аленяводчай брыгадзе. Нават некалькі сезонаў правёў у старацельскай арцелі. Але не пашчасціла яму, як ён любіў казаць, «не падфарціла». Карацей кажучы, два сезоны запар «прагарала» іхняя арцель. А на шурфоўцы, хаця і работа не для слабакоў, але заробак стабільны — да тысячы рублёў у месяц, а то і больш.

Самым маладым у брыгадзе быў падрыўнік Віця Бярозкін. Ішоў яму дваццаць пяты год. Ён падаўся на заробкі адразу ж пасля арміі. Сам з Гомельшчыны, чацвёрты год працаваў на шурфах. Калі і браў якую чарку-другую, то толькі дзеля таго, каб не пакрыўдзіць сваіх старэйшых таварышаў. Ён працаваў з нямецкай акуратнасцю. Сцяпан прызначыў яго сваім намеснікам на той выпадак, калі трэба ехаць правяраць разметку шурфовачных ліній у суседняй даліне. Бо на шурфоўцы выхадных няма. Праўда, у табелі іх праастаўляюць, але сапраўдныя выхадныя дае ўсім Снежная Каралева. Закруціць, замяце, нагоніць завею дзён на пяць, а то і на ўсе дзесяць. З балка носа не высунеш! Тут шурфоўшчыкам поўная лафа — бакі адлежваюць, аб'ядаюцца мясам, наганяюць вагу.

Па-свойму і Сцяпану падабаліся завейныя дзянёчкі. Можна было адпісаць лісты маці, пачытаць кнігу, а галоўнае — падумаць пра сэнс жыцця.

Праўда, пра гэта думалі да яго больш разумныя і светлыя галовы, але ўсё адно было цікава. Летась амерыканскі касманаўт упершыню ступіў на Месяц. Пасля таго як Сцяпан пачуў пра гэта, ён пачаў углядацца ў нябеснае свяціла і не мог паверыць, што там пабываў чалавек. А што на іншых планетах? Няўжо там няма разумных істот? І што наша жыццё? Для чаго жывём? І чаму яно такое кароткае? Пытанні без адказу.

Урэшце Сцяпан задрамаў. І адразу ж убачыў у сне маці. Яна палола буракі ў гародзе, а ён стаяў з плецаком на сцежцы і ўсё чакаў, што яна азірнецца на яго. І толькі хацеў гукнуць яе, як адчуў штуршок у плячо і зараз жа расплюшчыў вочы.

— Ліхтары, Сцёпа! — Генка весела падміргнуў і хуценька дадаў: — Цяпер дзве даліны прапускаем, а трэцяя наша.

— Вось і цудоўна! — Сцяпан соладка пазяхнуў. — Цяпер спаць грэх, бо можам праскочыць! Вось небаракі, — ён паказаў рукой на караблі, — уладкаваліся і адпачываюць!

— Адплавалі сваё! — Генка засмяяўся.

Настрой у яго прыўзняўся, бо праз якую гадзіну яны павінны даехаць да месца, а там застанецца толькі распаліць грубкі ў балках, паснедаць ды заваліцца адпачываць.

Сцяпан хваляваўся за балкі. Іх перавезлі сюды яшчэ летам, двое шурфоўшчыкаў потым рамантавалі, але апошнія тры месяцы балкі былі без нагляду. А гэта небяспечна, бо цяпер па тундры шастае шмат рознага люду: чукчы-пастухі, геолагі, дый старацелі могуць нашкодзіць.

І як толькі яны завярнулі ў сваю даліну, Сцяпан адразу ж пачаў углядацца наперад, але пакуль нічога не бачыў. Месяц то свяціў, то хаваўся ў рваным ашмоцці воблакаў.

— Стаяць, галубкі! — як бы ўзгадаўшы думкі Сцяпана, усклікнуў Генка.

— У цябе вочы, як у таго сакавіцкага ката! — адказаў Сцяпан.

Генка паддаў яшчэ газку і трактар паляцеў быццам той танк. Урэшце і Сцяпан убачыў удалечыні ледзь прыкметныя тры чорныя кропкі.

— Каб толькі грубкі былі на месцы, — сказаў Генка. — Летась у брыгадзе Валодзі Каваленкі іх з двух балкоў сцягнулі.

— А хто?

— Хто ж яго ведае! Хутчэй за ўсё, старацелі. Яны там непадалёку дзяжурылі на перавале, расчышчалі дарогу бульдозерам.

Але дарэмна хваляваўся Сцяпан. Балкі былі ў спраўнасці, іх нават ніхто і не адчыняў, бо дзверы былі забіты дошкамі.

Адразу ж пачалі ўладкоўвацца. Адны кінуліся распальваць грубкі, іншыя пачалі разгружаць прадукты, узрыўчатку і вугаль. Працавалі хутка. Сцяпан дапамагаў насіць узрыўчатку ў спецыяльны склад, які стаяў пад сопкай метраў за чатырыста ад іхніх балкоў.

Сцяпан жыў адзін у невялічкім балку. У яго стаяла рацыя. Два разы на дзень, акрамя суботы і нядзелі, ён звязваўся з базай.

Усё было даўно вядома і адпрацавана, але трэба быць вельмі пільным і ўважлівым. Невялікая памылка можа каштаваць жыцця. Гэта Сцяпан добра зразумеў у першы свой шурфовачны сезон. Вось гэтаксама прыехалі на новае месца, а ягоныя рабочыя адразу ж пачалі вёдрамі насіць вугаль у тамбур. Ён не стаў гэтага рабіць, бо вялізная куча вугалю ляжала каля самага ягонага балка.

Так сталася, што першая ж завея, што не сціхала пяць дзён, ледзь не прымарозіла Сцяпана. Дзесьці на другія суткі скончыўся вугаль. Сцяпан хуценька апрануўся, узяў вядро і выскачыў з балка. З цяжкасцю ўдалося накідаць вугалю ў вядро, бо навокал гуло на ўсе лады. Зліпаліся вейкі, немагчыма было дыхаць. Але галоўная бяда чакала яго наперадзе. Рушыў з вядром да балка, зрабіў добрых дзесяць крокаў, а балка няма — раптоўна знік, быццам яго і не было. Вярнуўся да гурбы вугалю, дачакаўся, калі стала на імгненне зацішней і убачыў балок зусім у іншым накірунку.

Пашкадавала яго ў той дзень Снежная Каралева. Толькі крыху папужала, быццам папярэдзіла: «Глядзі ў мяне, галубок!»

Той першы яе ўрок ён запомніў на ўсё жыццё. Цяпер праблем амаль не было. Як толькі разгрузілі ўзрыўчатку, ён зайшоў у свой балок і адразу ж пачаў распальваць грубку. Налажыў дроў, абліў крыху салляркай і чыркнуў запалкай. Як толькі ўгарэліся дровы, адразу ж насыпаў зверху вугалю. Без яго ў тундры і тыдня не пратрымаешся.

Грубка ажыла, загула і пачала даваць выратавальнае цяпло. Сцяпан распрануўся, паставіў на грубку вядро са снегам і ўзяўся рыхтаваць снядана. Пасля выпіў чайку і адразу ж — у ложак. Заснуў імгненна. Бяссонніца на Чукотцы нікому не дакучае.

## Частка трэцяя

На наступны дзень Сцяпан падняўся а дзесятай гадзіне. Спяшацца не было куды, бо працягвалася палярная ноч. Святлела, ды і то ўсяго на пару гадзін, толькі пасля адзінаццаці. Па абедзе ў даліну зноў спаўзаў змрок.

Першае, за што ўзяўся Сцяпан, — гэта ўстаноўка антэны для рацыі, каб вечарам звязацца з базай. За той кароткі час, пакуль светла, трэба было адшукаць першую шурфовачную лінію, праверыць разметку шурфаў, а падрыўнік мусіў устанавіць мінную станцыю, якая ўяўляе сабой спецыяльную скрынку, дзе знаходзіцца ўзрыўчатка.

Сцяпан хуценька паснедаў, апрануўся і выйшаў з балка. Навокал стаяла цішыня, амаль што развіднела. Ён крыху пастаяў, агледзеў сопкі і рушыў уніз па даліне.

Даволі лёгка адшукаў першую шурфовачную лінію. Там, дзе павінны знаходзіцца шурфы, стаялі драўляныя калы-вешкі. Усяго было дзесяць шурфаў. Наступную лінію, якую задалі па карце за чатырыста метраў уверх па даліне, Сцяпан вырашыў не шукаць, бо для гэтага яшчэ ёсць дзён дзесяць, а то і больш. Галоўнае — пачаць праходку, а там дасць Бог усё пойдзе без асаблівых прыгод.

Калі вяртаўся назад, то ўбачыў падрыўніка Віцю. Той валок на санках мінную станцыю. Падышоў да яго, парукаліся.

— Добрых дзвесце метраў адмерай ад шурфаў, а пасля працягвай званковы провад, — сказаў яму Сцяпан. — А як усё будзе гатова, пойдзем на склад за ўзрыўчаткай.

Шурфоўшчыкі таксама даўно прачнуліся і ладкавалі свой быт: хто вугаль цягаў у тамбур, хто ложкі рамантаваў. Па даўняй завядзёнцы ў першы дзень ніколі не пачыналі працу. Трэба было спачатку абжыцца.

Сцяпан вырашыў у першы дзень агледзець даліну. Ён закінуў за плечы стрэльбу-двухстволку, паклаў у кішэню кажушка з дзесятак патронаў, палову пачка цукру на выпадак нечаканай завірухі, стаў на шырокія паляўнічыя лыжы і няспешна пасунуўся ў вярхоўе Кайнваама. Даліна была сярэдніх памераў, але з выкрунтасамі — выпруджвалася, быццам тая змяя, як бы не жадаючы адразу раскрываць сябе незнаёмаму падарожніку. З абодвух бакоў цягнуліся да яе, быццам тыя сыночкі, — раўчукі-распадкі. Вясною з вясёлым і шумлівым гулам па іх неслася, змятаючы ўсё на сваім шляху, вада.

Але цяпер тут усё было ўхутана снегам, які з цягам часу так утрамбоўвалі вятрыскі, што можна было смела хадзіць без лыжаў.

Спачатку Сцяпан нічога асаблівага не ўгледзеў. Але, як толькі мінуў чарговы, даволі крутаваты паварот, то заўважыў, як з палогага схілу збягалі ўніз напаўразбураныя невялічкія хаткі-мазанкі. Стрэхаў у іх не было — толькі сцены, умела і надзейна выкладзеныя з серпантыну.

«Вось табе і чортава пята», — падумаў Сцяпан, успамінаючы словы начальніка. Недасведчаны чалавек мог падумаць, што натрапіў на старажытнае паселішча першых абарыгенаў Чукоткі. Крыху далей былі тры штольні, якія пагрозліва ашчэрыліся сваімі ўваходнымі, выкладзенымі з тоўстых бярвенняў дзірамі-пашчамі. Сцяпан дакладна ведаў, што такія разведвальныя штольні на касітэрыт (мінерал, з якога атрымліваюць волава) або золата не падыходзяць. А раз так — то тут шукалі штосьці іншае. Калі падышоў бліжэй, яго насцярожыў і колер серпантыну, які ля самага падножжа сопкі быў сіваваты, быццам чымсьці пашкоджаны.

Сцяпан вырашыў пры выпадку спытаць пра штольні ў начальніка, а сам тым часам падняўся яшчэ крыху ў вярхоўе. Усе калы-вешы шурфовачнай лініі былі на месцы, але стаялі яны панура нахіленыя, быццам тыя малайцы ля крамы на добрым падпітку.

Хацеў ужо вяртацца назад, але тут заўважыў некалькі вялізных камянёў-валуноў. Гэта яго не здзівіла, але насцярожыла. Бывала, што трапляліся валуны пры праходцы шурфоў, але каб ляжалі вось так, як тыя адкормленыя парсюкі, на самай паверхні даліны, такога ён яшчэ не бачыў.

І хаця ўжо браліся добрыя прыцемкі, Сцяпан вырашыў прайсці яшчэ якую сотню метраў. Літаральна праз хвіліну ўбачыў яшчэ безліч падобных, але крыху меншых па памеры камянёў. Ён спыніўся і глядзеў на іх, як той зачараваны вандроўнік. Здавалася, што хтосьці незнарок насыпаў іх з неба. Яны бессаромна засцілалі ўсё рэчышча даліны.

Тут яны навідавоку, але ж чым бліжэй да акіяна, то, напэўна ж, будуць хавацца ў мерзлаце, апускаючыся ўсё ніжэй і ніжэй, ажно да самых карэнных парод.

Як толькі Сцяпан зайшоў у балок, то адразу ж уключыў рацыю, бо хвілін праз дзесяць з ім на сувязь павінен быў выйсці Андрэй Іванавіч. Потым ён запаліў лямпу, падкінуў у грубку вугалю і пачаў раскладваць па паліцах свой няхітры скарб.

Перш-наперш асцярожна дастаў з рукзака папку з дакументамі, дзе быў надзейна запакаваны невялічкі абразок Ісуса Хрыста. Яму яго падарыла нябожчыца-бабуля яшчэ тады, калі ён скончыў дзесяць класаў і выправіўся з роднага дому ў самастойнае жыццё. Калі Сцяпан вучыўся ў інстытуце, то адважыўся павесіць яго на сцяну ў сваім інтэрнацкім пакоі толькі на пятым курсе.

Прымацаваў абразок у самым кутку, і адразу ж на душы пасвятлела. І тут тэлефонная трубка рацыі нарэшце ажыла. У ёй пачуўся трэск, шум, ён узяў яе ў руку, хуценька крутануў рычажок гучнасці і адразу ж пачуў голас начальніка:

— «Бяроза!» «Бяроза!» Я «Клён!», як мяне чуеш, прыём!

— Чую вас, Андрэй Іванавіч! Заехалі выдатна, уладкоўваемся. Заўтра прыступаем да праходкі сто пятай лініі. Якія навіны?

— Праз тыдзень-другі чакай гасцей з дзяржтэхнагляду, а праз які месяц і я пад’еду з маркшэйдэрам. Усё! Канец сувязі!

Сцяпан паклаў трубку і выключыў рацыю. На пачатку кожнага шурфовачнага сезона надакучвалі розныя камісіі, якія сваімі праверкамі і занудзістымі парадамі заміналі працаваць. Калі інспектара з дзяржтэхнагляду, які кантраляваў захаванне ўзрыўчаткі і правядзенне падрыўных работ, яшчэ можна было зразумець, то розных гасцей з ГоКа, а то і з самога Магадана Сцяпан цярпець не мог. Бо ў тых адно было ў галаве — вырвацца з кабінетаў у тундру ды ўрэшце па-сапраўднаму расслабіцца, выпусціць пару, а прасцей кажучы — напіцца да чорцікаў, каб лыка не вязаць. І нікога не трэба баяцца — ні табе жонкі, ні вышэйшага начальства, ні сваіх падначаленых.

Павячэраўшы, Сцяпан прылёг на ложак і ўключыў прыёмнік. Старэнькая «Спідола» надзейна служыла яму пяты год. Праўда, перадачы з Масквы злавіць было няпроста, заўсёды такія перашкоды, што месяцамі не ведаў апошніх навін. А вось голас Амерыкі вяшчаў — лепш не трэба! Яно і не дзіўна — амаль побач жылі амерыканцы. А да вайны іхнія камерсанты шасталі па ўзбярэжжы Чукоткі, як у сябе дома. Кажуць, што нават

і ў цяперашні час іхнія падводныя лодкі нярэдка заходзяць у халодныя чукоцкія воды.

Праслухаўшы навіны, ён падняўся, выключыў прыёмнік і вырашыў наведаць шурфоўшчыкаў. Заўсёды перад пачаткам работ было прынята збірацца разам, каб вырашыць усе праблемы, дый заяўкі на харчаванне ўдакладніць — што каму прывезці.

У балку Валянціна Кароціча ўсе былі ў зборы. Дый куды яны маглі падзецца, калі больш чым на паўкіламетра без Сцяпанавага дазволу ім пайсці было нельга.

— Праходзь, Сцёпа, расказвай, — прамовіў Міхаіл Пятровіч, падкідваючы ў грубку вугалю. — Што з базы перадалі?

— Нічога асаблівага, — Сцяпан сеў на лаву ля стала і зняў шапку. — Дзесьці так праз тыдзень інспектар прыедзе, а пасля і начальнік.

— Як даліна? Штосьці ты доўга быў у вярхоўі? — спытаў Валянцін.

— Нічога асаблівага. Праўда, непадалёку ад нас убачыў паўразбураныя дамкі, зняволеныя тут працавалі, тры штольні прабілі ў вялізнай сопцы.

— А што шукалі? — дапытваўся Валянцін.

— Бог іх ведае. На Чукотцы карысных выкапняў навалам. Адно скажу — не золата і не касітэрыт.

— То яны ж, напэўна, і шурфы праходзілі, — уступіў у гутарку Кузьма.

— Хто іх ведае. Магчыма, і прайшлі з які дзесятак, каб даць геолагам наметку на будучыя работы. Але мы — эксплуатацыйная разведка, ставім апошнюю кропку. Пасля нас тут пачнуць прамыўку пяскоў старацелі.

— А я думаў, што мы тут самыя першыя, — з расчараваннем у голасе працягваў Кузьма.

— Чаго захацеў, — Сцяпан усміхнуўся. — Першым тут calісьці пабываў Мікіта Шалаўраў. Купец, які гойсаў тут яшчэ ў далёкім 1761 годзе. Ён даў апісанне Чаўнскай губы, дзе цяпер порт Певек. Няўдачай скончылася ягоная першая спроба прайсці ад ракі Лены на ўсход у пошуках праліва да Ціхага акіяна. Дабраўся ён толькі да мыса Білінгса, дзе і загінуў. А пасля яго тут столькі народу пабывала, што і не злічыць. Нават і мы з вамі дапялі, каб злавіць птушку шчасця.

— Дзе ж цяпер яе схопіш з такой нормай — метр за змену, — сказаў Аляксей.

— Самі ж і вінаватыя, — спакойным голасам адказаў Валянцін. — Мне пашчасціла захапіць яшчэ тыя залатыя дзянёчкі, калі нормай быў саракоўнік, — са смакам пацягнуўшы цыгарку, працягваў ён. — Чэсна скажу — працавалі да абеда, а пасля — вольныя казакі: хто на паляванне, хто спаць, хто ў карты гуляць. Бугор наш пільна сачыў — каб ні сантыметра больш за змену, бо ведаў — заўтра ж накруцяць расцэнкі.

— І якія заробкі былі за такую работу? — пацікавіўся Кузьма. — Гэта ж за месяц праходзілі толькі дзевяць метраў — адзін шурф.

— З навалачкай хадзілі, — з усмешкай адказаў Валянцін, — бо яшчэ старымі грашыма атрымлівалі. А так за месяц выходзіла да васемнаццацідваццаці тысяч.

— Легкавушка «Пабеда» каштавала ў тыя гады шаснаццаць тысяч, а задрыпаны «Масквіч» — восем штук усяго. Бывала, як у адпачынак прыедзем, то новенькага «Масквіча» бралі, але больш як тры месяцы той не вытрымліваў, бо нап'ёмся ды шпокнем радыятарам у бярозу. А цяпер, — ён уздыхнуў, — да таго ўсё змянілася, што вось прыеду ў свае мясціны — на Палессе, то дальбог не пазнаю. Летась ліст атрымаў, што да таго павы-

сушвалі балоты, што вада са студняў знікла. Прама скажу: без галоў у нас кіраўніцтва. Няўжо не разумеюць, што без вады і балот усё звяр'ё вынішчаецца. Як цяпер памятаю — бацька прыносіў з палявання па дванаццаць зайцоў. Маці, бывала, крычала, каб больш як пяць не страляў, бо працы з імі да цямна. Дый на Чукотцы белякоў было навалам. Бывала, выйдзем у тундру месячнай ноччу, навокал цішыня, крыху адыдзем ад балкоў, а яны гарцуюць... То мы яшчэ выбіралі — якога стрэльнуць, а цяпер зрэдку толькі і ўбачыш. Вынішчаецца ўсё! Да чаго ідзём, Сцёпа? Ты ў нас чалавек веруючы — растлумач грэшнікам.

— Зямля, як планета, забруджваецца, — пачаў Сцяпан. — І не толькі ад фабрык і заводаў, але нават і ад нашых грэшных думак.

— Штосьці не даходзяць да мяне твае словы, — сказаў Валянцін.

— Тут усё проста: пажадаў ты каму непрыемнасці, а праз нейкі час твая ж думка-пажаданне абавязкова вернецца да цябе, але ў іншай форме — захварэць можаш або на валун трапіш у шурфе памерамі з добрую печ. Чалавек павінен кожны дзень пачынаць і заканчваць малітвай, пра гэта я вам не першы год кажу, вось тады ўсё пойдзе на лад.

Сцяпан падняўся з лавы, надзеў шапку, ля самага парога азірнуўся і дадаў:

— Нагадваю пра правілы бяспекі, а галоўнае — працуйце без фокусаў, шпіёнаў нам больш не трэба, усяклі?!

І пад раскацісты рогат бадзяг-шурфоўшчыкаў Сцяпан выйшаў з балка. Яны адразу ўцямілі, што той меў на ўвазе.

Летась, калі вясною займаліся прамыўкай «руславых» шурфоў, яны злавілі «дыверсанта-разведчыка», які, падумалася ім, быў высаджаны з амерыканскай падводнай лодкі. А на справе ўсё было, як у тым кіно.

Сцяпан у той дзень узяў у ранец крыху харчу і вырашыў махнуць цераз перавал у суседнюю даліну, каб прыкінуць колькасць «руславых» шурфаў, якія трэба будзе прамыць у першую чаргу, бо праз дзень чакалі трактар для пераезду. Сваім рабочым ён загадаў збірацца ў дарогу.

І толькі тыя пачалі рыхтаваць прамывалку, як, адкуль ні вазьміся, падыходзіць да іх незнаёмец у новенькай з іголачкі форме — зялёнага колеру штаны і такая ж куртка з прыгожымі нашыўкамі і незразумелымі надпісамі на замежнай мове. Асабліва насцярожыла шурфоўшчыкаў тое, што размаўляў незнаёмец з акцэнтам. Валянцін, улучыўшы зручны момант, шапнуў хлопцам: «Амерыканскі шпіён з падводнай лодкі».

І яны, доўна не раздумваючы, навaліліся ўсім кагалам на незнаёмца, звязалі таму рукі ды зацягнулі ў Сцяпанаў балок. А самі пачалі абмяркоўваць, што за ўзнагароду атрымаюць ад супрацоўнікаў КДБ.

А калі Сцяпан вярнуўся, высветлілася, што гэта новы галоўны маркшэйдэр з ГоКа. Ён ехаў на ўсюдыходзе з геолагамі, а калі той на перавале зламаўся, маркшэйдэр вырашыў дабрацца да іх пешшу. Гаварыў ён з акцэнтам, таму што быў латышом.

На наступны дзень, як толькі крыху развіднела, Сцяпан выпісаў накладную і выдаў падрыўніку Віцю дзённую норму аманіту і капсуляў-дэтанатараў. А праз якую гадзіну даліну ўскалыхнулі першыя выбухі.

За лета шурфоўшчыкі адпачнулі і згаладаліся па сапраўднай працы. І цяпер усе рабілі з ахвотай і натхненнем. Праўда, улетку ім таксама хапала клопатаў: хто заставаўся ў тундры на рамонце балкоў, каго часова пераводзілі на кар'ер, дзе на спецыяльных прыборах прамывалі пяскі і здабывалі мінерал касітэрыт. Але ж хіба такую працу можна параўнаць з шурфоўкай?

Не кожны здолее па дванаццаць гадзін дзяўбці ломікам вечную мерзлату ды пасля выбуху падымаць на паверхню ў вялізных бодняя пароду, якую яшчэ трэба выкласці ў спецыяльныя кучы-праходкі (яе пасля прамывае спецыяльная брыгада).

Амаль кожны сезон у першы месяц працы па метражы праходка была самай вялікай. І Сцяпан частку метражу пакідаў на наступны месяц, каб увесь сезон працаваць з запасам. Але свае карэктывы ўносіла завіруха: на чатыры, а то і на ўсе дзесяць дзён выпісвала выхадныя.

Заробак у шурфоўшчыкаў быў да тысячы рублёў у месяц. І пры ўдалым сезоне можна было зарабіць на дзве легкавушкі. Але ж і здароўе зношвалася. Сцяпан аднойчы нават вычытаў, што ў таго, хто пражыве на Чукотцы бязвыездна пяць гадоў, пачынаюцца незваротныя змены ў арганізме.

Першы працоўны дзень скончыўся даволі ўдала — шурфоўшчыкі прайшлі амаль паўтара метра. Даліна была не вельмі шырокай — не больш як сто метраў. Толькі бліжэй да акіяна яна пашыралася, але там шурфовачных ліній не было.

Цяпер Сцяпана непакоіў толькі магчымы прыезд тундравых гасцей. Звычайна, Сцяпану з базы па рацыі паведамлялі, калі рыхтавацца да іх сустрэчы. Але, здаралася, што яны налятаі на сваіх усюдыходах, а то і верталётах зусім нечакана. На аманітным складзе ў Сцяпана быў поўны ажур. Горны інспектар часта з'яўляўся знянацку і адразу ж ішоў правяраць колькасць узрыўчаткі па накладных, і калі што не так, мог і забараніць падрыўныя работы.

Але ж заставаліся яшчэ шурфы. Па існуючых правілах бяспекі, праводзіць зарадку аманітам шпуроў павінен падрыўнік, а не шурфоўшчык. Ды кожны паважаючы сябе шурфоўшчык на Чукотцы самастойна праводзіў зарадку шпуроў на ноч. Тады раніцай пры выбуху за адну адпалку атрымлівалася даволі значная ўходка па метражы, бо марозік за ноч надзейна прыхопліваў забойку ў шпурах. Шурфоўшчыкі самі забурваліся, а пасля адразу ж праводзілі зарадку двух, а то і трох шпуроў. І тут мог адбыцца любы трагічны выпадак. Мала таго, знаходзіліся такія «рацыяналізатары», якія, каб хучэй забурыцца, устаўлялі ў невялікую бурку капсуль-дэтанатар і пры дапамозе звычайнай плоскай батарэйкі падрывалі яго, прычым самі не вылазілі з шурфа, а толькі адварочваліся.

Летась ад такога вынаходніцтва ледзь не загінуў іх самы вопытны шурфоўшчык — Валянцін Кароціч.

І цяпер Сцяпанавы хлопцы такімі фокусамі не займаліся. Праз дні тры ў дзверы Сцяпанавага балка моцна пастукалі. Ён усхапіўся і зазірнуў у невялічкае акенца. Непадалёку стаяў заліты месячным святлом усюдыход. Сцяпан апрануўся і адчыніў дзверы. У балок зайшлі двое. Былі яны ў карычневых кажушках і шапках — так звычайна апранаецца ўсё чукоцкае начальства.

— Прывітанне разведчыкам! — з весялосцю ў голасе сказаў чарнявы незнаёмец, здымаючы шапку. Другі моўчкі стаяў ля парога. Сцяпан адказаў на прывітанне і запаліў лямпу.

— Праверка пашпартоў, — прамовіў чарнявы.

— А хто вы? — спытаў Сцяпан.

— Капітан Камітэта дзяржаўнай бяспекі Бутар Генадзь Іванавіч. — І ён працягнуў яму сваё пасведчанне.

Сцяпан уважліва прачытаў яго, мельгам зірнуў на маленькую фотакартку і перадаў капітану.

— Можа, чайку? — прапанаваў Сцяпан.

— Не, не! Мы спяшаемся. Дый напіліся ўжо ў чукчы-паляўнічага.

Сцяпан паказаў свой пашпарт, а потым пайшлі да балка шурфоўшчыкаў. Тыя спрасоння спачатку не маглі ўцяміць, што да чаго, але пасля, хаця і з цяжкасцю, пашпарты свае адшукалі.

Госці паехалі. І пацяклі падобныя адзін да аднаго шурфовачныя дзянёчкі. Мінула толькі тры тыдні, а першая шурфовачная лінія была ўжо амаль скончана. Засталося дабіць два руславыя шурфы. Перад самымі карэннымі пародамі, да якіх звычайна праходзяць шурфы, сустрэліся валуны. Валянцін з такім «падарункам» справіўся даволі хутка, а Кузьме давялося ці не цэлы дзень з ім пабарукацца.

Увечары Сцяпан зайшоў у балок да шурфоўшчыкаў.

— Сцёпа, рассудзі нас, грэшнікаў, — адразу ж прамовіў Валянцін.

— А што такое?

— Паслаў мне сёння Бог валун у шурф, то я і не крыўдую, бо няверуючы, дый ніводнай малітвы не ведаю. Але ж за што ён такога велікана Кузьме падкінуў, га? Ён жа ў нас, лічы, старавер, моліцца пасля вячэры.

— А тут няма чаму дзівіцца, — адказаў Сцяпан, сядаючы на лаву і здымаючы з галавы шапку. — Бог паслаў Кузьме такі валун, каб пераканацца ў ягонай веры, а заадно даць яму імпульс і натхненне.

— Ну, калі так, то гэта іншая справа, — сказаў Валянцін і дадаў: — Але, калі ў другім шурфе Усявышні пашле яму яшчэ некалькі валуноў, то, думаю, натхнення ў яго ўжо не будзе.

— Як сказаць! — Сцёпа паляпаў Кузьму па плячы. — Трымайся, а гэтых грэшнікаў не слухай. Калі што — кліч на дапамогу.

— І пра сопку са штольнямі хачу ў цябе заадно спытаць, — сказаў Валянцін.

— Чым жа яна табе не дагадзіла?

— Колер яе серпантыну мне не падабаецца. Даведайся ў начальства, добра?

— Спытаю, але думаецца мне, што няма нам чаго яе баяцца. Толькі самастойна лазіць у штольні не дазваляю. Як той казаў: «Беражонага Бог беражэ!»

— Вось-вось, я ўжо ў такіх справах вучоны, — з весялосцю ў голасе адказаў Валянцін. — На прыіску «Вогненны» курсы скончыў.

— Раскажы, як ты там разбагацець хацеў, — прапанаваў Кузьма.

— Была, хлопцы, справа. Год з пяць таму загуляў я ў Певеку па-чорнаму. Усё да капеечкі прасадзіў, згаладаўся, начую з бічамі ў аэрапорце. І тут пашчасціла — сустрэў даўняга свайго сябрука, які і параіў падацца на «Вогненны». Дабраўся туды даволі ўдала — з геолагамі. На працу прынялі адразу — нават мая спісаная працоўная кніжка не выклікала ў іх падазронкі. Заробкі — лепш не трэба! Да двух тысяч у месяц набягала, а калі нават і больш. Расцэнкі павышаныя — усім так плацілі. Мінуў месяц-другі, амаль усё на ўзроўні, вось толькі здаровыя зубы ў роце пачалі гойсаць туды-сюды, ды яшчэ кроў з дзяснаў ледзь не цурком бяжыць. Кінуўся я ў роспыты, а мне і кажуць: «А што ж ты хочаш? Кінавар здабываем, з якой пасля ртуць атрымліваюць. Ідзе атрутнае выпарэнне, праз год-другі і капыты можаш адкінуць!»

Пасля такіх размоў схапіў я свой ранец ды даў дзёру — толькі мяне і бачылі. Бо мне пажыць яшчэ хочацца, а грошы заробім, было б здароўе.

— Яно так, — у задуменні прамовіў Кузьма, — але ж пасля шурфоўкі злётаеш па піва ў Магадан і прасадзіш усё да капеечкі.

— Выпіць, канечне, давядзецца, — Валянцін прыкурыў цыгарку, — але ж і на чорны дзень я што-нішто маю. Векаваць жа ў гэтай тундры не збіраюся. Тысяч пяцьдзесят збяру ды падамся на сваё Палессе. Прыдбаю хаціну ў зацішным месцы, каб лес быў побач ды рэчка... Хаця, згодзен і на невялікае азярцо ды буду бабу шукаць. І не замухрышку якую, а ў самым саку — каб цыцкі па вядры, з прывабна-прыцягальным азадкам, усяклі?! Вось так! Пасля і вас, грэшнікаў, запрашу ў госці.

На наступны дзень, недзе да абеду, толькі выйшаў Сцяпан з балка, кінуў позірк у нізоўе даліны, убок акіяна, і знямеў: яшчэ здалёк заўважыў чорную кропку, якая рухалася хвалепадобна і на вачах павялічвалася ў памерах.

«Яшчэ кагосьці чорт нясе!» — вылаяўся пра сябе Сцяпан і хуценька падаўся да шурфоўшчыкаў, якія якраз завіхаліся ля вараткоў, адкачвалі пароду пасля ўзрыву.

Тыя імгненна прыхавалі аманіт і працягвалі працаваць. Урэшце Сцяпан разгледзеў, што гэта быў не трактар, а ўсюдыход, які шпарка імчаў па даліне. Хвілін праз дваццаць, так і не даехаўшы нават да шурфовачнай лініі, усюдыход порстка развярнуўся і спыніўся. Хтосьці выйшаў з кабіны, махнуў рукой і той, быццам адкормлены і застаялы жарабец, ірвануў па сваім жа следзе да акіяна.

Сцяпан чакаў ля балка. А той крыху пастаяў, закінуў на плечы невялічкі ранец і накіраваўся да балкоў. У постаці незнаёмца Сцяпан нарэшце пазнаў іхняга горнага майстра Валодзю Каваленку, з якім ён беспаспяхова спаборнічаў ужо трэці сезон. Валодзя са сваімі шурфоўшчыкамі працаваў у рэчышчы даліны Паалtimes. Хлопцы ў яго былі зухаватыя: маладыя, працавітыя, кожны марыў пабольш зарабіць ды адразу прыдбаць кватэру з легкавушкай.

— Што, навёў на вас я сполаху? — смеючыся спытаў ён у Сцяпана, моцна паціскаючы яму руку.

— Ты ж ведаеш мае адносіны да гасцей: ні папрацаваць, ні адпачыць, ні напіцца як след не дадуць.

— Дык ты ж і кроплі ў рот не бярэш.

— Затое мае хлопцы не промах — бочку могуць за тыдзень асушыць.

Яны зайшлі ў балок і распрануліся. Сцяпан паставіў на стол чайнік, дастаў буханку хлеба, балгарскія памідоры і дзве бляшанкі фаршу.

— Геолагі з раённай экспедыцыі да цябе падкінулі, гадзіны праз тры абяцалі зноўку за мной заехаць, — сказаў Валодзя, смакуючы фарш з памідорамі.

— І якія ў цябе навіны? — пацікавіўся Сцёпа.

— Працуюць хлопцы. Вось мы крыху ўверх падняліся па даліне, а там пачынаецца высачэзная града, і штосьці з базай не магу які дзень звязацца. Вось і прыехаў, каб паспрабаваць наладзіць сувязь з табой, а ты з базай.

— Давай паспрабуем. — Сцяпан дапіў чай і хуценька прыбраў са стала. Пасля зноў сеў на ложак і спытаў:

— Як у цябе даліна, валуністая?

— Ды не. Дзе-нідзе, бывае, і высуне нос камянюка, але памерамі з бодню, а то і менш.

— Зноў нас па метражы абскачаш?

— Не ведаю. Але за гэты месяц па сорак метраў праходкі на чалавека павінна выйсці. Летась добра мы хапанулі. Нават я па тысячы рублёў за кожны месяц паклаў на ашчадную кніжку.

— Як жа ты зарабіў? — здзівіўся Сцяпан. — У нас з табою нават па чатыры сотні з палявымі не выходзіць?!

— Трэба ўмець! — рассмяяўся Валодзя.

— Можа, у вольныя часіны займаешся паляваннем на пясцоў?

— Якое там! — ён махнуў рукой. — У мінулы сезон толькі два ў капкан трапілі, ды і то выпадкова. Іх жа ўлетку падкормліваць трэба, раскідваць мяса ля нораў. А зарабляю грошы звышсакрэтнай методай — нават табе пакуль не магу сказаць. Хачу і ў гэтым сезоне паспрабаваць, мо штосьці і выйдзе, а там — лахі пад пахі ды на сваю Украіну. Але ж з пустымі рукамі грэх адсюль вылятаць. На Чукотцы ўсе грабуць для сябе, пачынаючы з самага высокага начальства. Ты ж, напэўна, чуў пра першага сакратара Магаданскага абкама Малафеева?

— Штосьці там нашкодзіў, не ведаю.

— Нашкодзіў вельмі мякка сказана. Злодзей і бабнік, якіх свет не бачыў! Мяхамі прадаваў пясцовыя шкуркі за мяжу, а грошы сабе ў кішэню. Ды гэта яшчэ што! Прыгожую жанчыну ўбачыць — адразу ж да сябе ў пасцель цягне. Сваю жонку выгнаў, а ажаніўся з сяброўкай сваёй дачкі-дзесяцікласніцы. Пасля такога выбрыку нават наш шаноўны Леанід Ільіч не вытрымаў — летась зняў з пасады, бо надалей трымаць такога хапугу не было магчымасці. Што пра натхняючую і накіроўваючую скажуць людзі?!

— І што з ім сталася? Пайшоў пад суд?

— Ты што?! — здзівіўся Валодзя. — Перавялі намеснікам міністра геалогіі Расіі ў Маскву. Вось так! І калі ўжо такія людзі хапаюць, то нам і сам Бог наказаў.

— І да чаго дойдзем, калі ўсе будзем красці?

— Асабіста я не краду, магу цябе супакоіць, — Валодзя ўсміхнуўся.

— А калі гаварыць наогул пра ўвесь наш вялікі і непераможны Саюз рэспублік, то нашай кампартыі ў хуткім часе ва ўладзе не ўтрымацца. Успомніш калісьці мае словы.

— Тут ты ўжо перабраў, галубок.

—Ніколечкі! Сам прыкінь — яе вярхі пагразлі ў карупцыі. Ты ж проста ўсяго не ведаеш. Маюць асабістыя ўклады ў замежных банках, ды яшчэ тое, пра што мы і марыць не можам.

— Але ж калі узяць нас, то трэба жыць з чыстым сумленнем, каб не было грахоў на душы. Я не супраць таго, каб разбагацець, але сумленна, без махінацый.

— Хто ж такога не хоча? Але не заўсёды так атрымліваецца, абставіны бываюць мацнейшыя за нас. Як кажуць у народзе: не хацеў браць, ды давялося.

Пасля яны згулялі тры партыі ў шахматы і толькі хацелі выпіць гарбаты, як пад самым акном завуркатаў усюдыход. Валодзя спехам апрануўся і выскачыў з балка.

А Сцяпану цяпер не давалі спакою Валодзевы словы: як ён зарабляе такія вялікія грошы? Можа, дапамагае шурфоўшчыкам адкачваць з шурфоў пароду, а тыя яму даплачваюць? Сцяпан за грашыма не вельмі і гнаўся, але ўсё-ткі крыўдна было летась, калі ён ні разу не атрымаў прэміяльных з-за таго, што ў яго быў перарасход узрыўчаткі. А што паробіш, калі ў шурфах даводзілася размалочваць на аскалонкі вялізныя валуны.

На наступны дзень, як яны і дамовіліся, Сцяпан звязаўся з Валодзем па рацыі. Пагаварылі хвілін дзесяць, а ў прызначаны час Сцяпан і на базу перадаў пра гутарку з Каваленкам.

Начальнік узрадаваўся і абяцаў прыехаць з прадуктамі за які тыдзень да Кастрычніцкіх святаў.

Ён з дня на дзень чакаў горнага інспектара, але той чамусьці ўсё не заяўляўся. Першая шурфовачная лінія была ўжо скончана, і ўсе перайшлі на другую. Прайшлі дзесьці так па чатыры метры і капітальна селі на валуны. А тут і завея ўсчалася. Добра, што Сцяпан паспеў нацягаць у тамбур вугалю.

Вятрыска са снегам з такой злабою накідваўся на Сцяпанаў балок, што той нават пачаў крыху парыпваць, быццам скардзіўся, што ўлетку яго дрэнна падрамантавалі.

Цяпер, пад няспыннае завыванне завірухі, якая галасіла быццам па нябожчыку, можна было смела адлежваць бакі ў ложку.

Чамусьці менавіта цяпер успомніў Сцяпан тых небаракаў-зняволеных, якія вось у такую халадэчу не сядзелі ў цёплых балках, а працавалі ў штольні, а калі не, то мерзлі ў сваіх хацінах-мазанках. Колькі іх тут было — аднаму Богу вядома, і, відаць, многія з іх тут засталіся назаўсёды.

З базай на сувязь ён выходзіў два разы на дзень, але ў трубцы панаваў такі трэск і шум, што нічога не было чуваць. І ўсё-ткі ён сказаў у эфір, што ў іх завіруха і канчаюцца харчы. Перш-наперш ім не хапала хлеба і мяса. Не раз было, што ён з базы не чуў голаса начальніка, а яго там добра разумелі.

Бывалі выпадкі, што завіруха цешылася цэлы тыдзень, а то і больш. Але звычайна ёй хапала чатырох, а то і двух дзён. Ды толькі потым магла зноўку наляцець праз дзень-другі, і тут яе ўжо было не стрымаць.

Сцяпан наладзіўся вызначаць яе прыход па Месяцы. Калі той пачынаў «плакаць», гэта значыць, вакол яго з'яўлялася расплыўчатае кола, то назаўтра, а то і раней пачынала пуржыць.

Спачатку ў вярхоўях даліны ўзнімалася ледзь заўважна замець, якая быццам вялізная змяя, не спяшаючыся, паўзла на жываце да акіяна. А пасля пачыналі курэць вяршыні навакольных сопак, што ўтваралі суцэльную граду. А праз нейкі час амаль імгненна гул узмацняўся і ні даліны, ні вяршыняў сопак было не ўгледзець. Толькі калі парыў ветру спадаў, можна было ўбачыць выступы скал ды частку даліны.

А калі завіруха прыхопіць у дарозе, гэта сапраўдная бяда. Бывалі выпадкі, што людзі замярзалі нават у трактары ці машыне. Асабліва, калі заглохне рухавік.

Сцяпана завіруха прыхапіла толькі аднойчы, на ўзбярэжжы праліва Лонга. І выратавала яго тады тое, што ён выпадкова ўбачыў балок, які летам пакінулі геолагі. Амаль двое сутак Сцяпан жыў у ім, ежа ў яго была, а для печкі знайшлося крыху дроў і вугалю.

Але цяпер, ва ўтульным і цёплым балку, завіруха не палохала, вось толькі адно было дрэнна — пазаносіць вялізнымі гурбамі снегу дарогі на перавалах ды да таго ўтрамбуе снег, што трактару будзе цяжка прабівацца па цаліку.

Толькі на пятыя суткі завіруха суцішылася. Пазаносіла снегам не толькі шурфы, але і іхнія балкі. Сцяпан ледзь з свайго выбраўся. А вось шурфы, хаця і былі прыхаваныя брызентам, давялося ратаваць, і пляцоўку перад імі ачышчаць ад снегу, тую, куды пасля кожнага выбуху выкладваўся грунт.

З вялікай неахвотаю працавалі шурфоўшчыкі. Сцяпан гэта бачыў, сам дапамагаў падрыўніку Віцю нацягваць званковы провад ад міннай станцыі да шурфоў, бо той быў увесь пераблытаны і прыхаваны снегам.

А чаго ім было радавацца, калі ў кожным шурфе іх чакала па валуне.

Сцяпан прадчуваў, што валуны будуць яшчэ трапляцца ім не адзін раз, і вельмі чакаў прыезду начальніка. Але чым той зможа суцешыць? Хаця, можа, наконт узрыўчаткі штосьці прыдумае. Па палове скрынкі, бывала, ішло на тое, каб разбіць валун.

Нарэшце праз два дні, дзесьці так пад вечар, да іх з базы пад'ехалі два трактары з санкамі. Адны былі поўнасцю гружаныя вугалем, а на другіх ляжалі прадукты і стаялі бочкі з саляркай. Пакуль шурфоўшчыкі забурваліся ў шурфах, Сцяпан з Віцем хуценька перанеслі дзве скрынкі гарэлкі ў ягоны балок. Пасля падаспелі шурфоўшчыкі і пачалі разгрузку саней.

Андрэй Іванавіч перакусіў, выпіў чаю і кінуўся ў роспыты.

— Ну, як тут у цябе? Баішся валуноў?

— Хто ж іх не баіцца! У мяне такое прадчуванне, што іх тут, як таго гароху ў полі — не злічыць, — адказаў Сцяпан.

— Чаму?

— Быў я ў самым вярхоўі даліны, то такога ніколі не бачыў — адпачываюць там яны розных фасонаў і памераў проста на паверхні, нават не спрабуючы схавацца ад людскога вока. І толькі калі пачынаеш спускацца ў нізоўе, то відаць, як яны паступова знікаюць у зямельцы. І калі на сто пятай лініі сустрэліся ўсяго два валуны, то на сто першай ужо чатыры размалацілі, а да карэнных парод яшчэ далёка.

— Трэба праходзіць, — уздыхнуў начальнік. — Гэтая даліна павінна быць багатая на касітэрыт.

— Яно так, — адказаў Сцяпан, — але ж дзе тут выканаеш месячны план, дый узрыўчатка так расходуецца, што ў аніякія нормы не ўкладзешся. А што рабочыя заробяць з такім метражом?

— Ты ім скажы, што заробкам не пакрыўдзім: прыпішам расчыстку ад снегу ды яшчэ што-небудзь. А цяпер, — начальнік спехам падняўся з зэдліка, — трэба збірацца ў дарогу. Думаю яшчэ да Каваленкі заскочыць, бо ў іх з саляркай тугавата.

Зайшоў Сцяпан з начальнікам і ў балок да шурфоўшчыкаў. Тыя адразу ж засыпалі яго пытаннямі.

— Андрэй Іванавіч! — першым адразу ж выгукнуў Валянцін, — ці прывезлі вы шнапсу для сугрэву душы? Бо без яго нам такія валуны не адолець!

— Прывёз! Вечарам Сцёпа выдасць па бутэльцы на нос, а рэшту, як толькі запуржыць, згодны?!

— Згодны! — пачуліся галасы ў адказ.

— А наконт валуноў будзем штосьці думаць, — працягваў Андрэй Іванавіч. — Але ж і вы не падкачайце, бо сто першую лінію трэба абавязкова прайсці. Яна раскажа пра вельмі многае.

— А што гэта за штольні побач з намі ў сопцы? — спытаў Кузьма.

— Сакрэтныя штольні. Але вам я раскажу, каб крый Бог не залезлі ў іх. Праходзілі іх зняволеныя адразу ж пасля вайны. А здабывалі тут не касітэрыт, а уранавую руду.

— Ого! — усклікнуў Валянцін. — Я адразу ж прыкмеціў, што колер сопкі адрозніваецца ад іншых. Дык мы тут можам чаго добрага і канькі адкінуць! Нахапаемся той радыяцыі, як бедныя японцы ў Хірасіме. Прамянёвая ж хвароба пакуль невылечная.

— Гэта вам не пагражае, — супакоіў усіх начальнік. — Тут таго урану мізэрная колькасць. Вось таму і закансервавалі ў свой час гэтыя штольні, што геолагі знайшлі намнога лепшыя радовішчы. На Украіне, у Жоўтых Водах і цяпер здабываюць уранавую руду ў шахце. І нічога — жывуць людзі, працуюць... А цяпер, — Андрэй Іванавіч спехам зірнуў на гадзіннік, — бывайце здаровы і не напівайцеся.

Ён развітаўся і выйшаў з балка. А праз якую хвіліну падалі свой голас рухавікі трактароў. Сцяпан зірнуў у акенца: трактары шпарка імчалі да акіяна.

— Ну што, Сцёпа! — з весялосцю ў голасе прамовіў Валянцін. — Выдай нам двайную норму, а то ў нас, сам бачыш, сала скварчыць на патэльні.

— Ці не замнога будзе? — усміхнуўся Сцяпан.

— У самы раз. Сёння крыху дзербалызнем ды яшчэ на пахмелле застанецца. І на працу выйдзем — слова даю!

Нічога не паробіш — давялося Сцяпану прынесці ажно дзесяць бутэлек гарэлкі. І хаця ведаў — дабром такое можа і не скончыцца, але сам разумеў — іншага выйсця няма.

Дый настрой быў ва ўсіх прыгнечаны, бо месяц заканчваўся, а метражу не было...

Сцяпан у тую месячную ноч доўга сядзеў у балку ля сваёй грубкі, пазіраў на распаленае вуголле і думаў пра тое, што трэба нешта тэрмінова вырашаць з валунамі, бо змагацца з імі толькі ломікам — марная справа. Ён нават зайздросціў у думках свайму начальніку, бо таму было ўсё «да фені». «Як будзе, так і будзе!» — любіў ён паўтараць. Ды яшчэ заўсёды заканчваў так: «Прырода! Што з яе возьмеш?!»

Яму што — сеў ды паехаў, а тут паспрабуй разбярыся, што і да чаго... Назаўтра ніхто з шурфоўшчыкаў на работу не выйшаў. Сцяпан зазірнуў да іх у балок, а там халадрыга, грубка амаль згасла. Усе былі ў адкідоне — быццам тыя мерцвякі. Ён спехам пашураваў качарэжкай, пасля падкінуў дроў, а калі ў грубцы загуло, сыпануў зверху вугалю. Цяга была добрая, вугаль пачаў хутка разгарацца. Ажыла грубка, павесялела, пачала даваць цяпло...

Першым падняў ускудлачаную галаву Міхаіл Пятровіч. Кінуў вінаваты позірк на Сцяпана і ціха прамовіў:

— Перабралі ўчора з галадухі, прабач грэшнікаў...

Ён з цяжкасцю падняўся з ложка, узяў дрыготкаю рукою са стала кубак, і, падышоўшы да вялізнай жалезнай бочкі, зачарпнуў халоднай вадзіцы, у якой плаваў лёд, і з асалодаю выпіў да дна.

— Няўжо ўсе бутэлькі асушылі? — са здзіўленнем спытаў Сцяпан.

— Ды не. Павінны яшчэ застацца на пахмелку, — адказаў Міхаіл Пятровіч і пачаў прыбіраць са стала.

Цяпло рабіла сваю справу. Праз якіх паўгадзіны ўсе папрачыналіся, толькі Валянцін не вылазіў з-пад свайго кажушка, які надзейна ратаваў яго ад халадэчы. Нарэшце і ён падняўся, абвёў мутным позіркам прысутных і з весялосцю ў голасе прамовіў:

— Сцёпа! Усё будзе на вышэйшым узроўні! Зараз па грамульцы цяпнем, а да абеду, мы, як тыя гуркі на градцы, — будзем ля шурфаў!

— Якія з вас сёння работнікі?! — адказаў Сцяпан надзяваючы на галаву шапку. — Адпачывайце, але заўтра каб з самага ранку былі на шурфах.

— Залатыя словы, Сцёпа! — працягваў Валянцін. — Такога горнага майстра ў нас не было і, мабыць, ужо ніколі і не будзе. За вярсту відаць, што чалавек веруючы і, як ніхто, разумее нас, грэшнікаў. А шурфы мы скончым. Праўда, да святаў не гарантую, але...

Тут ён махнуў рукою і засмяяўся. Віця ўжо завіхаўся ля прадаўгаватай грубкі. Быў ён маладзейшы за ўсіх, дый учора, напэўна ж, не перабраў. Хаця, калі быў у настроі, то і ён мог перакуліць не адну чарку.

Кузьма тым часам дастаў са скрынкі тры пляшкі гарэлкі, ды яшчэ на стале сіратліва стаяла адна распачатая.

— На пахмелку у вас ёсць, — сказаў ля парога Сцяпан, — а на большае не разлічвайце, чакайце спадарыні завірухі. Толькі яна вас можа выручыць.

Сцяпан адправіўся ў свой балок. Згатаваў амлет з яечнага парашку і з асалодаю паснедаў. Пасля ўключыў рацыю і пачаў чакаць.

Праз якую хвіліну ў трубцы пачуўся голас Каваленкі:

— «Бяроза!» «Бяроза!» Я «Таполя», прыём.

— «Таполя!» Чую цябе выдатна. Расказвай навіны.

— Хлопцы працуюць. Месячны план перавыканалі на сто пяцьдзесят працэнтаў. Праз дзесяць дзён патрэбен вугаль, дый балкі будзем перацягваць у вярхоўе даліны.

— Цябе зразумеў. Усё перадам на базу. Канец сувязі!

Сцяпан выключыў рацыю і прылёг на ложак. «Вось табе і на!» — у роспачы падумаў ён. І няхай бы яму трапілася ў апошні сезон безвалуністая даліна. Дык не! Але што тут на некага наракаць. Ён кінуў вінаваты позірк на абразок Ісуса Хрыста і адчуў, як раптоўна паспакайнела на душы. Ён толькі баяўся, што ягоныя шурфоўшчыкі на трох пляшках гарэлкі не спыняцца...

Але страхі былі дарэмныя — да яго так ніхто і не зайшоў. А ў наступны дзень з самага ранку ўсе пайшлі на шурфы.

## Частка чацвёртая

Месяц толькі што вынырнуў з-за рваных аблокаў і заліў наваколле лагодным святлом. Стаяла такая цішыня, што звінела ў вушах. Марозік мацнеў. Сцяпан, не спяшаючыся, ішоў да свайго балка і адчуваў, як мароз пашчыпвае яго за шчокі і нос. Сопкі адкідвалі ад сябе цені розных памераў. Па-свойму прыгожы быў і гэты куточак, размешчаны амаль на самым ускрайку зямлі.

Сцяпан яшчэ з хвіліну пастаяў, паслухаў цішыню, а пасля зайшоў у тамбур балка і адразу ж зачыніўся на кручок. Павячэраўшы, як і заўсёды, стаў перад абразом Ісуса Хрыста і памаліўся. Пасля патушыў святло і прылёг на ложак. Вугаль у грубцы разгарэўся да таго, што адзін яе бок пакрыўся ледзь прыкметнай чырванню. Цяпло папаўзло па балку. Праўда, ля самай падлогі было халаднавата, а ў вялікія маразы, асабліва дзесьці пад раніцу, мароз бессаромна пасяляўся па кутках і ля парога.

Сцяпан яшчэ ў інстытуце чытаў шмат кніжак святых і прарокаў. Многае разумеў, але жыццё іншы раз паварочвалася такім бокам, выкідвала такія круцялі, што пра ўсё забываўся, грашыў, а пасля — пужаўся, нават плакаў ад сораму. Адно суцяшала — вялікіх грахоў за ім не было.

Часта паўставаў перад ім вобраз ягонай бабулі Наташы, якая пражыла доўгае і гаротнае жыццё, а памерла на сто пятым годзе, калі ён вучыўся

на пятым курсе. Шкадавала ўсіх, асабліва — жабракоў-пагарэльцаў, якія *пасля вайны хадзілі адзін за адным па хатах і прасілі толькі скарыначку* хлеба. І яна заўсёды дзялілася апошнім.

Калі Сцяпан быў маленькі, то часта спаў разам з бабуляй пад яе цёплай коўдрай. Перад сном яна хрысцілася, клала паклоны ў пояс перад іконай Божай Маці. Ён у такія хвіліны ціхенька ляжаў, зашыўшыся пад коўдру, і толькі краем вока назіраў за бабуляй. А потым бабуля клалася побач і расказвала яму казкі. Цёпла было, утульна, а на сэрцы радасна і вольна... А раніцою яго будзіў пах бліноў, якія пякла бабуля. І да чаго ж смачныя яны ў яе атрымліваліся!

Па святах яны хадзілі ў царкву. Спачатку, Сцяпан гэта добра памятаў, ён вельмі баяўся лікаў святых, што пагрозліва пазіралі на яго. Але потым, праз нейкі час, асмялеў. Бабуля шмат расказвала яму пра жыццё і подзвігі святых пакутнікаў... І Сцяпан вельмі іх шкадаваў. Ад бабулі ён упершыню даведаўся пра нараджэнне і жыццё Ісуса Хрыста. Доўгімі зімовымі вечарамі, калі маразы даходзілі да трыццаці градусаў, яны з бабуляй сядзелі на цёплай печы і да Калядаў рабілі з паперы розныя цацкі на ёлку.

Здавалася, усё гэта было зусім нядаўна, а прайшло, імгненна праляцела дваццаць пяць гадкоў. Так, зямны час бяжыць імкліва, не паспееш азірнуцца, а ўжо трэба рыхтавацца ў царства нябеснае...

Маладыя пра гэта не думаюць, а шкада. Сцяпану вось толькі трыццаць стукнула, а ўжо пачаў выразна адчуваць бязлітасны бег зямнога часу. А што ж будзе далей?

З гэтай нагоды згадалася яму адна сустрэча. Хадзіў ён тады, здаецца, у трэці клас. І вось прыйшоў аднойчы да іх марозным адвячоркам стары дзед Скурка. Было яму пад сотню гадоў, але моцны яшчэ быў, нават улетку браў у рукі касу і дапамагаў сынам на пакосе. Разгаварыліся яны з бабуляй, і яна ў яго запыталася: «Напэўна ж, нажыўся ўжо, Ігнат, га? І паміраць будзе не так страшна?»

А ён усміхнуўся ў свае доўгія рыжыя вусы ды кажа: «Я ж да гэтага часу, шаноўная мая Наташка, лічыў цябе самай разумнай бабай. Але цяпераka бачу, што памыліўся. Праз год, калі дасць Бог дажыць, споўніцца мне сто гадоў. А як падумаю, то здаецца: яшчэ толькі ўчора без штаноў гусей ля рэчкі пасвіў. А ты кажаш... Гадочкі праляцелі, як адзін дзень!»

У той час Сцяпан не вельмі і разумеў сэнс ягоных слоў. Вядома ж, быў малы, але ж шкада яму тады стала дзеда Ігната, што ягоныя гадочкі так хутка праляцелі.

Калі ён крыху падрос, бабуля замест казак пачала апавядаць пра здарэнні са свайго жыцця.

Аднойчы, калі яна яшчэ была маладою, ды ўжо выйшла замуж і мела траіх маленькіх дзетак, зайшла да яе адна жабрачка. А яны ў той год вельмі ж галадалі, да таго збяднелі, што скарынкі хлеба ў хаце не было. Збянтэжаная бабуля вынесла той жабрачцы толькі дзве вараныя бульбіны. Тая ўважліва зірнула на яе і прамовіла: «Вялікі табе дзякуй! Але мне нічога не трэба. Я толькі памалюся за тваіх дзетак».

Такі адказ жабрачкі здзівіў бабулю. І калі тая, памаліўшыся, выйшла ў сенцы, то яна хуценька падышла да акна, каб зірнуць на яе яшчэ раз... Але жабрачка не прайшла праз падворышча на вуліцу, а бясследна знікла...

Тады бабуля хуценька выбегла на падворышча, зірнула на сцяжынку, што вяла да іхняга гумна, але і там нікога не было.

У самы абед, як толькі паснулі яе дзеткі, кінулася бабуля ў роспыты да суседзяў: ці бачылі яны сёння жабрачку ў старэнькай чорнай хусцінцы. Ніхто не бачыў.

І вось тады бабуля здагадалася, што гэта быў не хто іншы, як сама Божая Маці... Бабуля не раз казала, што яе вельмі ўразілі вочы той жабрачкі. Столькі ў іх было спакою, пяшчоты, дабрыні і святасці, што яна нават не магла зварухнуцца з месца...

Але ж на гэтым усё не скончылася. Сапраўдны цуд чакаў яе назаўтра. Дзесьці так пад вечар спынілася ля іхняй хаціны фурманка, і падышоў да веснічак незнаёмы дзядок. Сам невялічкі, з сівой бародкай, у даволі заношаным армячку і зрэбных штанах.

Павітаўся, а пасля і пытае: «Ці тут пражывае Рамановіч Наташа?» І калі дазнаўся, што гэта яна і ёсць, то пайшоў да фурманкі і прынёс у сенцы два вялізных мяшкі мукі. У адным была жытняя, а ў другім пшанічная, пытляваная...

А даслаў ёй тую муку з Ганутьі яе родны дзядзька Пётрык, які толькі што вярнуўся з Аргенціны, дзе быў на заробках.

Узрадавалася яна тады, як ніколі ў жыцці! Напякла духмянага хлеба, булак... Але ж большую частку параздавала, бо суседзі таксама без хлеба сядзелі. Так і дацягнулі да жніва...

Пра гэты выпадак бабуля расказвала Сцёпу не адзін раз, яна была ўпэўнена, што толькі сама Божая Маці ўратавала тады яе з дзеткамі ад голаду. І Сцяпан ёй не пярэчыў. Бабулі ён давяраў, тая ніколі яго не падманвала, а ўсё жыццё пражыла з малітвай. І што яшчэ цікава: усе свае гады яна ніколі не хварэла.

І толькі на сто трэцім годзе жыцця пачала слабець. А калі адчула, што ў хуткім часе пакіне гэты свет, вельмі прасіла ў малітвах Бога памерці не ў халодную зімку, а восенню... Шкадавала людзей, якім давялося б у маразы дзяўбці ломікамі зямлю...

Так і здарылася. У глухую восень, у сярэдзіне лістапада, бабулі не стала. З тае пары яе светлы і пакутніцкі вобраз не раз паўставаў перад вачыма Сцяпана. Яму здавалася, што яе душа не раз ахінала яго ў гэтай халоднай і заснежанай тундры...

## Частка пятая

Толькі на трэці дзень завуркатаў ля Сцяпанавага балка гокаўскі ўсюдыход. Сцяпан спехам апрануўся і выскачыў на двор, каб першым сустрэць вялікае начальства. З усюдыхода з цяжкасцю выбраліся трое: сам галоўны інжынер Віктар Пятровіч Сызганаў у калматай пыжыкавай шапцы, галоўны геолаг Аляксей Іванавіч Жукаў і іхні начальнік.

— Прывітанне галоўнаму падбухторшчыку забастоўшчыкаў! — з вясёласцю ў голасе прамовіў галоўны інжынер і, падышоўшы да Сцяпана, моцна пацiснуў яму руку. — Паказвай свае каменныя шурфы!

— Яны там, — Сцяпан паказаў рукою ў вярхоўе даліны і першым рушыў па ледзь прыкметнай сцяжынцы.

На шурфах быў поўны парадак: усе былі акуратна захінутыя брызентам. Сцяпан вырашыў першым паказаць ім шурф Валянціна Кароціча, дзе ў бакавых сценках выразна былі бачны аскалонкі ажно чатырох валуноў, а пяты, з выразнымі і пукатымі абрысамі, адпачываў на самым дне.

Сцяпан адкінуў брызент і спусціў у шурф моцна замацаваную на двух ломіках вяровачную лесвіцу. Першым па ёй з асцярогаю пачаў спускацца галоўны геолаг. Быў ён каржакаваты, у вялікіх чорных акулярах. Ён доўга корпаўся на дне шурфа, высвечваючы ліхтарыкам ва ўсе бакі. Калі падняўся на паверхню, працёр насоўкаю акуляры і прамовіў:

— Валуны ёсць, але ж можна было б і апошні разбіць.

— А вы бачылі, якіх памераў ляжыць пяты валун на самым дне шурфа?! — не стрымаўся Сцяпан. — Мы ж чатыры разбілі, а глыбіня шурфа толькі сем метраў. Колькі ж аманіту трэба толькі на праходку аднаго такога шурфа?

— Трэба ўмець і валуністыя шурфы праходзіць, — не зважаючы на ўсё, адказаў галоўны геолаг.

— І ў кожным шурфе такое становішча! — Сцяпан з надзеяй зірнуў на галоўнага інжынера.

Той сам узяў у рукі ліхтарык і хуценька спусціўся ў шурф. Агледзеў усё ўважліва і, падняўшыся на паверхню, прамовіў, як адрэзаў:

— Сапраўдная жалезабетонная сцяна, шаноўны Аляксей Іванавіч. Я дзіву даюся, як яны такія камяні разбілі. А на самым дне накладнымі зарадамі і не ўзяць, тут і да бабкі хадзіць не трэба! Быццам той адкормлены парсюк разлёгся.

Ягоныя словы ўзрадавалі Сцяпана, і ён зразумеў, што падтрымка з боку галоўнага інжынера яму гарантаваная. Яны ўважліва агледзелі яшчэ два шурфы, а пасля накіраваліся да балка шурфоўшчыкаў.

— Трэба зірнуць, як жывуць твае хлопцы, — сказаў галоўны. — А пасля разам і будзем вырашаць, што тут можна прыдумаць.

Шурфоўшчыкі, напэўна ж, таксама ўбачылі ўсюдыход, бо калі Сцяпан разам з гасцямі зайшоў да іх у балок, то там быў ідэальны парадак: падлога падмецена, а даўжэзны стол, на якім пастаянна стаялі два чайнікі, кубкі і талеркі, на гэты раз пуставаў, яго нават паспелі накрыць газетамі.

— У вас тут сапраўдны Ташкент, — сказаў галоўны інжынер, здымаючы шыкоўную шапку і расшпільваючы гузікі. — Замучылі валуны? — спытаў ён, акідваючы позіркам прысутных.

— Адзін на адным! — адказаў Валянцін. — Такой валуністай даліны я за сваё жыццё яшчэ не сустракаў.

— Бываюць яшчэ горшыя, але гэтую трэба абавязкова прайсці. Тут павінна быць вельмі багата касітэрыту.

— Без кампрэсара з адбойным малатком нам тут не ўправіцца, — адказаў Сцяпан.

— Гэта слушная прапанова. А што яшчэ?

— Расцэнкі на шурфы трэба павысіць, — сказаў Валянцін. — Усе рукі паадбівалі на гэтых валунах, а метражу — кот наплакаў. За мінулы месяц на харчы не зарабілі.

— Згодзен! — галоўны інжынер злёгку ударыў рукою па стале. — Павялічваю вам расцэнкі на шурфы ў тры разы, але толькі для гэтай даліны. Каб у наступны сезон я не чуў аніякіх там размоў!

На якую хвіліну ў балку ўсталявалася цішыня.

— А што там здарылася ў нашых суседзяў? — спытаў Міхаіл Пятровіч.

— У іх бяда, — галоўны інжынер уздыхнуў. — У брыгадзе Каваленкі загінуў пры загадкавых абставінах Дардэнка. Следчыя там працуюць. Каваленку з падрыўніком ужо адправілі ў Певек. Мы знайшлі там і недабітыя

шурфы... Вось такія ў іх сумныя навіны. А як у вас з харчамі? Не крыўдзяць?

— Асаблівых нараканняў няма, — адказаў Валянцін. — Але калі з'явіцца на нашай базе які дэфіцыт, то ў тундру амаль і не трапляе. А нам таксама хочацца і апельсінаў, і тых жа яблыкаў...

— Як гэта зразумець? — галоўны інжынер кінуў позірк на Андрэя Іванавіча.

— Усё, што можна, мы ім прывозім. Але пакуль не памяняем загадчыцу нашай крамы на базе — нічога не будзе. Такая нахабная, да таго ж хабарніца, якіх свет не бачыў! Толькі і забяспечвае далікатэсамі старшынь старацельскіх арцеляў, бо тыя добрыя грошы ёй плацяць. Я ўжо ў сварках з ёю сэрца пасадзіў.

— Знойдзем і на яе ўправу! — галоўны падняўся з-за стала. — Літаральна з заўтрашняга дня аддам загад: найперш забяспечваць дзіцячыя садкі і тых, хто працуе ў тундры, а пасля ўжо ўсіх астатніх. Калі больш пытанняў няма, то будзем развітвацца — другія суткі без сну матаемся па тундры. Усяго вам добрага!

Калі выйшлі з балка, то галоўны сказаў:

— Ну што? Вып'ем у Сцёпы чаю ды ў дарогу!

Сцяпан сабраў на стол усё, што было: дастаў дзве мясныя кансервы, балгарскія памідоры і пячэнне.

Калі крыху перакусілі, галоўны інжынер сказаў:

— А цяпер, Сцёпа, інфармацыя асабіста для цябе: слухай і наматвай на вус. Але спачатку маю пытанне: ці думаў ты калі пра тое, чаму ў Каваленкі другі год запар такі высокі метраж?

— А як жа! Нават зайздрасць брала ў абдымкі, але пасля прыйшоў да высновы, што шанцуе яму з далінамі: безвалуністыя, з ледзянымі лінзамі. Калі ж казаць пра шурфоўшчыкаў, то мае ягоным не саступяць, хаця і старэйшыя, але ж больш вопытныя.

— Так... Дык вось што я табе скажу: наш перадавік Каваленка на самай справе аказаўся хабарнікам і махляром, якіх свет не бачыў! Палова шурфаў у яго недабітыя па пяць-шэсць метраў, а праходкі выкладзеныя як і трэба. Летась так усю даліну запароў, а прэміі атрымліваў. А ты, я тут падняў дакументацыю ў твайго начальніка, толькі вымовы меў ды пазбаўляўся прэміяльных, так?

— Было такое. У асноўным за перарасход аманіту, але ж усе шурфы ў поўным парадку — пройдзены да карэнных парод.

— Што на гэта скажаш, Андрэй Іванавіч? — звярнуўся ён да начальніка.

— Віну сваю прызнаю. Але Каваленка такі хітры ліс, што проста дзіву даюся! Бывала, знянацку наскочу, усе шурфы асабіста аблажу — нічога такога. А дапамагала яму махляваць сама прырода: даліны трапляліся з сушанцамі, вось... Уваход кожнага шурфа трэба было мацаваць бярвеннямі. А пасля, як іх здымалі, то шурфы і прысыпаліся.

— Вось так спрацоўвае наша сацыялістычная сістэма, — прамовіў галоўны інжынер. — Махляры атрымліваюць прэміі, а сумленныя працаўнікі — вымовы і пакаранні. Не! З такім падыходам нам капіталіста за шчэлепы ўзяць не хутка давядзецца. Пабываў я ў іх, нагледзеўся... Працуюць, як тыя мурашы, але ж і атрымліваюць столькі, што нам і не снілася. Але пройдзе час — навядзём і мы парадак на камбінаце!

Бачачы, што госці пачалі збірацца, Сцяпан сказаў:

— Да кампрэсара нам яшчэ і бульдозер патрэбен.

— На кар'еры іх навалам. Прыгонім вам спраўны, вы толькі яго не глушыце, няхай тарахціць ноччу на малых абаротах, бо ў маразы цяжка завесці. А цяпер, — ён моцна пацiснуў Сцяпану руку, — трымайся! А наконт прэміяльных, то Андрэй Іванавіч сваю памылку выправіць, ды і камбінат не пакрыўдзіць. Галоўнае для нас — здаць гэту даліну старацелям. А тыя метал тут возьмуць. Хаця з валунамі паваяваць давядзецца!

Урэшце усе выйшлі з балка.

Усюдыход паімчаў па даліне. Сцяпан крыху пастаяў, а пасля вырашыў зноў зайсці да шурфоўшчыкаў.

Тыя якраз заканчвалі вячэру.

— Адправіў гасцей? — адразу ж спытаў Валянцін.

— Паехалі. Выпрасіў яшчэ і бульдозер, бо кампрэсар давядзецца перацягваць туды-сюды.

— Калі толькі нас галоўны не падвядзе, то справа пойдзе, — сказаў Кузьма. — Думаю, што да двух тысяч будзем выганяць за месяц.

— Гэта яшчэ, як Бог дасць! Праўда, Сцёпа? — уступіў у гутарку Аляксей.

— Будзем спадзявацца на лепшае, — адказаў Сцяпан.

— Можа, штосьці расказалі табе сакрэтнае пра брыгаду Каваленкі? — спытаў Міхаіл Пятровіч.

— Нічога асаблівага. Але прагноз Валянціна поўнасцю спраўдзіўся — махлявалі яны ўсім кагалам. Нават у мінулы сезон палову шурфаў так і не прайшлі. Тую даліну будуць перашурфоўваць.

— А я пра што вам казаў?! — з усмешкай прамовіў Валянцін. — І наконт Ігара магу дадаць — наўмысна падарвалі яго...

— Ну, тут ты ўжо хапіў залішне! — ускрыкнуў Сцяпан.

— Ніколечкі! Ведаю я тых хахлоў з ягонай брыгады. З-за якой сотні рублёў могуць горла перарэзаць. А там дзесяткамі тысяч варочалі.

— З-за грошай яго ўхайдокалі, бо не маглі спраўна іх падзяліць. Адно за другое, вось і да турмы дакаціліся. А Каваленка будзе яшчэ год пяць пасля адсідкі выплачваць дзяржаве за свой падман.

— Табе б у следчыя падацца з такой інтуіцыяй, — сказаў Віця.

— Праз які месяц расколюць іх на допытах па адным, — дадаў Валянцін.

— А ўсё гэта з-за таго здарылася, што без веры ў душы жывуць на гэтым свеце, — сказаў Сцяпан. — У сувязі з гэтым хачу расказаць вам адну прыпавесць. Быў аднойчы Ісус Хрыстос з вучнямі ў Храме і назіраў, як людзі клалі грошы ў скарбонку. Адныя клалі шмат, іншыя крыху менш... І вось падыходзіць адна бедна апранутая жанчына і кладзе ўсяго дзве лепты, самыя дробныя на той час манеты. Ісус убачыў гэта і кажа: «Гэтая бедная ўдава палажыла больш за ўсіх, бо багацеі клалі шмат ад свайго лішку, а яна паклала ўсё што мела, усё харчаванне сваё».

— Каб жа ўсе жылі так, то чалавецтва і бяды ніколі б не спазнала, — сказаў Кузьма.

— А наконт галоўнага інжынера, — сказаў Сцяпан, — магу вас запэўніць — слова сваё ён стрымае. Вось толькі б тэхніку спраўную даставілі, а то будзем паўдня кампрэсар запускаць.

— Яго ж, па-мойму, дзесьці год пяць таму кудысьці ў ссылку адпраўлялі, — сказаў Валянцін.

— Было такое, — Сцяпан усміхнуўся. — Мне начальнік расказваў, што давёў ён былое кіраўніцтва камбіната да белай гарачкі са сваімі пра-

ектамі і прапановамі. Думалі, куды б сплавіць такога надакучлівага супрацоўніка. А тут, як старацелі кажуць, ім падфарціла: прыйшла папера з Масквы, каб адправілі спецыяліста экстра-класа па россыпах у адну з краін такой далёкай і спякотнай Афрыкі. Былы дырэктар камбіната задаволена паціраў рукі: «Няхай прагрэе свае костачкі пасля Чукоткі, а там мо леў які з галадухі з'есць».

І як толькі прыехаў туды наш выгнаннік, то вылучылі яму двухпавярховы катэдж, шыкоўны аўтамабіль і асабістага шафёра, які быў заадно і перакладчыкам і служкай: чаравікі чысціў, мяняў бялізну, ну і ўсё астатняе. І так працаваў там наш Сызганаў, што прэзідэнт той краіны не адпускаў яго дадому, пасля заканчэння кантракта і прасіў праз пасольства пакінуць яго яшчэ, але ўжо на пасадзе міністра горнай прамысловасці. Вось так! Але ж Масква не дазволіла. Вярнуўся ён зноў на Чукотку, ды з павышэннем — на пасаду галоўнага інжынера. Але ж ходзяць чуткі, што хутка будзе дырэктарам камбіната. А цяпер, — Сцяпан падняўся з лавы, — на бакавую, дый я адпачну, бо дасць Бог ужо нікога чорт не прынясе.

Толькі праз тыдзень прабіліся да іх два трактары з санямі. На адных быў кампрэсар, абстаўлены з усіх бакоў бочкамі з саляркай, а на другіх — вугаль і бярвенне для ўмацавання шурфоў. Старшыня арцелі прыслаў ім на некалькі дзён і свайго кампрэсаршчыка, каб паказаў, як працаваць.

Кампрэсар быў новенькі, з Чэхаславакіі. Праўда, перад запускам давялося яго падагрэць. Ды затое пасля працаваў ён спраўна. Першым узяўся за адбойны малаток былы шахцёр Міхаіл Пятровіч. За якую палову гадзіны прабурыў у валуне, што быў у шурфе Валянціна, дзве буркі на добрыя сорак сантыметраў.

Пасля выбуху ад валуна засталіся адныя аскалонкі. І адразу ж павесялелі шурфоўшчыкі. Дый было ад чаго. За першы дзень кожны паглыбіў свой шурф на паўтара метра.

А праз які тыдзень ужо без асаблівых намаганняў перакрывалі дзённую норму ў два разы. Сцяпан не паспяваў апісваць пароду ў шурфах. Яны спяшаліся, бо заканчваўся студзень, а тут яшчэ начальнік перадаў загад, каб прайсці шурфы і на ручаі «Каварны». Бо там, па прагнозах геолагаў, павінен быць асноўны вынас рассыпнога касітэрыту ў даліну. Сцяпан пабываў на тым ручаі. Калы-вешкі былі ў парадку: стаялі, быццам вартаўнікі, ля сваіх шурфоў. Справа пагрозліва падступалася да ручая вялізная сопка, у якой былі уранавыя штольні.

Але спачатку трэба было прашурфаваць даліну. Сцяпан не толькі сам прымаў шурфы, але і закрываў нарады на заробак. Справа гэта мутарная, памыляцца было нельга, але ж затое ў канцы месяца кожны ведаў, колькі зарабіў грошай. Усе грошы пераводзілі на ашчадную кніжку (толькі на базе вылічвалі за харчаванне).

Люты выдаўся на здзіў ціхі і марозны. Сама прырода быццам злітавалася над людзьмі, якія не вылазілі з шурфаў па дванаццаць гадзін у суткі, давала ім магчымасць урэшце па-сапраўднаму разбагацець.

Яны паступова перасоўваліся ў вярхоўе даліны. І хаця там валуны пачалі сустракацца часцей, затое шурфаў было меней.

У канцы месяца дзён на пяць запуржыла, але настрой быў, бо план перакрылі ўдвая, дый урэшце доўгая палярная ноч скончылася. Праўда, сонейка вызірнула спачатку ўсяго на паўгадзіны, але ж потым з кожным днём усё даўжэй і даўжэй заставалася на небасхіле.

Віднець пачало значна раней. Хаця і без асаблівай ахвоты, але цемра адступала, хавалася за грэбні сопак. Надакучвалі толькі вятрыскі, якія нават пры невялікім марозіку праціналі наскрозь. У шурфе, асабліва на дзесяціметровай глубіне, было ціха і нават утульна. У кожнага шурфоўшчыка гарэла свечка — іх завозілі з базы цэлымі скрынкамі.

Сцяпан штораз, калі спускаўся ў шурф з горным компасам, каб апісаць заляганне карэнных парод, з замілаваннем глядзеў на свечку, якая ціха гарэла, толькі зрэдку патрэскваючы. У такія хвіліны ён заўсёды ўспамінаў сваю царкву ў вёсцы. Тая стаяла на самым ускрайку: белакаменная, пад цынкавым дахам. Ён любаваўся ёю з самага дзяцінства, у любую пару года. А якім меладычным і задушэўным звонам яна валодала!

Па святах, ці з самага ранку, а то і пад вечар, велічна плыў ён, гэты звон, пад-над вёскаю, па-над садамі, агародамі і паміраў дзесьці за Вяллёй, над лесам, высока ў нябёсах...

І гэты святы звон заўсёды вярэдзіў душу і сэрца, прымушаў спыніцца, хоць на хвіліну забыцца пра ўсе свае турботы і няўдачы. Сцяпан не адзін раз адчуваў яго лячэбную і ачышчальную сілу. Нездарма ж вучоныя даўно даказалі, што ад царкоўнага звону гінуць нават мікробы.

І нават тут, у векавой мерзлаце за Палярным кругам, яму рабілася цяплей на душы ад адных толькі ўспамінаў пра сваю царкву, у якой калісьці вянчаліся ягоная бабуля і маці. Ды і яго, малога, хрысцілі ў гэтай жа царкве. Як расказвала маці, бацюшка скупануў яго ў халоднай вадзіцы, а ён нават і не заплакаў, чым вельмі здзівіў прысутных.

Яны з шурфоўшчыкамі спадзяваліся, што трактар з харчаваннем прыедзе недзе да восьмага сакавіка, але, як высветлілася, на базе сёмыя суткі была завіруха. У іх жа стаяла цудоўнае надвор’е. Толькі праз тыдзень дабраліся да іх два трактары з санямі. Да свята падкінулі ім сапраўдных ласункаў: была тут чырвоная рыба, апельсіны, яблыкі, шампанскае і скрынка каньяку (з гарэлкай здарыўся перабой). І, на радасць шурфоўшчыкаў, чатыры скрынкі піва. Раней яны лёталі за ім ажно ў Магадан, бо свайго піўзавода ў Певеку не было. І вось у рэшце рэшт яго пабудавалі.

Начальнік сам хуценька праверыў усе шурфы, застаўся задаволены і адразу зазбіраўся ў былую брыгаду Каваленкі, бо там ужо цэлы месяц працавалі новы горны майстар і падрыўнік.

Перад самым ад’ездам сказаў Сцяпану:

— У камбінаце прэмію табе выпісалі, без малога амаль на палову «Жыгулёў». А як датэрмінова і паспяхова здасі даліну, то галоўны інжынер абяцаў яшчэ падкінуць. А на мяне не крыўдуй, бо самога таксама шкуматаюць за перарасход узрыўчаткі.

— Ды я і не крыўдую. Служба такая ў вас, што тут паробіш...

Начальнік паехаў. Сцяпан на гэты раз рызыкнуў і пакінуў скрынку каньяку ў шурфоўшчыкаў, а сабе ўзяў толькі некалькі бутэлек шампанскага і піва. Тыя далі слова, што больш як два дні баляваць не будуць, бо каньяк не вельмі паважаюць. Узялі сабе ў галаву, што ён аддае клапамі.

Але ім пашчасціла: ноччу ўсчалася такая завіруха, што ў першы дзень Сцяпан не мог да іх дабрацца. Яна з такою сілаю накідвалася на балок, што той нават жаласліва парыпваў, быццам скардзіўся на сваё гаротнае жыццё. А як яна высвіствала ў грубчынай трубе — немагчыма апісаць. Вельмі ж, пэўна, хацела завіруха трапіць праз тую трубу ў грубку. І калі ёй гэта ўдавалася, то вугаль да таго разгараўся, што даводзілася адчыняць дзверцы.

Толькі на другі дзень, дзесьці пад вечар, крыху пацішэла.

Сцяпан апрануўся, выбраў зручны момант і выскачыў з балка. Галоўнае — не згубіць накірунак да балка шурфоўшчыкаў, бо, калі што-якое, то пасля можаш гадзіну кружыць побач з ім, ды так і не дабярэшся да выратавальнай клямкі ў дзвярах. Бывалі выпадкі, што шурфоўшчыкі, асабліва на добрым падпітку, замярзалі ў завіруху літаральна за некалькі метраў ад свайго балка.

Сцяпан быў цвярозы. І хаця да балка было метраў сорак, ён прабег гэты адрэзак на адным дыханні. Добра яшчэ, што кручок ад дзвярэй у іхнім тамбуры можна было праз шчыліну адкінуць адным пальцам.

Спачатку падумаў, што зноў усе будуць у поўным адкідоне, але ён памыліўся. Калі адчыніў дзверы, то адтуль дыхнула цяплом, ярка гарэлі дзве лямпы, а шурфоўшчыкі гулялі ў карты, толькі Міхаіл Пятровіч чытаў кнігу.

— Прывітанне! Як вы тут?

— Што, спалохаўся? — прамовіў Валянцін. — Напэўна ж, падумаў, што, як і ў мінулы раз, — усе ў аўце!

— Было такое! — адказаў Сцяпан, страсаючы снег з шапкі і расшпільваючы кажушок.

— На гэты раз мы ў поўным парадку, — сказаў Міхаіл Пятровіч, адкладваючы кніжку на ложак. — Каньячок у нас не ў пашане, бо калі яго перап’еш, то галава баліць — спасу няма, быццам хтосьці сціскае яе жалезнымі абцугамі. Праўда, у першы дзень ледзь не перабралі з галадухі. Добра, што піўка падкінулі, яно нас і ўратавала. Можа, сам цяпнеш шклянку, яно ў нас халоднае, стаіць на падлозе.

— А што? Давай бутэльку, — згадзіўся Сцяпан. — Я ўжо сваё даўно асушыў.

— Бо мала ўзяў, — прамовіў Валянцін і, пад агульны смех, павесіў вальтовыя пагоны на плечы падрыўніку Віцю. Той пачырванеў, падняўся з-за стала і пачаў выстаўляць бутэлькі з півам. Кузьма іх порстка адкаркоўваў. Усе выпілі. Сцяпан таксама адразу ж перакуліў дзве шклянкі.

— Ну, што там начальнік сказаў? — спытаў Аляксей.

— Нічога асаблівага. Тэмпамі праходкі задаволены. Ён падаўся на другі ўчастак, а нам загадаў яшчэ і ручай «Каварны» прашурфаваць.

— Што вы ўсё пра шурфы, — падаў голас падрыўнік Віця. — Я тут вычытаў, што на востраве Урангеля жывых мамантаў знайшлі.

— Сам ты мамант! — са смехам адказаў Валянцін. — Яны з мільён год, як вымерлі. Вось толькі калі-нікалі іхнія біўні знаходзім.

— Так, — у задуменні прамовіў Сцяпан. — І сапраўды, калісьці тут выгульваліся маманты. А на востраў Урангеля прывезлі з Канады авечкабыкоў. Бачыў я іх на здымку — вельмі падобныя на нашых зуброў з Белавежскай пушчы, але крыху большыя па памерах. Поўсць у іх даўжэзная, а падшэрстак да таго густы, што не баяцца яны жыць на вятрыску з марозам. Капытамі здабываюць сабе ягельнік на харчаванне не горш за тундравых аленяў. І ваўкоў з мядзведзямі не баяцца. Пры нападзе на іх увесь статак становіцца ў кола, і — паспрабуй дабрацца.

— Барон Урангель ваяваў у Крыму. Чаму ж яго імя носіць востраў у Ледавітым акіяне? — спытаў Кузьма.

— Гэта не той Урангель, — адказаў Сцяпан. — Тут у свой час падарожнічаў па ўзбярэжжы палярны даследчык Урангель: вучоны, акадэмік… Дарэчы, на тым востраве яму так і не давялося пабываць, хаця ён не адзін раз рабіў спробы. Бо, калі ён тут быў, то чукчы расказвалі яму, што ў яснае

надвор'е, калі яны на сваіх байдарках адплывалі далёка ад берага за нерпай, то калі-нікалі бачылі зямлю.

Да 1930 года англічане прэтэндавалі на гэты востраў. Яны трубілі ва ўсіх газетах, што яго ўпершыню адкрыў кітабойны лейтэнант Лонг. Яго імем названы праліў, які аддзяляе востраў Урангеля ад узбярэжжа Чукоткі. І да таго надакучыла ўсім у Крамлі такая хлусня, што Сталін загадаў адправіць да вострава ледакол з палярнікамі. Тыя ўмацавалі на адной з вяршынь вострава сцяг нашай краіны, а пасля кінуліся вылаўліваць па ўсім ўзбярэжжы амерыканскіх паляўнічых. Яны адчувалі сябе там як дома: палявалі на белых мядзведзяў, капканамі вылоўлівалі пясцоў дый марскім промыслам займаліся. Вось іх саміх адлавілі ды пасадзілі ў кутузку. А на востраве пачалі працаваць з цягам часу вучоныя, пабудавалі метэастанцыю, а цяпер там ёсць некалькі паселішчаў. А ўвесь востраў — палярны заказнік. Белыя мядзведзі праводзяць там доўгую палярную ноч.

— Мне чукчы расказвалі, што яшчэ да вайны да іх цішком наведваліся амерыканцы, — сказаў Валянцін. — Прывозілі муку, порах, вінчэсцеры, адзенне, віскі, ды яшчэ якую дрэбядзень, а абменьвалі ўсё на пясцовыя шкуркі. Гэта цяпер тут зверасаўгасы, пасвяць аленяў, а па ўсім узбярэжжы ў іх свае паляўнічыя. У кожнага дваццацікіламетровы ўчастак. Але абдурваюць іх да немагчымага! І паляўнічыя больш пясцоў збываюць налева, бо ў дзяржавы проста смешныя цэны. Самі лічыце: ад сарака і да сямідзесяці рублёў ім плацяць у залежнасці ад гатунка, так? А ў Маскве я бачыў у краме прадаюць за чатырыста рублікаў, а калі блакітны, то і ўсе семсот трэба выкінуць!

— Але, — Сцяпан зірнуў на гадзіннік, — заседзеўся я ў вас. Трымайцеся, а галоўнае — не напівайцеся!

— Вазьмі піўка ў дарогу! — прапанаваў Валянцін.

— Гэта можна, — Сцяпан узяў дзве бутэлькі, уключыў у сенцах ліхтарык і выскачыў з балка.

## Частка шостая

У красавіку зіма на Чукотцы ў поўным разгары. Праўда, сонейка ўсё вышэй і вышэй узнімаецца на небе, ужо ваўсю пануе сапраўдны дзень. Завіруха наведваецца, але ўжо не такая злосная, няма ў яе ранейшага імпэту. І цяпер яна больш за два-тры дні не гойсае па далінах і распадках. Хаця бывалі і такія гады, што на цэлы тыдзень заганяла яна паляўнічых, рыбакоў і геолагаў у балкі і старожкі.

І мароз пачынае паволі адступаць. Толькі вятрыскі надакучваюць. Але выпадаюць такія дзянёчкі, што проста цуд: вакол цішыня, сонейка прыпякае, а на снег без чорных акуляраў глядзець немагчыма.

Якраз у другой палове красавіка ў рэшце рэшт скончылі праходку шурфаў у даліне і перабраліся на ручай «Каварны». Хто і калі даў такую назву гэтаму ручаю — аднаму Богу вядома. Але, напэўна ж, нездарма. Сцяпан уважліва агледзеў яго яшчэ раз, бо, як толькі сюды перабраліся, то ў ягонай душы пасялілася незразумелая трывога.

Было прадчуванне, што нешта павінна здарыцца. Але ж што? І валуноў жа, дзякуй Богу, ужо не было. А трывога не адступала. Сцяпан, здаралася, і ўночы не мог заснуць. Ён нікому нічога не расказваў, але ўзмацніў кантроль за падрыўнымі работамі. Тут усё магло здарыцца. Загінуць у шурфе зусім проста: з бакавіны шурфа можа адваліцца добры аскалонак

і ўпасці на галаву шурфоўшчыка, які шчыруе ломікам на дзесяціметровай глыбіні, або адарвецца вялізная бодня з грунтам пры адкачцы, ды мала яшчэ што можа быць.

Можна нават вельмі проста падарваць сябе самога, гэта калі пры забурванні адбойным малатком нечакана трапіш у старую бурку, дзе амаль заўсёды застаецца крыху аманіту ад папярэдняга выбуху. Тут паратунку можа і не быць, бо калі толькі і падраніць, то можаш не паспець выбрацца па лесвіцы або задыхнешся ад ядавітых газаў.

Часам Сцяпану здавалася, што увесь ягоны неспакой зыходзіць ад вялізнай уранавай сопкі з яе штольнямі, дзе калісьці працавалі зняволеныя.

Але праходзілі дні, нічога такога не здаралася, усё было будзённым.

У канцы красавіка, якраз напярэдадні майскіх святаў, урэшце прайшлі ўсе шурфы на першай лініі ручая. Як прыкідваў Сцяпан, так яно і сталася: глыбіня шурфаў даходзіла да семнаццаці метраў.

Праўда, і камянёў амаль не было. А сонейка спраўна рабіла сваю справу — падымалася ўсё вышэй, ды так у асобныя дні прыгравала, што можна было распрануцца да пояса і з гадзіну пазагараць. І хаця яшчэ скрозь ляжаў снег, у паветры ўжо адчуваўся ледзь прыкметны подых вясны.

Сцяпан ля сцяны свайго балка нават змайстраваў палок, на якім і спадзіўся загараць на кажушку. Паціху абуджаўся і жывёльны свет. Першымі нагадвалі пра надыход вясны пуначкі. Прыляталі яны з поўдня ў сярэдзіне мая. Калі, бывала, крыху паспяшаюць, а тут нечакана прыцісне марозік, то птушачкі замярзалі проста ў паветры, падалі на снег. Сцяпан кожную вясну знаходзіў такіх бедалаг, прыносіў у балок, і яны ажывалі. Весела чырыкалі, паглядалі на яго сваімі маленькімі чорнымі вочкамі і жылі ў балку да прыходу сапраўднага цяпла.

У такія дні ён прымацоўваў да сцяны балка кармушку і насыпаў туды крошак. Чукчы яму не адзін раз расказвалі, што гэтыя пуначкі зімуюць тут, нікуды не адлятаюць, а хаваюцца ў пясчаных норах ля берагоў рэк і азёраў. Калі яны іх адтуль даставалі, то тыя былі быццам змарнелыя, але напраўду спалі.

Павесялеўшымі адчувалі сябе і курапаткі. Раней іх на Чукотцы было вельмі шмат, чукчы на іх не палявалі, і тыя за вякі мірнага суіснавання побач з чалавекам прывучыліся давяраць яму. Калі хтосьці бабахаў са стрэльбы, яны адлятaлі з дзесятак метраў і зноў садзіліся на зямлю.

У майскія дні абуджаліся ад спячкі і еўражкі. Норкі яны рабілі на пясчаных пагорках, там заўсёды ў першую чаргу растае снег, а яны вылазяць на сонейка і пільна, быццам тыя вартавыя, падоўгу стаяць на задніх лапках ды пазіраюць навокал. І калі адчуваюць небяспеку, то гучна верашчаць ды порстка сігаюць у сваю выратавальную норку.

У канцы мая вялізнымі чародамі ляцяць па ўзбярэжжы акіяна канадскія гусі. Штогод яны прылятаюць на Чукотку толькі дзеля таго, каб вывесці сваіх гусянят. Хаця тут у іх ёсць заклятыя ворагі — пясцы і гарнастаі. Пясцы падкрадваюцца, як сапраўдныя злодзеі, нізка апусціўшы галаву, быццам саромеюцца за свае паводзіны. Яны зганяюць гуску з гнязда, а потым крадуць яйкі. Праўда, гусакі раз-пораз налятаюць на такіх нахабнікаў і дзяўбуць што ёсць моцы.

Палюе на гусей і зусім маленькі, але даволі спрытны палярны гарнастай. Той таксама падкрадаецца, але зрабіць яму гэта значна лацвей. Гарнастай можа нечакана ўскочыць зверху на гусака і спрабуе перакусіць

таму сваімі вострымі зубамі тонкую шыйку. Гусак, як правіла, уздымаецца ў паветра, але нахабны гарнастай і не думае саскокваць на зямлю, а працягвае сваю крывавую справу. Знясілены гусак з цягам часу паволі апускаецца на зямлю. Тут і святкуе сваю перамогу малы разбойнік. Кажуць, што калі б ён быў памерам з ката, то на Чукотцы ад яго ніхто б не ўратаваўся.

Але найбольш дастаецца бедным гусям ад чалавека. У асноўным мясцовае кіраўніцтва, чыноўнікі розных масцей і рангаў, раскатваюць па тундры на магутных усюдыходах, трактарах, нават верталёты заказваюць. І хаця ў гусей ёсць свая служба бяспекі, але гэта іх не ратуе. Бо калі вялікая чарада ў некалькі тысяч адпачывае пасля чарговага адрэзку пры пералёце, то з розных бакоў стаяць, высока падняўшы галовы, гусакі-вартаўнікі. І калі набліжаюцца пешшу людзі, то яны крыкам узнімаюць усіх у паветра. Але калі пад'язджае трактар з санямі або ўсюдыход, то яны чамусьці сігнал небяспекі не падаюць. І бессардэчныя людзі расстрэльваюць іх ва ўпор з невялікай адлегласці. Ідзе чарговае, загадзя запланаванае, звычайнае браканьерскае паляванне.

Інспектара ў тундры не знойдзеш. Ён сядзіць у раённым цэнтры, ва ўтульным кабінеце і займаецца папяровай справай. Што яму да тых гусей?

Нават простае гойсанне на гусянічных усюдыходах прыносіць тундры непапраўную шкоду, бо асноўны корм для аленяў — ягельнік, якога ў тундры шмат, але, калі рваць яго, можна і не дачакацца, калі ён адрасце.

Сцяпан ніколі не паляваў на гусей, хаця ў яго і была стрэльба. Аднойчы ў першую вясну схадзіў на ўзбярэжжа, упаляваў некалькі качак, але тыя так пахлі марской рыбай, што ён аддаў іх шурфоўшчыкам. А тыя, добра астаграміўшыся, уплялі іх за мілую душу — адны костачкі засталіся. Былі б тут, як у старажытныя гады, маманты, то і іх бы вынішчылі. Дзеля біўняў.

Тут нават белым мядзведзям дастаецца, хаця кожны на Чукотцы ведае, што паляваць на іх нельга — штраф да тысячы рублёў, але гэта не спыняе аматараў паўночных прыгод. Упаляваць мядзведзя — гэта яшчэ не галоўнае, пасля ж трэба ўхітрыцца перавезці выраблены шыкоўны ягоны мех на мацярык, проста ў шасціпакаёвую кватэру якому-небудзь высокаму маскоўскаму чыноўніку.

Але, як бы там ні было, а вясна ёсць вясна! Сцяпан любіў яе. Тут, на Чукотцы, асабліва. Вось і цяпер ён з нецярпеннем чакаў, што праз якія тыдні два пачне ўрэшце раставаць снег, з вяршынь сопак у даліну пабягуць ручаі, а ўжо ў ёй, проста на вачах, з'явіцца сапраўдная рака. А які шум ад вады будзе стаяць навокал! Бо з сопак, удзень і ўночы, па серпантыне будзе збягаць у даліну талая вада. Снегу, утрамбаванага вятрыскамі, шмат, падтайвае той не так хутка, а ля вяршынь сопак нават і застаецца да пачатку новай зімы.

У адзін з такіх сонечных і зацішных дзён, калі Сцяпан, распрануты да пояса, корпаўся ля балка і хацеў насекчы дроў, ён раптам убачыў, што з ручая, які быў добра відаць, шпарка, амаль подбегам, шыбавалі шурфоўшчыкі. Абедаць было яшчэ рана, і Сцяпан зразумеў, што нешта здарылася.

Ён хуценька апрануўся і пайшоў ім насустрач.

— Сцёпа! — яшчэ здалёк, толькі ўбачыўшы яго, закрычаў Валянцін, — я дабраўся да уранавай смолкі! Прападзём усе ад радыяцыі!

— Якой смолкі? — са здзіўленнем спытаў Сцяпан.

— Да сапраўднай уранавай руды дабраўся. Адзін геолаг мне расказваў, як тая выглядае. Не верыш, то спусціся сам у шурф, ён ля самай сопкі, а мы пап'ём чайку, а то і паабедаем.

— Добра. Абедайце, а я да вас пасля зайду.

Сцяпан пайшоў да Валянцінавага шурфа, уключыў дазіметр і пачаў спускацца па лесвіцы. Спускаўся, а сам увесь час пазіраў на стрэлку. Шурф быў пройдзены метраў на сем. На дне яшчэ гарэла свечка, але, каб лепш усё разгледзець, Сцяпан уключыў ліхтарык. Адразу зразумеў, што Валянцін натрапіў на карэнныя пароды — пясчана-гліністыя сланцы, яны тут мелі крыху іншы колер: светла-карычневы ды яшчэ з бялютка-жаўтаватымі ўкрапінамі.

Сцяпан хутка наадбіваў малатком кавалачкаў і паклаў у кішэню. Больш тут нічога цікавага не было. Зірнуў яшчэ раз на стрэлку, але тая і не думала рухацца. Адразу ж падняўся на паверхню і накіраваўся да шурфоўшчыкаў.

Калі зайшоў да іх у балок, тыя паспелі паабедаць.

— Ну, чым парадуеш, Сцёпа? — спытаў Кузьма.

— Працуйце спакойна. Валянцін дабраўся да звычайных сланцаў, толькі яны тут крыху іншага колеру. Стрэлка прыбора нават і не зварухнулася.

— А якога ж тады колеру ў гэтай сопцы уранавая руда? — спытаў Валянцін.

— Яна тут ёсць у выглядзе слюдзяных пласцінак яркага жоўта-зялёнага колеру. Вось калі на такую натрапіце, то завіце мяне.

— А каб злазіць з тваім прыборчыкам ды ў штольню! — прапанаваў Міхаіл Пятровіч.

— А я ўжо там быў, — адказаў Сцяпан.

— А нам ні гу-гу! Вось табе і Сцёпа! — ускрыкнуў Аляксей.

— Дык вы ж і не пыталіся! — Сцяпан засмяяўся.

— Бо мы і прыбор гэты ў цябе бачым упершыню, — дадаў Валянцін.

— Ну і што ён паказаў? — спытаў Віця.

— Прыкладна ля самага ўвахода ў штольню ён зашкаліў. Але баяцца нам няма чаго.

— Яно так, — пачухаў патыліцу Кузьма, — але ж усё-ткі прэ з уранавых штольняў уранавы дух.

— Тут мы нічога прыдумаць не зможам, — прамовіў Сцяпан, — да нас тут працавалі і яшчэ будуць прамыўку весці. Старацелі так тут усё перакапыцяць, што пасля сябе толькі горы камянёў пакінуць. А цяпер за працу, бо май жа ўжо распячаталі, хутка лета.

— Штосьці гарэлкі з базы не падкідаюць, — уздыхнуў Аляксей.

— Начальнік абяцаў прыслаць да дня Перамогі. А вы паспяшайце, бо калі дасць ранняя вясна, то змые праходкі на руславых шурфах, вось... Іх будуць прамываць у першую чаргу. Дый пурга яшчэ можа адабраць пяток дзён.

На гэтым і скончыўся іхні кароткі сход. Сцяпан падаўся ў свой балок гатаваць абед, а шурфоўшчыкі вярнуліся на «Каварны». Не, нездарма хтосьці з геолагаў даў такую назву ручаю. Сцяпан адчуваў — штосьці на «закусь» гэты ручай яшчэ ім падкіне. Невялікі сполах з уранавай рудой — гэта так, дзеля праверкі нервовай сістэмы, а там — адзін Бог ведае, што будзе.

Але пакуль, як бы там ні было, а яны паціху прасоўваліся ў вярхоўе ручая — распачалі другую шурфовачную лінію.

А тут, дзесьці пад вечар, калі сонейка пачало хавацца за вяршыні сопак, прыімчаў да іх гокаўскі ўсюдыход. Сцяпан спачатку не на жарт спалохаўся, бо па рацыі наконт начальства нічога не перадалі. Але дарэмныя былі яго хваляванні. Проста галоўны інжынер камбіната паслаў у тундру свой усюдыход, каб да святаў развёз харчаванне і гарэлку.

З усюдыходчыкам быў толькі іхні начальнік. Яны спяшаліся. Выгрузіўшы харчы, выпілі ў Сцяпана чайку і адразу ж падаліся на суседні ўчастак.

Піва прывезлі шмат — цэлых дзесяць скрынак, а вось гарэлкі толькі адну, бо старацелі перад святамі расхапалі, але начальнік абяцаў праз тыдзень-другі яшчэ падкінуць.

Хаця дзянёчкі стаялі сонечныя, шурфоўшчыкі прагулі два дні. Сонейка прыпякала ўсё больш і больш. Дзесьці праз тыдзень з'явіліся пуначкі, а пасля і еўражкі павылазілі са сваіх норак. Вясна ўбіралася ў сілу. У самы поўдзень так прыпякала, што нават снег пачаў паціху падтайваць. Дзе-нідзе з'явіліся першыя невялічкія ручаі. Праўда, да вечара іх прыхопліваў марозік, уначы да дзесяці градусаў.

Шурфоўшчыкі выйшлі нарэшце ў самае вярхоўе ручая, там былі ўсяго чатыры шурфы.

Але аднойчы, дзесьці па абедзе, толькі Сцяпан хацеў крыху здрамнуць, як у ягоны балок куляй уляцеў перапалоханы Кузьма. Твар у яго збялеў, рукі дрыжалі...

— Сцёпа, бяда! Чалавек у шурфе!

— Няўжо падарвалі каго?!

— Ды не!

— А што ж тады здарылася? — Сцяпан адчуў, як сполах пачаў праходзіць.

— На глыбіні чатырох метраў трапіў я ў прамарозку — адзін лёд. Узрадаваўся дый забурыўся, як мае быць — на ўсю катушку! Пасля адпалкі пачалі адкачваць лёд. А я бачу — з бакавіны шурфа выпаў вялізны аскалонак ільду. Прыгледзеўся, а з яго на мяне чалавек пазірае... Ну і драпануў, што моцы было, на паверхню. Боязна цяпер туды спускацца. Мо там тых мерцвякоў з добры дзесятак набярэцца?

— Зараз разбяромся, — супакоіў яго Сцяпан. — Думаецца мне, што ты адкапаў былога зэка. Яны тут працавалі калісьці, маглі і шурфаваць. Вось і скінулі небараку ў шурф, каб магілку не дзяўбці ў векавой мерзлаце.

Ён апрануўся, і яны хуценька падаліся да шурфа. Сцяпан узяў кайло, уключыў ліхтарык і пачаў спускацца ў шурф.

І сапраўды, з левай бакавіны вывалілася даволі вялізная ледзяная камлыга, у якой, быццам у ледзяной труне, ляжаў чалавек. Адпачываў той на правым баку, адна нага была падкурчана, а другая выпрастана. Сцяпану стала крыху страшнавата, бо чалавек і сапраўды, хаця і быў у пашкуматаным адзенні, пазіраў проста на яго...

Ён крыху пастаяў, а пасля пачаў асцярожна адбіваць кайлом ад глыбы невялічкія аскалонкі лёду, бо трэба ж было падняць небараку на паверхню. Кузьма пазіраў на яго зверху, але ў шурф не спускаўся.

— Стаў на шурф вараток і спускай адзін тросік без бодні, — падаў каманду Сцяпан.

— Зараз зробім, — гукнуў зверху Кузьма і хуценька ўсцягнуў вараток на дзве лагі, што ляжалі на шурфе.

Праз якую хвіліну Сцяпан трымаў у сваіх руках тросік, на канцы якога быў спецыяльны карабін, каб зашчоўкваць яго на дужку бодні. Ён асцярожна засунуў тросік пад ледзянога нябожчыка і ўзяў таго на пятлюўдаўку.

— Нацягні! — гукнуў Сцяпан.

І ў той жа момант зварухнулася ледзяная труна, яна крыху прыўзнялася, ледзь не прыціснуўшы Сцяпана да сценкі шурфа.

— Хопіць! — ён хуценька выбраўся з шурфа.

З вялікаю перасцярогаю ўдвух выцягнулі незнаёмца на паверхню.

— Дзякаваць Богу! — прамовіў Сцяпан. — Цяпер мы з ім управімся.

Тут да іх падышоў Валянцін, які паспеў ужо забурыцца, а пасля і Аляксей з Міхаілам Пятровічам.

— Ого! — ускрыкнуў Валянцін. — Ну і знаходка ў вас!

З якую хвіліну ўсе моўчкі стаялі ля нябожчыка. Пасля Сцяпан зняў шапку і ціха прамовіў:

— Вечная табе памяць, дарагі чалавек. Прабач, што давялося цябе патрывожыць, але цяпер пахаваем па-людску.

Тым часам пачало цямнець.

— Раз такая справа, то на сёння ўсё — шабаш! — сказаў Валянцін.

— А цяпер бярыце лапаты, бо трэба прыхаваць яго ў снезе, каб расамахі з пясцамі не накінуліся.

Надзейна прыхаваўшы ледзяную труну, яны адправіліся да сваіх балкоў. Сцяпан павячэраў, пагаварыў з базай, а пасля накіраваўся да шурфоўшчыкаў.

— Заўтра спакойна працуйце, а я буду капаць магілку, — сказаў ён.

— Вось табе і ручай «Каварны», — сцішаным голасам прамовіў Міхаіл Пятровіч. — Пачаў падкідваць нам нябожчыкаў.

— Тут тысячы зняволеных загінулі ў свой час, — прамовіў Сцяпан.

— Іхнія душы дзесьці далёка, — сказаў Кузьма.

— А мо ягоная якраз і вярнулася цяпер да свайго цела, каб пабыць хоць крыху побач, — выдаў сваё меркаванне Валянцін.

— Такога не можа быць, — адказаў Сцяпан.

— Чаму? — спытаў Віця.

— У царкоўным паданні я чытаў, што ў першыя два дні душа нябожчыка знаходзіцца на зямлі і ў суправаджэнні Анёла блукае па розных мясцінах, асабліва часта бывае там, дзе пры зямным жыцці той рабіў добрыя і дрэнныя справы і ўчынкі. А пасля хуценька вяртаецца да свайго цела.

І толькі на трэці дзень душа ўзносіцца да Прастола Госпада, каб пакланіцца Яму. Пачынаючы з трэцяга і па дзевяты дзень, душа знаёміцца з раем і бачыць, якой прыгажосці яна сябе пазбавіла, бо вяла грахоўнае зямное жыццё. У канцы дзевятага дня душа зноў з паклонам у Прастола Госпада. А з дзевятага і па саракавы дзень яна знаёміцца з пеклам і ўсведамляе, што ўсе гэтыя пакуты яна заслужыла за свае зямныя справы.

На саракавы дзень душа зноў узносіцца да Прастола Усявышняга, дзе і адбываецца над ёй Суд. Тут адразу ж вырашаецца, дзе будзе знаходзіцца душа да Страшнага Суда. Вось чаму так неабходны малітвы па нябожчыку менавіта ў першыя сорак дзён. Наша малітва згладжвае яго грахі і палягчае замагільную долю. Вось так! Пытанні будуць?

— І адкуль ты ўсё ведаеш, Сцёпа? — спытаў Міхаіл Пятровіч.

— Чытаў у свой час, у інстытуце патаемна царкоўныя кнігі. Нам усім пра гэта трэба ведаць і старацца пры зямным жыцці зрабіць пабольш добрых спраў, каб не атрымалася, як у той Акуліны...

— А што з ёй здарылася? — спытаў Віця.

— Памерла яна. Узнеслася яе душа да Прастола Усявышняга на саракавы дзень, а там апостал Пётра адкрыў кнігу і прачытаў: «Дала суседцы Груні дзве цыбуліны». І гэта за ўсё жыццё! Вось і будзе пакутаваць яе душа ў гарачай смале, а то яшчэ горш...

—Устрашыў ты нас, Сцёпа, да немагчымага, — ціха прамовіў Кузьма.

— Нічога, гэта вам толькі на карысць пойдзе, — адказаў Сцяпан. — Нам усім не баяцца трэба, а каяцца. Толькі пакаянне выратуе нашы грэшныя душы. І тут няма нічога асаблівага — кожны павінен жыць сумленна. Я разумею — гэта цяжка, бо д'ябал такія спакуслівыя сілкі расстаўляе, што вельмі цяжка ўтрымацца. Дзеля гэтага трэба маліцца, бо малітва — гэта размова з Усявышнім...

— Яно так, — пачухаў патыліцу Валянцін, — але ж няхай бы з неба хоць раз з'явіўся хто са святых ды стварыў які цуд, вось тады — іншая справа, нават няверуючыя ў царкву падаліся б.

— Такіх прыкладаў, як казаў калісьці дзед Мажуль, колькі хочаш, — сказаў Сцяпан і дадаў: — Добра, раскажу вам, грэшнікам, адну гісторыю.

Сцяпан на хвіліну змоўк, абдумваючы з чаго б пачаць.

— Дык вось... Здарылася гэта ў Францыі, у горадзе Гаўры. У адной сям'і паміраў ад белакроўя хлопчык. Урачы казалі, што праз два тыдні ён памрэ. Бацька з маці таго хлопчыка былі веруючымі і маліліся за сына ўдзень і ўночы. І вось аднойчы зранку бацька захацеў сфатаграфаваць сына. І калі падышоў да ягонага пакоя, то выразна пачуў чыйсьці голас... Голас быў нізкі, глыбокі, праніклівы... Муж хуценька паклікаў жонку, і яны зайшлі ў пакой, дзе ляжаў іх Патрык, і там убачылі высокага сівавалосага старца ў белым убранні. Ягоная постаць была як бы нерэальнай, паўпразрыстай і выпраменьвала цёплае святло. Бацькі застылі ашаломленыя. А старац павярнуўся да іх і сказаў: «Я прыйшоў з дапамогай, ваш сын не памрэ». Стары стаяў ля Патрыка, пасля ўзняў над ім рукі. І адразу ж хлопчык расплюшчыў вочы і пачаў усміхацца. Пасля стары прамовіў: «Маліцеся і дзякуйце Богу, што прыслаў мяне. Раскажыце ўсяму свету, што Божы анёл выратаваў ваша дзіця». І тут постаць знікла, як бы растала ў паветры. У пакоі засталося фасфарычнае святло і пах палявых кветак. Хлопчык папраўіўся. Ад белакроўя не стала і следу. Доктар, які яго лячыў, пасля казаў, што медыцына не можа растлумачыць такой раптоўнай змены ў стане яго здароўя.

— Пра гэта французы маглі і прыдумаць, — падаў голас Аляксей. — Вось, каб штосьці такое ў нас магло здарыцца.

— Што ж, — Сцяпан уздыхнуў, — раз вы такія няверуючыя, як той біблейскі Фама, то раскажу вам пра выпадак, які здарыўся ў Брэсцкай вобласці, у вёсцы Ражноўка, у далёкім 1942 годзе. Нашы парашутысты непадалёку ад той вёскі забілі з дзесятак немцаў. Нямецкае камандаванне вырашыла, што гэта ўчынілі партызаны, і загадала за кожнага нямецкага салдата расстраляць па дваццаць мясцовых жыхароў. І вось, калі ўсе былі ля ямы, над імі нечакана закружыў лёгкі нямецкі самалёт, які пасля апусціўся непадалёку на палянцы. З кабіны самалёта выйшаў нямецкі генерал і ад-

мяніў пакаранне — усіх загадаў адпусціць па хатах. А дзесьці так праз два тыдні ён зноў завітаў у іхнюю вёску і прывёз абраз Божай Маці з немаўляткам на руках, выразаны з дрэва, і сказаў вяскоўцам: «Беражыце гэты абраз — ён ваш выратавальнік». Пасля малебна ў мясцовай царкве той генерал пры развітанні сказаў: «Калі мой самалёт ляцеў над полем, то на небе з'явілася Божая Маці і паказала рукою ўніз. Вось чаму Яна ваша выратавальніца, а я толькі выканаў Яе загад». Сведкі тых падзей і цяпер жывуць у той вёсцы, яна знаходзіцца непадалёку ад Белавежскай пушчы. Што на гэта скажаце?

— А калі ўсё гэта робяць пад маркай Усявышняга іншапланецяне, якія апярэдзілі нас мо на тысячу год у сваім развіцці, — сказаў падрыўнік Віця, які любіў чытаць прыгодніцкія і фантастычныя раманы.

— Дый хто паверыць у тое, што душа пасля смерці чалавека ўзносіцца на нябёсы да Усявышняга, — дадаў Аляксей.

— І на гэта магу вам прывесці прыклад. У Мінску і цяпер жыве адна мастачка, душа якой пабывала на тым свеце. А здарылася з ёй вось што: у бальніцы яна памірала ад заражэння крыві. Медсястра ёй нават сказала, што жыць засталося менш як тры гадзіны... І яна не апусціла рукі, пачала маліцца, бо ёй было вельмі шкада сваіх дзетак: малодшай дачушцы быў усяго адзін годзік. Яна расказала, што пасля непамерна цяжкіх пакут ёй раптам стала лёгка. Невядомая сіла панесла яе па даўжэзным і цёмным тунелі, па баках якога стаялі статуі. І раптам здалёку ярка засвяціў промень, які біў у паднябёсы. І тут яна, быццам тая пушынка, пачала падымацца да таго промня, адчуваючы вялікую палёгку і радасць...

Раптам — штуршок, боль і ранейшае недамаганне. Урачы ёй пасля сказалі, што клінічная смерць працягвалася больш за дзве хвіліны. Праз тыдзень паправілася і адразу ж пачала сваёй працай дзячыць Усявышняму за сваё выратаванне. А занялася яна так званай аб'ёмнай вышыўкай з прымяненнем аплікацый, дывановага і габеленавага ткацтва.

Яна стварыла абразы Божай Маці, Ісуса Хрыста, а таксама Еўфрасіні Полацкай. Гэта святая з нашай Беларусі. Людзі кажуць, што, калі яны стаяць ля яе абразоў на выставах, то на душы ў іх робіцца лёгка і светла, а многія нават пазбаўляюцца розных хвароб.

І калі вы не стаміліся, то паслухайце яшчэ адну гісторыю, якая здарылася на маёй Смаргоншчыне, у раённай бальніцы. Чатыры гады таму, калі я вучыўся на апошнім курсе інстытута, прыехаў на зімовыя канікулы ў сваю вёску. І вось, людзі казалі, што за тыдзень да Каляд, на другім паверсе раённай бальніцы, дзесьці так апоўначы, з'явіўся на шыбе акна выразны вобраз Ісуса Хрыста з кнігаю ў руках. Усе, хто маглі, падняліся, а хто і прыпоўз у тую вялікую залу, дзе звычайна глядзелі тэлевізар, і ўкленчылі. Расказвалі, што нават урачы з медсёстрамі прыйшлі. Дзве гадзіны быў яскрава бачны вобраз Ісуса Хрыста, а пасля Ён знік, і з'явілася Божая Маці са сваім сыночкам — будучым нашым Збавіцелем. Яна трымала яго на руках, а Ён увесь час паварочваўся. І толькі а палове пятай раніцы вобраз знік...

Цікава яшчэ тое, што шафёр, які ў тую ноч дзяжурыў на «хуткай дапамозе», збіраўся падрамаць, раптам убачыў — яркі промень з аблокаў падаў проста на тое бальнічнае акно...

— Што ж тое магло азначаць? — спытаў Валянцін.

— Загадка для ўсіх, — адказаў Сцяпан. — Але я думаю, што Ісус Хрыстос з Божай Маці заклікалі нас да пакаяння. Бо людзі ў грахах сваіх

пераступілі мяжу дазволенага. Настае пара, як той казаў, не раскідваць, а збіраць камяні.

Колькі Храмаў загублена толькі ў нашай Беларусі — не злічыць! Я бачыў аднойчы фотакартку Віцебска на пачатку дваццатага стагоддзя, то ўвесь горад быў у пазалочаных купалах — люба-дорага паглядзець! А цяпер апошнія Храмы ўзрываюць ды будуюць панельныя дамы-блізняты: няма ў тых ні выгляду, ні прыгажосці.

— Усё гэта так, але што кажуць вучоныя наконт душы, стварэння зорак, зямлі, Сусвету... Ці яны ўсе вераць у Бога? — спытаў Міхаіл Пятровіч.

— Адкажу вам і на гэтае, бадай, самае складанае пытанне. Але спачатку пра вучоных. Сярод іх было шмат веруючых. Напрыклад, знакаміты фізік Эйнштэйн, Ісак Ньютан, чые законы мы дасканала зубрылі ў школе. А калі ўзяць бліжэй да нас, то глыбока веруючым быў акадэмік Паўлаў. Ён жыў і працаваў у Ленінградзе і, не хаваючыся, хадзіў у царкву. Сталіну не раз пра гэта дакладвалі, але нават «бацька ўсіх народаў» не асмельваўся пасадзіць вучонага за краты, бо той быў вядомы на ўвесь свет. І вось якую тэорыю ўзнікнення Сусвету прыдумалі тыя вучоныя, якія не вераць у Бога. Яны сцвярджаюць, што ўсё ў Сусвеце кантралюецца пастаянна з боку энергаплазматычнага мегарозуму, або так званай «Нулявой Кропкай». І вось гэтая «Нулявая Кропка» пасылае ў прастору вельмі шмат розных хваляў, якія пранікаюць праз усё. Яны двух відаў: пасіўныя — «Альфа» і актыўныя — «Бэта». Хвалі «Альфа» звязаныя з кожнай часцінкай Сусвету. Гэтыя хвалі маюць такую асаблівасць, што ўзбуджаюць энергію ў тым, праз што праходзяць. Яны, збіраючы энергію і надаючы ёй вялізную хуткасць, ствараюць будаўнічы матэрыял Сусвету. Пранікаючы праз усё ў Сусвеце, яны нясуць інфармацыю і загады ад «Нулявой Кропкі». Актыўныя хвалі «Бэта» складаюцца з многіх элементаў, з так званых палос, якія плаўна пераходзяць адна ў адну, як колеры ў вясёлцы. А ў кожным з нас знаходзіцца энергетычнае ядро, якое называюць трансмітэрам. Гэта своеасаблівы прыёмнік актыўных хваляў «Бэта». Звязаны са свядомасцю «Нулявой Кропкі», ён з'яўляецца тым, што мы называем душой.

У гэтым трансмітэры і хаваецца загадка нашай неўміручасці. Але ён недасканалы і можа падвяргацца пашкоджанням, якія і вызываюць у чалавека розныя хваробы. І калі наш трансмітэр, а гэта значыць душа, пачынае дрэнна прымаць хвалі «Альфа», то хварэе наша цела.

Наш трансмітэр не гіне пасля нашай смерці, а застаецца на адлегласці некалькі метраў ад месца пагібелі і знаходзіцца там некалькі тысяч год, працягваючы прымаць хвалі «Бэта». І калі б чалавецтва навучылася карыстацца ведамі «Нулявой Кропкі», то паўсюдна узнік бы неймаверны хаос. Мог бы загінуць увесь Сусвет, а за ёй загінула б і сама «Нулявая Кропка».

Цяпер вы бачыце, што вывады вучоных атэістаў як бы паралельныя ўяўленням людзей веруючых. Розніца хіба толькі ў назвах: у няверніках душа — трансмітэр, а Усявышні — «Нулявая Кропка». Усяклі што-небудзь? — Сцяпан усміхнуўся.

— Ну, Сцёпа, у цябе і галава, — прамовіў Валянцін. — Была б мая воля, то прысвоіў бы табе акадэміка.

— Маёй заслугі тут няма, гэта вучоным трэба сказаць дзякуй. Але пара развітвацца, бо заўтра ў мяне цяжкі дзень — магілку буду капаць.

## Частка сёмая

На наступны дзень Сцяпан падняўся раней звычайнага, хуценька паснедаў, выдаў падрыўніку дзённую норму аманіту, капсуляў-дэтанатараў і толькі пасля стаў рыхтавацца ў дарогу.

Узяў два шурфовачныя ломікі, кайло, лапату і падаўся на ручай «Каварны», дзе ўжо ваўсю ішла праца. Праз якую гадзіну-другую да яго на дапамогу мусіў падысці падрыўнік Віця, але пакуль што той быў заняты прыгатаваннем абеду.

Месца для магілкі Сцяпан выбраў яшчэ ў той дзень, калі дасталі з шурфа незнаёмца-нябожчыка. Трэба было толькі крыху падняцца на сопку, што была з правага берага ручая, там Сцяпан прыкмеціў невялічкую пляцоўку. Бо ў самой даліне хаваць было нельга, у наступным сезоне тут пачыналася прамыўка пяскоў. А раз даліна валуністая, то давядзецца ўвесь палігон забурваць станкамі і ўзрываць.

Сцяпан хаця і з цяжкасцю, але праз гадзіну ўскараскаўся на тую пляцоўку. Зверху ўсё было відаць, як на ладоні.

Сонейка пачало прыграваць, бялюткі снег зіхацеў, аж рэзаў вочы, але Сцяпана ад горнай слепаты надзейна ратавалі чорныя акуляры. Пляцоўка была цудоўнай і да таго раўнюткай, што на яе мог запраста прызямліцца нават і верталёт.

Не раздумваючы, ён пачаў лапатай расчышчаць снег. На ягонае шчасце, снегу тут было не больш як на паўметра. Потым Сцяпан зрабіў разметку будучай магілкі і пачаў рукамі адкідваць кавалкі серпанціну. З непрывычкі ён ажно ўспацеў, але праз якую гадзіну ўдалося паглыбіцца амаль па калена. А тут і Віця якраз падаспеў. Прынёс падрыўную машынку, катушку са званковым провадам і некалькі пачак аманіту. Моўчкі ўзяліся за ломікі і пачалі дзяўбці буркі. За дзень зрабілі тры адпалкі, і глыбіня магілкі дасягнула аднаго метра. Гэтага было малавата. Толькі праз два дні яны скончылі працу. У Сцяпана на руках нават мазалі з'явіліся. А ў падрыўніка Віці яшчэ горш атрымалася — уся правая ладонь правай рукі была ў вадзяных пухірах. Але ён іх адразу ж пракалоў, а пасля перабінтаваў.

Цяпер Сцяпан узяўся майстраваць дамавіну. Ніколі гэтым не даводзілася займацца, але ж не класці нябожчыка проста так, гэта было б не па-хрысціянску.

Дошкі былі, праўда, не габляваныя, у асноўным гарбылі, але сярод іх можна было выбраць што-нішто і лепшае. Цвікоў было шмат — цэлая скрынка. Здавалася б, нічога складанага, а цэлы дзень прамучыўся. Дамавіна атрымалася даволі зграбная. А яшчэ ж трэба было і сваёй працай займацца: апісваць і прынімаць шурфы, весці ўлік узрыўчаткі. Але ён спраўляўся, бо вясна хаця і нясмела, але грукала ў дзверы. Сёлета яна мусіла прынесці Сцяпану двайную радасць: доўгачаканую цяплынь і вольніцу. А гэта значыць, што ў хуткім часе ён убачыць урэшце сваю старэнькую маці і родныя мясціны. Варта яму было толькі падумаць пра тое, у яго адразу ўзнімаўся настрой.

На наступны дзень, дзесьці з самага ранку, прыцягнуў ён на санках дамавіну да таго месца, дзе быў прыкапаны ў снезе нябожчык. Перш чым адкопваць яго, Сцяпан прысеў на сані і вырашыў крыху адпачыць, адчуваў ён сябе ніякавата... Не, вялікага страху не было, але ўсё-ткі нябожчык, няшчасны чалавек. Напэўна ж, быў зняволеным і загінуў ад хваробы. А мо і свае суседзі па нарах забілі за які чэрствы сухарык.

Сцяпану было шкада гэтага незнаёмца. Але ён адчуваў, што Усявышні паслаў яму яго нездарма. Інтуіцыя яму падказвала, што павінен быць якісьці працяг гэтай трагічнай гісторыі...

Сонейка між тым падымалася ўсё вышэй і прыпякала, як мае быць. Каб не гэтае пахаванне, то Сцяпан абавязкова пазагараў, такі дзянёк грэх было ўпускаць, але трэба было давесці справу да канца.

Ён падняўся з санак, узяў у рукі рыдлёўку, зірнуў на зіхатлівыя ад сонечных промняў вяршыні сопак і пачаў паволі адкідаць снег, што паспеў ужо даволі добра схапіцца марозам.

Неўзабаве рыдлёўка шарганула па краі ледзяной труны. Калі снег быў расчышчаны, Сцяпан зразумеў, што ў ягоную дамавіну той не ўлезе. Тады Сцяпан узяў у рукі кайло і пачаў адбіваць лёд з абодвух бакоў. Шмат ільду было і на жываце. Сцяпан прыцэліўся і даволі ўдала, адным ударам, знёс вялікую ледзяную глыбу. Яму нават падалося, што мерцвяку стала нашмат лягчэй.

Сцяпан хацеў збіць лёд і ля самых ног, але тут ён заўважыў бліскучую металічную спражку, якая была пад той ледзяной глыбай. Дзяга на штанах спарахнела, а вось спражка была як новенькая. Ён зняў акуляры, нахіліўшыся, убачыў, што на ёй штосьці напісана, толькі што, цяжка было разабраць. Ён акуратна вызваліў спражку з ледзянога палону і ўзяў яе ў рукі. Яна была падобная на трохвугольнік, два бакі якога мелі зубрыстую форму і нагадвалі крылы арла. А ў кожнай такой хвалепадобнай зазубрынцы былі ўмела ўстаўленыя чырвоныя слюдзяныя кружочкі. Пасярэдзіне спражкі было надзейна прымацавана сэрца з белай слюды. Сэрца пранізвала страла, прачэрчаная па нержавеючай сталі, з якой і была зроблена спражка.

Сцяпан не стаў далей разглядваць надпіс на спражцы, а хуценька паклаў яе ў кішэню, бо ўбачыў, што да яго шыбуе падрыўнік Віця. Калі той падышоў, то Сцяпан сказаў:

— Добра, што ты якраз падаспеў. Аднаму мне яго не пакласці ў дамавіну.

Пасля Сцяпан яшчэ крыху паадбіваў лёд, памераў рыдлёўкаю нябожчыка, прыкінуў на дамавіне — тая павінна была ў рэшце рэшт яго прыняць. Потым яны з Віцем асцярожна паклалі яго ў дамавіну. Сцяпан зрабіў яе шырокай, так што падкурчаная нага ніколечкі не перашкаджала зачыніць века.

На душы адразу палягчэла. Сцяпан дастаў з торбачкі цвікі, малаток і пачаў прыбіваць века. Пасля яны прывязалі дамавіну вяроўкамі да санак. Цяпер заставалася толькі зацягнуць яе да магілкі.

— Думаю, што ўдваіх нам не ўсцягнуць на такую верхатуру, — пачэсваючы патыліцу, сказаў Віця.

— Яно так, — згадзіўся Сцяпан. Ён зірнуў у вярхоўе ручая, з радасцю ўскрыкнуў: — Вось і дапамога да нас спяшаецца.

І сапраўды, праз якую хвіліну да іх падышлі Валянцін і Міхаіл Пятровіч. Яны ўжо паспелі забурыцца і крочылі на абед.

Яны з Віцем ухапіліся за вяроўку і ўпрэгліся спераду, а Валянцін з Міхаілам Пятровічам узяліся падпіхаць ззаду.

Санкі лёгка скрануліся з месца і паехалі па добра ўтрамбаваным вятрыскам снезе. Спачатку ўхіл быў даволі палогі, і яны хутка дабраліся да выступу скалы, але пад'ём быў крутаваты, ногі слізгалі, ратавалі толькі счарнелыя выступы серпанціну, які да таго быў умерзлы ў снег, што можна было смела станавіцца на яго нагою ды прасоўвацца далей.

На гэтых скальных выступах яны адпачывалі, а пасля зноў усё вышэй падымаліся з дамавінаю.

Урэшце выехалі на пляцоўку і пад'ехалі да магілкі. Замарыліся ўсе, асабліва ўпацеў Міхаіл Пятровіч. Але яны не сталі адпачываць. Адразу знялі дамавіну з санак. Пасля падсунулі пад яе дзве вяроўкі, узяліся за іх канцы, прыўзнялі дамавіну і асцярожна апусцілі ў магілу.

Сцяпан першым кінуў на яе добрую жменю серпанцінавага пяску, які з'явіўся тут пасля выбуху ў бурках.

— Спі спакойна, шаноўны незнаёмец. Няхайператворыцца для цябе ў пух гэтая векавая мерзлата, — ціха прамовіў Сцяпан.

Пасля гэтага ўсе пачалі закопваць магілку. Зямліцы тут не было, давялося закідваць яе серпанцінавымі аскалонкамі. Спыніліся толькі тады, калі над пляцоўкаю ўзняўся магільны пагорак.

Моўчкі пастаялі, а пасля зламжылі інструмент на санкі, прывязалі вяроўкай і накіраваліся да сваіх балкоў.

Сцяпан дастаў з кішэні спражку, прамыў яе ў бензіне і пачаў уважліва разглядваць. На спражцы дробнымі літарамі было напісана: «Кіеў. Дарафееў Іван Антонавіч. 1900 год».

Іван Дарафееў... Ён мог бы жыць яшчэ і цяпер, яму споўнілася б усяго семдзесят тры гады.

У яго ж, напэўна, і родзічы засталіся. Дзеці павырасталі. Магчыма, ёсць і ўнукі. І не ведаюць яны, дзе магілка іхняга дзеда. І колькі год пралежаў ён у гэтым шурфе, замерзлым, у лёдзе, аднаму Богу вядома.

І кім ён быў да зняволення? Мо ўрачом, настаўнікам, калгаснікам. Урэшце — гэта не так і важна. І за што ён трапіў сюды?

Сцяпан ведаў, што лагеры зняволеных знаходзіліся на Чукотцы да 1960 года. А першыя зняволеныя з'явіліся тут у самым пачатку вайны. Працы хапала ўсім: будавалі дарогі ад марскога порта да кар'ераў і прыіскаў, непасрэдна ўдзельнічалі ў здабычы карысных выкапняў, працавалі ў геолагаў пры праходцы шурфаў і штольняў. Умовы для працы былі страшэнныя: у кароткае лета іх заядалі камары, а ў доўгую палярную ноч пранізвалі наскрозь вятрыскі. Харчаванне ж было такое, што нават і маладыя не ўсе выжывалі.

Сцяпан падумаў, што добра было б знайсці ў далёкім Кіеве родзічаў Івана Дарафеева. Можа, у адрасным бюро падказалі б дом і кватэру, дзе ён раней пражываў. Бо не магло такога быць, каб нікога ў яго не засталося. З гэтаю думкай Сцяпан і заснуў.

Назаўтра, паснедаўшы, узяўся майстраваць крыж на магілку. І матэрыял добры знайшоўся — брусы з сібірскай лістоўніцы для ўмацавання шурфаў пры сушанцах.

Праўда, атрымаўся крыж цяжкаваты, але ж затое і пастаяць ён мусіў не адзін дзесятак год. Захацелася зрабіць і невялічкі надпіс. Узяў запасную фортку ад акенца ў балку, выразаў па яе памерах кавалак фанеры са скрынкі з-пад сухой бульбы і напісаў: «Тут пахаваны Дарафееў Іван Антонавіч. Год нар. 1900». Давялося яшчэ зрабіць урэзку ў крыжы, куды надзейна змясцілася зашклёная фортка з фанерай.

Паабедаўшы, Сцяпан з Віцем адвезлі крыж на магілку. І, як толькі яго ўстанавілі, то адразу ж магілка папрыгажэла. А сам крыж было відаць здалёку, нават ад парога Сцяпанавага балка. Асабліва эфектна ён выглядаў пад вечар, пры заходзе сонца. А калі насоўваліся прыцемкі, то часам здавалася, што крыж вісіць над вяршынямі сопак.

Сцяпан пашкадаваў, што няма ў іх фарбы, каб пафарбаваць крыж, тады б ён стаяў удвая даўжэй. Добра, што яны паспяшаліся з пахаваннем, праз дзень прыехалі два трактары, якія прыцягнулі прамывалку. Прыехаў і сам начальнік.

За вячэрай Андрэй Іванавіч сказаў:

— Апошняя да цябе просьба, Сцёпа. Дапамажы прамыць шурфы на ручаі, бо калі нечакана ўдарыць сапраўдная цяплынь, то змые ўвесь грунт.

— А дзе падзеліся нашы прамывальшчыкі?

— Яны заўтра павінны прыехаць з суседняга ўчастка і будуць прамываць у тваёй даліне толькі руславыя шурфы, а вось твой «Каварны» не паспеюць. Прамывалку я ў геолагаў узяў, яна новенькая, люба працаваць. Даводчыкам у цябе будзе Кузьма, ён з латком абыходзіцца ўмее.

— Так я ніколі не выберуся з Чукоткі, — сказаў Сцяпан і ўздыхнуў.

— Слова даю — у пачатку ліпеня будзеш вольны, як птах. А з шурфоўшчыкамі я дамовіўся — будуць атрымліваць заробак па зімовых расцэнках. Трэба толькі паспець, бо твой ручай вынасны, тут багата павінна быць касітэрыту. Заўтра і пачынайце. Харчы я прывёз, а гарэлку пасля, як скончыце прамыўку.

На прамыўцы шурфоўшчыкам працаваць было значна лягчэй. Але ж затое Сцяпану турбот прыбавілася — трэба было пастаянна знаходзіцца на прамывалцы, кантраляваць, колькі грунту браць з той ці іншай праходкі, падпісваць пакецікі, у якіх былі пробы з металам.

Ручай «Каварны» і сапраўды аказаўся багацеем: столькі касітэрыту з адной праходкі Сцяпану яшчэ не даводзілася бачыць. Ён прыкінуў: атрымлівалася дзесьці па шэсцьсот грамаў касітэрыту з аднаго кубічнага метра грунту. Стараце́лі змогуць тут адным прамывачным прыборам выканаць гадавы план. Незаўважна ўсе ўцягнуліся ў новую працу, і справа пайшла так хутка, што Сцяпан ледзь паспяваў афармляць дакументацыю.

А тут яшчэ ў другой палове мая пачалася сапраўдная цяплынь. Працавалі без перадыху па пятнаццаць гадзін, бо ўсе разумелі — вось-вось можа так адпусціць, што з вяршынь сопак пабягуць ручаі. Яны звычайна непрыкметна збіраюцца з малюсенькіх ручаінак і паціху прасочваюцца між серпанціну, збягаюць у даліну. Але так вольна яны сябе адчуваюць толькі ў самы поўдзень, калі добра прыпякае сонейка.

Дзесьці пад вечар запавольваюць свой бег, а пасля і зусім заміраюць, бо па начах марозік яшчэ прыціскае. Але ў паветры ўжо адчуваецца вясна. Кожны дзень чуваць крыкі канадскіх гусей, якія спяшаюцца заняць лепшыя месцы, каб адкласці яйкі.

Начальнік цяпер выходзіў на сувязь па тры разы на дзень, цікавіўся, як ідзе прамыўка. Сцяпан добра разумеў, што да сапраўднага паводка яны «Каварны» прамыюць, але ж адчуваў, што іх папросяць папрацаваць і ў даліне. Так яно і здарылася.

Сцяпанава брыгада пачала прамыўку руславых шурфаў з самага вярхоўя даліны. Урэшце і сам начальнік прыімчаў на ўсюдыходзе. Прывёз дзве скрынкі гарэлкі і дзесяць піва. Гарэлку адразу ж прыхавалі, а піва выдалі па тры скрынкі на кожную брыгаду. Начальнік па просьбе Сцяпана прывёз чырвонай фарбы, каб пафарбаваць крыж. Цяпер Андрэй Іванавіч з тундры не выязджаў, вандраваў ад адной прамыўкі да другой, вельмі хваляваўся, каб паспелі прамыць да вялікай вады.

Да таго ж ён быў яшчэ фотааматар. Здымкі ў яго атрымліваліся, як у сапраўднага прафесійнага майстра. Былі наладжаны нават дзве яго пер-

санальныя выстаўкі работ, адна — у самім Магадане. Ягоныя здымкі даволі часта змяшчаў на сваіх старонках часопіс «Вакол свету». Сцяпану грэх было гэта не скарыстаць. І аднойчы, калі перацягвалі прамывалку на іншае месца, Сцяпан прывёў Андрэя Іванавіча да магілкі.

Крыж быў ужо пафарбаваны, ажно зіхацеў на сонейку. Андрэй Іванавіч спачатку сфатаграфаваў магілку на фоне вяршынь дзвюх сопак, а пасля шчоўкнуў і Сцяпана, які стаяў побач з крыжам.

Тым часам непрыкметна, як гэта заўсёды бывае ў прыродзе, насоўваўся на тундру палярны дзень. Лета тут кароткае, халоднае, і прырода вырашыла хаця б ноч ліквідаваць, каб людзі, раслінны і жывёльны свет маглі нацешыцца сонечнымі промнямі.

Летам, асабліва ў ліпені, тут выпадалі нават спякотныя дзянёчкі, але ж распрануцца было нельга, бо заядалі камары. Праўда, ля самага ўзбярэжжа акіяна камары трымаліся ўсяго з які месяц, бо тут адганяў іх вецярок. А вось калі ад'ехаць на кіламетраў пяцьдзесят, то там яны надакучалі месяцы два, а то і болей.

Нарэшце прыйшоў доўгачаканы дзень, калі дзве прамывалкі сталі побач — прамыўка руславых шурфаў была скончана. Адразу ж кожная брыгада атрымала сваю долю гарэлкі, піва, і ўсе пачалі замачваць заканчэнне шурфовачнага сезона.

І начальнік крыху выпіў з усімі, а потым на ўсюдыходзе паехаў на базу, бо трэба было тэрмінова высылаць у тундру два трактары: адзін з санямі для перавозкі астаткаў аманіту, а другі з невялічкім балком для перавозкі людзей.

Брыгада прамывальшчыкаў заставалася тут на ўсё лета, а Сцяпанавы шурфоўшчыкі выязджалі на базу.

Міхаіл Пятровіч збіраўся звальняцца. Валянцін з Аляксеем адпраўляліся па пуцёўцы ў Сочы, дзе быў спецыяльны санаторый для паўночных працаўнікоў Кузьма з Віцем заставаліся для рамонту балкоў, бо летась сваё адгулялі.

Два дні ўсе гудзелі, на трэці апахмяляліся халодным піўком. А тут якраз і усчаўся павадак. Даліну было не пазнаць — імгненна ператварылася ў сапраўдную раку. Круглыя суткі не сціхаў пастаянны гул ад збягаючай па серпанціне вады. Снег растаў, яго можна было бачыць толькі ля вяршынь сопак, куды цяжка было трапіць сонечным промням.

Свой балок з рацыяй Сцяпан перадаў майстру з прамывалкі. Цяпер ён пакаваў папкі з дакументацыяй, рукзак жа даўно быў падрыхтаваны ў дарогу.

Толькі на чацвёрты дзень дабраліся да іх трактары з базы. Раней хутчэй атрымлівалася, бо ехалі па акіянскім лёдзе. А цяпер даводзілася дабірацца ўздоўж узбярэжжа ды яшчэ цераз перавалы. Дый па зімніку трактар імчыць, быццам танк, паспрабуй дагані, а цяпер не разгонішся — так трасе, быццам едзеш на фурманцы па бруку.

Спачатку пагрузілі скрынкі з узрыўчаткай. Сцяпан сам іх акуратна ўхутаў брызентам і надзейна замацаваў вяроўкамі. Гэты трактар Сцяпан вырашыў пусціць першым, а сам сеў у кабіну да Генкі Глазунова, які павінен быў везці шурфоўшчыкаў у невялікім балку, з моцнымі і надзейнымі сталёвымі палазамі.

Генка быў вясёлы і пад «мухай». Прывёз ён і па бутэльцы шурфоўшчыкам. Тыя да таго ўзрадаваліся, што ледзь яго не расцалавалі, бо піва даўно выпілі.

Добра яшчэ, што ў тым балку былі матрацы. Шурфоўшчыкі ледзь ногі перастаўлялі, і Сцяпан з Генкам дапамагалі ім пазаносіць свае хатомкі, а пасля і саміх з цяжкасцю пазапіхвалі ў балок, а дзверы зачынілі на замок, каб крый Божа на перавале не вываліліся з балка.

Перад самым ад'ездам Сцяпан зняў з галаву шапку, у апошні раз паглядзеў на вяршыні навакольных сопак, на крыж, на сэрцы зашчымела. Потым ён махнуў рукою, і першы трактар рушыў у дарогу. Сам залез у кабіну, і Генка рвануў трактар з месца.

Да акіяна дабраліся без асаблівых прыгод, а першы прыпынак зрабілі праз пяць гадзін. Сцяпан адчыніў дзверы балка, але шурфоўшчыкі ўсё яшчэ ляжалі пластом. І толькі другім разам, калі да базы заставалася не больш за трыццаць кіламетраў, яны, як ачмурэлыя, павыскоквалі з балка, ды не адразу ўцямілі, дзе знаходзяцца.

Нарэшце даехалі. Галава ў Сцяпана расколвалася ад надакучлівага гулу рухавіка і вельмі хацелася спаць, але давялося адразу ж адвезці ўзрыўчатку на склад.

Пасля ён крыху падрамаў у інтэрнаце. У аддзеле кадраў атрымаў «бегунок», усіх абышоў, атрымаў працоўную кніжку і раніцай наступнага дня начальнік кар'ера падкінуў яго на сваім «бобіку» ў Певек.

Тут Сцяпану давялося цэлы тыдзень прагуляць, бо зняцца з пашпартнага ўліку не так проста — усё-ткі прыгранічная зона. Дый з білетамі на самалёт у пачатку чэрвеня на Чукотцы вялікая праблема. Каб не галоўны інжынер ГоКа Сызганаў, то Сцяпану давялося б яшчэ тыдні тры тут пазагараць, бо чарга на білеты вялікая — за месяц трэба было рабіць заяўку.

Сцяпан супакоіўся толькі ў мяккім крэсле самалёта. Праз дзевяць гадзін ён быў ужо ў Маскве, а тут і да Мінска рукою падаць. У Маскве купіў маці вялікую квяцістую хустку, прыгожую каробку цукерак, арэхаў і яблыкаў. Цягніком дабраўся да Мінска, пасля электрычкай да Маладзечна, а там на прыгарадны — і праз сорак хвілін ужо бачыў знаёмыя высачэзныя таполі на іхняй станцыі. Тут калісьці ён гуляў у футбол з аднакласнікамі, бегаў у клуб на танцы.

Знаёмай сцяжынкаю шыбаваў Сцяпан да сваёй вёсачкі. Бярозкі даўно ўбраліся ў зялёнае лісце і з цікавасцю пазіралі на барадатага незнаёмца з ранцам за плячыма. Адна з іх, смялейшая за іншых, нават дакранулася сваёй маладой і гнуткай рукою-галінкаю да ягонай шчакі. Сцяпан спыніўся, нават пачырванеў, бо яму падалося, быццам бярозка першая падаравала яму свой пацалунак.

Сосны ўперамешку з дубамі і бярозкамі падступалі да самай ракі. І калі Сцяпан выскачыў на пагорак, то адразу ж за рэчкай убачыў царкву. Ён спыніўся, зняў з плячэй рукзак і перахрысціўся. Пазалочаны купал царквы паблісквў у нябеснай сінечы...

Вось і старэнькая кладачка цераз рэчку, яшчэ спраўна служыць людзям, не разбурылася. Прыбавіў крыху ходу і ўбачыў у агародчыку сваю маці. Яна палола грады, але калі падалі голас веснічкі, то паднялася з каленяў, зірнула на яго і заспяшалася насустрач.

— Сыночак мой залаты! — яна падбегла да Сцяпана і моцна прыціснулася да ягоных грудзей. — Я так рада, што ты вярнуўся! Я тут дзень і ноч за цябе малілася, ставіла свечкі ў царкве за тваё здароўе. Дзякуй Богу высокаму, што зберог цябе! Больш не паедзеш?

— Нікуды не паеду. Адпачынак у мяне шасцімесячны з наступным звальненнем. Пазагараю, накашу сена, а там работу буду шукаць.

— Вось і добра. Пойдзем у хату, буду цябе частаваць.

Якімі ж смачнымі былі матуліны стравы! Быў тут любімы Сцяпанаў гарохавы суп, аладкі з катлетамі, марынаваныя рыжыкі. Гадзіны дзве яны размаўлялі, а пасля маці падрыхтавала яму ложак ля акна і ён адразу ж заснуў.

Прачнуўся Сцяпан толькі, калі ўжо добра звечарэла. Хуценька апрануўся, выйшаў на двор і ўбачыў маці, якая несла дровы да пліты.

— Праспаў, — з расчараваннем у голасе прамовіў Сцяпан, — а хацеў дапагчы табе аглядацца.

— Або! — маці ўсміхнулася. — Я ўжо даўно ўсё парабіла. А з дарогі трэба добра адаспацца. І заўтра адпачывай, бо якраз святая нядзелька, маліцца будуць у царкве.

— Вось і добра! Сходзім з табою, — адказаў Сцяпан.

— Абавязкова. У такой ледзяной пустэчы цябе Бог уратаваў, што проста ў мяне няма слоў, каб Яму падзякаваць, — адказала маці.

І пацяклі-пабеглі цёплыя чэрвеньскія адпускныя Сцяпанавы дзянёчкі. Спраў у яго хапала: рамантаваў плот, навёў парадак у хлеўчыку. Шкадаваў толькі, што прадала маці летась кароўку, але ж адной з ёй было не ўправіцца. Трымала бязрогую казу.

Амаль штодня Сцяпан знаходзіў вольную гадзіну і ездзіў на ровары да Вяллі. Там можна было ўдосталь паплаваць, бо побач было возера, якое ўтварылі земснарады сілікатнага камбіната, які пачалі будаваць тут, калі Сцяпан яшчэ хадзіў у школу.

Вада была яшчэ халаднаватая, але ён не звяртаў на гэта ўвагі, бо на Чукотцы тры гады не плаваў.

Так мінуў тыдзень, пачаўся другі, і Сцяпан усё часцей думаў пра тое, каб пад'ехаць у Кіеў. Усё абдумваў па вечарах, як там пачаць пошукі. Маці ўлавіла змену ў ягоным настроі і аднойчы пасля вячэры спытала:

— Ці не хочаш ты куды з'ездзіць? Мо дзяўчыну займеў, то кажы, не саромся...

— Якая там дзяўчына! — Сцяпан усміхнуўся. — А вось у Кіеў і сапраўды трэба пад'ехаць.

Ён з якую хвіліну моўчкі глядзеў на маці, а пасля расказаў пра Івана Дарафеева, паказаў спражку і тры фотакарткі.

— Абавязкова з'ездзі ў Кіеў. Бог нездарма даручыў табе гэтую святую справу. Думаю, што хтосьці з радні абавязкова адгукнецца. Вось толькі жыць яны могуць і не ў Кіеве, — прамовіла маці і ўздыхнула.

— Але ж пошукі трэба пачынаць з Кіева, так? А пасля ўжо буду прыдумваць іншыя варыянты.

— Няхай бы ўжо і вуліца была напісана на гэтай спражцы.

— Тады знайсці было б лёгка! — уздыхнуў Сцяпан. — Але ў бюро даведак падкажуць ягоны адрас.

Сцяпана ўзрадавала тое, што маці адразу ж падтрымала яго.

## Частка восьмая

У сем раніцы наступнага дня ён прыгарадным прыехаў у Маладзечна, а там без праблем купіў білет на цягнік «Рыга—Сімферопаль».

Прыехаўшы ў Кіеў, Сцяпан перш-наперш паспрабаваў уладкавацца ў гасцініцы. У той, што стаяла на Крашчаціку, жанчына-адміністратар з усмешкай сказала:

— Магу прапанаваць толькі аднамесны люкс.

Сцяпан адразу ж згадзіўся. Вырашыў спыніцца пакуль на тыдзень, а там будзе відаць. Цана кусачая — дваццаць пяць рублёй за суткі, але пакуль што Сцяпан лічыў сябе багацеем: зарабіў на Чукотцы на легкавушку, хаця купляць яе і не збіраўся.

Уладкаваўшыся ў нумары, ён не стаў адпачываць, а адразу ж падаўся на вакзал, дзе яшчэ з раніцы прыкмеціў адраснае бюро даведак. Там заказ прынялі, але прапанавалі з гадзіну пагуляць. У прывакзальным буфеце ён паабедаў, пасля купіў некалькі мясцовых газет і прысеў на лаўку ў скверыку. Гадзіна праляцела непрыкметна.

Ён з хваляваннем падаў у маленькае акенца квіток. Жанчына ў акулярах доўга корпалася ў стосе паперак, пасля падала яму адну і сказала:

— Такі ў нас не пражывае.

— Ён і не можа пражываць, бо памёр, але я хачу родзічаў ягоных знайсці, — скорагаворкай прамовіў Сцяпан.

— Адрасы памерлых выдаём толькі на працягу пяці год з дня смерці.

Што тут скажаш? Сцяпан уздыхнуў і адправіўся ў гасцініцу. Пакуль прыняў душ, тое ды сёе, і вечар прыйшоў. Лёг у ложак і пачаў абдумваць план на заўтрашні дзень.

Звяртацца ў Камітэт дзяржаўнай бяспекі яму не хацелася. Дый што яны маглі сказаць? Ён яшчэ добра памятаў, як яго самога дапытвалі ў Ленінградзе коратка падстрыжаныя малайцы.

Вырашыў перад сном пачытаць купленыя газеты. Разгарнуў «Вячэрні Кіеў», а там розных аб'яў — больш за палову старонкі. Чаго тут толькі не было! Адзін віншаваў сваю маці з днём нараджэння, другі згубіў нямецкую аўчарку, трэці прапаноўваў свае паслугі ў якасці рэпетытара па французскай мове. Былі сярод аб'яў такія, што адразу ж кідаліся ў вочы, бо надрукаваны вялікімі літарамі.

Ён дастаў запісную кніжку, узяў ручку і пачаў складваць сваю аб'яву. Урэшце спыніўся на такім варыянце: «Прашу адгукнуцца родзічаў Дарафеева Івана Антонавіча, 1900 года нараджэння. Звяртацца ў гасцініцу «Дняпро», пакой нумар семдзесят пяць. Спытаць Сцяпана Артамонава».

І адразу ж быццам прасвятлела ў ягонай душы. Бо гэта быў шанц, ды яшчэ які! Вось толькі б надрукавалі яе больш выразна, а грошай ён не пашкадуе. Са спадзяваннем на ўдачу заснуў.

Прачнуўся а сёмай гадзіне, адразу ж пагаліўся ды адправіўся ў горад. Паснедаў у звычайнай сталоўцы, каб не марнаваць час у рэстарацыі і адразу ж кінуўся на пошукі рэдакцыі газеты. Добрыя дзве гадзіны патраціў, але дарэмна спяшаўся, бо супрацоўнікі збіраліся толькі ў адзінаццаць гадзін, давялося нават крыху пачакаць.

У аддзеле рэкламы працаваў даволі малады і сімпатычны хлопец. Сцяпан павітаўся і паклаў яму на стол сваю паперку з аб'явай. Той моўчкі прачытаў, пасля прамовіў:

— Ну што ж, дзесьці так праз тыдзень надрукуем.

— А хутчэй нельга? Я прыезджы, так доўга чакаць...

— Можам і ў заўтрашні нумар даць, але ж кошт аплаты ўзрасце, — прамовіў хлопец і ўсміхнуўся.

— Я заплачу. Але каб большымі літарамі надрукаваць, як вось тут...

Ён спехам разгарнуў і паклаў на стол учарашнюю газету.

— Можам даць яшчэ больш выразна, але гэта абыдзецца вам...

Тут хлопец хуценька падлічыў словы ў аб'яве, а пасля дадаў:

— Семдесят пяць рублёў, згодны?

— А дзе плаціць?

— У касу. Яна ў канцы калідора, — адказаў хлопец.

Ля самых дзвярэй Сцяпан на хвіліну затрымаўся, а пасля спытаў:

— Значыць, у заўтрашнім нумары аб'ява будзе?

— Абавязкова! Дадзім у найлепшым выглядзе, не сумнявайцеся, я сам рыхтую гэтую старонку.

Сцяпан развітаўся і выйшаў з кабінета. Заплаціў у касу грошы і пайшоў у горад. Паблукаў крыху па крамах, схадзіў у кіно, а пасля вырашыў, як у той тундры, запасціся харчам на дзень-другі, каб пасля ўвесь час знаходзіцца ў нумары.

Купіў хлеба, каўбасы, напітку, пяць баначак печані траскі і кілаграм сушак. Цяпер трэба было набрацца цярпення і чакаць.

На наступны дзень ён купіў «Вячорку» толькі пасля поўдня. Адразу ж з хваляваннем зірнуў на апошнюю старонку, але там сваёй аб'явы не знайшоў. Ён яшчэ раз больш уважліва прачытаў — дарэмныя клопаты. Ад хвалявання ў Сцяпана нават крыху ўспацеў лоб. Вось табе і на! Тады мельгам зірнуў на першую старонку і аслупянеў: ягоная аб'ява была тут!

Праўда, надрукавана на другой палове старонкі, але ж затое якімі выразнымі літарамі. Словы адразу ж кідаліся ў вочы, да таго ж сама аб'ява была ў фігурыстай рамцы з мудрагелістымі завіткамі. Лепш і прыдумаць было немагчыма! Не падвёў хлопец — малайчына!

На ўсякі выпадак Сцяпан купіў яшчэ адну газету, а пасля адразу ж падаўся ў свой нумар. Вечар вялікі, мо хто і заявіцца.

Хаця, праўду кажучы, дзесьці ў глыбіні душы ён адчуваў, што сёння марна спадзявацца на сустрэчу. А вось заўтра...

Уначы ён некалькі разоў прачынаўся, а пасля не вытрымаў, падхапіўся а шостай гадзіне раніцы. Адразу ж пагаліўся, а пасля ўзяўся за ўборку, бо прыбіральшчыца прыходзіла гадзін у дзесяць, а то і пазней. За якую гадзіну Сцяпан навёў у нумары ідэальны марафет. Пасля прыняў душ, адзеў бялюткую новую тэніску, хуценька паснедаў і пачаў чакаць.

Але мінула гадзіна, другая, а да яго так ніхто і не завітаў, нават прыбіральшчыца кудысьці знікла. Добра яшчэ, што ў яго быў з сабою нумар «Вожыка», які прыдбаў яшчэ ў Маладзечне. Пакуль прачытаў, то і абед надышоў. Дзесьці а палове трэцяй яму так захацелася есці, што ён не вытрымаў і адчыніў банку траскі, каўбаса ўжо надакучыла. З'еў імгненна, хацеў нават узяцца за другую, але стрымаўся, бо яго яшчэ чакалі абаранкі з напіткам.

Што ні кажы, а настрой ў яго ўзняўся. Нядрэнна цяпер было б і падрамаць гадзіны дзве, але ж ён быў на пасту, як той салдат.

Ізноў Сцяпан нікога так і не дачакаўся. У дзесяць вечара з неахвотаю падсілкаваўся двумя скрылёчкамі каўбасы і адразу ж заваліўся ў ложак адпачываць.

Раніцой не было ахвоты і настрою нават падымацца. Сцяпан разумеў, што шансы ягоныя з кожным днём змяншаюцца. Гэта і не дзіўна, бо Іван Дарафееў мог у свой час толькі вучыцца ў Кіеве, а ўсе ягоныя родзічы маглі жыць на Урале ці ў такой глухамані, што век не знойдзеш. Дый ці былі яны ў яго? Але Сцяпан вырашыў дабыць тыдзень да канца. Паабедаць пайшоў у рэстаран, каб урэшце падсілкавацца як след.

Потым пералічыў грошы ў кашальку, і толькі скончыў — у дзверы ледзь чутна пастукалі. Спачатку яму падалося, што гэта не да яго, але тут забарабанілі больш патрабавальна.

— Заходзьце! — гучна прамовіў Сцяпан і падняўся з крэсла. Дзверы расчыніліся, на парозе стаяла маладая дзяўчына. Яе густыя чорныя валасы былі перахоплены блакітнай стужкаю і хаваліся дзесьці за плячыма. Была яна ў лёгкай бялюткай сукенцы, уся такая загарэлая і да таго прыгожая, што Сцяпан глядзеў на незнаёмку, як на нейкі цуд.

Шчокі дзяўчыны заружавелі, лёгкі сполах адбіўся на яе твары, але вочы запытальна пазіралі на Сцяпана.

— Дзень добры! — урэшце прамовіла яна.

— Добры дзень! — адказаў Сцяпан.

— Я па аб'яве, — ціха прамовіла дзяўчына, — а вы Сцёпа Артамонаў?

— Так, гэта я! — з весялосцю ў голасе адказаў ён, бо толькі цяпер да яго дайшло, што ўрэшце ягоныя пошукі далі вынік.

— Вы праходзьце, сядайце, — запрасіў ён яе да стала. Але дзяўчына не адыходзіла ад дзвярэй.

— Іван Дарафееў мой дзед. Вы штосьці пра яго ведаеце? — Яе вочы з надзеяй пазіралі на Сцяпана.

— Так. Ды вы не бойцеся, прысаджвайцеся, я зараз вам усё раскажу.

— Ведаеце, у нашай кватэры засталася мая бабуля, ягоная жонка. Яна загадала, каб я прывезла вас да яе... Бабуля вельмі хвалюецца. Я яшчэ ўчора прыехала б, але здавала вельмі цяжкі апошні экзамен.

— З вамі я згодзен хоць на бязлюдны востраў, — прамовіў Сцяпан, але ўбачыўшы, што дзяўчыне не да жартаў, адразу ж змоўк. Ён кінуў на яе вінаваты позірк, а пасля ціха прамовіў:

— Прабачце. Проста я доўга быў у тундры, а там дзяўчат не было...

— Што вы?! — са здзіўленнем прамовіла дзяўчына, і лёгкая ўсмешка з'явілася на яе твары.

Тут Сцяпан крыху асмялеў і спытаў:

— А як вас завуць?

— Галя, — адказала дзяўчына і сарамліва ўсміхнулася.

— Тады паехалі.

Яны выйшлі з нумара. Сцяпан зачыніў дзверы на ключ.

— І далёка нам ехаць?

— Калі аўтобусам, то хвілін сорак.

— Махнём на таксі, — прапанаваў Сцяпан, — тым больш, што машын навалам.

Галя адразу ж згадзілася. Яны селі ў чорную «Волгу», яна назвала адрас, і хударлявы таксіст з кранутымі сівізною скронямі плаўна крануў машыну з месца.

Даехалі хвілін за дваццаць. Дом быў вялікі, шматкватэрны. На ліфце падняліся на сёмы паверх.

Галя хуценька адчыніла дзверы, і яны зайшлі ў кватэру. Не паспеў Сцяпан зняць у прыхожай сандалеты, як з пакоя выйшла жанчына ў шаўковым карычневым халаціку, з пышнымі сівымі валасамі.

Сцяпан павітаўся і адчуў, як чырванню пакрываюцца ягоныя шчокі.

— Гэта Сцёпа Артамонаў, — прамовіла Галя. — А гэта мая бабуля — Марыя Іосіфаўна.

— Зойдзем у залу, — запрасіла бабуля.

Яны ўвайшлі ў даволі прасторны пакой, пасярод якога стаяў стол з крэсламі, крыху воддаль, ля самай сцяны, канапа, а ў самым куце — тэлевізар.

Як толькі прыселі за стол, то бабуля, якая ўвесь час пільна разглядвала Сцяпана, адразу ж спытала:

— Няўжо вы нешта ведаеце пра тое, што Іван Дарафееў — мой муж. Вам, напэўна, хтосьці пра яго расказваў? — яна пазірала на яго з надзеяй.

— Не зусім так, — Сцяпан уздыхнуў. — Справа ў тым, што мы знайшлі яго ў шурфе... Гэта было з месяц таму на Чукотцы.

І тут ён расказаў, як усё адбылося, і паклаў на стол спражку і фотакарткі.

Марыя Іосіфаўна асцярожна ўзяла ў рукі спражку, ласкава пагладзіла яе і нечакана заплакала.

— Гэта ягоная спражка, — ціха прамовіла Марыя Іосіфаўна. — Ён паказваў яе мне пры нашай апошняй сустрэчы ў лагеры. Было гэта летам 1940 года. Іван тады ўсміхаўся і шкадаваў, што не хапіла месца, каб напісаць яшчэ і вуліцу, дзе стаяў наш дом.

— А кім ён быў?

— Кадравы афіцэр Чырвонай Арміі. Пазнаёмілася я з ім тут, у Кіеве, дзе ў свой час з залатым медалём скончыла гімназію, у 1923 годзе паступіла ў медыцынскі інстытут.

— Але ж у той час няпроста было вучыцца? — спытаў Сцяпан.

— Амаль немагчыма. Голад, рэзрух. На заняткі басанож хадзілі, вось... І толькі на танцы шылі сабе з ручнікоў такія басаножкі. Але ж мы не сумавалі, хаця і галодныя былі гадочкі, ды самыя шчаслівыя... На чацвёртым курсе пазнаёмілася я са сваім Дарафеевым. Камандаваў ён у той час эскадронам. Аднойчы праводзіў мяне. Падышлі да нашага дома, дзе мы з сяброўкаю пакой здымалі, а на вуліцы халадэча — зіма. Запрасіла яго на гарбату, ды, як на тое зло — дровы скончыліся. Пайшоў ён. А назаўтра, дзесьці так пад вечар, заязджае ў наш двор чырвонаармеец на тачанцы, а ў ёй дровы бярозавыя: пашчапаныя, сухенькія... Спыніў каня і пытае, дзе тут пражывае Карыкава Марыя. Я стаю аслупянеўшы, а суседка да мяне: «Марыя! Ён жа цябе шукае!» Падзялілі мы тыя дровы на ўсіх.

— А што ж далей было?

— Пажаніліся мы. А праз які месяц перавялі яго ў Мінск. Праз год і я да яго паехала. Разам з Жукавым ён служыў... А я працавала ў шпіталі. Пасля пераводзілі яго з месца на месца. І вось тады мы стварылі ўпершыню вячэрнія школы для камандзіраў Чырвонай Арміі. Праз які год дайшла пра гэта вестка да Масквы. Сам Сталін ухваліў наш пачын. На той час праводзіліся з'езды жонак камсаставу нашай арміі. Пабывала і я на адным з такіх з'ездаў. Было гэта ў 1935 годзе. Хвалявалася, як ніколі ў жыцці! А мне ж яшчэ і выступаць давялося — расказвала пра нашу вячэрнюю школу. А ў прэзідыуме Сталін, Варашылаў, Будзённы... Пасля некаторым дэлегатам уручалі залатыя наручныя гадзіннікі. Тут жа гравёр іх падпісваў. І так здарылася, што мне якраз і не хапіла. Стаю счырванеўшы, ажно самой няёмка. Тут падышоў да мяне Будзённы і ўручыў мужчынскі гадзіннік, таксама залаты. А Сталін падазваў мяне і кажа: «Не крыўдуйце. Да вашай камплекцыі такі гадзіннік якраз у самы раз».

Гэта ён да таго, што была я ў той час паўнаватай, дый ростам Бог не пакрыўдзіў. Шчаслівая вярталася дадому. Тут якраз і муж павышэнне атрымаў — пачаў дывізіяй камандаваць. Але не доўга я радавалася. У трыццаць восьмым мужа арыштавалі.

— За што?

— Хто ж яго ведае. Тады такая чыстка ў арміі была, што капітаны палкамі камандавалі. І засталася я адна з дзвюма дачушкамі на руках. Падтрымаў мяне на той час толькі блізкі сябар мужа Канстанцін Ракасоўскі.

— Наш знакаміты маршал? — здзівіўся Сцяпан.

— Так, у той час ён не быў яшчэ маршалам. Да вайны яго мала хто і ведаў. Пасля і ён быў арыштаваны, і толькі перад самай вайной яго выпусцілі.

— І вы больш так і не ўбачылі мужа?

— Адзін раз давялося сустрэцца. Ён працаваў у Сібіры, на лесанарыхтоўках. Прыехала і ледзь яго пазнала: да таго схуднелы — адны вочы... Заплакала я, а ён мяне суцяшае: «Усё хутка высветліцца, тут нейкая памылка. Мы ліст Сталіну напісалі. Нас хутка выпусцяць, вось убачыш!» Так ужо ён спадзяваўся на вызваленне, што нават я супакоілася: можа, і сапраўды — разбяруцца і выпусцяць. Ажно не. Пасля лісты перасталі прыходзіць, а тут вайна... Адвезла я дачок да маці ў вёску, а сама ў дзеючую армію. Я ж хірург.

Працавала ў палявым шпіталі. Дзесяткі аперацый у дзень. З ног валілася ад стомы. Скончылася вайна, прыехала ў вёску, а дочкі мяне не прызнаюць: і смех і грэх... А што? Было ім ад чаго здзіўляцца: стаіць перад імі жанчына з пагонамі падпалкоўніка на плячах, з медалямі на грудзях і кажа, што яна іхяя маці.

— І вы засталіся жыць у вёсцы?

— Ды не. Прыехала ў Кіеў, пачала працаваць у бальніцы. Доўгі час кватэру не магла атрымаць. Вось тады і напісала Ракасоўскаму ў Маскву. І ён дапамог. Праз які месяц атрымала двухпакаёўку, забрала маці з вёскі, бо тая старэнькая была. А ў пяцьдзесят шостым мужа рэабілітавалі, як і многіх іншых. Чытала той ліст ды плакала начамі, бо яшчэ цяжэй на душы стала. Добра яшчэ, што зяці ў мяне цудоўныя. Адна дачка ў Ялце жыве, а я тут з малодшай. Цяпер вось з унучкай засталіся, бо нашы з'ехалі на мора.

Яна на хвіліну змоўкла, пасля ўзяла ў рукі фотакарткі і пачала іх разглядваць.

— У такую далячынь яго саслалі. Ляжыць, бедачок, у вечнай мерзлаце, у такім холадзе...

— Прабачце, Марыя Іосіфаўна, што прывёз вам такія сумныя весткі.

— Што вы, Сцёпа, я вельмі ўдзячная вам! Цяпер хоць ведаю, дзе ягоная магілка. Шкада, што далёка, а то б злётала.

— Яно так, — ціха прамовіў Сцяпан, — на Чукотку дзевяць гадзін лёту, ды яшчэ пропуск спецыяльны трэба мець, бо прыгранічная зона.

— Загаварылі мы госця, Галінка, трэба пачаставаць, — яна паднялася з крэсла. — Пайду на кухню, а вы тут пакуль паразмаўляйце.

Марыя Іосіфаўна выйшла. Тут Сцяпан зірнуў на Галю, і яму падалося, што пасля ягонага аповеду яна з цікавасцю пачала паглядаць на яго. А без бабулі яна і зусім асмялела.

— Учора здала апошні экзамен. Цяпер я вольны птах. Яшчэ год вучобы і стану ўрачом, — прамовіла яна і пільна зірнула на Сцяпана.

— Няўжо будзеш хірургам, як і бабуля?

— Не. Я буду дзетак лячыць, як мая маці. Праз дзень-другі і мы з бабуляй паедзем да яе ў Ялту. Запрашаю і цябе, Сцёпа. Бачыш, як хутка перайшла я на «ты».

— Не ведаю. Мяне маці ў вёсцы чакае, дый што твае скажуць?
— Узрадуюцца. Бо ты прывёз весткі пра бацьку маёй маці, гэта першае. А па-другое, пасля Чукоткі табе карысна будзе паплаваць і пазагараць.
— Гэта праўда. Трэба падумаць, бо адпачынак у мяне шасцімесячны.
— Нічога сабе! — здзівілася Галя.
— Усё па законе — два з паловай гады правёў у тундры...
Тут Галя ўзяла ў рукі фотакарткі.
— Цябе тут не пазнаць, такая барадка шыкоўная.
— Там без барады не абысціся. Узімку саграває, а ўлетку ратуе ад камароў, іх там столькі — свету божага не бачна...
— Бедненькі мой дзядулька, — ціха прамовіла Галя. — Бязвінны загінуў у такой далечы. Я абавязкова пакажу гэтыя здымкі маці.
Тут з'явілася бабуля.
— Ну, давайце стол накрываць.
— Лепш на кухні, — прапанаваў Сцяпан. — Навошта лішнія клопаты.
— Калі так, — згадзілася бабуля, — то заходзьце, у мяне ўсё гатова.
Зайшлі на кухню. На стале паблісквала пазалочаным коркам бутэлька сухога віна, а побач стаялі талеркі з салатам, катлетамі і тушонай бульбай.
Сцяпан адкаркаваў бутэльку і напоўніў чаркі. Усе ўзялі чаркі і моўчкі прыстоялі ля стала.
— Ну, — сцішаным голасам прамовіла бабуля, — найперш давайце памянем майго Ванюшу. Няхай пухам будзе яму зямелька ў чужой старане. Усе выпілі, пасля селі і пачалі закусваць.
Пасля другой чаркі шчокі ў бабулі паружавелі, і яна сказала:
— Гляджу я на цябе, Сцяпан, і зайздрошчу тваёй будучай жонцы, ці яна ўжо ёсць у цябе?
— Няма. У тундры дзяўчат не знойдзеш...
— Я гэта да таго кажу — спадабаўся ты мне, бо на твары ў цябе напісана, што ты добры, але залішне сарамлівы... А як табе мая Галінка, мо прыглянулася?
— Бабуля! Гэта ўжо занадта! — ускрыкнула Галя. — Вось як віно дзейнічае.
Сцяпан таксама асмялеў, бо і яму крыху хмель ударыў у галаву.
— Вельмі прыгожая. Я нават і не думаў, што такія ёсць на свеце...
— Чуеш, унучка? А раз так, то дадому мы цябе так проста не адпусцім. А запрашаем у Ялту. Пагрэешся на сонейку, а там будзе відаць, што і да чаго..
— А я ўжо яго запрасіла, ды ён не згаджаецца, — з усмешкай прамовіла Галя.
— Прыедзе! Разлівай, Сцёпа! — захмялелым голасам загадала бабуля.
Але пасля трэцяй чаркі яна, спаслаўшыся на галаву, адправілася ў спальню. Сцяпан дапамог Галі прыбраць са стала, а пасля яны зайшлі ў залу і прыселі на канапу.
— Ну, што скажаш наконт паездкі ў Ялту? — спытала Галя.
Яна сядзела так блізка ад яго, што Сцяпан ледзь стрымліваў сябе, бо вельмі хацелася абняць яе...
— Каб я ведаў, што гэта цябе ўзрадуе, то пешшу дабраўся б да Ялты.
— Лепш самалётам, — яна з якую хвіліну моўчкі пазірала на яго, а пасля нечакана спытала:
— А як завуць тваю маці?

— Таццяна Іванаўна.

Галя паднялася з канапы, падышла да кніжнай паліцы, узяла альбом і прысела за столік крыху наводдаль ад Сцяпана. Доўга яго гартала, потым дастала фотакартку і пачала штосьці на ёй пісаць. Пасля паклала яе ў канверт і надзейна заклеіла.

— Вось, гэта для тваёй маці.

— А мне зірнуць можна?

— Толькі не цяпер, а як будзеш на верхняй паліцы ў цягніку.

Час ляцеў непрыкметна. І толькі пад вечар Сцяпан адправіўся ў сваю гасцініцу.

А праз два дні ён праводзіў Галю з бабуляй у Ялту. Калі да адпраўкі цягніка заставалася хвіліна, Галя сама ледзь чутна дакранулася вуснамі да ягонай шчакі і тут жа хуценька кінулася да свайго вагона.

Калі цягнік мякка крануўся з месца, яна крыкнула:

— Абавязкова прыязджай! Я буду цябе чакаць!

У наступны дзень Сцяпан самалётам вылецеў у Мінск, бо яму хацелася як мага хутчэй расказаць пра ўсё сваёй маці.

Калі самалёт набраў вышыню, ён распячатаў канверт. Там была толькі Галіна фотакартка. Яму падалося, што яна пазірала на Сцяпана з дакорам і расчараваннем.

На зваротным баку было напісана: «Шаноўная Таццяна Іванаўна! Вельмі прашу адпусціць вашага сына ў Ялту дзён на дзесяць, а калі можна, то і на ўвесь месяц. Галя».

Далей быў дробным почыркам напісаны Галін адрас у Ялце.

Як толькі Сцяпан прыляцеў у Мінск, то адразу ж заказаў авіябілет да Сімферопаля. Вылятаў ён туды толькі праз сем дзён — раней білетаў не было.

Калі прыехаў дадому і расказаў пра ўсё сваёй маці, то тая да таго ўзрадавалася, што нават заплакала.

— Я прадчувала, дарагі мой сынок, што так яно і будзе. Вось і паслаў табе Бог узнагароду за твае клопаты, турботы і гаротнае жыццё. А ў Ялце пабудзь колькі трэба. Я тут упраўлюся, дасць Бог яшчэ і ўнука буду няньчыць.

Сцяпан толькі ўсміхнуўся і нічога не адказаў. Пасля выйшаў на падворышча і пакрочыў да веснічак.

Летняя ночка агарнула вёску. Адпачывала зямля, прыбірала расою травы. Раптам дзесьці там, за рэчкай, зайграў гармонік, але праз якую хвіліну змоўк. Быццам зразумеў гарманіст, што не трэба парушаць спакой гэтай цудоўнай і такой кароткай летняй ночы.





## Эдуард ЗУБРЫЦКІ

### ПЫТАННІ

Трава шуміць у чыстым полі,
Палын-травы гусцее цень.
Што мне рыхтуе заўтра доля,
Што прынясе мне новы дзень?

Плывуць высокія аблокі,
Валошак сінь ускрай жытоў.
Што там, за далеччу шырокай,
Што там, за навіссю дажджоў?

Па вастрыі іду маланак
З адкрытай, чыстаю душой.
Што за усмешкаю каханай,
Што за ухмылкаю чужой?

Гарыць чырвоная рабіна
Халодным восеньскім агнём.
Што мне пражыты дзень пакіне,
Што заўтра ляжа пад сярпом?

Світае дзень марудны, золкі,
Кляновы ліст на дол апаў.
Шкада апошняй перапёлкі,
Што у жытах каршун задраў...

### НЕ ДАЙ МНЕ БОЖА

Не дай мне Божа адзіноты,
Ні гора, ні адчаю, ні тугі,
Калі душа нявечыцца, а потым
Знікаюць і збавення берагі.

Калі лугі зялёныя, густыя
Стамляюцца ад гулу навальніц
І плешчацца ў дубровах настальгія
І настальгія ў водсветах крыніц.

Не дай жа Божа мне зацьмення
Ні ў памяці, ні ў слове, ні ў любві.
Былое не прымае адрачэння,
Былое вечна ў сэрцы і крыві.

Я не лічу свой дзень апошнім,
Пакуль жывуць твае сляды
І журавы над спелай пожняй
Не пратрубілі халады.

Не дай мне Божа адчужэння
Ад спраў зямных, ад праваты,
Каб і ў наступных пакаленнях
Для ўсіх цвілі мае сады...

---

*__Зубрыцкі Эдуард Іосіфавіч__ нарадзіўся 17 красавіка 1942 года ў вёсцы Шклянцы Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна. Выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Чашніках і Асвеі на Віцебшчыне. Цяпер працуе ў верхнядзвінскай раённай газеце «Дзвінская праўда».*

*Аўтар зборнікаў вершаў «Блакітныя казкі», «Рабінавыя астравы», «Мне б хоць кропельку неба».*

## ПАСПАВЯДАЦЦА ХЛЕБУ

На схіле дня і ў роздуме світальным —
Азёраў сінь, спакой крыніц,
Птушыны грай стамлёны і вітальны,
Далёкі сполах бліскавіц.

І тым жыву я ўсцешана, шчаслівa,
Каб, покуль сіл маіх стае,
Паспець сваю засеяць ніву,
Паспавядацца хлебу на стале...

## КОСКА Ў НЕДАСКАЗАНЫМ ЖЫЦЦІ

Стук ды стук — бы грукат малатка:
«Пажывём яшчэ мы, пажывём».
І ўзлятае бабчына рука
Над сухім ялінцавым кійком.

Па дарозе ногі шарк ды шарк, —
Не спаткніся, Божа барані.
Вунь як сонцам высвечан абшар,
Вунь як сонцам высвечаны дні.

Па дарожцы звонка стук ды стук, —
Пачакай, сцяжынка, не спяшай,
Хай за даляглядам на вярсту
Адпачыць прысядзе небакрай.

Цок ды цок ялінцавы кіёк —
Колькі яшчэ разам ім прайсці?
Бачыш, узышоў маладзічок —
Коска ў недасказаным жыцці.

Шэпат ветру, сцежкі, каласка:
«Пажывём яшчэ мы, пажывём...»
І ўзлятае бабчына рука
Над сухім ялінцавым кійком.

## МОЙ ЧАС, МОЙ КОНЬ НЕЗАЦУГЛЯНЫ

Я думаў, час і мне паслужыць,
Як падарожніку ў дарозе
Высокі месяц па-над лугам,
Касцёр начлежніцкі пры лозе.
Я думаў, час мой непаспешны
Яшчэ выпасваецца ў поймах,
А ён ужо на бліжніх сцежках,
Ужо выходзіць напяроймы.

Вада вызвоньвае на плёсах,
Грымяць птушыныя паляны,
А ён імчыцца з Лета ў Восень,
Мой час, мой конь незацугляны.
Чакай, хоць трошкі затрымайся,
Ці заблудзіся дзесь у шкодзе,
Каб аж да снегу на папасе,
Каб аж да снегу на выгодзе...

## ЗАПАВЕТ

Асцерагу сябе вадой святой,
Ад злога духа свечкаю свянцонай,
Каб з кожнай ачышчальнаю слязой
Жылося і бязгрэшна, і спакойна.

І здзівіцца, напэўна, гэты свет,
Калі перад бяздоннай апраметнай
Я прашапчу апошні запавет
Жыць на зямлі і годна, і прыветна.

Хай ведае пякельны валадар,
Што на зямлі і мы не лыкам шыты,
Што нашы жыцці — Божы дар
І душы Божай вераю спавіты...

## ЗЯЗЮЛЯ

Ізноў збягу ў сваё юнацтва,
У край, найлепшы на зямлі,
Адкуль ніколі б не вяртацца,
Дзе бессмяротнымі былі.

Дзе ўсё жыве маім вяртаннем,
І сіні-сіні васілёк
Дрыжыць у золкавым тумане,
Мяне чакаючы здалёк.

Убачу, шэрая зязюля,
Даўно забыўшыся на дом,
У цёмным ельніку заснула,
Мой век згарнуўшы пад крылом...

## МАЯ АПОШНЯЯ ВЯРШЫНЯ

### 1

Я ў лёсу не прашу спагады
За ўсе грахі, што зарабіў.
Адна уцеха, што не здрадзіў
І што ў жыцці не разлюбіў
Сцюдзёных росаў на абмежку,
Да хаты матчыных шляхоў.
Валошак сінія усмешкі
Не адцвілі сярод жытоў.
Па-над няскошанаю пожняй
Пытаннем буслявы кругі:
Хто давядзе пракос апошні?
Каму ў лугах вяршыць стагі?

Як мог касіў, як мог вяршыў я.
І праз гады лячу дамоў,
Мая апошняя вяршыня,
Мая няўцешная любоў...

2

Туман усхопіцца світальна.
Сцюдзёна-росныя лугі
Даўно завуць мяне адчайна
Вяршыць мурожныя стагі.
Каб мог, прыскочыў бы, прыехаў
Паслухаць верасовы дождж,
Дзе колісь спуджанае рэха
Па сцежках ходзіць басанож.
А заўтра, знаю, будзе позна:
Па-над ракою, над барком
Спяшае месяц асцярожны
Ў мой дом зажураным вянком...

## ЗАРА, РАСПЯТАЯ НАД ЛЕСАМ

1

Няспешны крок. Тарфянік пад нагою,
Здаецца, вось прагнецца, зазыбіць,
Ды ў неба аднастайнае, пустое
Глядзяць вачніцы высахлых крыніц.
Пад сонцам ім ужо не заіскрыцца,
Датлеў у прыску жураўліны мох,
І чорныя жагнаюць бліскавіцы
Крыжы надзей на ростанях дарог.
Імчаць наўскач атрутныя завеі,
У іх — дыханне мёртвых і жывых.
Сцінаюць вейкі спуджана лілеі,
І тухне жар у красках палявых.
Якой жа мерай вымераць пакуты,
Што пражыў і што пражыву, —
Бо ў сініх рэках плешчацца атрута
І чорны дождж спадае на траву?!

2

Адзвінела каса на руплівых палянах,
Без пары залатыя арэхі ляшчыннік атрос.
І плыве нада мною маўкліва задумлівы ранак
У высокай сінечы настылых нябёс.
Кружыць вецер лістоту, палошачы птушак,
Над лясной безвыходнасцю ворана сцішаны карк.

На азёрных затоках цяжкая і горкая вусціш, —
Б'ецца мёртва апошні атручаны карп.
Пад нагою зыбіць і хістаецца сцежка,
У адчаі рачулка хінецца да стомленых ног.
Адкажыце ж мне, людзі,
Куды імкне вечная спешка
Па-над безданню сённяшніх бед і трывог?!

### 3

Глуха і ціха на ўсім белым свеце.
Стогнуць стрыжы.
Вецер і той не шалохнецца веццем —
Распят на дажджы.
Змрочна і нема,
Як Боская кара,
Хмара плыве.
Водсвет маланак ці водсвет пажару
Лёг на траве?
Пыл узвіхурыўся, лопнулі глуха
Кроплі вады,
Рыкнуў абуджана, гнеўна над вухам
Гром на сады.
Пэўна ж, ударыць разбойна і спешна,
Здрадна, як нож.
Божа, няхай абмінае нас, грэшных,
Чарнобыльскі дождж...







Алесь ВЕТАХ

# АПАВЯДАННІ

## Праклён

Бывае, хтосьці табе знарок благое зрабіў, прычыніў пакуты ці проста зачапіў без дай прычыны і тым самым выклікаў гнеў — от тады і з'яўляецца імгненная рэакцыя: «Каб ты...», «А каб табе...», «Хай цябе...» Ёсць і такія, мякка кажучы, людцы, хто мае заганную звычку клясці, бяздумна ці свядома зычыць ліха, бяды, нядолі. Нехта, прагнучы помсты ці суровага пакарання, звяртаецца да паслуг цёмных сіл — і вось вусны варажбіткі шэпчуць злавесную замову. Свет чалавечы, на вялікі жаль, недасканалы, у ім штодня вірують шалёныя страсці, бурліць гнеў, бушуе нянавісць, выкрываюцца інтрыгі, выбухаюць скандалы, усчынаюцца спрэчкі, сваркі і робіцца немаведама што, а дакладней, абы-што. Вось, здавалася б, абсалютна розныя жыццёвыя сітуацыі, але ў той жа час і дужа падобныя. Рабая курыца-праныра пагрэбла ўсходы на градах — і ўжо гаспадыня, вохкаючы і божкаючы, гукае праз плот суседку і з яе грудзей вырываецца лямант: «А каб твае куры павыдыхалі, каб цябе на той свет загрэблі...» Дзяўчына адбіла ў сваёй лепшай сяброўкі жаніха-прыгажуна, ужо кабана паспелі для вясельнага стала закалоць, і як толькі маці ўчула даччыны ўсхліпы, а пасля пабачыла, як захлёбваецца ад гора і калоціцца ад крыўды яе крывіначка, то і пачала клясці тую, што бессаромна адабрала чужое шчасце, перабегла, як кажуць, дарогу: «А каб жа гэтай сучцы чэрці вяселле спраўлялі, каб жа да сканчэння веку яна слязьмі душылася і шчасця не ведала». І хоць у народзе існавала табу на розных пачварных дэманічных

---

*Алесь Ветах (Алесь Іванавіч Бельскі)* нарадзіўся 23 ліпеня 1963 года ў вёсцы Цімкавічы на Капыльшчыне.

*Пад уласным прозвішчам выступае як літаратуразнаўца і крытык. Доктар філалагічных навук, прафесар. Аўтар кніг «Пакуль баліць душа», «Жывая мова краявідаў», «Сучасная беларуская літаратура», «Свет ад травы да зор», «Краса і смутак», «Сучасная літаратура Беларусі», «Экалогія душы» і інш.*

*Цяпер — прафесар кафедры беларускай літаратуры і культуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Адначасова галоўны рэдактар часопіса «Беларуская мова і літаратура», першы намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Роднае слова».*

істот, інакш кажучы, забаранялася іх згадваць, у рэальным жыцці-быцці ўсё было нашмат складаней, атрымлівалася па-рознаму. Чаго толькі ні мянташыць чалавечы язык, калі «страха» з галавы з'язджае! Цяпер я ўжо добра ведаю, нават глыбока перакананы, што нельга прамаўляць услых любое паганае слоўца, што на языку карціць. Калі шчыра, то раней, асабліва ў дзяцінстве, надта не задумваўся над тым, што і як гаворыцца. Абы гаварылася. Шмат дзе на вёсцы мы чулі брыдкую лаянку, самыя брудныя слоўцы засвойвалі ад старэйшых хлопцаў, якія мацюкаліся мадэрней за тых франтавікоў, што з рускім матам на вуснах ішлі ў атаку, штурмавалі вышыні. І ўсё ж страшней за праклён нічога няма, у чым я ўпэўніўся на адной сумнай і жахлівай па сваёй сутнасці гісторыі, сведкам якой стаў у дзяцінстве.

Прахапіўся я на досвітку, сполашна ўскочыў і абуджанымі, хоць яшчэ не праясненымі, мутнаватымі, вачыма прыпаў да акна: наша суседка цётка Ляксейчыха крычала і галасіла, бы на хаўтурах:

— А людцы родненькія, а людцы добрыя, а што ж гэта паганцы са мною вырабілі! Чаго яны да мяне, старой, прыбіліся, прычапіліся?! Гэта ж іх чорт рагаты абкурыў, падбіў на такое! А Божачка міленькі, як мне ратавацца, як засланіцца ад поскудзі нялюдскай! Дай жа волечкі вытрымаць глумства мярзотнае! Чаго ж сатана ў маю хатачку лезе, плішчыцца? А дзе ж я награшыла, а што ж я гэтакае ўчыніла, за што мне глум і кара на галаву знайшлася? Каб ім рукі палкамі паадбівалі, каб іх, мацер святая, на друкі-калы ўссадзілі! Каб яны павек шчасця-долі не зналі! Каб іх чортавы зубы перамалолі!..

Ляксейчыха, узбураная гневам, не аціхала мо з гадзіну, тупацела пры сваёй браміне і ўздымала сашчапераныя рукі ўгору, нібы просячы заступніцтва і паратунку, час ад часу шалёна выкідвала іх уперад, шлючы тым, хто апаскудзіў яе хату і нарабіў бяды, праклёны і што ёсць духу, быццам на кабету разанка ці якая халера напала, выгуквала заклінанні: «На Жыгалу! На Дубіну! На Жыгалу! На Дубіну!» Мне зрабілася не па сабе, калі яна крычала немым голасам, і гэты поклічны раз'ятраны крык гучным рэхам каціўся на самы канец вёскі. Старая прычытала, ледзь не рвучы на галаве валасы, а калі знемаглася, то жаласліва плакала і малілася, але ўжо не Богу: «А мамачка мая даражэнькая і залаценькая! Пашкадуй жа ты мяне, збаў ад чарцюганаў праклятых! Зрабі, любенькая, каб сволачы гэтыя ліхачка да краёў зазналі, каб іх скруціла, выстукнула і высмаліла!..» Ляксейчыха, як толькі налямантавалася, прыцягнулася, войкаючы (магчыма, праз ныццё ўсярэдзіне!), да нас у хату хмара хмарай, здалося, яна ўчарнела, як зямля. Маці з бацькам чулі яе галашэнне і праклёны, але на вуліцу не выходзілі, бо не ўпершыню старая гвалт усчала, і ўсё праз тое, што нашай суседцы вясковыя хлопцы-хуліганы Жыгалаў Павел і Дубінаў Андрэй рабілі розныя кепствы, не давалі ёй спакойна жыць. Яны пацяшаліся, свавольнічалі — а тая пасля, пабачыўшы розныя іхнія прыдумкі-здзекі, хапалася за сэрца і ледзь прытомнасць не губляла, затым яе кідала ў гарачку, яна не магла знайсці сабе месца і пачынала клясці-прыгаворваць, клікаць на помач і святых, і нячыстую сілу, і сваю матку з таго свету. І што ім, хлопцам зялёным і проці веку, было патрэбна ад гэтай крываносай і прыгорбленай старой кабеты, якая жыла сабе адна за высокай брамай, была нелюдзімай, рэдка выходзіла на вёску, а калі і паказвалася на вочы, то тады, калі раз на паўмесяца цягнулася з мехам у краму па хлеб і да хлеба. Праз гэта яе звалі мяшэчніцай. Хлеба яна набірала ў запас, а калі той усыхаў, то размочвала ў якім-небудзь варыве ці казіным малацэ, так што

вялікай патрэбы вынікаць на людзях у яе не было. А можа, здаецца цяпер, хлопцы тыя не перашалелі ў дзяцінстве, не паразумнелі як след на свае гады, прызвычаіліся пракудзіць, шукаць прыгоды, таму і рабілі без разбору шкоду, вычвараліся і глуміліся сабе на пацеху, не раздумваючы, чым гэта можа скончыцца. Да таго ж гэтая кабета са зморшчаным тварам, апранутая ў нейкія лахманы, вонкава нагадвала Бабу Ягу і жыла ў старым здзічэлым садзе, у якім зрэдку мэкала чорная рагатая каза. Вось таму абсталелыя хлопцы лічылі, што пацвельваюцца з нікчэмнай пачвары ці палохаюць саму ведзьму, і тым самым як бы выпрабоўваюць сябе пры дзяўчатах на смеласць, геройства.

Ляксейчыха, зайшоўшы ў сенцы, высмаркалася і без стуку ўвалілася ў хату, не павіталася, а, як толькі ступіла праз парог, адразу пачала жаліцца:

— Авой, любачкі мае! Гэта ж зноў ночкай сённячы пакасцяў мне шалякі паганыя нарабілі. І такога, людцы мае, што не ступіць, не пералезці. Вачэй на хвілю не самкнула, чула, як гойсалі вакол хаты, шкрабаліся ў дзверы, па сценах пагрукалі. Ад страху аж у печанях пакалвала, думала, гэта чэрці па маю душачку прыперліся. Пад раніцу ўсё ледзь аблеглася, аж, здэцца, днець павінна, а ў вокнах, дайце рады, і прасветлінкі нямашака. Нагой пакратаць баюся, можа, думаю, ноч неправідная на свеце наступіла. Пеўні не абзываюцца, ні каровінага рыку, нічога не чуваць. Шыбіны ўсе чорныя-чорныя, як сажа. Перасіліла нейк сябе, да дзвярэй прасунулася, а за клямку боязна ўзяцца. Выходжу — аж з вялізных жоўтых касцей на ганку крыж ляжыць і пасма доўгіх, як у чорта, чорных валасоў. Умлела, быццам паўзучую смерць убачыла, гэтак злякнулася, што рушыць не магу, язык, здэцца, праглынула. Зірк на сухадрэвіну — а на ёй, згінь ты, нячыстая, — Ляксейчыха перавяла дых і хуценька перажагнулася, — а на ёй вісіць дамавіна, а з яе тырчыць чорны лыч. Уваччу пацямнела, ледзь на нагах устаяла. Дальбог, да смерці спудзілася! Гэта Жыгалаў і Дубінаў хлопцы мяне ўстрашваюць, шал на іх напаў і ўнімку няма. На свае вушы дачулася, як яны перагукваліся. Здэцца, д'ябал іх насіў, сэрцайкі іх пакрышыў і на службу да сябе ўзяў. Гэтак рагаталі і выскаляліся, што, каб я Міхаіла-архангела са святымі не гукнула, капец мне сённяшняй ноччу быў бы. Я з таго свету мамачку сваю ўспамінаю. Прыступі і заслані мяне ад бясоў-ліхадзеяў і зламыснікаў, імі навучаных. Каб іх, мацер святая, градам пабіла, маланкай пасекла!

— Жулікі, паршыўцы, дый годзе! — абурылася, суцяшаючы старую суседку, мая маці, не хочучы, відаць, каб больш у хаце стаяла кляцьба і гаварылася ўголас пра носьбітаў усякага ліха.

— Неданоскі! Каб злавіў, галовы ім паскручваў бы! — пагрозліва сказаў ва унісон матчынаму абурэнню бацька, які сядзеў у сінім махорачным дыме і раз-пораз цёр рукой шчаку, парослую шчаціннем: ён ужо тыдзень як быў дома, у адпачынку, таму не галіўся, ашчаджаў скуру, якая стамілася ад шкрэбання лязом і частых парэзаў.

— Жэнечка, галубка мая, — стараючыся гаварыць цішэй і вельмі лагодна, Ляксейчыха ўпрасліва зірнула ў вочы маёй маці, быццам сумнявалася, ці тая пойдзе ёй насустрач: — Прашу цябе, адпусці Яначку, хай ён якімі рукавіцамі гэтае валассё, косткі ў вядро паскладае, дамавіну на выган выцягне і там гэтае страхоцце папаліць.

— Ведаеце, суседачка, у яго і хвілечкі вольнай нямашака,— адказала маці за свайго Яначку, які сам не спяшаў пагаджацца, каб зрабіць суседцы

паслугу. Яна, апраўдваючыся, патлумачыла: — Ужо расіца абсохла, дык нам трэба выпраўляцца пад Бушылава сена варочаць. Дамовіліся звечара з Кіслюкамі, тыя зараз па нас на кані заедуць.

— А што ён там забавіцца? Хай усё вывалача і сярнічкай чыркне, каб гэтая поскудзь у сінім полымі згарэла,— пачала ўгаворваць Ляксейчыха.

— Вой, цётачка, не было ў майго чалавека гэткага клопату, — незадаволена запярэчыла маці.

— Адпусці, Жэнечка, ён жа мужчына ўсё-ткі. Куды мне, бабе, з гэтай навалай саўладаць. Што там за лычастае стварэнне ў дамавіне? Нос дамоў паткнуць баюся, духі страх займае. Яшчэ, як тое пошаснае з'явішча пабачу, то з ног павалюся і без свечкі сканаю. От ганьбачка якая мяне чакае, то пашкадуйце ж, людцы добрыя і залатыя. Ён жа ў цябе спрытны, увішны, як бачыш справу зробіць. А мне хіба соллю застанецца патрусіць. Бог вам памагае, а вы ад мяне не адварочвайцеся. Павек дзён дзякаваць буду за спагаду і дабро мне ў гэты дзень скрушны. Буду, галубка мая Жэнечка, маліцца за здароўечка ваша і дзетак.

Бацька дасюль адмоўчваўся, але яму, відаць, не спадабалася, што жонка гаворыць за яго і вырашае, куды ехаць і што рабіць. Як быццам ён сваёй галавы на плячах не мае. У ім абудзіўся мужчынскі гонар: як-ніяк, а ён гаспадар у хаце. Бацька не любіў, калі пры кімсьці чужым ім камандуюць, і праз гэта не раз наракаў на маці, якая не цырымонілася і брала на сябе ролю генерала. Ды, апроч гэтага, ён пашкадаваў цётку Ляксейчыху, якая за ноч перакалацілася, ледзь на той свет не сышла. Слухаючы кабет, бацька для сябе вырашыў, што трэба знішчыць прыдумкі вясковых хлопцаў. Ён не верыў у розныя забабоны і прымхі, як мая маці ці Ляксейчыха, якой косткі і труна з высунутым з яе лычам бачыліся д'яблавымі знакамі. Ён разумеў, што гэта бяздумнае вычварэнства маладых не такое і нявіннае, бо адабрала ў старой кабеціны немалую рэшту дзён, а можа, і гадоў жыцця. Бо колькі ёй паліпець на гэтым свеце засталося — на адных нябёсах вядома. Калі ж адправіць яе за парог з нічым, то тая спакою не знойдзе, і начная калатнеча абернецца для яе магілай.

— Вы, цётка Гэлька, у нас пабудзьце трохі, покуль я нячыстую з вашага падворка зганю, — падняўшыся з табурэткі пры стале, падаў голас бацька і на адыход, нібы даючы адказнае даручэнне і нагадваючы пра гасціннасць, параіў жонцы: — Пакармі суседку. Хай бульбы цёплай з халадніком пасёрбае, дык мо хоць трохі душу адвядзе.

Сказаў — і падаўся на двор. Тым больш, час на гэта меўся, бо Кіслюкі паабяцалі, што заедуць пад абед, і яшчэ заставалася нейкая гадзіна ці паўтары да ад'езду на сенажаць.

— Татку, і мяне вазьмі, — вынырнуўшы з-за кваецістай шторыны паміж спальняй і кухняй, кінуўся я наўздагон бацьку, але ён незадаволена, са строгасцю сказаў, нібы загадаў:

— Пільнуйся сваіх цацак.

Я пакрыўдзіўся, мне хацелася на свае вочы пабачыць тыя страхі, пра якія гаварыла Ляксейчыха. Бацька, безумоўна, не меў справы з нейкімі злымі чарамі, ды і паверыць не мог, што вясковыя хлопцы падчас начнога разгулу напакідалі чортавых знакаў, таму смела падаўся да цётчынай хаты.

— Паплоціцца гэтае кулігаgreнё, трасца іх матары! Знойдзецца на іх галаву ліха нявыпечанае. Каб яны веку людскага не зналі!.. — клянучы вясковых хуліганаў, не магла суняць гнеў Ляксейчыха.

Бацька, як толькі ступіў на Ляксейчыхіну сядзібу і падышоў да ганка хаты, адразу зразумеў, што да чаго. Хлопцы старанна рыхтаваліся да начной забавы. Яны наведаліся да калгаснай сталяркі, дзе сцягнулі частку бракаванай труны, а яшчэ нячыстая іх панесла на могільнік, што побліз Кралімонтаў, дзе процьма касцей і куды ледзь не штодня звозяць з фермаў здохлую жывёлу. Пакуль бацька прыбіраў старыя каровіны косткі і хімеру, што ляжала ў труне (то была адрэзаная галава свінні, аблітая смалой), суседка скляла крыўдзіцеляў сваіх.

Хлопцы зрабілі вялікае глупства, што зачапілі Ляксейчыху, матка якой калісьці заручылася з вядзьмарскаю сілаю і магла ўмомант напусціць чары. Вяскоўцы, якія ведалі пра гэта, пабойваліся і нават асцерагаліся Ляксейчыху. Але ці была яна прычынаю таго, што здарылася ў хуткім часе? Хто наслаў, абрынуў злавесную кару?

Праз дзень бацькі паехалі па сена. Пакінуць мяне дома не было на каго. Бацька перш загадаў, каб я пільнаваўся хаты, гуляў на дварэ датуль, пакуль яны не вернуцца. Але маці не пагадзілася, зрабіла па-свойму. Хоць ёй і не хацелася, ды і я ўпарціўся, яна адвяла мяне да Ляксейчыхі і папрасіла, каб тая да вечара пабыла са мной і панаглядала за хатай. З сабой маці прыхапіла збан малака і паўбохана бела-шэрага хлеба. Калі яна выказала просьбу, Ляксейчыха ў знак згоды кіўнула галавой, забрала хлеб з малаком і паабяцала: «Усё да толку будзе. Анягож не дагледжу! Вінная я і табе, і Яначку. Усё да толку… Анягож … Вінная…»

Што мне запомнілася з тых некалькіх гадзін пры старой — гэта суцэльныя праклёны. Ляксейчыха не магла дараваць хлопцам бяздумнап’янага вычварэнства і, апанаваная шалёным гневам, гукала на іх управу. З ёй, зразумела, рабілася няладнае: яна пачала загаворвацца, цэлы дзень туды-сюды сноўдалася, нібы шукала нейкага паратунку. Як толькі маці выйшла за браму сядзібы з высокім дзядоўнікам пры плоце, панурая, з памутнелымі вачыма Ляксейчыха забылася на мяне.

Старая, зайшоўшы ў сенцы, села на парозе і штосьці бубнела, нібы малілася ці шаптала нейкую замову. Я згледзеў, як яна ўкленчыла, але ці былі там дзе-небудзь абразы — не ведаю. Можа, гэта было чараванне, заклінанне нейкіх сіл. Да мяне даносіўся яе ўтрапёны голас:

— …Угаварываю цябе, угаварываю. Вазьмі боль мой і разнясі па палях і балотах, скінь на ніцыя лозы, на быстрыя воды, на крутыя горы. Забяры волас, жоўтыя косці і нечысць паганую. Злых, ліхіх, акаянных сунімі. Сунімі іх, сунімі іх, сунімі іх. Я ўсіх вас знаю і смертухну-матухну замаўляю…

Гэтыя словы, хоць на дварэ высока зіхцела ліпеньскае сонца, ледзянілі нутро і палохалі маё дзіцячае ўяўленне…

Можа, у саміх прозвішчах гэтых хлопцаў, якія паўсюль трымаліся разам, быў прыхаваны будучы лёс. Палезлі-паперліся куды не трэба, навытваралі абы-чаго — і жыгнула па іх, і жалезнымі прутамі — жыгаламі, і здаравеннымі каламі-друкамі іх, як снапы, памалацілі. Андрэй Дубіна і Павел Жыгала сябравалі, у школе сядзелі за адной партай. Разам у кіно бегалі, з горак коўзаліся, на роварах, як ашалелыя, лёталі, а як прыйшоў час, разам і дзяўчат абмацваць пачалі. Хлопцы яны былі задзірыстыя, хуліганістыя, вучыліся абы-як, затое каўтацелі вінішча, самагонку, ладзілі ґульбішчы, прыдумлялі сабе розныя начныя забавы, асабліва шмат рабілі шкоды ў вёсцы на шчадрэц: крышылі платы, зносілі весніцы і брамкі, ламалі калаўро-

ты ў калодзежах, завязвалі дзверы ў хатах, выпускалі з хлявоў жывёлу. Пасля таго, як яны абакралі краму ў суседняй вёсцы і злодзеяў вылічылі следчыя з міліцыі, іх выключылі на два тыдні са школы, узялі на ўлік у раённай інспекцыі непаўналетніх. Настаўнікі, дорачы тройкі, давялі Паўла і Андрэя да фінішу — і калі ім уручылі атэстаты, то з палёгкай уздыхнулі, бо праз гэтых жулікаў мелі толькі непрыемнасці. Вялікага імпэту да нейкай прафесіі не было, да чагосьці незвычайнага і светлага не імкнуліся. Жыгала падаўся ў раённае ПТВ, а Дубіна пайшоў з бацькам працаваць у лясгас на пілараму. Абодва чакалі позваў у войска, якое, можа, выратавала б іх ад далейшай распусты. Ды, як кажуць у народзе, гарбатага выпрастае магіла, а ліхога — дубіна. А пакуль хлопцы бесклапотна гулялі, марнавалі маладыя гады, шукаючы ўцехаў і прыгод. Гойсалі па вяселлях, пілікалявалі і, як бы сказала мая далікатная бабулька, марцавалі. Напіваліся да чорцікаў, чапляліся да першага стрэчнага, учынялі бойкі. Ад гарэлкі, як вядома, дабра не чакай.

Жыгала і Дубіна, як толькі дзе-небудзь аб'яўляліся, хадзілі каралямі. Моладзь у навакольных вёсках іх баялася, абмінала. «Вунь гэныя бандыты прыехалі», — гаварыла якая-небудзь бабка, седзячы на вясельнай лаўцы ў гурце гэткіх жа, як сама, старых людзей, якія прыйшлі падзівіцца на маладых і пабачыць на свае вочы скокі і ўсё тое, што з імі звязана. Прыджгалі яны і на вяселле ў Заракаўцы аж за дваццаць кіламетраў, былі на добрым падпітку, нахабнічалі, задзіраліся. Жыгала і Дубіна падышлі да дзяўчыны з хлопцам, якога Павел адпіхнуў плячом убок і прыстрашыў: «Марш у люлю!» Андрэй цапнуў красуню ў джынсах за руку і лагодна папрасіў: «Хадзем, сінявочка, з намі! Будзем у каласах зоркі збіраць. Навошта табе гэты шчаўлік?!» Дзяўчына, ужо даволі абсталелая, з прывабнымі жаночымі формамі, уздрыгнула і сцялася, нібы гумка. Кавалер кудысьці ўмомант знік, напэўна, здрэйфіў і не зрабіў нават спробы абараніць яе ад гэтых дамагальнікаў. А тыя выраготвалі сабе, аблапвалі дзяўчыну, нібы якую мяккую цацку. Вяселле гуло, стаяў слупом пыл, і нікому справы ніякай не было да таго, што робіцца навокал. Дзяўчына міжволі, і гэтаму можна было падзівіцца, падалася з хлопцамі-нахабнікамі. Чаму не ўсчала крык? Чаму не вырвалася? Пайшла пакорна, нібы загіпнатызаваная. Мо ёй падабалася хуліганістая смеласць, гарэзлівасць, прыставанні і абдымкі? Ці, можа, яна ведала іх? У тым і быў сакрэт, штосьці невытлумачальнае і незразумелае, бо Жыгала і Дубіна, хоць вучыліся дрэнна і не вылучаліся станоўчымі якасцямі, падабаліся многім прыгожым і сімпатычным дзяўчатам, якія ахвотна з імі бавілі час, цалаваліся-мілаваліся і ішлі на збліжэнне. А тыя перабіралі падатлівых і блудлівых дзяўчат адну за адной. Гэтыя начныя супермены, носячыся са сваімі сяброўкамі на матацыклах, ператваралі жыццё ў балаган, начны шабаш. Разам падпальвалі сціrты саломы, на чыгуначным палатне ставілі чалавечыя пудзілы, выдзіралі медны дрот на электрападстанцыі, закідвалі камянямі вокны чыёй-небудзь хаты. На возеры па начах ладзілі шумныя пагулянкі, адкуль п'яная кампанія выпраўлялася насустрач прыгодам.

Калі хлопцы з дзяўчынай, абцалоўваючы яе з абодвух бакоў, адышліся ад шумных скокаў, не заўважылі, як падляцела двое «Жыгулёў». Легкавікі затармазілі і з іх, нібы з рога, высыпалася больш за дзесятак здаравенных, плячыстых хлопцаў, якія з ланцугамі і металічнымі прутамі шчыльным колам абкружылі тых, што толькі што верхаводзілі на вяселлі ў чужой вёсцы. Гэта была не іхняя зона ўплыву, у Заракаўцах запраўлялі

шэйнікі — крывасёлкаўскія хлопцы. Шэйнікамі іх звалі таму, што калісьці ў Крывасёлках без дай прычыны двое рабаўнікоў зарэзалі старую кабету Шэйну, і ўначы пасля гэтага ўсхадзілася страшэнная бура, якая знесла з царквы вялікі пазалочаны крыж. Дзяўчына, якая да гэтага не ўсвядамляла, а мо і ведала, што робіць і куды ідзе, адскочыла ад перапалоханых суперменаў і кінулася да свайго ранейшага кавалера, з якім толькі што была на вяселлі. «Ну што, фраеры смярдзючыя, пагаворым!» — гыркнуў таўстаморды ў махровай майцы здаравіла і пагрозліва паляпаў жалезнай арматурынай па далоні, даючы зразумець пра свой намер. Дубіна хацеў юркнуць пад руку аднаму з шэйнікаў і кінуцца наўцёкі, але над яго галавой, як тыя ядавітыя гады-змеі, узвіліся ланцугі, блснулі, нібы шалёныя маланкі, металічныя пруты. Павел Жыгала паспрабаваў выхапіць прут у нізкарослага вусатага хлопца, ды не змог, бо моцны ўдар па шыі зваліў яго з ног. З каламі і штыкецінамі каціўся на расправу шумны і п'яны гурт комсіцкіх хлопцаў, якія ў сутычках заўсёды трымаліся разам з крывасёлкаўцамі.

Музыка грукацела і кацілася па наваколлі аж датуль, пакуль на небе не патухлі першыя зоркі. Міліцэйскія легкавыя машыны прамчалі праз Заракаўцы тады, калі з-за цяністага лесу на ўсходзе пачаў паволі, нават з цяжкасцю падымацца барвяны дыск сонца, якому, здавалася, не хацелася асвятляць гэты грахоўны свет, глядзець на тое прыкрае і ганебнае, што робіцца з людзьмі.

Паўла Жыгалу і Андрэя Дубіну хавалі ў адзін дзень. Пазнаць іх было цяжка, хоць у моргу зрабілі ўсё, каб вярнуць ім чалавечы выгляд. Нябожчыкаў доўга дома не трымалі, бо на санцапёку зямля няўмольна прасіла іх у сваё лона. Не ведаю, як Ляксейчыха, пачуўшы пра забойства Паўла Жыгалы і Андрэя Дубіны, успрыняла гэтую вестку, што гаварыла сам-насам і што ёй думалася. А вось што думалася мне, помніцца і сёння: няўжо злавесны праклён знішчыў хлопцаў за іх благія і безразважныя ўчынкі? Чаму яны не маглі спыніць сябе і рабілі дурноту? Няўжо іх так сурова пакарала нейкая не вядомая мне сіла?

Цяпер я маю глыбокае перакананне: не гнявi ні чалавека, ні Бога. Слова мае магутную і магічную сілу. Заўсёды папраўляю таго чалавека, хто згадвае рагатага нячысціка. Цьфу-цьфу-цьфу! Трэба па дрэве пастукаць. Папраўляю, раю і падказваю, бо не ён, а Бог ведае, Бог з ім (з табой, з ёй, з вамі, з імі), Бог дае і забірае. Бог засланяе, атуляе, дапамагае і бароніць.

## Казанова з Амерыкі

— Закахаўся я, хлопцы, і, мусіць, капец мне. Не ведаю: мо на дзень гэта, мо на тыдзень ці нават на ўсё жыццё. Эх, а можа, і на векі вечныя. Да войска я толькі з адной дзеўкай у любоў пагуляў — і ўсё. Яна была старэйшаю за мяне на два гады. Прыслалі гэтую красатулю ў нашу школу бібліятэкаркай працаваць. Я да яе па кніжкі штодзень хадзіў. Мілаваліся з ёй да бяспамяцтва. Перад маімі выправамі да самай раніцы буськаліся. Хіба забудзеш тое!? Не дачакалася, хоць напачатку лісты адзін за адным слала. Жаночая прырода сваё ўзяла: замуж пайшла, дзіця нарадзіла, — лежачы з патухлай цыгарэтай у зубах на кучы зерня, спавядаўся наш аднакурснік Слава Казанок, з якім мы, студэнты-першагодкі, прыехалі на бульбу ў калгас.

Лёшка Кунцэвіч, Мішка Якубчык і я без асаблівага імпэту рассоўвалі ў розныя бакі сапрэлы, цёплы ячмень. Мы ўжо крыху абзнаёміліся і трымаліся разам. Дзве групы дзяўчат і хлопцаў (апошніх, праўда, можна было на пальцах аднае рукі палічыць) выпраўляліся ў поле збіраць за трасалкай бульбу, а нас з Казанком некалькі разоў запар пасылалі працаваць у засеках старых свірнаў і на зернесушылку. Брыгадзір са згоды нашага выкладчыка-апекуна прызначыў Славу за старэйшага, бо ён вылучаўся сваім ростам пад метр восемдзесят, плячыстасцю, меў выгляд сталага і больш вопытнага хлопца за нас, учарашніх жаўтаротых школьнікаў. Калі Казанок пачаў распавядаць пра пікантныя моманты сваёй начной любоўнай сустрэчы, то, падалося, чаранок з шуфлем, які абрысам нагадваў вялікае сэрца, прыліп да маіх рук, і я трымаў яго перад сабой у паветры, нібы салдат у ганаровай варце вінтоўку. Лёшка з Мішкам таксама здранцвелі, перасталі арудаваць лапатамі. Наша тройца студэнтаў-жаўтароцікаў у запыленых целагрэйках утаропілася зайздросна-цікаўнымі вачыма ў гэтага ўдачлівага і самазадаволенага донжуана, а ён гаманіў сабе, згадваў падрабязнасці начной уцехі і краем вока, як здавалася, пасмешліва пазіраў на нас, інфантыльных і вахлакаватых хлопцаў, якія прагна слухалі яго балбатню, бо гэткага інтымнага досведу і кампетэнцыі ў любоўных справах, як Слаўка Казанок, не мелі, ды і не ведалі амаль нічога пра тое. Былі мы дзецьмі так званага савецкага застою, хадзілі пад піянерскімі салютамі, тусоўкі, як цяпер кажуць, у нас былі выключна камсамольскія. Мы прывучаліся перш-наперш думаць пра Радзіму, марылі пра палёты ў космас, а дзесьці на Захадзе бушавала сексуальная рэвалюцыя. Невядома, ці цалаваў хто-небудзь з нас траіх у школе дзяўчат, але гледзячы, як мае аднакурснічкі натапырылі вушы, я схільны быў думаць, што нам і не снілася пра тое, што ўжо спазнаў і чаму ведаў смак Казанок. А ён гаварыў і круціў у руках карабок запалак:

— З Алачкай я адчуў такое, ну такое, што, браткі мае, не перадаць і не выказаць. Мая бабуля Юльяна прыгожыя казкі пра рай расчулена распавядала і захаплялася, як там чалавек купаецца ў радасці і шчасці. Божа, здаецца я ўночы трапіў на вяршыню асалоды і шчасця, у тым раі пры жыцці пабываў. Бачылі б вы, хлопцы, якія ў яе грудзі — два вялікія крамяныя яблыкі. Сапраўдныя райскія яблыкі, як спелыя штрэйфеліны з нашага саду. О, цяпер я разумею прычыну грэху Адама! Мусіць, Ева прычаравала яго з намёкам на іншыя яблыкі, дык не дзіва, што ён спакусіўся. А бачылі б вы, як Алачка, быццам зграбная лань, расцягнулася на палку, раскінула свае шаўкавістыя і доўгія, нібы лён, валасы. Сораму ні ў яе, ні ў мяне аніякага, як быццам мы ведалі адно аднаго цэлую вечнасць, прыхінуліся і зліліся ў палка-гарачым пацалунку: так сасмяглымі вуснамі ў спёку прыпадаюць да крынічнай вады. Гаспадыня, у якой Алачку пасялілі, захвалявалася, што тае доўга няма, прыйшла паглядзець, ці не ўчадзела яна часам. Ступіла за парог лазні — і пабачыла нашу параскіданую вопратку. Сказала не то ўражаная, не то з разуменнем сітуацыі, але, падалося, не з дакорам: «Ага-ага, дзела маладое». Мы пачулі яе словы, але не было моцы зварухнуцца. Змораныя, мы адчувалі сябе непадзельным цэлым і, здавалася, сапраўды ўчадзелі, ляжалі ў непрытомнасці. Але ляжалі ўчадзелыя і ахмялелыя не ад бярозавага духу ды прытухлага жару, які лагодна дыхаў з печкі і падаграваў да новага паяднання, а — о, які гэта незабыўны момант! — ад стомы і салодкага шчасця. Выйшлі ў поцемкі, пахістваючыся, не ведаючы, дзе мы, — на грэшнай зямлі ці ў раі. Мы стуліліся, аб-

няліся, як самыя блізкія людзі, і знерухомелі ў доўгім, поўным удзячнасці пацалунку. Я падхапіў яе на рукі і панёс, як самае найдаражэйшае, што ў мяне ёсць на гэтым свеце. Хлопцы, што вы пасталі — і ні гуку?! Хіба не бачыце, як сэрца разрываецца? Можа, мне жаніцца?! Падкажыце, сябры мае, што мне рабіць і як мне жыць без яе раскошнага саду кахання?

Казанок ужо няўклюдна ўсеўся на кучы зерня, і яго загарэлы твар з светлымі, што бліскучыя гузікі, і разгубленымі, як у дзіцяці, вачыма, пытаўся рады не то ў нас, не то ў восеньскага неба, па якім плылі дробныя аблокі — акурат як і дробныя былі думкі ў кожнага з нас у той момант.

— Колькі разоў табе маглося? — не зважаючы на Казанкову чыстасардэчную тыраду, папытаў Лёшка Кунцэвіч, але яму, відаць, адразу зрабілася няёмка і крыху сорамна, таму дадаў: — Не хочаш, то не кажы.

— А можа, гэта ваенны сакрэт, — адрэагаваў я раней за Слаўку, хоць Лёшкава пытанне падагравала жаданне ўведаць таямніцу: як і колькі трэба кахаць прыгожых дзяўчат тыпу Алачкі, каб пасля трымцець ад райскага шчасця?

— Вы перш-наперш паспрабуйце, следапыты юныя, клінок падбіць да такой кралі, як Алачка, а пасля пытайцеся… — зразумела каму параіў хударлявы з віхрастай русявай чупрынай Мішка Якубчык.

— Ха-ха-ха! А што, гэта вам цікава? — рассмяяўся Слаўка, дапытліва пазіраючы на нас, цёмных і недасведчаных у такім важным пытанні. Ён падхапіўся, чыркануў запалкай аб карабок, прыпаліў цыгарэту і, выпусціўшы струмень сіняга дыму, з ахвотай пачаў дзяліцца набытым вопытам: — Эх, хлопцы, галоўнае тут у іншым. Лавіце маю думку, калі не лянуецеся. Вось у нас цяпер пяцігодка якасці. Дык і ў каханні — якасць на першым месцы. Ціхае слоўца, ласка так заводзяць, што, здаецца, кахаў бы і кахаў, пакуль сэрца не спыніцца. О, як яна самазабыўна цалавалася і пяшчотна шаптала: «Слав-і-к! Слав-і-чак!» Так што глупствы там розныя не слухайце, — параіў нам Казанок з выглядам вялікага спеца ў інтымных справах. Сказаў і зайшоўся гучным спевам закаханага чалавека, які на ўсю поўніцу радуецца жыццю: — Бесамэ мучо, бесамэ мучо…

Казанок шуфляваў ячмень і мо з паўгадзіны выгукваў «Бесамэ мучо», што значыць «Цалуй мяне моцна», і ў гэтым яго апантаным спяванні чулася палкая, па-мужчынску страсная просьба.

Праз тыдзень Слаўка Казанок моцна цалаваўся, абдымаўся і мілаваўся ўжо з іншай прыгажуняй — Веранікай. Усё паўтарылася: яго воклічы захаплення, охі, ахі і ўздыхі. Казанок выхваляўся сваёй чарговай перамогай на любоўным фронце, а мы з хлопцамі шчыравалі на бульбяным палетку і пасля дрыхнулі, як без задніх ног. На некалькі дзён задажджыла — і ў клубе ладзілі дыскатэку для студэнтаў і вясковай моладзі, але мы, Лёшка, Мішка і я, не мелі да скокаў ніякага імпэту, таму сядзелі сабе ў хаце, чыталі кнігі і часопісы, што прывезлі з сабой, зрэдку глядзелі тэлевізар, які дазволіла ўключаць прыдзірлівая і буркатлівая гаспадыня Кацярына Адамаўна. Больш яна бурчэла на Казанка, які сыходзіў нанач і валачыўся ў суседняе Жабчава, дзе спыніліся і капалі бульбу яшчэ дзве групы нашых аднакурснікаў.

Па даручэнні калгаснага брыгадзіра Шманоўскага, якога студэнты звалі Шмонам, Слаўка павёз у тое Жабчава на кані харчы. Там ён на кухні і пабачыў бландзіначку з аголенымі, моцна загарэлымі цыбатымі нагамі і стромкімі таемнымі вяршынямі пад белым празрыстым халатам. І гэтая бялянка-шакаладачка мела вострае, учэпістае вока на хлопцаў, адразу

адзначыла для сябе Казанковы вартасці. Калі той вокамгненна абудзіўся ад дзявочай пекнаты і адразу падчапіў Вераніку жартам наконт добрага жыцця на кухні, тая адгукнулася дасціпным слоўцам — і пайшло-паехала.

— Навошта вам, такім мілым дзяўчаткам, аж фляга смятаны? Будзеце, як на дражджах, ушыркі раздавацца, а ваш прыгожы пол без фігуры, што афіцэр без пісталета, — пацікавіўся, пакепліваючы, Слаўка.

— А што хіба хлопцам не падабаюцца дзяўчаты ў красе і целе? — гулліва, смела пазіраючы на Казанка, засмяялася Вераніка.

Ён не ўтрымаўся і далікатна ўзяў яе за правую руку, вочы яго пры гэтым гарэлі незвычайным бляскам.

— Яшчэ як падабаюцца! Перад такою дзіўнаю пекнасцю, незраўнёная паненка, як ваша, нямею і гатовы быць рыцарам ці рабом вашым, ускласці галаву на плаху, — і Казанок, узнёсла выказаўшы камплімент, артыстычна нахіліў галаву.

Дзяўчаты адразу захіхікалі. Вераніка, узрушаная такім нечакана рамантычным паваротам сустрэчы, прапанавала Слаўку пачаставацца на кухні цёплымі блінчыкамі з вішнёвым варэннем. Казанок сыпаў кампліментамі, як з рога. Рыжавалосая, бы агонь, дзяўчына завіхалася ля пліты, другая студэнтачка — невысокая, як макаўка, — з вільготнай анучай спрытна мітусілася пры сталах. Вераніка сядзела насупраць Казанка, закінуўшы нага на нагу, і ён, гледзячы на гэтыя зграбныя і пругкія шакаладнага колеру ногі, страшэнна хваляваўся, з пажадлівасцю глядзеў у яе вочы — і яна не магла не адчуць гэтага нястрымна-вялікага жадання блізкасці. Слаўка ўлучыў момант і ціха, амаль шэптам, сказаў Веранікцы, што хоча спаткацца з ёй увечары наводшыбе вёскі пры дарожным указальніку «Жабчава». Тая прамаўчала, але загадкава ўсміхнулася і лёгенька хітнула галавой — і ён зразумеў гэта як знак згоды. Расповеды Казанка пра любоўна-інтымныя страсці, што бурлілі, быццам шалёны вір, распальвалі ўяўленне, прымушалі доўга варочацца і змагацца з унутраным неспакоем. Сексапільная, як цяпер сказалі б, Вераніка, якую мы яшчэ не бачылі, стала абуджальнікам нашых фантазій.

На досвітку, калі Казанок стомлены вяртаўся з гуляў і паказаўся на вочы, наша гаспадыня Кацярына Адамаўна бралася за выхаванне. Сунучы ў печ рагачом чыгун, яна па-мацярынску ўшчувала начнога залётніка: «Ох, хлопча, шукаеш ты гузака на сваю галаву. Лепш тое Жабчава за сем вёрст абысці. Там жа гэны — як яго толькі зямля носіць — Капейка верхаводзіць: бандзюган з бандзюганаў, турэмшчык апошні. А чаго варты Юзюфкін унук, «афганцам» якога ў нас клічуць. Ён жа толькі з нажамі ходзіць, і змеціць не паспееш, як поркне пад рабрыну. Ведама, не з пустой ахвоты цягаешся туды. Але павер мне, старой, дзяўчат на твой век хопіць, а так яшчэ дзеўку якую не падзеліце — мазгавешку разаб'юць, косці патрушчаць ці, крый Божа, на той свет адправяць. У Жабчаве ўжо не аднаму такому, як ты, жаба цыцкі дала, — і заключала, гаворачы пра бездапаможнасць вартавых парадку і бяспекі: — Нават міліцыя не можа рады даць гэнай хеўры». Казанок маўкліва выслухоўваў гаспадыню, праходзіў за штору ў залу, валіўся на неразасланы ложак і засынаў мёртвым сном, яго цяжка было дабудзіцца. Пасля кожнай бурнай ночы ён нібы трымаў перад намі справаздачу, дудзеў на ўсе мяхі. Казанок да пары да часу меў, мабыць, шанцаванне. Але аднаго вечара да яго прычапіўся Капейка з сваёй нахабнай гоп-кампаніяй, якая, хутка заварочвала кавалераў з суседніх вёсак. Слаўку, збітага на горкі яблык, на «ўазіку» старшыні калгаса замчалі ў ра-

ённую бальніцу, дзе яму наклалі мноства швоў і адкуль выпісалі праз два тыдні, параіўшы ехаць дахаты. Пазней мы даведаліся, што і там, дзе моцна пахла нашатыром і рознымі сардэчнымі кроплямі, Слаўка, як толькі ачомаўся, дарма часу не губляў. Як ён распавядаў, пяшчотныя і далікатныя рукі медсястры Марыны абудзілі ў ім такую магутную сілу жыцця, якой ён не ведаў раней. Ад кожнага руху гэтай маладой жанчыны-чараўніцы ён забываўся на боль і ўвесь трымцеў, як лісток на дрэве, а пасля знемагаў у радаснай, салодкай непрытомнасці. Слаўка, згадваючы дні, праведзеныя ў бальніцы, называў сваю выратавальніцу ласкава-пяшчотна «Марынка», «Мілая сінявочка», «Духмянае сонейка». Ён, нягледзячы на сваю мужчынскую прадстаўнічасць, быў натурай тонкай, сентыментальна-рамантычнай, яму, расчуленаму, хацелася пакахаць увесь свет.

Ва універсітэце Казанок паўстаў перад намі ў даволі добрай форме, праўда, прыйшоў першы раз тады, калі мы, яго аднакурснікі, ужо два тыдні хадзілі на заняткі. Пра яго «бульбяную драму» нагадвала хіба пунсаватага колеру палоска пад левым вокам. Дзяўчаты на курсе ўжо гаманілі пра Казанка як лавеласа, перашэптваліся, калі ў аўдыторыю заходзіла Алачка ці Вераніка. Пра іхнія раманы з Казанком гаварылі як пра нейкую сенсацыю. Нас, хлопцаў, асабліва ўсхвалявала сваёй гожасцю і вабнасцю светлавалосая Вераніка, якая хадзіла грацыёзна і з падкрэсленай ганарлівасцю. Відаць, яе больш не займала асоба Казанка. «Няўжо каханне дымам пайшло?» — думаў я, калі Вераніка з дня ў дзень сядзела побач з нашым аднакурснікам Лявіцкім, частуючы яго цукеркамі ў бліскучых абгортках. На Веранічку праз дзень-другі мы з хлопцамі больш не заглядаліся, бо да дэталяў ведалі, як яна кахалася са Слаўкам. Казанок у шыкоўным крэмавым касцюме, з яркім залацістым гальштукам глядзеўся, як жаніх перад вяселлем. Дзявочыя прагныя вочы гатовы былі з'есці жывую легенду першай студэнцкай бульбы. «Кот памоўзлівы», — азвалася на з'яўленне аднакурсніка рабацiністая Вера Кашуба, і я гэта ўчуў, бо тая сядзела наперадзе і жыва рэагавала літаральна на ўсё, што рабілася ў аўдыторыі.

З нашых хлопцаў інтэрнат атрымаў толькі Васіль Прахарэня, бо бацька яго быў інвалід па зроку, а маці атрымлівала, працуючы прыбіральшчыцай, невялікія грошы. Мы сваёй тройцай — Лёшка, Мішка і я — кватаравалі ў новым мікрараёне. Знялі пакойчык па тэлефоне, які быў пазначаны на паперчыне, прыклеенай да слупа пры аўтобусным прыпынку непадалёк ад універсітэта. Казанок, гамонячы перад лекцыяй на калідоры, сказаў, што будзе жыць у роднага дзядзькі, які мае свой дом у Шабанах і працуе дырэктарам аўтабазы. Пэўна, што кожны з нас у душы пазайздросціў Слаўку, бо выкласці штомесяц па дваццаць пяць савецкіх рублёў за невялічкі пакой — гэта было для нашых вясковых бацькоў немалой тратай. Казанок як бы між іншым папытаў, дзе мы атабарыліся — і калі ўведаў, то паабяцаў, што ўвечары завітае ў госці. «Сустракайце — кветкі, музыка, шампанскае!» — з урачыстасцю ў голасе і прадчуваннем свята прамовіў ён.

«Ну што, шкаляры і цнатліўцы?! Гуляць, дык гуляць», — пераступіўшы парожак кватэры, радасна выгукнуў Казанок. Ён прыехаў з шампанскім, да таго ж выставіў на стол бутэльку гарэлкі, паклаў батон доктарскай каўбасы і кулёк мандарынаў. Як толькі на кухні пачаўся гармідар, адразу ў праёме дзвярэй паўстала наша гаспадыня — маладая жанчына з кароткай стрыжкай, вельмі падобнай на хлапчуковую. Розніца між намі і ёй

была мо на якія пяць ці сем гадоў, а з Казанком і таго менш. Вока адразу выхоплівала яе паўнаватыя грудзі, верх якіх спакусліва выпіраў з прарэхі ў зялёным халаце. На нас дыхнула салодка-зваблівым пахам духоў. Дзіва-дзіўнае, але і я, пацягнуўшы шампанскага, адчуў неадольную цягу да гэтых выспаў кахання. У галаве заскакалі грахоўныя думкі-жаданні, і мне зрабілася прыкра за гэтую сваю міжвольную разбэшчанасць: «Як можна думаць пра такое, яна ж маленькае дзіця адна гадуе». Можна здагадвацца, што рабілася з Казанком, які вокамгненна падхапіўся з кутняй канапкі:

— Сядайце, калі ласачка.

— Хлопцы, што вы вэрхал усчалі? Дзіця ж заснула, — з дакорам, незадаволена сказала яна.

— Будзем цішэй вады, ніжэй травы. Будзем маўчаць і дзівіцца выключна на ваша боскае хараство. Вы ж — сама мадонна з карціны Рафаэля. Ашчасліўце, калі ласачка, прысядзьце разам з намі, грэшнымі, на хвілінку, — рассыпаўся ў кампліментах Казанок, затым галантна узяў яе правую руку і лёгка пацалаваў. Тая не чакала адкрытых заляцанняў і сумелася, але, раздумаўшы трохі, усё ж прысела да стала і прыгубіла з фужэра шампанскага. Запанавала цішыня, якую недарэчным пытаннем парушыў Слаўка, падаючы гаспадыні кватэры мандарыніну:

— Вы любіце паэзію? — і папрасіў, прыклаўшы руку да грудзей: — Прашу вас, чароўная і слаўная князёўна, пабудзьце ў нашым коле, пакуль не прыйдзе дамоў ваш рыцар. Дастойны з усіх дастойных мужоў.

— Муж — наеўся груш, — сказала яна і адразу змянілася з твару: падалося, што так чэзне на крутым марозе кветка.

Слаўка пераўвасобіўся, як актор, пачаў натхнёна і ўзнёсла шаптаць словы, нібы нейкую замову-заклінанне:

Ты мне патрэбна, як жыццё,
Што мчыцца к зорам несупынна.
Гарыць у душы святое пачуццё —
Любві вялікай да цябе, Жанчына!

Казанок не зводзіў з Вольгі свайго юрлівага і крыху нахабнага позірку, адчувалася, што ён хоча зведаць гэту жанчыну, спатоліць смагу кахання. Іх, нібы дзве клемы, замкнула, і ўспыхнулі іскрынкі ўзаемнага прыцягнення. Яны разгаварыліся, і Вольга, на якую нахлынула настальгія, неўзабаве павяла Слаўку ў свой пакой паказваць выпускны школьны фотаальбом. Уранку мы ад'язджалі на заняткі, Вольга збірала малое ў садок, а Казанок, выцягнуўшы ногі з-пад коўдры, дрых сабе на шырокім ложку, які пaяднаў яго з нашай гаспадыняй. Ён унадзіўся начаваць у Вольгі ледзь не штоноч. Прыязджаў позна ўвечары, на нас не зважаў, быццам перад ім былі не жывыя людзі, а нейкія здані.

Абмеркаваўшы надзвычайную сітуацыю, мы гуртам пачалі пратэставаць супраць гэтых візітаў Слаўкі.

— Ты не даеш нам спаць, — абрынуўся на яго з гневам Лёшка Кунцэвіч і патлумачыў прычыну бяссонніцы: — Сцены не глухія — вушы ўсё чуюць. І ваша любоўнае сюсюканне, і ахі, і стогны. Вы ж да паўночы ўгаманіцца не можаце. Ці, ты лічыш, гэткае нармальны чалавек стрывае? Выспацца па-чалавечы хочацца. Ды і не забывай: сесія на носе.

— Пашкадуй, Слаўка, змарнуеш ты нас, — пачаў прасіць Мішка Якубчык, пасля чаго і я ўставіў свае тры грошы: маўляў, таксама сяджу на занятках з асалавелымі вачыма.

— Эх, хлопцы-хлопцы, я ж для вас, можна сказаць, стараўся, — выслухаўшы нашы прэтэнзіі, пачаў апраўдвацца Казанок. — Вольга — такая чулая жанчына, каб вы толькі ведалі. Яна паабяцала мне, што за кватэру толькі па пятнаццаць рублёў з носа браць будзе. Ну і ліха з вамі! — пакрыўджана, сказаў ён і, не развітваючыся, грукнуў дзвярыма.

Мабыць, Казанок засердаваў не на жарт, бо да канца першага курса мы трымаліся воддаль, хіба разоў пару схадзілі разам у кіно. А мо проста ў яго было сваё жыццё, сэнсам якога зрабіліся любоўныя авантуры. З горам папалам ён адужаў першы курс, хоць за прагулы пагражала выключэнне.

У наступным навучальным годзе нашай тройцы выгаралі месцы ў студэнцкім інтэрнаце па вуліцы Кастрычніцкай. Дапамагло гэтаму тое, што цэлы месяц мы летам бясплатна адпрацавалі на рамонце галоўнага універсітэцкага корпуса. Казанок, як толькі дачуўся, што ў наш інтэрнат засялілі дзве групы нямецкіх студэнтаў-стажораў, прыехаў у разведку. Цяжка было ўцяміць, што на яго найшло, але ён меў пэўны намер, аб чым сказаў шчыра, з паказной пахвальбою, як быццам паставіў перад сабой звышзадачу: «Хачу пакахаць немку».

З нагоды новага навучальнага года і прыезду замежных студэнтаў у інтэрнаце наладзілі суботнюю дыскатэку, на якую акурат і прыджгаў Казанок. Зайшоўшы ў свой блок, мы сталі няпрошанымі сведкамі інтымнай сцэны, што была выразна відаць у праёме дзвярэй душавога пакойчыка: цёплыя вадзяныя струменьчыкі ляцелі ўроскід на галовы і спіны абсалютна голай парачкі, якая ў прасветлена-туманістым воблаку злілася ў парыве адданасці.

— Развёў тут бардэль! — абурыўся Лёшка паводзінамі Казанка, які без дазволу і згоды прывёў пад душ дзябёлую і такую ж высокую, як сам, замежную студэнтку, да якой клеіўся на дыскатэцы мо з гадзіну назад. Але Лёшкавага абурэння ніхто, апроч нас, не пачуў.

Мы, агаломшаныя, знямелі, калі новая сяброўка Казанка зайшла ў наш пакой у чым маці нарадзіла, а следам за ёй з махровым ручніком і ў сініх трусах усунуўся і ён сам.

— Што, віжы няшчасныя, Венеры не бачылі?! Дык глядзіце — гэта сама багіня кахання, дзівуйцеся і зайздросце!

— Простите меньня, ребьята. Пожайлуста, — са змякчэннем сказала вінаватым голасам замежніца, зняла з пляча Слаўкі ручнік і прыхінула ім светла-кучаравыя райскія шаты.

— До-до, зіркатыя, таропіцца. Вочы на лоб вылезуць. Піраваць зараз будзем, — імкнучыся ўлагодзіць нас, радасна ўсклікнуў Казанок.

Калі пачалася пагулянка, мы дзюбнулі гарэлкі і сталі крыху разняволеныя, то адзін за адным пачалі штосьці пытацца ў дзяўчыны, якая адказвала вельмі каратка, гарнулася да пляча Слаўкі і больш смяялася — зачароўвала нас белазубай усмешкай і пульхнымі вуснамі-падушачкамі. Насамрэч яе звалі не Венерай, а Сабінай.

— Слаўка! А скуль ты, гэткі мацак і парубень, узяўся? — прычапіўся развесялелы Лёшка.

— Я — амерыканец, а вось Сабіна — немка.

— Ну ты і загнуў — амерыканец, — зарагатаў Мішка Якубчык. — Ты яшчэ скажы, што японскі бог.

— Не верыце?! Ох, вы і цемната балотная! Амерыка не за акіянам, як вы думаеце. Ёсць краіна «жоўтага д’ябла», як у газетах пішуць, а ёсць на-

ша Амерыка, беларуская. Гэта мая вёсачка лясная, ціхая-ціхая — райскі куточак, дзе жыў бы — не паміраў. Побач рачулка чыстая, як дзявочы стан, выгінаецца. Там спічастыя хвоі трымаюць неба, пасля цёплай залевы сонца заўсёды запальвае вясёлку. Сабіна, а ты хочаш у маю Амерыку? — гарэзліва папытаў у немкі Казанок.

— США? — тая, відаць, толкам не ўцяміла, пра якую Амерыку і вясёлку гаворыць яе каханак. Сабіна пачала высвятляць, як на беларускай мове гучыць тое ці іншае слова. Яна хмурыла бровы, намагаючыся зразумець сэнс пачутага. Шырока ўсміхаючыся і паслаўшы ўсім нам паветраны пацалунак, яна развіталася па-беларуску, але прамовіла з акцэнтам: «Да пабаченьня».

Казанок незадоўга да сесіі са змучаным і крыху прыпухлым тварам прыпоўз на заняткі. Можна было падумаць, што ён захварэў. На перапынку між парамі ён спавядаўся: «Сабіна хутка ўсе сокі выцягне. Басейн, кавярня, дыскатэка, п'янка, любошчы… І так штодзень. Не магу без гэтай прагавітай і ненасытнай Сабіны, хачу яе кахаць, кахаць і кахаць. Гэта, браткі мае, клініка: вар'яцтва на глебе кахання».

Праз тры месяцы нямецкія студэнты-стажоры, а разам з імі і Сабіна, з'ехалі на радзіму. Казанок закінуў вучобу і вылецеў з універсітэта. Ён жаліўся, што, чытаючы, нічога не можа запомніць, усё імгненна, як на скразняку, выветрываецца з галавы. Мінуў нейкі час — Слаўка прыйшоў да нас у міліцэйскай форме, быў самотны і надзіва ціхі. Цяжка сказаць, што яго даймала, не давала спакою: мо журыўся па Сабіне, а можа, шкадаваў, што не мае больш магчымасці вучыцца, а пайшоў, як ён сказаў, на сабачую службу. «Эх, хлопцы, такая мая доля», — паціскаючы рукі, сказаў на развітанне Слаўка.

…Казанок са сваім напарнікам прыехалі на цёмна-зялёным «уазіку» да Юбілейкі: з гатэля вывелі затрыманую путану. Слаўка быў за рулём і не разгледзеў як след гэтую інтэрдзяўчынку. Праз хвілін пятнаццаць былі на месцы. Старшына Хмялеўскі хапіў жрыцу кахання за доўгія распушчаныя валасы, наматаў на руку і вывалак з машыны, затым пацягнуў да расчыненых насцеж дзвярэй міліцэйскага ўчастка. І толькі, калі апынуўся побач, Казанок пабачыў, што гэта зусім юнае дзяўчо — у міні-спадніцы, з задзёртым носікам і падфарбаванымі малінавымі вуснамі.

— Слухай, Хмель, што ты робіш? Кінь дзяўчыну! Чуеш? — закрычаў Казанок і падскочыў да мажнага, таўстамордага старшыны.

— Га-га-га, дзяўчыну знайшоў! Гэтую сучку ўжо трэці раз вылавілі. Посцілка гнюсная!

Казанок не стрываў і з усяго размаху садануў Хмялеўскаму ў раскормлены твар — і той скапыціўся, як падстрэлены дзік на паляванні. Дзяўчына, сцятая і спуджаная, перш упала на зямлю, а затым кінулася наўцёкі. Слаўка прабег крокаў з дзесяць, нібы даганяючы яе. Наваколле працяў стрэл пісталета — і ён са здзіўленнем у вачах асунуўся на апалае кляновае лісце, падкурчыў ногі і знерухомеў…

Праз год ва універсітэт зноў прыехалі нямецкія студэнты. Сярод іх была і Марта, якая па даручэнні Сабіны прыйшла да нас, каб распытаць пра Славу Казанка. Уведаўшы пра яго лёс, яна залістава ла Сабіне, паведаміўшы, што здарылася з яе каханкам. Марта, калі зайшла ў наш пакой, запыталася, старанна вымаўляючы кожнае слова:

— Ребьята! Вы, наверное, друзья Славы. Его фамилия — Ка-за-но-ва, он бывший друг Сабины…

А яшчэ праз два гады пачалася перабудова, рухнуў Берлінскі мур, і мы даведаліся пра славутага аматара жанчын Казанову. Алачка, Вераніка, Марына, Вольга, Сабіна, напэўна, помняць нашага шчадралюбнага хлопца з беларускай Амерыкі — Славу Казанка, свет жыцця для якога ператвараўся ў зачараванае кола кахання.

## Антаганісты

— «Скинем Пушкина с корабля истории!» Нігілізм — старая-новая з'ява, як гэты свет. Я добра разумею і вітаю юнацкі максімалізм, нестандартнасць мыслення, ведаю, што па сваёй сутнасці моладзь схільная да пратэсту і нават правакацыйнасці. Але калі пішацца, што «Купала і Колас — бяльмо на вачах беларускай літаратуры», то, выбачайце, тут я з вамі ніколі не пагаджуся, што гэта выключна феномен Эпохі Пост. Як сабе хочаце, але я не магу ацэньваць гэты опус, — катэгарычна і цвёрда сказала Рэгіна Віктараўна дырэктарцы гімназіі, якая ўспрыняла словы сваёй падначаленай як непадпарадкаванне і выклік ёй асабіста.

Пасля гадзіннай спрэчкі са сваёй патронкай Рэгіна Верас выйшла з дырэктарскага кабінета раскалочаная, як вясковая дарога ў восеньскую непагадзь. Не зважаючы на довады, што гэтую ганебную пісаніну трэба схаваць як мага далей у шуфляду, маладая кіраўніца ўстановы новага тыпу Эльвіра Генрыхаўна Сухадольская назаўтра выклікала настаўніцу беларускай мовы і літаратуры зноў і правіла сваё:

— Вы хочаце наладзіць абструкцыю таленавітай вучаніцы? Дык ведайце: нічога ў вас не атрымаецца. Ці вам патрэбна вайна? Ваяваць — бессэнсоўны занятак. Раю вам па-сяброўску: заплюшце вочы — і пастаўце патрэбную адзнаку. Вас не паменее і не паболее, не пацерпяць ні ваш Купала, ні ваш Колас…

— Чаму ваш? Мабыць, і Купала — наш, і Колас — наш з вамі. Гэта — беларускія святыя.

— Так-так, нашы, агульныя. Толькі, дарагая Рэгіна Віктараўна, не трэба патэтыкі. Нічога асаблівага не здарылася, няма падстаў падымаць бучу. Да таго ж, як вы цудоўна ведаеце, я заўсёды ішла вам насустрач, стварала, як кажуць, умовы. Хто вас вылучыў на званне выдатніка адукацыі?! Праз дзень-другі гэты інцыдэнт забудзецца, а нам трэба разам працаваць. Вы ж, спадзяюся, разумная і разважлівая жанчына.

— Дзякую, Эльвіра Генрыхаўна, за клопаты, але яшчэ раз кажу вам — не! Выбачайце, але і ў тысячны раз вы пачуеце тое ж. Я не маленькая, і не прасіце, і не загадвайце. Перапіша — тады і гаварыць будзем. На горшы выпадак, пазбаўце мяне такога сораму і ганьбы. Хочаце — ацэньвайце гэты, як вы называеце, «постмадэрновы тэкст» самі.

Далей выбухнуў цэлы скандал вакол сачынення, у якім пляжыліся класікі, урэшце быў вынесены вердыкт — «гэтыя творы смярдзяць нафталінам». Копіі пісьмовай працы «пайшлі гуляць» сярод настаўнікаў. Хутка хіба толькі лянівы не чуў у гімназіі пра канфлікт Рэгіны Віктараўны з дырэкторкай праз сачыненне вучаніцы выпускнога класа Віялеты Сычэўнік, бацька якой займаў высокую пасаду ў бізнес-структурах. Ледзь не кожны сказ сведчыў пра выверт у свядомасці юнай асобы: «Чытача ванітуе ад аднаго толькі беларускага шрыфту», «Літаратуру павінны ствараць багатыя і нахабныя людзі, а талент — справа другарадная»… Рэгіне Верас затэлефанавала маці «пакрыўджанай» вучаніцы:

— Што ты маеш да маёй дачкі? Калі яшчэ хоць адно слова скажаш упоперак, то мы наладзім у друку піяр. Ці ты, можа, лічыш сябе святой? Тады пашкадуеш, калі цябе пагоняць з гімназіі, як паскудную суку, як апошнюю шваль. Дастаткова аднаго званка майго мужа. Думаю, да цябе нешта дайшло.

Рэгіна Віктараўна была ў шоку: ніхто і ніколі так груба ды бесцырымонна з ёй не гаварыў. У голасе Ірэны Адамаўны, маці Віялеты, чуліся гнеў і пагроза, яна яўна спадзявалася, што настаўніца спасуе, добра разважыць і не будзе больш нічога мець да яе дачушкі. Мабыць, тая доўга не разважала, не вымяркоўвала, што рабіць і як дзейнічаць, каб паставіць на месца крыўдзіцельку. «Дажылася, дакацілася», — сам-насам са скрухай абурылася Рэгіна Віктараўна, бо толькі ў крымінальных серыялах бачыла і чула нешта падобнае, калі круты аўтарытэт, развязна гаворачы і пыхкаючы цыгаркай, застрашвае канкурэнта, папярэджвае яго пра магчымыя разборкі. Рэгіна Верас міжволі ўсміхнулася, і ёй падумалася: «Няўжо яна, звычайная беларуская настаўніца, станецца ахвяраю мафіі? Засталося Сычэўнікам хіба кілера замовіць, каб адправіць мяне на той свет». Праўда, ёй было не да смеху, настрой сапсаваўся, паспрабавала заняць сябе чытаннем, але калі разгарнула свежы нумар часопіса, не здолела засяродзіцца на тэксце, не змагла адчуць, як раней, смак вобразнага слова. Чытала механічна, нават бяздумна, каб толькі забыцца і адпрэчыць думку пра гэты званок і тыраду разгневанай маці. Паклаўшы часопіс на столік з невысокай вазай, у якой стаялі прывялыя рамонкі, захацелася каму-небудзь патэлефанаваць, каб расказаць пра непрыемнасці і прыкрасці на працы, каб хтосьці выслухаў і падтрымаў яе ў гэтыя цяжкія хвіліны жыцця. Можна было пагаварыць з былой суседкай і сяброўкай Вольгай, да якой яна заўсёды ў нядзелю раніцой — і гэта стала завядзёнкай — хадзіла піць каву, аднак Вользе пашэнціла ў другі раз узяць шлюб з мужчынам свайго веку, яна абмяняла кватэру з даплатай і пераехала са сваім абраннікам у новы мікраараён. Праўда, у Вольгі толькі мабільнік, а ў яе, Рэгіны, звычайны тэлефон, з якога выхад на сотавую лінію і доўгая размова-гамонка могуць каштаваць ледзь не цэлага заробку. Рэгіна Віктараўна перадумала тэлефанаваць, ды і ці варта камусьці, хай нават і збоку сваякоў, надакучаць расповедам пра канфліктную сітуацыю на працы, мітрэнгі, унутраны разлад. Кажуць жа: плач-галасі, ды часам рады не дасі. Паспавядаешся, выгаварышся, але ці будзе назаўтра лягчэй жыць, калі ведаеш, што цябе чакае, калі разумееш, што абрынулася бяда-навала і літасці не чакай. Ды і не ў характары Рэгіны Віктараўны было жаліцца, выліваць свой боль-крыўду кожнаму стрэчнаму і папярэчнаму, тым больш не хацелася абцяжарваць сваімі праблемамі сяброўак ці родзічаў. Калі яшчэ жыла маці, то і ёй, прыехаўшы ў родную Арэхаўку, старалася не гаварыць лішняга, хоць у настаўніцы звычайнай гарадской школы не заўсёды ўсё ішло да толку, штосьці не ладзілася па працы. Ды і ў сямейным жыцці наспявала навальніца. Толькі праз паўгода, як скасавала з мужам шлюб і паехала дахаты памагаць капаць бульбу, прызналася маці, што засталася гадаваць Веранічку адна. Чамусьці ў гэтыя хвіліны ажывілася памяць, і Рэгіна Віктараўна з жалем і смуткам прыгадвала матулю, якая паўставала ў абліччы святой, захацелася прыгарнуцца да матчыных грудзей ці нават упасці перад ёй на калені і заплакаць. Яна цяпер востра адчула, што жыве на свеце без маці, адна, і тое, як пастарэла. Рэгіна Віктараўна ці не ўпершыню так шчыра пашкадавала сябе, але не

праслязілася, не запрычытала, бо не такая яна была мяккая і сентыментальная натура, якімі бываюць многія жанчыны. «Упартая», — сказаў пра яе вартаўнік дзед Бушыла, які некалі ў дзяцінстве злавіў Рэгіну разам з двума хлапчукамі-аднагодкамі ў калгасным садзе і, хоць яблыкаў тых яна не рвала, прывёў дахаты, маці без шкадобы секанула крапівою і, трымаючы за руку, змушала прасіць выбачэння, але яна штомоцы трывала едкую пякучку, ад якой гарэлі-заходзіліся ногі, церабіла імі і зацята маўчала, толькі моцна скрывілася, пазірала няшчаснымі вачыма з вялікімі слязінамі-бобінамі, што, здавалася, застылі, акамянелі. Вымерла, перастала існаваць яе Арэхаўка, толькі застаўся пагост з магіламі бацькоў. Знік, нібы прывід, муж, які скруціўся праз каханне да маладзенькай медсястры і падаўся аж у Кіславодск, дзе да гэтага адпачываў у санаторыі, і больш яны так і не пабачыліся. Прамільгнуў час — і выгадавалася дачка, якая пасля заканчэння лінгвістычнага універсітэта з'ехала на працу ў замежжа. Як ні прасіла, ні стрымлівала, ні пераконвала Вераніку застацца, не спяшацца ехаць у чужую краіну, нічога не атрымалася. Да таго ж пасля сваркі ледзь паразумеліся, пачалі гаварыць перад самым ад'ездам.

Шчодра пасыпалася з дрэў жоўта-чырвоная лістота, дзьмулі халодныя вятры, і цэлую восень дажджыла. Штовечар сіратліва, без святла сустракалі вокны кватэры. З ад'ездам дачкі адчула, як раптоўна перастала спяшацца дахаты, пераключылася цалкам на працу. Адразу пагаджалася на замену ўрокаў, прагнула даручэнняў, добраахвотна прасілася быць адказнай за самыя розныя мерапрыемствы. Яна стварыла тэатральную студыю і наладзіла разам з гімназістамі камедыйны спектакль, пачала рыхтаваць з вучнямі выпускі школьнага літаратурнага альманаха «Рунь». Сухадольская не стрымлівала яе ініцыятыву, наадварот, вітала ўсе пачынанні, нават паставіла яе ў прыклад на педагагічнай радзе, маўляў, вось як апантана трэба працаваць. І ўсё ж Рэгіна Віктараўна не магла пазбавіцца адчування, што страціла нешта важнае, калі не галоўнае, у жыцці, хоць і пераконвала Вольга, яе суседка, што цяпер трэба падумаць урэшце пра сябе, паклапаціцца, каб уладкаваць уласны жаночы лёс. Яна, не знаходзячы ўцехі ў згадках пра мінулае, пераключылася ў думках на сваіх выхаванцаў, прыпомніла ў дэталях першую пастаноўку, віртуознае чытанне вершаў яе таленавітым вучнем Валікам Зяневічам, які падобны да Максіма Багдановіча і піша вершы ды п'ескі для іх драмгуртка. Але памяць, нібы галоўка прайгравальніка на заезджанай кружэлцы, рэзка вяртала на ранейшы круг, да ўчарашняга дня, да канфлікту паміж ёй і яе вучаніцай. Думкі-запытанні вярэдзілі, катавалі і труцілі душу: «Хіба яна вучыла Віялету нелюбові, пагардзе, агрэсіі? Чаму гэтая правакацыя здарылася ў яе класе? Чаму ёй выпала такое несправядлівае пакаранне і выпрабаванне, і яе, быццам тэрарысты, даймаюць Эльвіра і маці вучаніцы, каб яна зрабіла тое, што рабіць не мае ніякага маральнага права?» Пасля таго, як зноў накаўталася валяр'янкі з пустырнікам, Рэгіна Віктараўна прылегла на канапу, пракручвала ў чарговы раз гутарку з Сухадольскай, і гэтыя згадкі не давалі ёй спакою, яна ніяк не магла прымусіць сябе не думаць пра тое, што адбылося, часта варочалася, аж покуль не пачало днець, бо ў галаве панаваў сумбур, нейкі несусветны хаос.

Эльвіру Генрыхаўну спальваў гнеў, ёй карцела адразу ж звольніць з працы гэтую непрыступную Рэгіну, выкінуць з гімназіі, каб яна тут больш не замінала, каб назаўсёды сышла з вачэй і зляцела з памяці. Яе страшэнна абурала, што настаўніца, якая абавязана быць удзячнай, ісці на-

сустрач да згоды, паразумення, не паддаецца на ўгаворы, довады-перакананні, здавалася нават, што тая наўмыснаператварыла сутычку з вучаніцай у немаведама што, плаціць ёй чорнай няўдзячнасцю. Каму патрэбен гэты шум-гам, навошта правіць сваё, даводзячы, што вучаніца зрабіла ганебны ўчынак? Застаецца хіба экзекуцыю ўчыніць над Віялетай, прымусіць яе крукам гнуцца, каяцца і прасіць даравання. Можа, ёй проста не падабаецца гэтая наіўная і экзальтаваная Рэгіна Віктараўна, якая звяртаецца да класа: «Увага! Паслухайце, калі ласка…», «Падзівіцеся, сябры…», «Як хараша!..», «Як прыгожа!..», «Як цудоўна!..» А калі Віялета сапраўды так думае, так лічыць, дык за гэтае іншадумства трэба пакараць, збэсціць і абняславіць дзяўчыну на ўвесь свет? Хай сваю прынцыповасць Верас дома пакіне ці пры сабе моўчкі носіць, а то выводзіць з сябе, гатова духі дастаць. Сама ў адзіноце, як шчэпка, сохне, дык і іншых трэба спакою пазбавіць, стварыць перашкоды, дарогу заступаць гэтай правакатарцы па натуры, ганарліўцы Віялеце. Такая яна ёсць — і нічога не паробіш, трэба мірыцца. Летась гэтая не па гадах паўнагрудая і з асінай таліяй Віялета, падобная да супергёрл з вокладкі якога-небудзь глянцавага эратычнага выдання, праславілася так, што давялося выклікаць бацькоў. Дарэчы, так Эльвіра Генрыхаўна і пазнаёмілася з сімпатычным бізнесоўцам Маратам Сычэўнікам, які наведаўся, каб уладзіць скандал. Віялета з сяброўкамі, такімі ж авантурысткамі, як сама, падняла гармідар на ўсю гімназію, гуд стаяў, што ў развярэджанай пчалінай калодзе: настаўнікі мітусіліся, а вучні навыперадкі ляцелі да стэнда з газетай «За свабоднае каханне», аздобленай інтымнымі фотаздымкамі. Ну, не ведалі яны некалі ў савецкі час, што такое секс, дык Віялета і вырашыла пацвяліць гэтых закамплексаваных клюшак. Эльвіры напалову меней гадоў, чым Рэгіне Віктараўне, яна больш разумее новае пакаленне, бо гадавалася ў той час, калі прыйшла вольніца з выданнямі тыпу «Двое», «Эрас», «Плейбой». Эльвіра Генрыхаўна пасля гутаркі з бацькам Віялеты, які быў дужа галантны, прынёс пакет з вялікай каробкай цукерак і адмысловым невялічкім канверцікам, дзе ляжалі магічныя зялёныя паперкі, хутка суняла абурэнне настаўніцы хіміі Марыі Хрысціціч ці, як яе называюць вучні, Мамы Хрысці, наконт таго, што тут, дзякаваць Богу, яшчэ пакуль што не публічны дом, а гімназія, перабіла яе пафаснае выступленне, сказала загадным тонам: «Адкінем святатацтва, калегі! На дварэ — новы час. Гэтае пакаленне трэба разумець, а не бяздумна бэсціць. Так у нас нічога не атрымаецца. Праз месяц мы праводзім конкурс «Міс Гімназія». Адказная — Віялета Сычэўнік». Віялета крыху раздражняла Эльвіру Генрыхаўну сваёй занослівасцю, свавольствам, такімі фрывольнымі паводзінамі, але штосьці ў ёй і падабалася: яна можа быць сама сабой, ёй не трэба падладжвацца пад кагосьці і рабіць рэверансы, нават ёй, дырэктару гімназіі. І вось, калі ласка, зноў гэтая юная асоба пайшла на правакацыю-канфлікт, хоць да заканчэння навучальнага года засталося нейкіх два тыдні. На халеру было выпускнікам задаваць гэтую пісаніну на тэму «Маё стаўленне да беларускай класікі»? Перабірае яна, Рэгіна-летуценніца, з сачыненнямі, быццам хоча, каб усе былі пісьменнікамі. Эльвіра згадала, як неяк пасля педагагічнай рады, п'ючы гарбату, настаўніца беларускай мовы і літаратуры захоплена гаварыла пра сваю невялічкую вёску, пра тое, як хадзіла ў арэхі, грыбы, ягады. «Божа, і каму гэта цікава! Адна патрыярхальшчына. Экзатычны Верас з Арэхаўкі», — грэбліва падумала дырэктарка пра Рэгіну Віктараўну. Яна, ідучы ў нагу з часам, ведала, што педагогіка супрацоўніцтва — гэта дыялог

на роўных, і настаўнік павінен шукаць, як кажуць, кансенсусу з вучнем у складанай сітуацыі, хай нават сабе і такой нестандартнай, як у выпадку з сачыненнем Віялеты. Эльвіру Генрыхаўну ўскручвала злосць: «Які яна педагог, калі не можа знайсці паразуменне, паспрабаваць сябе паставіць на месца маладых?! У іх — новае мысленне, еўрапейскі менталітэт. Хіба тое, што яна напісала, гэта выклік класікам? Гэта ўсяго нявінная эпатажная выхадка. Прыйдзе калі-небудзь дзень — і тая сама пасмяецца з сябе былой, дурной і нераздумлівай».

Марат Сычэўнік на гэты раз прынёс шыкоўныя белыя калы і два канверцікі з прапановай: «Якая клопатная праца ў вас, Эльвіра Генрыхаўна. Прытаміліся, напэўна, хоць імпэту вам не пазычаць. Хацелася б, каб вы адпачылі ля мора, пажылі хоць крышку бесклапотна. Такая жанчына, як вы, не павінна марнавацца толькі ў гэтых сценах». Пасля апошніх слоў дырэктарцы гімназіі зрабілася няёмка, пра што дала знаць лёгкая пунсовасць на твары. «Можа, ён ведае пра мой раман?» — прамільгнула пытанне. Але, пагаварыўшы з ім паўгадзіны, зразумела, што Марат Сычэўнік проста робіць шырокі жэст — падрыхтаваў дзве турыстычныя пуцёўкі на Кіпр. Эльвіра Генрыхаўна паабяцала, што настаўніца зробіць тое, што яна скажа, а калі тая будзе ўпарціцца, то дабром гэта для яе не скончыцца.

— Не хвалюйцеся, Марат Казіміравіч, — даводзіла-супакойвала Сухадольская. — Вырашым гэтую праблемку праз дзень-другі. Усё пад кантролем. Гэтая праўдалюбка Верас ад мяне залежыць, нікуды не дзенецца: я падала яе кандыдатуру на выдатніка адукацыі. Так што не пасмее больш бунтаваць, няма ёй сэнсу псаваць са мной адносіны. Яна яшчэ не манумент, каб мы яе не зрушылі. Хай і Ірэна Адамаўна — перадавайце ёй прывітанне — больш не тэлефануе, усё ўладкуецца. Віялетачку папрасіце, каб надалей маўчала і нічога не гаварыла гэтаму кусту дробналістаму.

Чарговая гутарка дырэктаркі гімназіі з настаўніцай беларускай мовы і літаратуры яшчэ больш абвастрыла і без таго складаную сітуацыю, бо Сухадольская гаварыла па-начальніцку строга, патрабавала выканаць яе загад і паставіць высокую адзнаку, а Рэгіна Віктараўна не збіралася высекчы сябе, як унтэр-афіцэрская ўдава, і стаяла неадступна на сваім: Віялета Сычэўнік павінна перапісаць работу. Тады Эльвіра Генрыхаўна сабрала педагагічную раду, на пачатку якой папярэдзіла, што сказанае ёй трэба прыняць да ведама і ўсё гэта не для абмеркавання, а затым голас яе загучаў, як раскалыханы звон, яна пагрозліва сыпала пытаннямі: «Дзе яшчэ можа быць такая вольніца, як не ў нашай гімназіі? Я пытаюся: дзе? Чым трэба кіравацца, каб ігнараваць загады, не падпарадкоўвацца? Хтосьці, відаць, мяркуе, што дырэктар — гэта пустое месца? Ці, можа, мяне тут дзеля мэблі пасадзілі? Зрэшты, чаму настаўнік павінен лічыць сябе пупом зямлі і ставіць сябе вышэй за вучня і нават дырэктара? Хіба трэба ўзвінчваць незразумела дзеля чаго свой гонар? Ці вы думаеце, што ўзвелічэнне ўласнага ego дадасць вам значнасці? Каму патрэбна нейкая пазіцыя, калі не ўлічваецца асоба вучня, яго асаблівасці? А можа, нам патрэбна вайна з дзецьмі і іх бацькамі? Дык навошта ўскладняць сабе жыццё? Няўжо цяжка пайсці насустрач? Навошта, шаноўныя, абурацца, прынцыповасць паказваць, калі вы самі просіце ад выхаванцаў адкрытасці, шчырасці? Ці, мабыць, спадзяваліся, што яны, быццам камп'ютэры, выдадуць вам аднолькавую інфармацыю? Хочаце кожнага прычасаць адным грэбнем? Што лепей: пісаць па шаблоне ці самастойна думаць? Чаму вы пазбаўляеце вучня права на памылку? Ці мы гэткія правільныя і бездакор-

ныя, што свет не бачыў? Відаць, усё прасцей: хіба мы з вамі здольныя адчуць маладую бунтоўнасць крыві? Калі ж кожны з вас схамянецца і пераглядзіць адносіны да свету, звыклага стану рэчаў? Няўжо і далей будзеце жыць і працаваць па інерцыі, камплексаваць, наракаць на вучняў і не прымаць «супер», «клёва», «класна», «мадэрн» і «пост»? Не хочаце запрашаць да дыялога, дыскутаваць, уплываць і пераконваць? Дык, можа, тады варта асобным з вас падумаць пра змену прафесіі, пашукаць іншае месца працы?! Ці не так? Урэшце, чаму мы не хочам зразумець, што ў нас — элітная ўстанова еўрапейскага ўзроўню?»

Лавіна пытанняў абрынулася на настаўніцкія галовы, хоць кожны з прысутных на радзе ведаў адказ на пытанне «Хто вінаваты?» і разумеў, на каго пасыпаўся гэты слоўны каменяпад. Рэгіна Віктараўна, счырванелая і прыбітая гнеўнай тырадай, сядзела воддаль ад дырэктаркі, якая ўчэпістым сярдзітым позіркам, нібы лазерам, імкнулася працяць і выпаліць нутро гэтай упартай і неўтаймоўнай настаўніцы-максімалісткі. Сухадольская поўнасцю расчаравалася ў ёй, бо, відаць, трэба было здарыцца таму, што здарылася, каб убачыць сапраўдную Рэгіну Верас, якая яна непрадказальная, зацятая, незгаворлівая. Стала загародай на шляху — ні пераскочыць, ні аб'ехаць. Вядома, людзі такога тыпу заўсёды нязручныя, і таму дырэктарцы нічога не заставалася, як словамі-маланкамі жагнаць і грукатаць, каб дамагчыся свайго. Каб змусіць настаўніцу саступіць — Эльвіра Генрыхаўна пайшла на прылюдны ўрок-суд, што зневажала годнасць Рэгіны Віктараўны, і тая не стрывала, выказала абурэнне:

— Эльвіра Генрыхаўна! Выбачайце, але лёстачкамі слаць не выпадае. Мы ў першую чаргу калегі, робім адну справу, у нас адна на ўсіх гімназія, адны вучні. Прашу вас, не трэба ўсіх агулам няславіць, пэцкаць, без разбору жвірам сыпаць на нас. Вы, скажам, маеце прэтэнзіі асабіста да мяне — дык і скажыце шчыра, каб усе ведалі: гэта Рэгіна Верас — ганьба нашай гімназіі, апошняя нягодніца, бо не слухае вас. Ведайце, Эльвіра Генрыхаўна, я не нейкая там чалавеканенавісніца, як вы хацелі б мяне тут падаць, і не збіраюся без дай прычыны гвалтам труціць ці цкаваць таленавітую асобу. Некалькі разоў я прасіла, угаворвала Віялету забраць і схаваць свой опус у доўгую шуфлядку. Прапанову напісаць сачыненне на іншую тэму яна адхіліла, запярэчыла: «У працы няма грубых граматычных памылак — і вы павінны паставіць тое, што я заслужыла». Што я павінна паставіць за гэтую пісьмовую работу? Што? Не магу я папусціцца, не магу я гэта ацэньваць — і ўсё. Прабачце, але я не прымаю пазіцыю: хоць гвалт крычы, а мусіш. Ці я вам дзяўчынка для біцця?

— Дзяўчынка для біцця? — ухапіўшыся за апошнія словы настаўніцы, перапытала Сухадольская і, пагардліва скрывіўшы маленькія вусны, нервова застукала па стале кончыкамі пальцаў левай рукі. Не чакаючы адказу, абурана і з дакорам сказала: — Вы толькі паслухайце, што гаворыць наша без пяці хвілін выдатніца адукацыі. Віною ўсяму вы самі, не хочаце спакойна працаваць, а робіце з мяне немаведама каго — тыранку, якая гвалтуе вашы перакананні. Ведаеце, я не хачу больш трываць ваш эгаізм! Прашу, калегі, падтрымаць мяне. Пытанне стаўлю на галасаванне. Хто за тое, каб асудзіць гэты пафас?

— Мо абыдземся без солі і перцу? — ледзь чутна не то сказаў, не то запытаў немаведама ў каго фізрук Кляпчэня, але калі дырэктарка гімназіі перавяла на яго спапяляльна-знішчальны позірк, той нібы пачаў апраўдвацца: — А чаму і не прагаласаваць? У нас жа дэмакратыя.

Сухадольская ўладна кінула:

— Падымаем рукі, калегі!

І прагаласавалі, і тым самым асудзілі.

На гэтым дырэктарка гімназіі не спынілася, бо ведала, што калі не даб'ецца свайго, то ламаны грош — цана ёй у базарны дзень. Эльвіра Генрыхаўна прагнула помсты і расправы з няўгоднай настаўніцай. Адразу пасля педагагічнай рады яна зачынілася ў кабінеце і набрала нумар тэлефона загадчыка рана:

— Алег Кімавіч! Добры дзень вам! Гэта Эла.

— Слухаю вас, Эльвіра Генрыхаўна. Як жыццё-быццё маладое?

— Адно што маладое, Алег Кімавіч. Узнікла невялічкая праблемка. Але перш пра прыемнае. Алег Кімавіч, ёсць дзве турпуцёўкі на Кіпр. Можа, кінем усё і махнём у канцы ліпеня? Два тыдні адпачынку: вы, я і мора. О, як хацелася б усё кінуць-рынуць і сігануць туды, дзе ў блакітнай лагуне ціхія хвалі пяшчотна і лагодна кратаюць, нібы языком, бераг?

— Элачка, перастань, калі ласка. А то зараз усё і сапраўды кіну-рыну — і прынясуся да цябе. Працы багата на сёння і заўтра, а там і субота, то, спадзяюся, зноў пабачымся. От тады і пра кіпрыёцкі ваяж пагаворым. Не цягні, кажы, якая там праблема ў цябе.

— Алег Кімавіч! Памятаеце, на мінулым тыдні мы падалі Верас, нашу настаўніцу, на выдатніка. Паклапаціцеся, каб дакументы адхілілі. Ведаеце, паспяшалася я, чалавека як след не вывучыла. Ашукалася, словам. За гэты тыдзень усю кроў мне папсавала, сон адабрала. Яна ж адна, як вярба ў полі, вось і хацелася па-чалавечы падтрымаць, узвысіць, вярнуць чалавеку неба. Гэты тыдзень мяне змусіла на каленях поўзаць. Не заслугоўвае яна быць выдатнікам ні на гэтае лета, ні пасля.

— Значыць, даймае, дапякае? Не пазнаю цябе, ты ж умееш гаварыць крута. А мо трэба падлагодзіцца, калі трэба? Яна ж вядомая настаўніца, чуў, што з характарам. Але ж не ведаю, што там у вас за канфлікт, ды і не цікавіць мяне гэта. Можа, мітынгуе, на ражон лезе, то рабі, як ведаеш. Патлумач ёй, што такое педагагічная супольнасць.

— Каб жа не гаварыла і не тлумачыла. Яна ж не ўчарашняя выпускніца філфака. Можна сказаць, жыццё пражыла.

— І ўсё ж, Эла, што ўяўляе сабой гэтая Верас?

— Скажу, Алежка, як на духу: мы з табой людзі новай генерацыі, ці, як цяпер кажуць, прасунутыя, еўрапейскай культуры, а Верас — тыповы «савок», для якога ідэі і прынцыпы — галоўнае.

— Ладна, што тут гаманіць. Я сам не люблю антаганістаў. Калі лічыш, што не заслугоўвае, — так і будзе. Як казаў мой дзед, дуды вобзем — і ўся музыка.

Ох, як быў патрэбны Эльвіры Сухадольскай гэты званок! Яна цудоўна ведала, што значыць заручыцца падтрымкай высокага начальства. Па сутнасці, яна атрымала дазвол на меры хуткага рэагавання. Цяпер яна ведала, што расправіцца з бунтоўнай настаўніцай з вялікім задавальненнем, без лішніх рэверансаў, з чыноўніцкім майстэрствам, якому яе вучыў бацька, былы парторг завода: «Злачынна разводзіць у калектыве самадзейнасць». Раіў-настаўляў тады, калі дачку, пераможцу раённага конкурсу «Настаўнік года», прызначылі дырэктарам гімназіі. Зрэшты, атрымала яна гэту пасаду, бо запала ў вока загадчыку рана Алегу Кімавічу Кандыбовічу, які запрасіў яе на вячэру ў невялічкую кавярню з мексіканскай кухняй. Экзотыка ў выглядзе адмысловых страў і імпэтна-рытмічнай музыкі зрабіла

на Эльвіру цудадзейны ўплыў — ёй раптоўна захацелася жыць інакш, яна адчула, што мае шанец паўплываць на свой далейшы лёс, бо на мужа, які трэці год пісаў дысертацыю і працаваў у НДІ фізічных праблем «мэнээсам», вялікіх спадзяванняў не мела. Хутка яе прызначылі завучам, ад чаго яна была на сёмым небе. Для яе пачаўся іншы рытм жыцця, па калідорах школы яна, быццам белая шустрая козачка, энергічна стукацела абцасамі і бегала то туды, то сюды. Кожная новая сяброўская сустрэча з Алегам Кімавічам набліжала яе ў жаданай кар'еры да новай прыступкі.

Рэгіна Віктараўна, пацямнелая з твару і ў кепскім самаадчуванні, у шматлюднай плыні на праспекце, асвечаным зыркімі агнямі, дайшла да свайго пяціпавярховіка. Здавалася, яна трапіла ў рукі нейкай бяздумнай сілы, якая нялітасна кінула яе ў скрутны вір. Яна, скрыўджаная, прыгнечаная, стомленая, але жывая, вымкнула з бруду на паверхню, і каламутная рака панесла яе ў невядомасць. Магчыма, усё, што з ёй робіцца, адбываецца ў нейкім пакутліва-цяжкім сне. Рэгіна Віктараўна не магла даць веры, што настаўнікі-калегі, як па ўзмаху дырыжорскай палачкі, паднялі рукі і тым самым выказалі да яе сваё стаўленне. Уваччу стаяў рукасты лес. Так у савецкі час навыперадкі ўскідвалі рукі на партыйных форумах. Што гэта: дэманстрацыя статкавага інстынкту, калі адсутнічае свая думка, прыстасавальніцтва ці звычайнае шкурніцтва? Няўжо людзі не памяняліся і страх кіруе імі? Рэгіна Віктараўна ведала, што ў калектыве да яе адносяцца па-рознаму. Сёй-той зайздросціў, што яна шмат паспявае і робіць, нават піша і выдае кніжкі. Думалася, хтосьці шчыра радуецца яе поспехам, аддае ёй належнае і гатовы, калі трэба, прыйсці на дапамогу. Але было і іншае: абмывалі языкамі, плялі і прыдумлялі, што толькі льга. Пра яе вялікі на пяцьсот старонак дапаможнік для абітурыентаў мілая з выгляду, але сіпатая праз хваробу бронхаў настаўніца гісторыі Людміла Хадорына за вочы сказала: «Хіба дзеля ганарару і я б такую напісала. Я гэткіх кніжак за ноч дзесятак напішу». Перадаў ёй гэтую ацэнку-атэстацыю фізрук Кляпчэня — і кальнулі слоўцы, паранілі. А як абыякава і холадна пачалі з ёй вітацца настаўнікі, калі аж чацвёра (сапраўдны рэкорд!) вучняў Рэгіны Віктараўны сталі пераможцамі і прызёрамі рэспубліканскай алімпіяды. Не, ніколі не чакала яна, нават падумаць не магла, што калегі, унікаючы сутнасці канфлікту, адзінагалосна прагаласуюць. Атрымоўваецца, калектыў ёй выказаў сваё «фе». Усе разышліся-разбегліся, як мышы па норах. «Дык як можна верыць у людзей? Наіўная гуманістка...» — хапаючыся за парэнчу лесвіцы, дакарала сябе. Уздрыгваючы плячыма ад плачу, Рэгіна Віктараўна ўвайшла ў кватэру. Наляцеў на яе жыццёвы віхор, закруціў і пабіў так, што жанчыне не хацелася жыць. Узнікла адно-адзінае жаданне — адгарадзіцца ад гэтага свету глухімі тоўстымі сценамі, нікога не чуць і не бачыць. Заціліньказаў, нібы пацвельваючыся, тэлефон. «Не буду ні з кім гаварыць, — загадала ў думках Рэгіна Віктараўна, але хтосьці там, усярэдзіне, запярэчыў: — А што, калі гэтая любая Веранічка маму хоча пачуць?» Падышла, зняла слухаўку — званіў радасна-вясёлы, нават, як падалося, пераўзбуджаны (ці не ўзяў чарку?!) Міхась Кляпчэня:

— Слухай, Рэгіна. Я пад вечар махнуў да лесу. У тралейбусе ад дачніц пачуў, што вясновыя апенькі сыпанулі. Мо не паверыш, але восенню гэтулькі грыбоў не было. Хоць касою касі. Два мяхі прывёз, марынаваць, закатваць буду. Са...

Жанчына бразнула слухаўку, ёй карцела крыкнуць: «Не сакачы, як курыца!» Нешта слізкае, бабскае, агіднае адчулася ёй у гэтым чалавеку,

з якім столькі разоў гаварыла па тэлефоне пра ўсё на свеце. Яна ўзяла з часопіснага століка партрэт дачкі ў залацістай рамачцы і, нібы іконку, прыціснула да грудзей; падалося, на яе дыхнула чымсьці прыемным і водарным, да горла падкаціўся камяк, і жанчына зайшлася, нібы падстрэленая істота на паляванні, пранізлівым енкам...

Сухадольская хвілін з дзесяць пастаяла на прыступках, але так і не пабачыла настаўніцу беларускай мовы і літаратуры. Падумала, што, мусіць не заўважыла яе ці неяк размінуліся. Пайшла ў клас, дзе павінен быў пачацца першы ўрок. Гімназісты дружна падхапіліся — і дырэктарка павіталася, папрасіла вучняў сесці. На нейкую хвілінку запанавала магільная цішыня.

— Дзеці, Рэгіна Віктараўна, напэўна, спазняецца. Перадайце, калі аб'явіцца, каб яна пасля ўрока была ў маім кабінеце.

Злосць і гнеў распіралі грудзі: «Спазняцца праўдалюбка надумалася. Што хачу, тое і раблю. Не, так не будзе. Задам я табе дыхту. Заўтра ж допіс загадчыку аддзела адукацыі на стол ляжа». Дырэктарка гімназіі ў той дзень не дачакалася Рэгіны Віктараўны. Сухадольская прагнула як мага хутчэй зрабіць ёй «ласку» — тэрмінова выправіць на двухтыднёвыя курсы ў інстытут павышэння кваліфікацыі. Яна правяла кансультацыі, узгадненні і хутка дамовілася, каб далоў з вачэй прыбраць гэтую антаганістку. Абрыдзела чакаць, думаць-здагадвацца, дзе тая падзелася, і спахмурнелая Сухадольская, адыходзячы з кабінета, самазадаволена падумала: «Баба з воза — каню лягчэй». Калі Рэгіна Віктараўна не з'явілася зранку ў гімназіі і на трэці дзень, дырэктарка, прадчуваючы нядобрае, захвалявалася, затоеная радасць на момант кудысьці знікла...

## Трансмутацыя

Норкін хуценька высунуў нос з кафедры, калі пачуў на калідоры дзікі лямант. Усім вядомы прафесар з ускудлачанымі сівымі валасамі і ў расхрыстаным выцвілым паліто наляцеў, нібы страшная бура, на беднага аспіранта Малашку і крычаў, размахваючы каля яго шыі рукамі, нібы доўгімі вяроўчынамі. Здавалася, той вось-вось пачне душыць сутулага і ніцавокага аспіранта першага года навучання, як дастапомны Атэла няшчасную Дэздэмону.

Няцяжка ўявіць, што бывае, калі машыну на галалёдзе закруціла і не спрацоўваюць тармазы. А што тады казаць пра чалавека, калі ў ягонае нутро ўскочыў нехта рагаценькі і паскудны — пэўна ж, здагадаліся, хто — вось тады і бяда ўсім добрым людзям. Гэтага вучонага-небараку, паверце, пашкадаваць трэба, бо ўсе мы пад Богам і ніхто не ведае, што кожнага з нас чакае на схіле жыццёвага веку. Маладыя да таго ж, ведама, следам едуць.

Хто ж той вучоны, з якім пачалося дзіўнае: не то ператварэнне, не то мутацыя? Ад самых народзінаў і па пашпарце ён — Копаць. Мянушкай «Шалевіч» яго ўзнагародзіў колкі «вожык» — калега-язва з суседняй універсітэцкай кафедры, і даў пасля таго, як з прафесарам Копацем пачало рабіцца абы-што — розум за розум пачаў заскокваць.

Дацэнт Норкін, які цікаваў, чым жа скончыцца выхаваўчы момант для маладзенькага аспіранта, заўсёды апынаўся там, дзе трэба і калі трэба, каб пра тое, што здарылася, ведалі ўсе кабеты факультэта. У чым правіна Ма-

лашкі, яму стала зразумела як двойчы два. Ды гаворка не пра праныру і пляткара Норкіна, а пра Копаця і як ён стаў Шалевічам. Копаць распякаў, шкварыў на патэльні гневу зялёнага аспіранціка:

— Малады чалавек! Вось што я вам скажу. Скулле гэтаму гіпапатаму. Хай дзеткі ягоныя падарункі робяць. Нават як лэне, то і на вянок не прасіце. Хай таўстамордыя сыны хаваюць…

Раз'юшаны беларускі прафесар Копаць падняў рэў, нібы ашалелы афрыканскі слон, і здавалася, што не ўтаймуецца, будзе да ранку грукатаць гэты жывы пярун, а не чалавек. Усе на кафедры, апроч новага флегматычнага аспіранта, за якім яшчэ нават і навуковага кіраўніка не замацавалі, ведалі: Копаць быў сквапны больш за бальзакаўскага Габсека. Што тычыць грошай, то з любой нагоды і якая б на тое ні была важкая прычына — лепей не прасі і нават не заікайся, бо ліха нявыпечанага пакаштуеш. Норкін адразу скеміў, каго Копаць называе гіпапатамам і хто мае таўстамордых сыноў, чаму прафесар з суседняй кафедры, нагадваючы старога разбойніка, накінуўся на аспіранта-першагодка, які знерухомеў і з утрапеннем сачыў за ліхаманкавымі рухамі перад вачыма. Блізіўся юбілей прафесара Імпяровіча, вядомага даследчыка даўняй гісторыі, і новаму аспіранту Малашку загадчык кафедры даручыў сабраць грошы на падарунак патрыярху навукі. Каб той ведаў пра варажнечу гэтых салідных вучоных, тое, што яны на дых адзін аднаго не пераносяць, то лепш заклаў бы грошы за скнару Копаця. Аспірант паважліва ставіўся да гэтых свяціл навукі, бо не так даўно слухаў лекцыі абодвух. Аднак яму і няўцям было, што паміж вучонымі такога маштабу прабегла чорная кошка, якая пасварыла іх на ўсё жыццё. Учарашні апантаны студэнт Малашка, які не адзін год таемна марыў назаўсёды застацца ў храме навукі, а цяпер шчаслівчык, які падняўся на першую прыступку навуковай кар'еры, з адказнасцю паставіўся да свайго першага даручэння — перапісаў у дыспетчараў расклад заняткаў кафедральцаў і назаўтра ж распачаў збор грошай. Дацэнт Аліцыя Павядайка здала грашовую суму большую ўдвая, чым трэба. Акрылены такім удалым пачаткам, Малашка, як на тое ліха, наткнуўся ў цёмна-шэрым калідоры на «зубра» айчыннай навукі і з радасцю паведаміў, што збірае грошы на падарунак прафесару Імпяровічу, быццам меў спадзеўку: Копаць яго за гэта пахваліць. Той моўчкі выслухаў, акінуў невысокага і прышчаватага аспіранціка цікаўным позіркам, маўляў, скуль гэткі дзіўны выкапень знайшоўся, пагардліва зіркнуў з-пад ілба і пасунуўся сабе, як нічога-ніякага, далей. Але як толькі крыху прашлыгаў, нібы апамятаўся і ўзвіўся, што баявы сіва-белы конь, кінуўся наўздагон зборшчыку грошай і закаціў несусветны тарарам. Глухаваты, ужо немаладога веку дацэнт Норкін аж падскочыў, калі пачуў, як пры самай кафедры бушуе і рыкае стары «зубр». Норкіну, які стаў сведкам сцэны неўтаймоўнага прафесарскага гневу, падалося, што Копаць звіхнуўся, сышоў, як кажуць, з катушак — і зараз возьме ды прыб'е няшчаснага аспіранта Малашку. Але Бог уратаваў маладую змену навукі ў асобе пакуль што сціплага аспіранта паважнай навучальнай установы, бо ўсё ж такі вярнуў на той момант розум сівалобаму прафесару.

Спектакль пад назвай «Хлопчык Малышак набіў шышак» у інтэрпрэтацыі Норкіна пачаў хадзіць па факультэце. Распавядач не шкадаваў перцу, каб у задымленых кабінетах стаяў рогат. Нават новая, даволі пекная вахцёрка бальзакаўскага веку, прагна выслухаўшы навіну, як Копаць напярэдадні юбілею Імпяровіча хацеў прынесці ў ахвяру агнца Малашку, расплылася прывабнай ялейнаю ўсмешкаю і папрасіла Норкіна часцей заходзіць

да яе ў будку-кабінку і гутарыць, бо, па словах гэтай дужа сімпатычнай жанчынкі, ён вясёлы і жыццярадасны чалавек, а яе муж інакшы — маўчун і гэткі сухар, што свет не бачыў. Гаворачы ў чарговы раз пра тое, як расхадзіўся Здзіслаў Копаць, дацэнт Норкін з кафедры гісторыі Старажытнай Грэцыі і Рыма дайшоў да экстазу і з языка гэтага балбатуна і прыдумляльшчыка зляцела — Імперыяфоб Шалевіч (гэтай мянушкай як бы вытлумачвалася варожае стаўленне да Імпяровіча). Копаць, на бяду, сапраўды ператвараўся ў прафесара-шаленца, і, магчыма, трэба было нешта рабіць, але ён карыстаўся тым, што дачка яго намеснік дэкана, і тым, пра што добра ведаў кожны: такіх прафесараў, як ён, выносяць з факультэта толькі ўперад нагамі. Зневажальныя мянушкі пайшлі гуляць па факультэце на розны капыл — Маразм Шалевіч, Здыхлік Неўміручы, Копаць Вэнджаны.

Калісьці ён быў неблагім лектарам, а цяпер Копаць-Шалевіч працаваў быццам па інерцыі, капціў-дыміўся, нібы галавешка: здаецца, хадзіў колькі разоў на тыдзень ва універсітэт і штосьці чытаў студэнтам па жоўтых паперах, а найчасцей прыносіў з сабой у аўдыторыю кнігі з аўтографамі славутых акадэмікаў і прафесараў, розных заслужаных дзеячаў, лаўрэатаў высокіх прэмій, народных пісьменнікаў і іншых знакамітасцяў і зачытваў тыя надпісы: «Выдатнаму...», «Найлепшаму...», «Цудоўнаму...», «Непараўнальна-геніяльнаму...». Ён, мабыць, і сам шчыра пагаджаўся з тымі азначэннямі, бо апошнюю кніжку гістарычных нарысаў назваў гучна, нават прэтэнцыёзна — «Святая служба праўдзе». Калісьці Копаць быў верным ленінцам, пісаў, што беларуская дзяржаўнасць пачалася толькі пасля 1917 года. Цяпер яму нібы памяць адняло — і ён ледзь не на кожнай лекцыі гаварыў адваротнае, асуджаў і ганьбіў іншых за міфатворчасць, схаластыку, абмежаванасць. Можна было падумаць, што толькі Копаць абсалютна ўсё ведаў пра даўнюю гісторыю краіны і быў тым надзіва рэдкім празорцам, які апярэджваў свой час. Асабліва даставалася тым навукоўцам, хто ўжо даўно пайшоў з жыцця і каму, у адрозненне ад яго, не пашчасціла прычакаць гарбачоўскай перабудовы. Зразумела, мёртвыя ўсё стрываюць, не змогуць падаць голас, каб апраўдацца, не будуць абурацца і нават не пачырванеюць. Гэтым Копаць і карыстаўся, каб паказаць у моладзевай аўдыторыі сваю значнасць і веліч.

Здавалася б, яму раўні няма, а тут на дзяржпрэмію вылучылі не яго, а Імпяровіча. Вестка пра тое, што Імпяровічавы вучні ці вырадкі, як іх называў Копаць, наважыліся зрабіць свайго настаўніка, а яго даўняга ворага, намінантам прэміі, выклікала ў таго выбух шалёнай злосці. Абурэнне яго не ведала межаў, ён не знаходзіў сабе месца. Копаць наладзіў баталіі, якія перараслі ў вайну па ўсіх магчымых франтах. Ён дзёр горла на кафедры, гвалт стаяў і на факультэцкай вучонай радзе, дзе падключылася Копацева дачка і К$^{о}$, а вядомая газета аператыўна надрукавала рэцэнзію на дапрацаванае і пашыранае выданне манаграфіі Імпяровіча, у якой кандыдат навук Дзягцярык, вучань Копаця, квэцаў дзёгцем гістарычнае даследаванне старэйшага вучонага краіны, назваў яго «падшаляванай гнілой будынінай». На гэтым цкаванне не спынілася.

Кватэра Копацевай дачкі Ларысы Буйскай ператварылася ў антыімпяровічаўскі штаб. Сюды цягнуліся ўсе ніці і нітачкі інтрыгі, тут акумулявалася патрэбная інфармацыя ў выглядзе тэлефонных званкоў, звестак з дэканата, розных чутак. Перш чым трапіць дахаты, Копаць спяшаўся на даччыну кватэру, і разам яны вымяркоўвалі, што і як будуць рабіць далей. Буйская мела неблагія арганізацыйныя здольнасці і сякі-такі досвед

адміністрацыйна-кіраўнічай працы, а галоўнае, за многія гады на розных пасадах навучылася па-майстэрску ладзіць сіло для ахвяры. Ларыса Здзіслаўна ніколькі не хвалявалася і на гэты раз, яна ведала, як дасягнуць поспеху. Не толькі інтуітыўна адчувала, але і разумела ўсю складанасць справы, бо цвяроза ацэньвала сітуацыю, была прагматыкам. Буйская ведала, што стварыць негатыўны імідж вучонаму такога калібру, як Імпяровіч, можна было толькі ў цесным звязе з уплывовымі людзьмі і калегамі-гісторыкамі, якія маюць імя і з'яўляюцца яго асабістымі ворагамі ці нядобразычліўцамі. Такіх набралася небагата, але, апрача самога Копаця, да каліцыі далучыліся тры кандыдаты навук і адзін заслужаны дзеяч. Кампанія па сваім складзе, папраўдзе, сабралася дробненькая. Штаб-кватэру наведвалі пераважна выкладчыкі, якія з намеснікам дэкана Буйскай штогод шчыравалі ў прыёмнай камісіі, а супольнае «жніво» згуртавала іх. Гэтыя птушкі невысокага палёту зляталіся, нібы ведзьмы на шабаш, іх не палохала, што трэба задзяўбці старога, але яшчэ жывога чалавека, сапраўднага вучонага, прыкутага да ложка гнюснай рэцэнзіяй. Пад агульным кіраўніцтвам прафесара Копаця пісаліся і рэдагаваліся лісты, звароты, рыхтаваліся экспертныя заключэнні. Раз за разам варылася кава, хуценька апустошваліся пачкі цыгарэт.

Ларыса Здзіслаўна дапамагала бацьку як магла: знаходзіла да кожнага з патрэбных людзей падыход, збірала подпісы і паперы, каардынавала дзеянні. Каторы дзень яна, ускручаная і заведзеная бацькавым гневам, неслася па факультэцкім калідоры, як тайфун, нікога і нічога не бачыла перад сабой. Здавалася, Буйская імкнулася як найхутчэй дасягнуць мэты, бегла ў вастраносых туфлях-лодках туды, дзе таемна абгаворваліся дэталі спланаванай акцыі і закручваліся тугія вузлы канфлікту. Антыімпяровічаўская каманда працавала, як кажуць, на вынік.

Копацева дачка ўжо з дзяцінства была запраграмавана, нібы зомбі, на змаганне з вечным апанентам свайго бацькі. Яна з дня ў дзень слухала, як бацька бэсціць Імперчыка, ганьбіць яго працы. З паганага языка не сыходзілі лаянка і праклёны. Калі Копацева дачушка захварэла і на дом выклікі доктара, то здарыўся канфуз — і прафесарская жонка не ведала, дзе падзець сябе ад сораму. Мужчына-педыятр у вялікіх акулярах дастаў з чамаданчыка фанендаскоп і намерыўся паслухаць дзіцячыя лёгкія, але насупленае малое дзеўчанё абурана ўзмахнула ручкай, гняўліва тупнула і выпаліла:

— Таўсцель, крацідла, гіцаль, скула, ідыёт, даўбак, боўдзіла, пачвара, пухір свінячы.

Копаць гатовы быў на што заўгодна, калаціўся ад гневу, кіпеў змаганнем, што чыгун на вялікім полымі. Прафесар ледзь не штодня ўставаў з левай нагі, і яго, здавалася, насіла нячыстая: ён вёў кансультацыі з хаўруснікамі, хадзіў па рэдакцыях, задыханы, з перасмяглымі губамі клыгаў на чарговую сустрэчу. На прозвішча Імпяровіча ў яго пачалася страшэнная алергія.

На экзамен да першакурснікаў Копаць прысунуўся, нібы грозная навальнічная хмара, на вітанні ледзь выціснуў з сябе «Др-р!» Доўга сядзеў у аўдыторыі і не запрашаў студэнтаў, раскладваў-тасаваў білеты ці яшчэ там нешта рабіў — невядома. Староста групы, нізкарослая і бледнатварая дзяўчына з тонкімі цёмна-русымі косамі, нясмела прыадчыніла дзверы, аднак ёй нібы мову заняло. Прафесар Копаць рэзка павярнуў галаву і сярдзіта кінуў:

— Хацела што?

Цікаўная галава ўвобмірг знікла, дзверы яўкнулі. Праз хвілін колькі тая ж самая русявая вузкалобая галава зноў вымкнула праз шчыліну ў дзвярах.

— Дык мо што хацела? — строгі прафесарскі голас змусіў пашарпаныя дзверы зноў яўкнуць.

Ніхто са студэнтаў больш не адважваўся зазірнуць у аўдыторыю. Экзаменатар не вытрымаў і выбег сам, дакладней, вылецеў, бы хто яго варам абліў.

— Хто вы такія? Што вы тут робіце? Чаго сюды прыйшлі? Збіліся, як авечкі! — здавалася, Копаць зараз разгоніць студэнтаў, быццам яны сабраліся пад дзвярыма, каб наладзіць пікет.

Напужаныя дзяўчаткі і два хударлявыя хлапцы з поўнымі жаху вачыма глядзелі на раззлаванага, уздыбленага прафесара і не ведалі, што рабіць і як рэагаваць на такое. Копаць, як толькі выпусціў пару, пачаў тыцкаць дрыжачым указальным пальцам:

— Ты, ты, ты, ты і ты — шагам шморг у аўдыторыю!

Гэтыя «ты» былі тры дзяўчыны і два хлапцы, якія падпарадкаваліся суроваму загаду прафесара. Пераўзбуджаны Копаць не мог супакоіцца, угаманіць яго ў такія хвіліны было справай нялёгкай і марнай. Ён гняўліва зыркаў з-пад ілба на студэнтаў, якія рыхтаваліся да адказу.

Увогуле, Копаць-Шалевіч не любіў далікатнічаць, перапрашаць, сентыментальнічаць і разводзіць мексіканскія серыялы. Не адно пакаленне ведала яго як строгага экзаменатара. «Праз Копацця трэба прайсці»,— настаўляла неаперaных, жаўтаротых першакурснікаў «студэнцкае радыё» — бітыя і спрактыкаваныя студэнты старэйшых курсаў. Тыя папярэджвалі, што на экзамене па даўняй гісторыі можна трапіць у сапраўднае пекла. Сёй-той са студэнтаў баяўся нават позірку Копаця і стараўся не сустракацца з ім на калідоры — так у Сярэднявеччы страшыліся інквізітара.

Першай ахвярай прафесарскага ачмурэння сталася дзябёлая дзяўчына з дужа непрыгожымі рысамі твару, якія, хутчэй за ўсё, удавалі яе вясковае паходжанне, адразу вока выхоплівала яе шырокі дуплісты нос і пульхныя чырвоныя шчокі. Копаць-Шалевіч, адчуўшы антыпатыю да студэнткі, не збіраўся цырымоніцца.

— Як ваша прозвішча? — перш-наперш запытаў ён.

— Зося Каціла.

Нахмураны Копаць разгарнуў студэнцкую залікоўку і праз акуляры з чорнай тоўстай аправай хвіліну-другую ўзіраўся ці то ў фотаздымак, ці то звяраў пачутае прозвішча.

— Скажыце мне, Кацідла, а па якім вы падручніку рыхтаваліся? — працяжным голасам і сурова, нібы на допыце, запытаў прафесар, які, можна было падумаць, не пачуў дакладна прозвішча студэнткі і не так, як трэба, яго прачытаў.

Зося сумелася, ёй зрабілася сорамна і няёмка, бо ніхто ніколі гэтак не памыляўся, перакручваючы яе прозвішча, ніхто і ніколі не прамаўляў у такой абразлівай форме прозвішча яе бацькоў. Паўнатварая студэнтка яшчэ больш расчырванелася, але перасіліла хваляванне і крыўду, якая адразу кальнула-апякла свядомасць.

— Рыхтавалася па падручніку Імпяровіча, — шчыра прызналася яна і тым самым выклікала новы прыступ дзікага, шалёнага гневу.

— Дык ідзі і здавай Імпяровічу! — закрычаў, як рэзаны, прафесар і з абурэннем шпурлянуў да дзвярэй студэнцкую залікоўку.

Калі Зося Каціла стрымгалоў вылецела з аўдыторыі, што той корак з бутэлькі, Копаць гатовы быў разнесці белы свет, раздражнёна сіпеў: «Дзярмо ён гісторык, дзярмо! Я сказаў!»

Кожны з нас — недасканалася істота, у якой суіснуюць ды пастаянна змагаюцца дабро і ліха. Калі чалавек ненавідзіць іншых людзей, ён ператвараецца ў вар'ята, і ў такіх выпадках можна гаварыць, што чалавек — гучыць брыдка. Паводзіны Копаця былі агідныя, нікчэмныя, не вартыя ні сапраўднага вучонага, ні прыстойнага чалавека, у яго галаве шарыкі за ролікі заехалі і так сашчапіліся, што не толькі Імпяровічу, але і яго калегам па факультэце стала пагражаць агрэсія.

Здавалася, Копаць у выніку арганізаванай ім і яго дачкой вайнушкі выдыхся, раптоўна аціх і заняпаў духам. Хваравітая панурасць не сыходзіла з прафесарскага твару, на якім да таго ж часта нечакана з'яўлялася сутаргавасць. У ім, магчыма, выспявала новая бура, але вонкава ён гэтага намагаўся не выдаваць. На кафедры маўчаў, ні з кім не гаварыў, зусім не рэагаваў на размовы. Відаць, ён быў у цяжкай дэпрэсіі, адчуваў сябе дужа паскудна, таму калегі стараліся яго не чапаць, хуценька сыходзілі, калі той са змрочнай грымасай і растапыраным партфелем прасоўваўся ў дзверы. Але неўзабаве шалёная энергія зноў знайшла выйсце.

Копаць зрабіў напад на русабародага з доўгімі валасамі загадчыка суседняй кафедры, якому было крыху больш за трыццаць гадкоў і ён як малады і прыгожы лектар карыстаўся ашаламляльным поспехам і папулярнасцю ў студэнтак, а тыя аж млелі і, у сваю чаргу, былі з ім ледзь не запанібрата, апаноўвалі дзе толькі льга. За вочы яго называлі Катулам. Чытаючы гісторыю Рыма, ён захоплена, прачула цытаваў на памяць творы антычных паэтаў, чытаў не толькі пра будынкі, імператараў і войны, але і радкі пра каханне, як, да прыкладу, вось гэтыя: «Будзем, Лесбія, жыць і мілавацца...» А калі факультэцкі Катул, ён жа Алег Віктаравіч Сонцаў, асмеліўся і прачытаў свае вершы пра каханне — запоўненая студэнцкая аўдыторыя ў выглядзе амфітэатра выбухнула бурнымі воплескамі, як на канцэрце якой-небудзь поп-зоркі. На наступнай лекцыі студэнтка паслала яму цыдульку:

*Быць нам не лесбіянкамі, а лесбіямі навекі тваімі,*
*Калі Алег, сонейка яснае, прыгалубіць рукамі сваімі.*

Катул-Сонцаў, акружаны студэнткамі, якія стракаталі, бы неўгамонныя сарокі, крыху счырванелы стаяў пры сваёй кафедры, калі знянацку яго хтосьці рэзка таўхануў убок і хапіў за руку.

— Што патлы распусціў і не вітаешся! — бесцырымонна закрычаў Копаць, і ў тым голасе чулася абурэнне, штосьці папераджальнае: маўляў, ты вось, малакасос, пагарджаеш і «Добры дзень!» мне не гаворыш, дык зараз аплявуху можаш атрымаць.

Разлютаваны стары злыдзень, не зважаючы на перапалоханых студэнтак, гатовы быў разарваць, як драпежнік бязвінную ахвяру, маладога загадчыка кафедры. Копаця працяла атрутная страла шаленства, бо гэты начальнічак калісьці быў аспірантам Імпяровіча. Тое, што Сонцаў не прыкмеціў на калідоры старэйшага прафесара універсітэта, гонару яму, ведама, не рабіла. Копацю, які шморгаў нагамі міма і пабачыў купку студэнтак з вучнем Імпяровіча, падалося, што той наўмысна з ім не вітаецца, адварочвае галаву ўбок, і гэта выклікала раздражненне. Вось Копаць і задаў дыхту. Ён калаціўся і не адчуваў, як у ім круціла злосць, яму здавала-

ся, што гнеў яго праведны і гэты выскачка-нягоднік заслугоўвае пакарання. Копаць не ведаў, што вытварае: піхнуў дзверы кафедры, якія расчыніліся, і пачаў напорыста штурхаць у плечы разгубленага факультэцкага Катула. Студэнтачкі абмерлі ад жаху, аднак першая, якая найхутчэй прыйшла ў сябе і зразумела, што робіцца, пачала ўпрошваць-маліць старога чалавека, не ведаючы, пэўна ж, хто ён:

— Дзедушка, міленькі, не чапайце нашага выкладчыка!

Магчыма, падумала яна, гэты стары дзед — нейкі псіх ці маньяк з вуліцы, які без дай прычыны накінуўся на Алега Віктаравіча. Прыдуркаў і розных вычварэнцаў цяпер хапае — і старых, і маладых, і яны лёгка могуць патрапіць сюды, каб прадэманстраваць сваю анармальнасць. Нядаўна палахлівых факультэцкіх дзяўчат ліхаманіла надзвычайнае здарэнне — пасярод белага дня невядомы малады мужчына, які назваў сябе супрацоўнікам мадэльнага агенцтва, застаўся з прыгожай студэнткай у аўдыторыі пасля заняткаў і ледзь яе не згвалціў. Копаць — тутэйшы мутант, якіператварыўся ў небяспечнага тыпуса. Кволыя дзяўчаткі наўрад ці адужалі б гэтага старога буяна. Ён, быццам Зеўс-грамавержац, уварваўся на чужую кафедру — і грымнуўся вобзем бюст Герадота, паляцеў долу ноўтбук, разляцеліся, нібы чарада галубоў, спісаныя лісты паперы. Сонцаў, абаяльна-інтэлігентны чалавек і паэтычная натура, спуджана прыціснуўся да квадратнай чорнай шафы. Ён не змог болей глядзець на гэты шалёны разбой і асунуўся ў непрытомнасці. У той дзень дзве машыны «хуткай дапамогі» адна за адной на ўсе застаўкі мчалі ад факультэцкага корпуса ў розныя бакі.

...Ларыса Буйская, дачка прафесара Копаця, у аксамітным халаце перад сном прылегла на шырачэзную канапу і націснула кнопку тэлепульта. Цэлы дзень яна без супынку круцілася: пасля факультэцкай навуковай канферэнцыі бегала пабачыцца з першым прарэктарам, затым панеслася на метро ў акадэмічны інстытут, ужо позна ўвечары сустракалася з вядомым дэпутатам, які прасіў для яго дачкі знайсці рэпетытара па матэматыцы — пажадана, прафесара. Праз мяккую саломінку-дудачку яна смактала апельсінавы сок, калі на экране пайшоў сюжэт пра юбілей прафесара Імпяровіча. Які ж агідны быў ёй гэты твар, гэтае аблічча! Усю праўду пра тое, як яна кожнай сваёй фібрай ненавідзіць Імпяровіча, ведаюць хіба толькі на нябёсах і ў пекле. Гэта ён давёў яе роднага татульку да псіханеўралагічнага шпіталю, гэта ён на экзамене паставіў ёй, прафесарскай дачушцы, здавальняючую адзнаку, гэта ён галасаваў на абароне яе кандыдацкай дысертацыі супраць, гэта ён, нягледзячы на іх з бацькам высілкі, хутчэй за ўсё, атрымае дзяржпрэмію. Рука машынальна папусціла шклянку ў фізіяномію Імпяровіча. Жанчына адчула, як нешта даўкае перацяла дых, і яе падкінула так, як быццам саданула маланка. Пасыпаліся кавалачкі шкла, цёмныя шторы на акне ахапіла зыркае і хціве полымя.





## Сяргей ПАТАРАНСКІ

* * *

Ратуйце нас, маркотныя прарокі!
Мы ведаем — не вечны грэшны свет:
па цаліку грахоў — нашчадкаў крокі,
і да Любові Бог заўжды заве.

Няўмольны рок адно тлумленне родзіць,
дый сэнс мялее...
Ўзносячы святлынь
Айчыны,
Дух Нябёс усе стагоддзі
адзіны вызарае часу плынь.

* * *

Не хапае Любові ў свеце...
Можа быць, яе нехта скраў?
Ці забіў у прыпадку паўп’яным,
ці ў распусце ліхой апляваў?

Дзе шукаць яе, зорную, ў свеце, —
ў цёплым ложку, ці ў храме святым,
ці ў сабе, невядомым нікому,
нат — сабе,
ці ў нашчадку сваім?

І нямашака ў свеце спакою
ад таго, што згубілі Любоў.
І таму на прасцяг чалавечы
кожны з марай выходзіць ізноў...

---

***Патаранскі Сяргей Сяргеевіч*** *нарадзіўся 6 студзеня 1976 года ў Мінску. Скончыў Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа (1993), тэатральны факультэт Беларускай дзяржаўнай Акадэміі мастацтваў (2003). Працаваў акторам і рэжысёрам у беларускіх тэатрах.*

*Выступае ў рэспубліканскім друку як паэт, празаік, драматург, публіцыст.*

* * *

Прабач, мой Бог, — Твой невыносны крыж.
І нат за гонар не вазьму я несці
ўсё тое, што Паэт агучыў песняй...
І Ты маўчыш... Хоць Слова дай!.. Маўчыш.

Даруй мне, Бог, — Твой безатплатны дар,
бо людзі праз Цябе не пасталелі, —
трымціць душа штодня ў грахоўным целе,
не чутна праўды, што пяе Пясняр.

А мо і ён, што ў Слове быў Тваім,
як Ты, загіне ў зваднасцяў навале?
Тады нашто мы столькі год шукалі
сябе — у ім,
Пясняр — сябе святым?!

* * *

*Памяці Анатоля Сыса*

Не плачце па мне, сябры.
Я ведаў свой лёс ад пачатку,
бо стаў я душою стары
зарана ў нялюдскім парадку,

дзе месца Любові няма,
дзе век не знайсці спакою,
дзе земляў абшар — турма
для Духу, што волю мроіў.

І мроя ўлілася ў радок,
як горыч віна ў куфэлі,
каб Бог у нашчадку змог
паўстаць роднай Веры купеллю.

Не плачце па мне, сябры...

## ПАЛЯШУЦКІ РАЙ

Мой Рай, дзе зорнага Палесся
абсягі сонечныя вышыні,
дзе, як архангельскіх анёлаў песня,
дзівуе неба ў кожным Божым дні.

І шчасная ў душы кунега,
што гэты зорны край на свеце ёсць
пад покрывам сярэбранага снегу,
ці ўлетку, дзе валошак прыгажосць.

Вясновы квет, лістоў агніскі —
панада райскай, яскай пекнаты,
дзе Дух Палесся існа Богу блізкі,
узнесены да неба і святы.

І, можа, калі нам надарыць
у светлы і прачысты трапіць Рай,
то лепш палескіх, пэўна, не намарыць
прастораў, яваў Бога-Спадара.

Таму што нам адно Палессе,
як у блуканні, так мо і ў Раі,
прысніцца Краю зоркаю ўваскрэслай —
як светлы дар жаданае зямлі!

## ВІЛЕНСКАЯ ЗОРКА

Мне сніўся сон: упала зорка з неба
віленскага ў далонь маю,
заззяла зорка золатам і срэбрам.
Шчаслівы я! Здалося, долю сню.

Маркотны дзень знічэў, як промняў пража.
Я быццам браму сноў адкрыў,
і бачыў я сябе ў аддзенні княжым:
я быў — Міндоўг,
Ягайла,
Радзівіл...

Калі ж той сон растаў, нібыта знічка,
пустэчу я ў руцэ знайшоў...
Ды аясніўся мне тады нязвычна
жывое думкі прамяністы шоўк.

І я падумаў, — пэўна, сон святоўны,
які пабачыла душа,
бо зорцы Госпаднай віленскай роўны
і я,
як праўдзе Боскае,
спярша.

* * *

І плакала душа, нібы Хрыстос,
па ўсіх пакутных і няшчасных свету,
прачуўшы Неба, дзе мой дух прарос
чароўным, як святоўнасць, кветам.

Па ўсіх, хто шчэ не вызнаў адкрыцця,
па ўсіх, хто гіне ў грэшнае дарозе,
душа балела.
Боскі боль працяў
увесь Сусвет, аднак дарыў і крозы, —
што будзе н а ш — н е н а ш сучасны дзень,
што мы адкрыем Вільню як Айчыну,
дзе building станучь нашых душаў, нашых дзей
адзіныя памкненне і прычыннасць.

* * *

Вострая Брама — як брама у Рай,
што Беларуссю Нябёснай завецца,
дзе захаваны Дух цноты і сэрца
Існінаў Божых.
Як ні шукай
іншае брамы да родных мясцін,
дзе Дух Радзімы у сімвалах Веры, —
Вострая Брама між вечных часін
у Беларусь ёсць — нябёсныя дзверы.



*ПРОЗА*



## Уладзімір ШУЛЯКОЎСКІ

# ШПІЁНЫ

*Апавяданні*

### Грузчык-шахматыст

Усё навокал разамлела ад спёкі. Каштаны і акацыі апусцілі сваё лісце. Птушкі схаваліся ў цень. Здалёку даносіўся шум марскога прыбою. Горача нават у тэнісцы. Іван заходзіць на пошту, бярэ тэлеграфны бланк і піша кароценькае: Л h4: h8.

Падае тэлеграму ў акенца чарнявай хахлушцы. Глянула тая сваімі сінімі, як неба, вачыма, і сэрца ў Івана закалацілася. Ён вачэй ад яе не мог адвесці. Думкі, як на марскіх хвалях, панеслі ў родную вёску, у тое лета перад арміяй... Шырокімі ўзмахамі касы кладзе Іван пракосы, а на суседняй дзялянцы разбівае сена граблямі Насця. І не можа ён зразумець, ад чаго так кружыцца галава: ці то ад п'янлівага водару сена, ці ад сініх вачэй, што забралі ў палон сэрца і душу... Не дачакалася Насця свайго жаніха з арміі, выйшла замуж за хлопца з суседняй вёскі. Іван, калі даведаўся пра здраду каханай, ледзь рукі на сябе не налажыў. Дзякуй Богу, армейскі сябра Мікалай Раброў, якому Іван раскрыў душу, спыніў:

— Гасподзь даў жыццё, Гасподзь і возьме, калі прыйдзе час. Ведай, што самыя вялікія грэшнікі на зямлі — самагубцы, — сурова дакараў Мікалай. — Час усё лечыць, залечыць і тваю рану. Калі за іншага выйшла замуж, значыць, лёс такі. Не распускай нюні...

Вылітая Насця глядзіць на яго з акенца. Усміхаючыся, бярэ тэлеграму і пачынае лічыць знакі: «Раз...» Раптам яна быццам камянее. Вочы расшыраюцца. Розныя пачуцці адбіваюцца на твары: здзіўленне, разгубленасць, перапалох... Што такое? Ніколі да гэтага часу паштарка не бачыла падобных тэлеграм. Страх сцяў яе сэрца. Ледзь не трапіла на кручок! Ці не пра

---

*Шулякоўскі Уладзімір Віктаравіч нарадзіўся 31 студзеня 1940 года ў мястэчку Смілавічы Чэрвеньскага раёна Мінскай вобласці. Закончыў Пінскі палітэхнікум і Беларускі політэхнічны інстытут. Працаваў токарам на МАЗе, а пазней на розных інжынерна-тэхнічных пасадах народнай гаспадаркі Беларусі. Зараз — у Дэпартаменце аховы МУС РБ.*

*Аўтар кніг «Незвычайная карыда» і «Козачка-шахматыстка».*

гэта пастаянна напамінае парторг: будзьце пільнымі, вораг не дрэмле, праз памежны горад пастаянна імкнуцца пранікнуць варожыя агенты. «Аб падрыўной дзейнасці замежных разведак у СССР»...

Гэта, пэўна, незвычайная тэлеграма, у ёй — шыфр. Справа ясная: на пошту зайшоў шпіён. Каб не памыліцца, паштарка зноў глянула на тэлеграму, на чалавека, які яе прынёс. Так і ёсць — шпіён. Вось ён які: атлетычнага складу, біцэпсы так і выпіраюць з-пад тэніскі. І прыгожы. Толькі такіх і бяруць у шпіёны, каб маглі абдурыць такіх разяў, як яна... Кампліменты ёй гаворыць і глядзіць так улюбёна. Любую можа ачмурыць. Як расказваў той лекар, гэтым штучкам вучаць у шпіёнскіх школах. Ды не на тую нарваўся.

Паштарка задумалася: а ці не паведаміць куды трэба? Нямала прачытала кніг пра шпіёнаў, бачыла фільмы пра іх, рыхтавалася да гэтай сустрэчы і вось... разгубілася. Пастаралася ўзяць сябе ў рукі і, прыдаўшы твару абыякавы выгляд, усміхнулася:

— Прабачце. Пачакайце адну хвілінку...

Адслужыўшы, як належыць, тры гады ў арміі, сяржант Іван Дзікун не вярнуўся ў родныя мясціны на Гомельшчыну, не хацеў сустракацца з Насцяй, а таму паехаў з Мікалаем Рабровым у партовы горад Херсон, дзе разлічваў зарабіць крыху грошай. Работа аказалася не такой ужо і рамантычнай, як маляваў сабе ў марах Іван: на рэйдзе пагойдваюцца белыя караблі, а над галавой лунаюць белыя чайкі. Зразумела, усё гэта было, але прыгажосць марскога пейзажу Іван заўважаў толькі ў першыя дні, а потым проста часу не было на гэта. Бо ён хацеў не толькі зарабіць грошай, але яшчэ і стаць майстрам спорту па цяжкай атлетыцы. Але проста, як вядома, нічога не даецца. Прачынаецца Іван у шэсць гадзін раніцы: рукі як чужыя, плечы ныюць, паясніца баліць, бы ў старога дзеда, — ніяк не ўдаецца за ноч адпачыць па-чалавечы. Іншы раз, адпрацаваўшы змену, хочацца не ў спартыўную залу ісці, а кінуць усё, як іншыя, заваліцца ў шынок, перакуліць чарку-другую ды ў даміно казла забіваць. Ці падацца на танцавальную веранду, пакруціць з дзяўчатамі шуры-муры. Можна назвацца «інжынерам па перамяшчэнні грузаў», як жартавалі докеры. Бо неяк няёмка казаць сімпатычнай дзяўчыне, што ты просты партовы грузчык. Не салідна... Так хочацца павесяліцца з усімі. Але Іван пераадольвае спакусу. Нельга паддавацца часовым слабасцям. Што скажуць бацькі? Пры такім лёгкім жыцці не толькі на кааператыўную кватэру не заробіш, а ў дзіравых штанах прыедзеш дадому. А што скажуць вясковыя хлопцы і дзяўчаты? Што скажа Насця? Ім жа абяцаў не вяртацца без звання майстра спорту...

Не проста навучыцца працаваць з «гансамі» — так называюць магутныя партовыя краны на чатырох апорах. Чаму «гансы?» Спачатку Іван смяяўся з гэтага слова, лічыў, што нейкі жартаўнік так іх назваў. А потым прачытаў таблічку на адным: «ганс» — было напісана па-нямецку, што ў перакладзе азначае «гусь». Усё аказалася не так, як думаў. Лягчэй было разгружаць «балгарынаў» — невялікія караблі з Балгарыі. Прыходзілі таксама «італьянцы», «немцы», «індыйцы» і іншыя. Падыходзіць да прычала карабель, на палубе расчыняецца бімсх — палубныя жалюзі. «Ганс» апускае ў трум доўгую дзюбу-стропы, якую чапляюць за паддон. На гэты паддон Іван паспявае накласці шмат розных грузаў. «Віра» — ён хутка засвоіў нескладаныя каманды, па якіх «ганс» падае грузы і ставіць іх у партовыя склады ці на чыгуначныя платформы. Здзіўляла Івана, што з дзесятка трумаў аднаго вялізнага лайнера некалькі «гансаў» адначасова выцягвалі пакеты металу, цюкі бавоўны, скрыні з фруктамі, віном, цукрам-сырцом і

іншымі грузамі. Тут трэба было глядзець ва ўсе вочы. Інакш — чакай няшчасця. Адзін раз пранясе, другі, соты, а на сто першы...

Аднойчы яны грузілі металічныя рулоны — пракат. На тросах ёсць захоп, падобны на шчыпцы. Захапіўшы груз, ён сціскаецца, не даючы таму выслізнуць. Захоп сістэматычна трэба было праціраць парашком, каб нажніцы-шчыпцы лепш працавалі. Але грузчыкі неяк паленаваліся, і з-за гэтага нажніцы дрэнна закрыліся. Адзін з рулонаў выслізнуў і ўпаў Колю Раброву на нагу, перасекшы яе, як трэску. Не ўцяміўшы адразу, што адбылося, Коля апусціўся на падлогу і... пачаў смяяцца. Тырчаць з нагі белыя расшчэпленыя косці, звісае, як лахманы, мяса, а бедалага смяецца. Гэта жудасная карціна доўга стаяла перад вачыма Івана Дзікуна...

Хірургі зрабілі ўсё, каб малады хлапец не застаўся калекам. Прышылі нагу, загнаўшы ў яе металічны стрыжань, вакол якога прымацавалі расшчэпленыя косці. Але левая нага стала карацейшай сантыметраў на восем. Трагедыя! Не захацеў малады хлопец валюхацца, як качка. Праз два гады яму зрабілі другую рызыкоўную аперацыю: укарацілі правую нагу на тыя ж восем сантыментаў. Абедзве аперацыі, дзякуй Богу, прайшлі паспяхова: праз нейкі час жалезныя стрыжні выцягнулі, і Коля Раброў амаль не кульгаў. Але гэта было потым...

Іван Дзікун быў у шоку. На месцы Мікалая мог апынуцца і ён сам. І тады — бывай штанга, бывай мара пра званне майстра спорту. Не дай Божа ў маладым узросце стаць калекам... Што рабіць? Кінуць усё і паехаць дадому? Не, нельга панікаваць. Паніка — дрэнны дарадчык.

Няшмат заставалася вольнага часу пасля цяжкай працы ў порце і не менш цяжкіх трэніровак са штангай у спартыўнай зале. І ўсё ж ён стаў майстрам спорту па цяжкай атлетыцы і нават заваяваў кубак Херсонскай вобласці. Але Іван не мог пакінуць і другое сваё захапленне — шахматы, якія любіў з дзяцінства. Браў удзел у розных шахматных конкурсах, турнірах па перапісцы. Стаў кандыдатам у майстры спорту. А першы такі турнір Іван ніколі не забудзе — ён пачаўся з вялікіх непрыемнасцяў: адсідкай у КПЗ пасля наведвання пошты, адкуль ён высылаў чарговы шахматны ход...

Івану мроіліся то варыянт партыі, які павінен прывесці да перамогі, то белыя косці, якія тырчалі з нагі Мікалая. І тут з'явіліся міліцыянеры.

— Пакажыце вашы рукі, — запатрабаваў адзін з іх, лейтэнант.

Іван, нічога не падазраючы, працягнуў рукі. Той, не даючы апамятацца, імгненна зашчоўкнуў на запясцях наручнікі.

— Вось і папаўся, голуб мой, — аб'явіў лейтэнант, які ў думках ужо, відаць, бачыў павышэнне па службе: — Мы даўно за табой назіраем.

Другі, з сяржанцкімі лычкамі на пагонах, не такі лагодны, балюча ткнуў пісталет у спіну, загадаў:

— Уперад, варушыся!

Іван здранцвеў. Ён нічога не разумеў, а таму не спяшаўся выконваць каманду. Сяржант моцна ўдарыў па нырках. У Івана ад здзіўлення, абурэння і болю мова аднялася. Ён нешта хацеў сказаць, але язык не слухаўся. Яго пацягнулі ў машыну. За што такая знявага ён не разумеў. Здаецца, не паспеў нічога такога натварыць, каб адчуваць хоць якую-небудзь віну. Няўжо гэты прайдзісвет Грымучы, па якім турма плача, накапаў?..

Грузчыкам у порце працавалася нялёгка. Мала хто вытрымліваў тры-чатыры гады. Людзі звальняліся не толькі з-за цяжкай працы, але найперш з-за махлярства брыгадзіра Грымучага. Тэхналогія рабавання докераў была адпрацавана дасканала. Махляр-брыгадзір спрытна карыстаўся слабас-

цю многіх да чаркі. Прылавіўшы чарговую ахвяру на рабоце, пад пагрозай звальнення прымушаў аддаваць частку зарплаты яму, Грымучаму.

А іншы раз ставіў нецвярозаму докеру прагул у табелі, а работу, выкананую ім, запісваў на «сваіх людзей». Цяжка было знайсці большую свалату. Іншы раз нарываўся і на такіх, хто не дараваў рабавання, таму нярэдка хадзіў пабіты. Але, як кажуць, гарбатага магіла выправіць. Нічога не спыняла брыгадзіра: ні просьбы, ні пагрозы — на кожным ён стараўся нажыцца.

Аднойчы ў затон зайшоў карабель. Трэба было пачысціць дно трума. Брыгадзір бярэ з сабой Івана Дзікуна і садзіцца з ім на «аркашку» — невялікі кацер. Кажа: «Паехалі. Пачысціш трум ад цукру. Там пакормяць макаронамі па-флоцку дый паўмеха цукру возьмеш з сабой». І яму добра давялося пагарбаціцца, пакуль пачысціў трум. Калі закончыў работу, брыгадзір набраў сабе два мяхі цукру-сырцу, а Івану — дулю. Так першы раз аблапошыў брыгадзір Івана — дзень працаваў дарэмна.

Неяк у перадсвяточны дзень падышоў да Івана памочнік брыгадзіра і сказаў:

— Трэба па чырвонцу скінуцца — павіншаваць брыгадзіра са святам.

Іван запярэчыў:

— Ён жа нават у арміі не служыў, а яму падарунак на дзень Савецкай арміі? Няхай дае грошы той, каму яны лёгка дастаюцца, а я — мазалём сваім зарабляю.

— Ну, глядзі, хлопец, — сумнавата звёў бровы памочнік брыгадзіра. — Апалоныч злапамятны.

— А мне баяцца няма чаго: я хабару не бяру, не craду, як ён, не прагульваю, не п’ю. Скакаць пад дудку гэтага хамяка не буду.

Нездарма Грымучага дражнілі Хамяком. Колькі ён ні махляваў, колькі ні краў — усё яму было мала, рабіў запасы, як той хамяк. Хцівы, хітры брыгадзір чамусьці заўсёды сухім выходзіў з вады. Аднойчы, ідучы з работы, натрапіў на ахоўніка, які даўно сачыў за ім. Занадта ўжо тоўстым паказаўся яму брыгадзір. Абмацаўшы Грымучага, ахоўнік знайшоў у яго патайных кішэнях шмат лімонаў.

— Выкладвай на стол, — загадаў і, схапіўшы тэлефонную трубку, паспрабаваў выклікаць начальніка. Тэлефон не адказваў. Замкнуўшы ў прахадной будцы Грымучага-Хамяка, ахоўнік сам пабег па начальніка каравула.

— Нічога, вылузаюся і на гэты раз, — узрадаваўся Грымучы, застаўшыся адзін, — спраўлюся як-небудзь з імі. З’еў жа аднойчы тры кіло апельсінаў... — Ён узяў лімон і хуценька надкусіў. Спяшаючыся, паклаў у рот увесь і ліхаманкава пачаў жаваць. З’еў і схапіў наступны. Але лімоны — гэта вам не апельсіны! З’есці лустачку, дзве — прыемна. А калі яшчэ з цукрам, дык наогул — смаката. Але паспрабуйце з’есці тры, чатыры лімоны! А тут ляжаў з дзесятак. Буйных. Адборных. За такія на рынку даюць — о-го-го колькі...

Пакуль вартаўнік знайшоў начальніка каравула, апрыходваў-такі Грымучы-Хамяк усе лімоны, не абабраўшы іх. Паглядзеў здзіўлена вартаўнік на стол, пашукаў пад сталом, разгублена абмацаў Грымучага. У злодзея, здаецца, кіслата лімонная з вушэй льецца, а рэчавых доказаў яго віны няма. Прыйшлося адпусціць і на гэты раз...

— Я некалі быў такі ж яршысты, як і ты, — працягваў памочнік брыгадзіра, — але, калі паішачыў два месяцы амаль без зарплаты, хутка прыціх. Апалоныч, як той міліцыянер, калі захоча, можа прычапіцца да тэлеграфнага слупа. Ведаеш анекдот?

— Які яшчэ анекдот? — спахмурнеў Іван.

— Падыходзіць міліцыянер да тэлеграфнага слупа: «Чаго стаіш?.. Маўчыш?.. А-а-а, сувязь з замежжам трымаеш?.. Шпіён, значыць?.» — Тут памочнік брыгадзіра задаволена засмяяўся і працягваў: — Так-так, Апалоныч з нічога вяроўку скруціць і ёю ж задушыць...

— Да пары збан ваду носіць, — не здаваўся Іван.

— Скардзіцца будзеш? Які ты яшчэ наіўны, Іван. Дарэмна ўсё гэта. Ужо ці раз скардзіліся. Ну і што? З брыгадзіра — як з гусі вада. Відаць, недзе наверсе лапу мае...

Прайшоў нейкі час пасля той размовы, і Іван быў пастаўлены на «руду». У напарнікі яму брыгадзір даў гультая і п'яніцу... Падыходзіць чыгуначны састаў. «Ганс» грэйферам вычэрпвае руду з вагонаў, а рэшткі трэба ачышчаць шуфлем і мятлой. З паўгадзіны чысцілі ўдвух. Потым напарнік кажа:

— Ваня, я добра «ўмазаў» учора: у сябра быў дзень нараджэння... Дык крыху пакімару ў канаве, а ты пакідай пакуль адзін...

Іван, добрая душа, пашкадаваў напарніка і давай старацца адзін. Чэрпаў, чэрпаў шуфлем. Змарыўся. Асабліва шмат валтузні было з люкамі. Адзін добра закрываецца, а з другім трэба павазіцца так, што рук не чуеш. А крый Божа не зачыніш люк — тут і мытня цябе замардуе... Можа, знарок? Арыштуюць і справу могуць прышыць...

Ішачыць Іван за дваіх. Ужо не можа трымаць лома, які раз-пораз выслізгвае з рук. Ды і шуфлем чысціць рабрыстую падлогу няпроста. Пот залівае вочы. Трэба крыху перадыхнуць. Цяжка дыхаючы, выпаўзае з вагона, садзіцца на зямлю. Велізарнае сонца выкочваецца з-за далягляду. Лёгкія на поўныя грудзі ўдыхаюць пах руды і мора, аздоблены тонкім пахам расквітнелых акацый, які парывы ветру прыносяць сюды з горада. Божа, як хораша навокал! Плюхнуцца б зараз у халодную ваду і плысці, плысці... Іванавы думкі перапыняе брыгадзіір, што выпаўзае быццам з засады. Прынюхваецца да Івана, прыдзірліва аглядае вагон. Прыкінуўшыся, што не бачыў у канаве п'янага Іванавага напарніка, пытае:

— А дзе ж напарнік?

— Зараз прыйдзе, — не жадаючы выдаваць таго, адказвае Іван, — да ветру пайшоў.

Усю ноч, да шасці гадзін раніцы, ішачыў Іван. Адзін ачысціў увесь састаў. Стаміўся так, што валіўся з ног. Хацеў адпрасіцца ў брыгадзіра дадому на дзве гадзіны раней, але ведаў, што той не адпусціць: прымусіць рабіць яшчэ што-небудзь. Сказаў брыгадзіру: «Адлучуся, Апалоныч, ненадоўга» — і пайшоў у інтэрнат. Як сноп, зваліўся на ложак і заснуў.

Назаўтра Іван даведаўся, што за тыя дзве гадзіны брыгадзір яму прагул паставіў, а ўсю Іванаву работу запісаў напарніку, які праспаў у канаве ўсю ноч...

Брыгадзір дапякаў Івана, правакаваў, пасылаючы на самую цяжкую, брудную і малааплатную работу. Як шэрасць інстынктыўна не любіць розуму, так брыгадзір з самага пачатку неўзлюбіў маладога докера. Але нянавісць гэта стала яшчэ большай, калі даведаўся, што той-сёй з начальства быў бы не супраць бачыць брыгадзірам Дзікуна замест яго, Грымучага. А чаму б і не! Хоць і малады яшчэ, малавопытны, затое дысцыплінаваны, не курыць, не п'е, спортам займаецца, граматны: закончыў да арміі тапаграфічны тэхнікум...

Іван стрымліваўся, колькі мог. Але нават жалеза не вытрымлівае, крышыцца, калі яго бясконца есць іржа. Аднойчы ў трум сухагруза, дзе працаваў Іван, спусціўся Грымучы і накінуўся з лаянкай:

— Смарчок, Салага! Малако на губах не абсохла, а прэш наперакор старэйшаму! Як ты працуеш? Табе не докерам быць, а...

Потым, бачачы, што Іван не вельмі звяртае ўвагу на яго лаянку, панёс нешта бруднае, брыдкае пра... Насцю (як ён толькі даведаўся?!) Многае мог дараваць і сцярпець малады докер, толькі не гэта! Ах ты, гад, ну, трымайся!

Рукі Івана самі зрабілі імгненны рух, і брыгадзір, не войкнуўшы, распластаўся на жорле ўцягваючай трубы. Ён, як той грэшнік з Боскай камедыі, які трапіў у пекла на гарачую патэльню, дрыгаў рукамі і нагамі, спрабуючы адарвацца ад трубы. Але магутны паток паветра цягнуў і цягнуў унутр. З яго сарвала куртку, якая тут жа знікла ў ненажэрнай пашчы. Здаецца, вось-вось і Грымучага, як тую куртку, засмокча труба. Толькі цяпер Іван апамятаўся. На хвіліну ён разгубіўся, не ведаючы, што рабіць. А ў Грымучага ад жаху вочы на лоб палезлі.

— Ваня, ратуй! — не сваім голасам залямантаваў брыгадзір. — Век не забуду!..

А міліцыянеры тым часам цягнулі яго ў машыну. «Не забыў» Грымучы той трубы, «аддзячыў», — пранеслася ў думках.

Ён вырваўся, імгненна развярнуўся, і сяржант, які біў яго па нырках, паляцеў на зямлю. Зноў разварот... І тут падскокваюць яшчэ трое. Навалілiся з усіх бакоў. Але не так проста збіць з ног карабельнага грузчыка, ды яшчэ штангіста. Івану не раз даводзілася ўтрымліваць грузы, калі палуба хісталася пад нагамі... Чалавек у цывільным хапае за валасы і б'е галавой аб жалезны выступ машыны. Нешта ліпкае пацякло па твары. Іван спрабуе вырвацца з клубка цел, якія навалілiся на яго. Але ўсё-такі яго збіваюць з ног.

— Што вы робіце?! — крычыць жанчына з натоўпу.

Не зважаючы на людзей, як быццам перад ім не чалавек, а куль саломы, усё той жа ў цывільным зноў хапае Івана за валасы, а некалькі чалавек — за ногі і тулава. Запіхваюць у машыну. Апаясваюць ланцугом і зашчоўкваюць замок. Ні туды, ні сюды не рыпнешся.

Па дарозе без усялякіх тлумачэнняў зноў б'юць: па твары, пад рэбры. Нянавісць да гэтых людзей, крыўда, гнеў перапаўняюць усю Іванаву істоту. У міліцыі ўчыняюць допыт: хто, адкуль, з кім звязаны? Іван спрабуе растлумачыць, што адбылася нейкая памылка, што ён працуе ў порце грузчыкам...

— А-а, грузчыкам, кажаш? — імкнецца з ходу «раскалоць» яго чалавек у цывільным. — А шыфроўку каму перадаваў?..

І пераможна махае перад Іванавым носам тэлеграмай з шахматным пасланнем.

Вось яно што! Нарэшце Іван пачаў разумець, з-за чаго ўвесь сыр-бор разгарэўся, чаму так дзіўна глядзела на яго тэлеграфістка! Аказваецца, шахматны ход яна палічыла за шпіёнскую шыфроўку і паведаміла ў міліцыю! У шахматах яна нічога не разумела. Хоць знаёмства з ёй магло б аказацца больш прыемным.

У іншых абставінах Іван рагатаў бы, але тут душыла крыўда:

— Бараны! Ды гэта ж — шахматы! Разумееце? Вы што-небудзь чулі пра шахматы? У тэлеграме запісаны шахматны ход. Я гуляю ў турніры па перапісцы...

Цяпер ужо Іван быў упэўнены, што, зразумеўшы сваю памылку і папрасіўшы прабачэння, яго адпусцяць. Які ён быў наіўны! Тут не вельмі спяшаліся выправіць недарэчнасць, хаця ўжо ведалі, што служыў ён у пагранвойсках, дзе правяралі да пятага калена, ведалі, дзе нарадзіўся, дзе працуе... Але, відаць, цяжка было расставацца з так лёгка злоўленым «шпіёнам»!

Іван Паўлавіч да гэтага часу ламае галаву, чаму яго тады не перадалі ў КДБ. Але ці мала было незразумелага ў нашай гісторыі?

Яшчэ невядома, чым бы скончылася для аматара шахмат тая эпапея. Ды, на шчасце, швагер Іванаў, ваенны ўрач, добра ведаў старшыню Херсонскага гарвыканкама Качубея, які дапамог яму. Толькі праз суткі пасля таго, як умяшаўся сам Качубей, Івана выпусцілі. Добра яшчэ, што глузды не адбілі. Паздзекаваўшыся, узялі адбіткі пальцаў і падпіску, што падобныя тэлеграмы будзе даваць толькі так, каб усе разумелі, што і вымушаны быў зрабіць Іван. Замест кароткага запісу: Л h4:h8 напісаў, як загадалі міліцыянеры: ладдзя, якая стаіць на клетцы аш 4, наступным ходам бярэ ладдзю, якая стаіць на клетцы аш 8. Тэлеграма каштавала 33 рублі. На гэтыя грошы можна было купіць шмат кілаграмаў таннай каўбасы.

Такім аказаўся для партовага грузчыка Івана Дзікуна першы шахматны турнір па перапіцы. Нездарма кажуць, што першы блін — камяком.

## Тапограф

Івану Дзікуну папала ад... жонкі. Пасля заканчэння чарговага этапу работ ён павінен быў атрымаць грошы і прыехаць дадому на мядовы месяц. А тут такая няўвязка атрымалася. Каб жонка не хвалявалася, патэлефанаваў дадому з райцэнтра. Маўляў, так і так, прынялі нас тут за шпіёнаў, таму своечасова не зрабіў работу і не атрымаў грошы. Не сярдуй, мілая Танечка, што я тут затрымліваюся... Не паверыўшы, жонка аж ускіпела: «Ах ты, прайдзісвет! Не паспеў ажаніцца, а ўжо новую маладзіцу завёў?! За ёю шпіёніш?! Не хачу цябе больш бачыць, распуснік, гуляка, бабнік!» — заплакала і кінула трубку. Дарэмна спрабаваў дазваніцца Іван дадому. Толькі праз нейкі час удалося ўгаманіць жонку, пераканаць, што ён ні ў чым не вінаваты...

У Лаздзілайскім раёне Літвы, убаку ад вялікіх дарог, прытулілася невялікая вёсачка. Па праўдзе кажучы, нават не вёсачка, а хутар Вярцімяй з пяццю хаткамі. Адразу за вёсачкай — лес, а за ім — дзяржаўная мяжа. Жыхары тут мірныя. У свеце ўсё кіпела і бушавала, а тут — ціхае, размеранае жыццё. Ужо шмат гадоў ніякіх асаблівых гісторый.

Тапограф Іван Дзікун з памочнікамі з'явіўся тут пару дзён назад, каб скласці план мясцовасці. Як належыць, атрымаў у Мінску дазвол на правядзенне работы ў пагранічнай зоне. У адпаведным дакуменце былі ўказаны інструменты, прыборы, прылады, якія можна правезці.

Раней ніхто з чужых сюды не прыязджаў, не прыходзіў, калі не лічыць пагранічнікаў з сабакамі. Бывала, пры іх з'яўленні мясцовыя дварнягі падымалі такі вэрхал, што хоць вушы затыкай. Відаць, ім, як і хутаранам, хацелася нечым згладзіць сваё сабачае жыццё, хоць пабрахаць на каго-небудзь. Улады пастаянна і нястомна напаміналі пра падкопы імперыялістаў, але нешта даўно не чутно было, каб нехта з таго боку спрабаваў прашмыгнуць праз мяжу.

Хоць усё ж у жыцці пагранічнай зоны адбывалася раз-пораз незвычайнае здарэнне ці, наадварот, звычайнае, гледзячы як да гэтага ставіцца. Прычым штогод, прыкладна ў адзін і той жа час, у адным і тым жа месцы. У час гону ласі рвалі калючы дрот памежнай паласы і «гасцявалі» на тым баку, у Польшчы. Гнаў іх на калючы дрот інстынкт, закладзены ў генах.

Кожны год адбываўся гэты шпацыр ласёў туды-сюды праз памежжа. Апынуўшыся ля калючага дроту, як перад страшнай сцяной, статак заміраў, пачынаў мітусіцца ў нерашучасці. Адчувалася нейкае напружанне, якое, здавалася, можа быць толькі ў людзей. Нарэшце ад статка аддзяляецца лідэр і, як быццам развітваючыся з жыццём, выконвае рытуальны танец. Статак зноў замірае. Усе галовы звернуты ўбок таго, хто зараз будзе ахвяраваць жыццём. У вачах лясных жыхароў можна прачытаць смутак і павагу да сапраўднага важака. Яшчэ імгненне, і важак самаахвярна кідаецца на калючы дрот. Чуецца скрыгатлівы трэск. Гэта лопаюцца дрот, скура важака, ломяцца яго рогі і капыты. Капітан Пракапенка, начальнік заставы, заўсёды здзіўляўся, якую сілу трэба мець, каб парваць калючы дрот такой таўшчыні. Здзіўляўся і розуму гэтых лясных прыгажуноў: яны ішлі на дрот не дзе папала, а там, дзе былі адбіткі пратэктараў аўтамабіляў, якія вялі на той бок мяжы, — праз вароты, дзе старэйшыя браты па розуме павінны былі іх прапусціць.

Пасля прарыву статка на вострых калючках варот, якія заўсёды ў такі момант былі зачыненыя, заставалася вісець акрываўленае ашмоцце ад скуры лясных волатаў. Пракапенка да гэтага часу беражэ тыя страшныя фотадакументы людской бяздумнасці і бяздушнасці. Але што ён мог зрабіць? Над ім былі людзі, якія скончылі ваенныя акадэміі і вышэйшыя партыйныя школы, не тое, што гэтыя жывёліны з разгалістымі рагамі. Як жа барацьбіты з сусветным імперыялізмам маглі дазволіць прапусціць лася на той бок? А раптам пад яго хвастом схаваецца шпіёнскі фотаапарат!

Ім мроіліся ворагі. «Трымайце вуха востра! Вораг не дрэмле!» — закліналі з усіх бакоў. Не звярталі ўвагі нават на тое, што за мяжой — дружалюбная дзяржава, ваенны саюзнік.

Але надзвычайнымі гэтыя гісторыі былі толькі для ваеннага начальства, а для мясцовых жыхароў — самыя звычайныя. І лес самы звычайны акружаў іх: елкі ды бярозы, зараснікі алешніку ды калючага ажынніку з маліннікам.

І раптам...

Мясцовы школьнік Ромус пасвіў козы на ўскрайку лесу. Тыя так і цікавалі, каб улезці ў жыта, якое ўжо налівалася малочным сокам. Глянуў — двое невядомых. Прайшлі сцяжынкай праз жыта, агледзеліся па баках. Дасталі карту з афіцэрскага планшэта, павадзілі пальцамі, зноў агледзеліся. Каля арэшніку спусціліся ў яр і схаваліся ў гушчары. «Чужынцы!» — падумаў Ромус. Забыўшыся пра коз, то паўзком, то подбегам, хаваючыся за кустамі, падаўся следам. Чужыя былі ў камуфляжным адзенні, колер якога амаль зліваўся з наваколлем. На адным з іх хлопчык разгледзеў партупею, на якой, як яму здалося, вісеў кабур з пісталетам.

Шпіёны! Трэба неадкладна паведаміць на заставу! Ромус кінуўся на хутар, але нікога з дарослых там не знайшоў, акрамя старой бабулі, што калыхала немаўлятка. Што тут тлумачыць старой, якая сама — нібы тое малое дзіця. Ёй што шпіён, што шампіньён... Кінуўся на заставу. Бегчы было не блізка. Пот заліваў вочы, ногі падкошваліся ад стомы, але хлопчык, выконваючы свой піянерскі абавязак, бег з усіх сіл...

— Таварыш камандзір! — цяжка дыхаючы, далажыў Ромус. — Там шпіёны з біноклямі. Адзін з пісталетам...

Па трывозе паднялі заставу. Далажылі «наверх», у штаб дывізіі, адтуль далей — у штаб арміі...

А Іван Дзікун, прыехаўшы на месца, узгадніў з уладамі план работы і накіраваўся на пагранзаставу. Дастаўшы з планшэта план раёна, зняты з самалёта, паказаў яго начальніку заставы. У капітана Пракапенкі вочы загарэліся: «Як бы мне дабыць такую дэталёвую карту?» — І ён запрасіў тапографа:

— Зойдзем, калі ласка, да мяне.

Заходзяць у звычайную казарму, а там рыбы вяленай і смажанай — вочы разбягаюцца.

— Адкуль столькі рыбы? — здзіўляецца тапограф.

— Ды тут жа вадаём на вадаёме: ручаі і рэчкі, азёры і сажалкі кішаць рыбай. Ніхто яе не ловіць, пужае — пагранзона. Калі паедзеце ў свой Мінск, бярыце адтуль у наступны раз вуды. Хоць душу адведзяце — нацягаеце карасёў, плотак, шчупакоў. Тут нагульваюць вагу нават самы. Нядаўна мае салдаты злавілі во такога! — і капітан развёў рукі.

Дзікун засмяяўся: напэўна, перабольшвае. Грэх было не прапусціць па чарцы пры такой закусі, што і зрабілі з задавальненнем. Тапограф і пагранічнікі хутка знайшлі агульную мову.

На наступны дзень Іван Дзікун з Васілём Афонавым складаў тапаграфічны план мясцовасці, па сутнасці, тую ж усім вядомую геаграфічную карту, толькі больш падрабязную, дзе значылася не толькі тое, што стварыла прырода, але і аб’екты, створаныя чалавекам. У адрозненне ад геаграфічнай карты, на ім, акрамя даўжыні і шыраты, давалася кіламетровая квадратная сетка.

Тапографам хацелася скласці план мясцовасці з усімі падрабязнасцямі і адзначыць на паперы кожную ямку, горку, канаву, ручаёк... Усё ўскладнялася тым, што няроўнасці згладжваліся, танулі ў высокай траве, у жыце, якое вымахала ў рост чалавека, і густое кустоўе перашкаджала.

Іван устанаўлівае мензулу, а рэечнік Вася Афонаў, адышоўшыся метраў на сто, ставіць тапаграфічную рэйку, па якой бяруцца адлікі вышынь. Даводзіцца лазіць і па калючых зарасніках, і па ручаях, нярэдка і па балотах, дзе жыцця не дае машкара. Але тут, дзякуй Богу, ні аднаго камара. Там-сям з-пад елкі ці бярозы бруіцца крынічка з халоднай, чыстай, як сляза, вадой. Пап’юць яе тапографы, адпачнуць і зноў за працу. Ды не так хутка ўсё робіцца, як хацелася б, — не ўвязваюцца вышыні паміж сабой. Думай, тапограф, думай. Шукай памылку.

А тут яшчэ, як на тое ліха, «дапамога» з’явілася — статак кароў. Воля і прастор ім у гэтых мясцінах — травы колькі хочаш, і нікога нідзе няма. Карова — істота цікаўная. Падыходзіць да мензулы, нюхае. Толькі адгоніш — другая падыдзе. Што яны знайшлі ў гэтым століку на трох ножках з трубой і маштабнай лінейкай? Як мухі на мёд лезуць. Толькі адыдзе Іван ад гэтага месца, перанясе мензулу метраў на дзвесце, туды, дзе Васіль стаіць з рэйкай, зарыентуецца адносна бакоў свету, як каровы тут як тут. Сунуцца следам, быццам канцэрт для іх ставяць. А абы-чаго на план не нанясеш. Прыедзе камандаванне, праверыць, знойдуць памылку, так шыю намыляць — дзесятаму закажаш. Перарабляць усё давядзецца. Ды і пад суд можна трапіць. Толькі выпадкова Іван датумкаў, што прыцягвала кароў. Музыка! У яго на мензуле вісеў радыёпрыёмнік «ВЭФ», адкуль гучала музыка.

— Каб вас трасца ўзяла, — злуецца Іван.

Вядома, карова — жывёла карысная, малачко дае смачнае. Але ж навошта перашкаджаць чалавеку? І так яны, тапографы, у цэйтноце: работы шмат, а часу мала.

Карову хоць пугай адгоніш, а з людзьмі бывае яшчэ цяжэй — тут пуга не дапаможа. Яны больш цікаўныя: лезуць, пытаюцца што да чаго? Цяжка ад іх бывае адчапіцца. Аднойчы рабілі здымкі ў некай вёсцы. Кабета вылазіць з хаты, падазрона глядзіць на столік з трубой і планам, пытае:

— Што тут будзе?

Васіль Афонаў, азірнуўшыся па баках, нешта сказаў ёй на вуха. Жанчына спалохана паглядзела на яго і пабегла ў хату...

Назаўтра, даведаўшыся, дзе начальства гэтых людзей, што прыехалі сюды з нейкімі трубамі ды планамі, падалася жанчына ў Мінск. Знайшла начальніка тапографаў:

— Як вы можаце так?! Я ж усё жыццё там пражыла, там жылі мае бацькі і дзяды, а вы нейкі танкадром уздумалі рабіць. Я скардзіцца буду!

— Чакайце, чакайце, — прыпыняе жанчыну начальнік. — Пра што вы кажаце?

— Ваш хлопец, дзякуй яму, па сакрэце мне сказаў. Нават бутэльку самагонкі яму дала, каб ён крыху аднёс гэты танкадром ад маёй хаты, далей да лесу. Але, баюся, гэта не дапаможа.

— А хто там мераў? — хаваючы ўсмешку, спытаў начальнік.

— Не сярдуйце на яго, добры такі хлопец... Ён Васілём назваўся.

Начальнік адразу вылічыў Афонава.

Потым прапясочваў яго:

— Што ты, прахвост, наляпіў бабулі? Яна прыехала сюды скардзіцца. Трэба ж ляпнуць такое — танкадром! Пазбаўляю квартальнай прэміі!

— Не сярдуйце, Мікалай Іванавіч. Пажартаваў. Гэтыя людзі ўжо ў пячонках сядзяць: лезуць і лезуць. Вось і ляпнуў, каб адчапілася.

Адным словам, скандал атрымаўся.

Дзікун выбірае месца для мензулы, а Афонаў спрытна махае сякеркай з гумовай ручкай, ссякае кусты, якія перашкаджаюць агляду. Кладзе сякерку ў зняты з веласіпеда падсумак для гаечных ключоў. Прычэплены да партупеі гэты падсумак, як сапраўдны кабур, добра ўпісаўся ў экіпіроўку рысавальшчыка мясцовасці. Метраў праз сто пяцьдзесят Афонаў ставіць рэйку, а Іван, гледзячы ў трубу накшталт падзорнай, запісвае адлікі.

Раптам чуецца завыванне сірэны, брэх сабак. Што б гэта магло значыць? Можа, шпіёнаў якіх ловяць? Хіба ж магло прыйсці ў галаву тапографам, што гэта іх ловяць! З кустоў вылятае ваенны ГАЗ-66 з салдатамі ў кузаве. Яны выскокваюць з аўтаматамі напагатове. Адзін з іх, маленькі, круглы, як калабок (і бяруць жа такіх у пагранічнікі!), чамусьці ўрэзаўся ў памяць. Ён нешта шапнуў на вуха сабаку, якога трымаў за ашыйнік. Аўчар з аскаленай пашчай у некалькі імгненняў апынуўся ля Івана, гатовы сваімі клыкамі ўчапіцца ў горла.

— Рукі ўгору! — чуецца каманда.

Іван як скамянеў, інстынктыўна прыкрываючы твар рукой. А Афонаў ад страху з рэйкай у руках кінуўся бегчы... Над галавой прасвісталі аўтаматныя чэргі. Афонаў упаў на зямлю, уціснуўшыся ў яе ўсім целам... Сярод пагранічнікаў былі і чачэнцы. У тых мясцінах узгорысты рэльеф, таму служыць сюды на заставу прысылалі вайскоўцаў з Каўказа. Дый палітыка

яшчэ была такая: тасавалі туды-сюды. Беларусы ехалі служыць на Далёкі Усход ці Каўказ, а адтуль хлопцаў прысылалі ў нашы мясціны. Лапочучы нешта па-свойму, каўказцы акружылі «варожых лазутчыкаў». Трымаючы пад duламі аўтаматаў, звязалі рукі і чакалі, калі прыбудзе начальства.

Каля пагранічнікаў круціўся праваднік — літоўскі хлопчык, які данёс на заставу пра варожых лазутчыкаў. Іван Дзікун хацеў нешта сказаць, растлумачыць, што яны тут працуюць, выконваюць заданне...

— Не размаўляць! — на ламанай рускай мове загадаў сяржант.

— Што гэта робіцца, колькі нас будуць трымаць са звязанымі рукамі? — бядуе Іван. — Але каму тут прад'явіш прэтэнзіі? Гэтыя каўказцы і пастраляць могуць, потым патлумачаць, што спрабавалі ўцячы...

Хвіліны здаюцца вечнасцю. Сонца ўжо паднялося ў зеніт. Прыпякае. Хочацца есці. Добра было б папіць крынічнай вадзіцы. А тут ляжы са звязанымі рукамі, зацякаюць кісці... Нарэшце, як выратавальная музыка, чуецца гул аўтамашыны. Па следзе «газона», што прыехаў сюды з салдатамі, з кустоў вылятае «козлік», з якога выходзяць капітан Пракапенка і два лейтэнанты з закасанымі па локці рукавамі. Хутка падыходзяць да звязанага Дзікуна.

— Іван Паўлавіч, ты?! — здзіўляецца капітан.

— Я.

— Што ж я нарабіў?! Усю заставу падняў! Малы сказаў, што шпіёны тут: адзін з пісталетам, а другі — з падзорнай трубой. Трубу «падзорную» бачу, — не стрымаўшы ўсмешкі, паказвае на мензулу пагранічнік. — А дзе ж пісталет?

— Вася, ідзі сюды, — кліча Афонава Іван.

А той баіцца паварушыцца — побач аўчар з разяўленай зяпай. Толькі крок зрабі — адразу накінецца.

— Убраць сабак! — камандуе капітан.

Вася падыходзіць, паказвае «пісталет». Капітан глядзіць на кабуру з сякеркай і смяецца:

— Такога ў маім жыцці яшчэ не было. Вось дык пісталет! — крыху памаўчаў і, спахмурнеўшы, дадаў: — А я ж далажыў ужо ў штаб дывізіі, адтуль пайшло ў штаб арміі... Цяпер непрыемнасцей не абярэшся...

— Ромус! — паклікаў капітан хлопчыка, які ўжо зразумеў, што ўвёў у зман пагранічнікаў. Панурыўшы галаву і сцяўшыся, ён чакаў вымовы. Але начальнік заставы сказаў:

— Ад імя камандавання і ад свайго асабіста аб'яўляю табе падзяку і ўручаю значок «Юны пагранічнік». Малайчына, Ромус! — і, дастаўшы з кішэні, прышпіліў на яго кашульку значок.

Ромус аж засвяціўся ад радасці.

Больш як тыдзень не давалі працаваць тапографам — усё ўдакладнялі, што і да чаго. Гэта ж не жартачкі — заставу ўсю падняў па баявой трывозе! Шпіёны з'явіліся. А калі б у гэты час у іншым месцы прашмыгнулі дыверсанты?! Пра здарэнне ўжо ведалі ў Маскве. Пракапенку не знялі з пасады, але чарговае званне затрымалі.

А ў Івана Дзікуна ледзь не распалася сям'я. Так скончылася для яго чарговая эпапея са «шпіянажам».







## Валерыя КУСТАВА

* * *

Для самазахавання я напішу вясёла:
«Ляцела на выгнанне мядотна жоўта пчола...»
Ой, нешта не пяецца; журліва, не ў гуморы.
А сонцайка ліецца, вятрок блазнуе ў моры.
Мяне гукае хтосьці то ў далячынь, то ў Лету.
Мне млосна ад мілосці: я з’еду, з’еду, з’еду!
Куды з Зямлі падзецца? Нікуды. Нельга, грэшна...
І шчасце ў жыцці б’ецца... І радасна, і смешна...
Жыцьму.

### БОЛЕЙ!..

Зраненыя вершы,
Бог — маё маленства!..
І дзіця з каменнем у далонях кволых!
Шнары на ўсясвеце, шнары на галовах.
І на сцэнах новых свежае шаленства.

Зраненыя вершы: Бог — маё маленства!..

Зранены Я, вершы!.. Бог — маё маленства!..

### ЮНАЯ

Разышліся ў рэчаньцы два чаўна.
На самоце крычма крычыць жаўна.
Ды глядзіць хаціначка ў два вакна:
без мілот дзяўчыначка — сіл няма.

---

*Кустава Валерыя Уладзіміраўна нарадзілася 9 кастрычніка 1984 года ў Мінску. Вучыцца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтва. Аўтар паэтычных кніг «Кроў Сусвету», «Каб неба сагрэць...».*

Не маркоцься, мілая, не смуткуй.
Любая птушыначка, не бядуй.
Ты мая харошая,
ты мая прыгожая,
ты мая нясмелая.
Ты — мая.

І далонь сарвалася з далані...
Ад пяшчоты ўспыхнула два вагні,
і ўздыхнулі вогнішчы ў два клубы:
«Не бывае, родная, дзве журбы».

Як душа са скрухаю — дзве сасны
упляліся стромліва ў сум лясны.
І гарацць дзве свечачкі давідна,
і сядзіць дзяўчыначка зноў адна.

Лугавое сонцайка слепіць шкло.
Чараўніца юная сніць цяпло.
Лебедзі мілуюцца на вадзе.
Сівізна зрабілася маладзей.

Не маркоцься, мілая, не смуткуй.
Любая птушыначка, не бядуй.
Ты мая харошая,
ты мая прыгожая,
ты мая нясмелая,
юная.

* * *

Дазвольце з Вамі слухаць цішыню,
дазвольце разам быць у светлым суме,
ў будзённасці, у мітусні і ў тлуме.
Дазвольце з Вамі слухаць цішыню.

Дазвольце з Вамі дыхаць вышынёй,
дазвольце ёю сніць і трызніць ёю,
вішнёвай узыходнай вышынёю.
Дазвольце з Вамі дыхаць вышынёй.

Дазвольце з Вамі кратаць глыбіню,
кранаць яе — расці, глыбець у самасць,
усмешка без пакут — пустая радасць.
Дазвольце з Вамі кратаць глыбіню.

Даверце слухаць, дыхаць і глыбець...
Дазвольце з Вамі лётаць і шалець,
дазвольце побач, поруч укрыляць,
дазвольце даць Вам, што я маю даць.

* * *

Я губляю страты свае.
Зірні.
Найраднейшага сябра не суцяшаюць
пякельныя — на іх мяне спаляць! — мае вагні,
што з далечыні
і ўваччу
так няўтульна палаюць.

Мо ад болю тупею, як нож стары.
Вогнішчы, вогнішчы, вогнішчы ўсюдна!
Да пары я згару. Ой, да пары...
Я згару ад людзей...
непрылюдна,
няўклюдна...

Ад сябе я згару. Ой, ад сябе...
Мяне ў сэрца — шыпамі, шыпамі, шыпамі!..
Я шалею шыкоўна: шыпшынна — журбе,
суму — светла,
і вусцішна —
вусце і ціш... —
з вамі...
з вамі...
з вамі...

* * *

***Тадэвушу Гротгеру***

Тадзю, мой змрокавы хлопчык,
які ўсё ж знайшоў усмешку,
чакаю цябе!
Так дзіўна — цябе я раней не чакала.
Тадзю, мой мілы самотнік, мой абаяльны маленькі,
мой юны, любы філосаф
з апушчанымі вачыма.
Тадзю, мо для пацалункаў створаныя твае шчочкі
ў барвах пунсова-ружовых?
І вушкі, і вусны таксама...
Тадзю, з табою за лапку хачу пагуляць я па Менску,
бо пані ж Варшава раўнуе
такіх выкшталцоных паночкаў...
І пекных, і вабных, і гожых,
такіх, карацей, як ты, Тадзю!
(Хоць роўна такіх і няма больш!)
Тадзю, мне снілася сёння,
што я да Варшавы прайшлася
і клікала выйсці на вецер
цябе, дарагі мой Тадзю!
А ты для чагосьці марудзіў...

Ці рады ты быў той сустрэчы?
Быў цёплы, пранізлівы вечар...
Ты ветру баяўся, малеча?
Ты выйшаў — такі ўсхваляваны —
мне нават зрабілася цёпла.
Здавалася, выбухне штосьці —
вясёлкай?..
Ці светы ўсе-ўсе перакуліць,
што туляць хаосы, і існасць,
і волі, што крылы спаткалі,
якім толькі ўроўні каханне?..
Цябе я любіла...

* * *

*Анджэю Траўгуту*

Раніцаю — рок,
вечарам — раманс...
Твой зялёны зрок —
не святло, а шанс!

Штосьці не далі? —
значыцца тваё! —
Сальвадор Далі,
Дарыюс Міё...

Юны візаві,
здзіўлены ўсур'ёз,
мне душу не рві
радасцю да слёз!..

Лёгкі кавалер,
мілы шалапут, —
у зямных хімер
тэж стае пакут.

«Як завешся ты?» —
у мяне спытаў
мелас мілаты
голасам гітар.

«Я — не бог, ані,
Божа барані, —
болю карані,
вецер у вагні...»

* * *

*Антуану Леставэлю*

Парыж. Ліставей.
Французскі дурман.
Месьё Леставэль
зайшоў у шантан.
Ён сеў — дзе заўжды.
І слухаў шансон.
У цішы хады —
не смерць і не сон! —
Парыж падышоў! —
сівы, як юнак,
і голы, як шок, —
наўпрост,
проста так.

І рукі паклаў
на плечы яго:
Парыж дазваляў
усім усяго.
З усмешкай шапнуў,—
бы ўводзячы ў зман, —
за нервы ўшчыкнуў:
«Скажы, Антуан,
ці любіш сваё?..»
«Вядома: Гіём...»
«Маўчы, Леставэль!..»

Парыж. Ліставей.

* * *

Чым лягчэй — тым лепей
не заўсёды, мілы.
Ты прачнуўся ранкам,
поўны добрых сіл.
Ты мая заранка
з барваю астылай.
Як грахі? Спачылі?
Ну тады — маўчы.
Завяжу табе я
вочы белым сцягам,
каб не бачыў свету
чорнага, як здань,
каб разломы ў небе
разрывала прага,
разрывала срэбрам,
што спялее там.
Не хачу, каб позірк
твой спыніўся недзе,
дзе брыдва і поскудзь.
Бо сама не тут.

Не зірні на зоркі,
не зважай на смецце
і на кроў на смецці,
не глядзі на бруд.
Буду танчыць доўга
нецвярозым дымам,
што свой след губляе
па дарозе ў рай.
Я паклічу Бога —
хай цябе абдыме,
той, хто шчэ не страчваў
нелюбові зграй.
Адпусці ласкава
подых, што не ў змозе
акрыяць ад шчасця,
што за смерць далей.
Усміхайся болем
сваёй шчырай крозе,
бо і скон не здоліць
белі ўсіх лілей!..

* * *

Крылы — для нябёсаў,
на зямлі — каханне.
Мне не трэба болей:
болей — не бывае.
Дастаткова срэбра
мне ў тваім дыханні.
Пацалункі шчасце
ў цеплыню схавалі.

Шэптам прамаўляе
жарсці голас тромкі
й моцны ад пажару,
што нутро ўздымае.
Вільгаць наталення
целаў нашых гронкі,
што ў адзіным ўздрыгу,
поўнячы, спыняе.

Нашы папялішчы
стомна ў ложку тлеюць —
мы ад іх зляталі
зніту ваннем душаў.
Лозы аплятаюць,
і пястоўна млее
між лілеяў снулых
шчасця непарушнасць.

Пазіраюць дзеці —
на грамнічным змежку —
весела і мудра
з боскіх аблачынак.
«Прачынайся, родны!..
Паглядзі на ўсмешку —
наш, здаецца, хлопчык...
Не люблю дзяўчынак».





## Навум ЦЫПІС

# МЫЛА МАРУСЕЧКА БЕЛЫЯ НОЖКІ...

*Навела*

Лячу... Спяваю... Калісьці людзі ўмелі вось гэтак — лятаць і спяваць. Але адно з другім супадала рэдка. «Яны жылі доўга і шчасліва і памерлі ў адначас». Зазвычай — мелодыя гучыць, а палёт ужо скончыўся. І гэтак жа звычайна, што мелодыя тая падобная на рэквіем. Нават калі чалавек яшчэ жывы. Радзей здараецца, што песня адспяваная, а палёт працягваецца. Толькі тады можна ўбачыць талент. І нарэшце ўжо нічога не трэба — толькі маўчанне, у якім ёсць усё, што ты хацеў прамовіць і зрабіць.

Мяне чакалі — і я прыйшоў. Што за прамінулым, за аджытым — не застанецца нікому. Нават і мне. Вернецца, калі я прыйду да сябе. А вось толькі што — я дайшоў, даляцеў да цябе. І ў думках маіх выяснілася. Святло і цішыня... І грудзі, перапоўненыя тым, пра што не мог сказаць, тым болей зрабіць. Не магу ўздыхнуць. На ўсёй зямлі не хапае паветра, каб уздыхнуць...

І вось я на самай вяршыні. Далей хіба што ўніз — дзе нічога лепшага і чысцейшага ўжо не будзе. Святло і цішыня. Нават сто гадоў — мала. Час як здзеравянеў. І ты ўжо нібы не чалавек... Яшчэ імгненне, і — Бог... Гэта нязначнае, як здаецца, можа, і адрознівае Бога ад Чалавека, бег і палёт, застылы бетон і валошку ў хлебным полі...

Калі дайшоў да вяршыні, — прасветленасць і цішыня... — бойся нават самае малое думкі пра сканчэнне жыцця. У гэтакую хвіліну з ёю развітваюцца вельмі лёгка. На шчасце, гэтак амаль не бывае. Але, на жаль, і вельмі рэдка... Калі ён і яна паяднаюць свае пачуцці. А гэта, сапраўды, ой як не часта здараецца.

За маленькім столікам, што стаіць каля Божага прастола, — толькі ты і я. А напраўду — адна ты. Твае вочы, рука... Адна ты. І як мільгнула перада мною шчасце, кароткае, бы пробліск сонца, якое толькі і ўгледзіш у акне, што вось-вось зачыніцца...

Здалёку — і не ўцяміць, ці просьба, ці самота, хіба што расхінулася ўсхваляваная прастора:

---

***Цыпіс Навум Фроімавіч*** *нарадзіўся 6 мая 1935 года ў горадзе Вінніца на Украіне. Скончыў Курскі педагагічны інстытут. 27 гадоў выкладаў у мінскім ПТВ літаратуру і гісторыю. Выдаў некалькі кніг прозы. Шмат працаваў у жанры публіцыстыкі.*

— На речке, на речке, на том бережочке
Мыла Марусечка белые ножки…

Стаіць перад магутным князем, рубакам і гвалтаўніком, танюсенькі хлапчынка — князеў сын — з маленькім ды сапраўдным мячом. Яшчэ і тыдня не прамінула, як бацька падараваў яго княжычу. Спецыяльна кавалі гэты булат Ізяславу найлепшыя кавалі з кузні знанага Міколы-гарбача. Ён дружыне каваў зброю і князю меч выкаваў — самою смерцю павявала ад мяча. А падняць яго маглі хіба што два чалавекі ў Кіеве: князь і Мікола-гарбач. Вось гэты меч, у сечах выпрабаваны, цяжкі і востры, зараз ва Уладзіміравай руцэ. За спіною ў хлопчыка — маці, былая княжна полацкая Рагнеда, а сёння і даўно ўжо — княгіня кіеўскай Еўфрасіння, жонка Уладзіміра, усемагутнага і непераможнага.

— Тату, ты думаеш, што ты тут адзін? — звонка запытаўся Ізяслаў. Танюткі светлавалосы хлопчык... Непарушнаю засталася дзіцячая забарона. Не адолеў яе князь, перад якім трымцела ледзь не паўсвету, — апусціў смяротны меч.

— Пакланіся сыну нашаму... Ідзі правіць на Полацк. І каб я цябе не бачыў болей. Любоў мая да цябе стала лютаю. Не магу цябе бачыць... — гэтакага князя баяліся нават яго сябры. «А я цябе магу...» — падумала, але не сказала княгіня. Толькі злосна бліснулі вочы, а за тою злосцю... — слёзы, маленне, бяда і страх... Непазбыўнае жаночае, тое, чым ад першага дня свет жыве. Таму што жыве ён любоўю-міласцю, вернасцю-адданасцю, бывае, што і справядлівай нянавісцю.

Уладзімір паглядзеў на сына, твар умомант пацяплеў:

— Вырасце — садзі на княжанне — і славу здабудзе, і годнасць асцеражэ. Мой сын!

— Усё ў тваіх словах праўда, — змяіцца ўсмешка, крывіць поўныя салодкія, зацалаваныя князем вусны, — толькі сын не ўвесь твой... І жонку сабе не мячом здабудзе, а любасцю і ласкаю. І перад тым, як пасадзіць яе па правую руку ад сябе, гвалтаваць не будзе...

Ці ведала Рагнеда, каму кажа гэта... Ведала. Ды і першы сляпы князеў гнеў мінуў, — сын жа тут.

— А сына на княжанне пасаджу, не сумнявайся. Чалом табе, што не забіў, княжа, — нізка, у пояс пакланілася. — А калі і траплюся на тваім шляху, дык ведай: не па жаданні маім, а нечакана-выпадкова.

Павярнулася да Ізяслава:

— Ідзі, загадай коней запрагаць і ў дарогу збірацца. Шлях далёкі, — мякка падштурхнула княжыча да дзвярэй. — Не палохайся, бацькава слова цвёрдае. Ідзі.

У адчыненыя княжычам дзверы разам з прахалодаю сіняй і жоўтай раніцы, нібы паветра любві, прыляцела ў святліцу:

...Белые ножки, лазоревые очи,
Плыли к Марусечке серые гуси…

Князь ступіў да Рагнеды, абняў і ласкава сціснуў у моцных абдымках — як у надзейным і ўтульным струзе: ва ўсім свеце адны і ўгойдвае, угойдвае нячутная хваля...

— Яшчэ трохі — і забіў бы... Кахаю цябе!

— І я кахала б, каб даў... Што ты?! А як увойдзе хто...

— Хай сабе! Князь — я! Як хачу, так з жонкаю і развітваюся!

— Ужо не з жонкаю. Іншая ў цябе жонка. Пусці!

— Не! Забіць мог, а адпусціць не магу...

А Рагнеда не магла і не хацела працівіцца. Яна абняла князя, і яе вусны так і чакалі яго пацалунка і ўладнага і пяшчотнага імкнення горача каханага мужчыны. А розум Гарыславы, — не дарма ж сярод людзей гэтак звалі: столькі трывала і стрывала, — розум бунтаваў і закіпаў, слабеючы і прытуманьваючыся ў апошніх пошуках супрацьстаяць знішчальнай плыні пачуццяў, якая запаланіла ўсю яе...

Оттенок тонкий,
Отзвук дальний…

«Мне вельмі прыемна, што ты не забыў мяне. Дзякуй за віншаванне. Што б ні здарылася ў жыцці, а калі ёсць чалавек, які памятае цябе, — каб і ў кожнага гэтак было... Калі б я засталася, то зрэдку бачыла б цябе, — хоць нават пагаманіць, — гэта для мяне таксама шмат значыць. Зразумела неяк адразу, аднаго дня, што не змагу трываць болей, і раптам выразна ўявіла — як гэта вось так без усмешкі і радасці. Аднаго разу была там, каб рэчы забраць. знарок папрасіла яго падвязці — ускалыхнецца што-небудзь у мяне ў душы ці не? Нішто не кранула, нічога не згадала. Вось як памылілася: трэба было раней развітацца. Цябе тады ў горадзе не было. А так хацелася ўбачыць.

Цяпер у мяне ўсё добра. Хіба што — адзінокая. Нават кароткіх сустрэч, нечаканага кахання — няма. Проста мала ў нас сапраўдных мужчын. Я ж не пра вяселле загадваю. Але і проста так, хоць тады-сяды як трэба не ўмеюць. П'янчугі і абыякавыя, як халадзільнікі. Каб толькі ў ложак завалачы. А я наглядзелася ўсялякага яшчэ да цябе. Мне агідна гэта. Хоць я ж і не супраць, калі людзі падабаюцца адно аднаму. А ў такім выпадку — дык я лепшая за многіх іншых. Ты ж ведаеш. Мне б такога, як ты... Я б цябе слязамі сваімі абмывала. Ад радасці. А проста мясам быць не хачу!

Уставіла зубы (бачыш, табе ні пра што не баюся пісаць) — цяпер смела ўсміхаюся. Мне, калі маладзейшая была, казалі, што ў мяне эстрадная ўсмешка і вірлавокі пагляд. Згадала, калі глядзела ў люстэрка на свае новыя зубы. А я яшчэ паглядная... І фігура з таліяй, і ножкі не абы-якія. Гляджу за сабою, нават зарадку штодня раблю. Жыву, працую, спадзяюся, як і ўсе людзі, на лепшае.

Я цябе не забуду і ўдзячная. Ты не думай, я ўсё разумею і адчуваю. У жанчын гэта ў крыві. А раптам убачу цябе? Гэтак хачу... Жадаю табе здароўя і шчасця».

И если скажет страна труда…
Крас-но-знаменная, смелее в бой!
Даль-не-восточная, даешь отбой!

Гэй, гэй! Браты ўкраінцы, рускія, грэкі, палякі і ўвесь савецкі пралетарскі народ! Выходзь, налівай. Карасінчык прыехаў, яго Санька-замасцянец прывёз! Яшчэ цёпленькі, яшчэ свежанькі. Раз, два, тры!.. Жанчыны — толькі падавай. А прыгажуні — без чаргі!

И если ска-жет страна труда!

— Раз, два, тры! Стой! «Марусечка, точеные ножки!» Выйдзі да мяне, царэўна ўсіх водаў! Выйдзі, кажу, бо карасіны не налью! Як боршч варыць будзеш? Як мужа сустрэнеш? Ну хоць пакажыся! Калі не выйдзеш, то ўмомант памру ад суму і нудоты па табе! Хто Замосцю карасін вазіць будзе? Хто табе з зарплаты марожанага і лікёру любімага купіць? Марыя, выйдзі, кажу! Курва! Хіба ты думаеш, што я цябе цэлы дзень бачыць не буду? Ну нарэшце... Уф! А я ўжо думаў разводзіцца. Не, усё ж якая харошая!

Хороша ты, хороша,
Плохо ты одета.
Никто замуж не берет
Девушку за это!..

Бывай да вечара, Маруся, «точеные ножки». Кахаю цябе да самых дрыжыкаў майго цела, жоначка мая, так, як дай Божа ўсім! І як жа я з табою вечарам, ноччу і ранічкай прыстараюся!.. Вой, вой, вой!

— Дурань выхвалянскі! Ты лепш прыходзь хутчэй — пабачыш, што я з табою зраблю, хвалько замасцянскі!

Далёка, за мроівам фата-марганы, — мёртвы бацька і — страшэнны Уладзімір з акрываўленым мячом, і яе, княжны полацкай аціхлы крык, калі сільнічаў яе князь-гвалтаўнік... І гарэла Рагвалодава кроў на падлозе ў чыстай святліцы, на выбеленых рачным пяском прыступках лесвіцы, што вяла ў яе. На беласнежным карункавым пакрывале дзявочай пасцелі, якую выштукавалі самыя лепшыя майстрыхі Полацка... І вяселле на ўсё Кіеўскае княства з ім жа, з ненавісным князем, якому пры жыцці бацькі, князя полацкага Рагвалода, адмовіла гордая Рагнеда. Каханне праклятае і жаданае, і сын любімы ад каханага мужа, забойцы бацькі і мацеры... Аднаго разу хацела невыносны свой грэх у Дняпры ўтапіць, — сын не даў: ужо быў у ёй і хацеў жыць.

Нядобрае забываецца. На тое ж і памяць чалавечая, каб дапамагчы чалавеку звекаваць нялёгкія гады. Усялякае забываецца, але не такое... Не здолела забыць княгіня.

Задумала і гатова была на ўсё. Крывёю акупіць кроў. А што ж з ёю будзе? Няхай і самае горшае. Больш у княгіні кіеўскай нічога не было, акрамя жыцця. Хіба золата ды срэбра, ды смарагды і ўборы прыгожыя ў куфрах — гэта багацце? Багацце — воля і каханне, а больш нічога. Сына шкада, але, відаць, лёс такі — гадавацца без маці... Хіба новая князева ўцеха, купленая візантыйка Ганна, — гэтак было пазначана ў дамове з Уладзіміравай пячаткай: «Херсанес грэкам — за віно і царэўну», — хіба зможа яна быць маці Ізяславу?

Стой на сваім, дачка Белай Русі, Рагнеда! Неба над табой, зямля пад табой, і павінен быць на гэтай зямлі закон-праўда, які нельга парушаць нават князям. Нават мужу. Нават каханаму. Дажбог даруе, родная рака прыме ў сваю плынь твае слёзы і зашапоча драбнюткаю хваляю твой боль. А жыццё княгіні Гарыславы калі-небудзь стары пясняр-беларус прапяе сыну твайму, Ізяславу, і затуманяцца вочы ў суровага князя... І будзе гэта адплата за ўсе твае горкія гады на гэтай цудоўнай і праклятай зямлі.

Хто ні гляне, таму і адкрыецца, што цудоўная ды праклятая — таму, што за ўсю яе даўнейшую гісторыю ні адзін вораг не знішчыў больш славян, чым славяне — «свой своего побивахом». Гэта пра яго і яго нашчадкаў пакіне летапіс радок: «С того часу поднимают меч Рагволожьи внуки на Ярославовых внуков». Падымаюць — не раз, значыць, сыходзіліся ў сечы родзічы. Людская кроў — родная кроў — грэх немалы. І множыўся ён ад сечы да сечы людскімі смерцямі...

«...беспрэцэдэнтная антрапалагічная трагедыя, генетычны рэгрэс, канчатковым вынікам якой стала жорсткае ўсячэнне чалавечага патэнцыялу». Зразумела, што рабу нічога не застаецца, як толькі ўхваляць сваю няволю, ствараючы хоць якуюсь ілюзію вольнага выбару. Але каб ад гора ды траціць прытомнасць таму, што памёр забойца... Нармальная рэакцыя ў ненармальных умовах: памёр Сталін — у лагерах і зонах — свята. І — усенародны плач на волі. Усячэнне чалавечага патэнцыялу...

Калі яшчэ будзе, а тысячу гадоў таму беларуская княжна, як магла, паўставала супраць гэтага. Жанчына — яна разумела, што павінна быць, а можа не быць, нават калі гэта тваё жыццё.

...Мыла Марусечка белые ножки...

Гэта была яе апошняя ночка на зямлі — такая, што і на Купалле рэдка здараецца... І мёд быў салодкі і моцны, і абдымала яна захмялелага мужа, нібы тайнага і жаданага каханка, зліваючыся з ім, раствараючыся ў ім, — як са стромы, каб нікому не засталося... А калі на золку Уладзімір з чорнымі вачамі і падсохлым тварам, нібыта пасля злой сечы з палаўцамі, заснуў, як у ваду ўпаў, палюбавалася Рагнеда на каханага свайго, на забойцу бацькі і маці, выцерла слёзы і дастала падораны мужам заморскі кінжал, за які плаціў, як за табун добрых коней...

Хто князя аберагаў? Хіба людзям такое вядома? Не павінен быў прачнуцца князь пасля гэтакай ночы, — дзень і яшчэ ноч спаў бы ён — як пшаніцу прадаў ці дзіця свайму роду падарыў. Вось тады б ужо і напраўду спаў бы вялікі Уладзімір непрабудным сном. А гісторыя Русі пайшла б іншым шляхам. Ды не, не лепшым і не горшым — іншым. Жыве князь ці памірае, ці гэты валадар, ці яшчэ які, свой — запрошаны... — зямля застаецца зямлёю, а людзі на ёй працягваюць гараваць. Горш ці лепш бывае толькі валадарам. Але чаго яны не ведаюць, у адрозненне ад людзей, дык гэта шчаслівых хвілін. Пра шчаслівую ж долю разумныя і хто нямала пажыў нават не гавораць. Песні, праўда, складаюць:

Нема в свете правды, правды не зыскаци,
Бо давно неправда стала правдуваци…

…У тое ж імгненне, бы і не спаў ён шчаслівым сном, а чакаў і падсцерагаў, расплюшчыў князь вочы. І сустрэўся з паглядам Еўфрасінні — Рагнеды... Узяў кінжал з жончыных рук, падняўся, лінуў у памаладзелы ад гневу і гора твар колькі прыгаршчаў халоднай вады.

— Апрані ўсё сваё — царскае. І любімае маё памыста, што на вяселле табе падарыў з грэцкіх манет і крымскіх камянёў. Чакай.

У дзвярах абярнуўся:

— Думаў, забыла ці, можа, нават — даравала. А ты і сына майго пад сэрцам насіла, а паіла тым ядам... Так будзе, так павінна быць у княстве, дзе ёсць князь! Рыхтуйся. Пра сына не думай, не пакрыўджу. Гэта маё апошняе табе суцяшэнне, княгінька.

Вось гэтак яно было. Так ёсць. А як будзе — ніхто не ведае. Нават Дажбог, спалены ў велізарным вогнішчы над лясным возерам пад Полацкам. Ёсць межы ў ведаў, як бы яны ні пашыраліся. Няма мяжы пачуццю. Яно ўсё можа, пакуль не памрэ разам з тым, у кім жыве. І пакуль чалавек ідзе за ім, ён бліжэй і бліжэй да таго, якім яго задумалі нябёсы.

Я не заўсёды ведаю, як назваць тое, што адчуваю, але я ведаю, цвёрда і непахісна, пакуль ува мне ёсць чым адказаць на ўсмешку жанчыны і пытанне дзіцяці, — я жыву. І хачу жыць.

...Яна адказала яму сваім пругкім і цудоўным целам, усёю сабою. Слабеючы, разгараючыся і набіраючы моцы, якую не адолеў ніводзін мужчына ад пачатку стварэння свету. Яна ішла, ляцела, цякла насустрач яму і рабілася ім, адчуваючы, што сама робіцца сэрцам свайго мужа. «Положи меня яко печать на сердце своё…» Каханнем і пяшчотаю жыў кожны Уладзіміраў рух, кожны яго ўздых і стогн былі гэтымі каханнем і пяшчотаю...

З чым ты прыходзіш, мужчына, і з чым адыходзіш?.. Першае, што бачыш і чым дыхаеш, — жанчына. Апошняе, што праводзіць цябе да бацькі, маці і Бога — жанчына. А чым і кім радуе свет — пакуль жывы? Усе дзеянні, думкі і мары твае — жанчына. Каб толькі быў сапраўдны, вылеплены з той гліны, што здабываюць мужыкі на Бугу пад Вінніцай. З тое гліны Бог першых людзей ляпіў, а ўкраінскія ганчары — звонкія глечыкі. Каб толькі быў мужчына сапраўдны, а пры ім вось такая жонка, — тады ўсё на гэтым свеце будзе стаяць на сваім месцы.

...Звонкі, зрывісты голас тоненькага хлопчыка: «Тату, ты думаеш, што ты тут адзін?»

... У нераз'яднаным, здавалася ёй, вечным абдымку з Уладзімірам, Рагнеда не розумам, — душой, целам, ужо ведала: не будзе ў яе больш ніколі такога любімага і так жаданага мужа...

І смуткавала яе душа ад таго, што павінна яна заўсёды ненавідзець князя і хацець яго смерці, а яе цела спявала тую песню кахання, якую спяваюць жанчыны толькі адзін раз. Калі супадае і сыдзецца шмат што і на зямлі, і на небе. Рэдка каму дадзена праспяваць яе яшчэ раз, гэту Песню песняў.

— Божухна... За столькі не знадакучыла... Кожны раз — як першы... — князь лёг побач, яго рука не хацела развітвацца з жончынымі грудзямі. — Лябёдка ты мая... Каханая... Салодкая...

З вялікай цяжкасцю ўтрымала сябе княгіня — нясцерпна хацелася абняць і астатнімі ласкамі пяшчоціць такое любімае, дужае мужава цела. Такое жаданае і такое — толькі яе.

Яна ведала яго шалёны характар, яго імгненныя рашэнні і непахіснасць дзеянняў. Яна ведала, што калі зараз папросіць прагнаць разлучніцу і вярнуць ранейшае жыццё, ён з радасцю гэта выканае. Але ведала і тое, што рабіць гэтага нельга. Неба не даруе такога граху. Дзякуй, што і так шмат трывала, і сына дазволіла мець і гадаваць. Ды і ці можна гэтак, як зараз... Ночы будуць яе, а дні... — зноў перашэпт князевых людзей, новыя маладыя разлучніцы, і зноў сынаў лёс ці нават жыццё стане разменнай манетай, а то і зусім абарвецца...

— Нібы ўчора сустрэў цябе... Столькі было, а такой, як ты...

— Ты не забядуеш, княжа. Столькі тога дабра ў кожным тваім паселішчы расце! Пашукай, знойдзеш і прыгажэйшую, і саладзейшую, — рассмяялася Рагнеда.

— Вось вы, бабы, як каменныя! Я тут ёй душу адкрываю, а яна смешкі-насмешкі... У Полацк прыеду — прымеш?

— А чаму ж не прыняць? Госцем будзеш.

— А...

— А было ў нас, князь, развітанне. І больш таго не будзе. А госцем, госцем заўсёды дарагім будзеш. Такія падарункі, якія ты нам зрабіў, мы з сынам не забываем. Дай пацалую цябе на развітанне. Жыві здароў, князь.

За акном плыла песня, кагосьці зноў клікала нарадзіцца, кахаць, жыць, паміраць... Што каму наканавана.

На речке, на речке, на том бережочке
Мыла Марусечка белые ножки…

***Пераклад з рускай мовы У. Марука.***





# ПОЛЫМЯ

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ

**Навукова-кансультатыўны савет:**

**Уладзімір Васільевіч ГНІЛАМЁДАЎ**,
дырэктар Інстытута літаратуры імя Я. Купалы,
акадэмік (кіраўнік)

**Сяргей Аляксандравіч ЖДАНОК**,
акадэмік-сакратар Аддзялення фізіка-тэхнічных навук,
акадэмік

**Валянцін Антонавіч АРЛОВІЧ**,
старшыня Беларускага рэспубліканскага фонду
фундаментальных даследаванняў, акадэмік

**Міхаіл Фёдаравіч ПІЛІПЕНКА**,
галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства,
этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы, член-карэспандэнт

**Аляксандр Аляксандравіч ЛУКАШАНЕЦ**,
дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа,
доктар філалагічных навук

**Гаянэ Юр'еўна ВАЛЬЧЭЎСКАЯ**,
намеснік дырэктара Нацыянальнага цэнтра інфармацыйных
рэсурсаў і тэхналогій

**Таццяна Мікалаеўна МІРОНАВА**,
вучоны сакратар Інстытута эканомікі,
кандыдат эканамічных навук





**Уладзімір ГУСАКОЎ,**

Намеснік Старшыні Прэзідыума
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, акадэмік

# НОВАЯ АГРАРНАЯ І ЭКАЛАГІЧНАЯ СТРАТЭГІЯ: ЯКОЙ ЁЙ БЫЦЬ

Перад беларускай сельскай гаспадаркай у адпаведнасці з Праграмай адраджэння і развіцця вёскі на 2005—2010 гады нароўні з вытворчымі і сацыяльнымі мэтамі ў цяперашні час стаяць наступныя важныя эколага-эканамічныя задачы:

экалагізацыі і біялагізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці, устанаўлення рацыянальнага балансу і ўзаемадзеяння паміж сферай сельскай гаспадаркі і прыродным асяроддзем;

распрацоўкі і выкарыстання адаптыўных тэхналогій апрацоўкі сельскагаспадарчых зямель, якія ўлічваюць глебавыя асаблівасці, выключаюць парушэнне структуры, імунітэту, а таксама прадухіляюць разбурэнне і дэградацыю глеб; прымянення эфектыўных рэсурсазберагальных метадаў гаспадарання, якія спрыяюць нарошчванню глебавай урадлівасці і патэнцыялу;

распрацоўкі рацыянальнай структуры вытворчасці, у тым ліку эфектыўнай структуры сельскагаспадарчых угоддзяў, уключаючы структуру пасеваў, якая б забяспечвала падтрыманне прыроднага асяроддзя, умацаванне ўзаемасувязі прадукцыйнасці зямель і экалагічнага балансу ўгоддзяў (важна адысці ад спусташальных і агрэсіўных метадаў апрацоўкі глебы — тэхнагеннага пераўшчыльнення, неахайнага ўзворвання, масавага перамешвання грунтоў, разбазарвання зямель, эрозіі і г. д.);

распрацоўкі сістэмы сельскагаспадарчых машын, механізмаў і агрэгатаў, а таксама тэхналогій, якія ў большай ступені маглі б улічваць рэгіянальныя і занальныя асаблівасці глеб, спецыфічныя асаблівасці гаспадарча-карысных раслін і жывёл, а таксама забяспечваць неабходныя ўмовы для развіцця раслінных і жывёльных арганізмаў;

прыярытэтнага прымянення правераных біялагічных сродкаў і метадаў угнойвання поля і абароны сельскагаспадарчых раслін; выкарыстання інтэграваных метадаў прафілактыкі хвароб і лячэння сельскагаспадарчай жывёлы;

комплекснага кантраляванага прымянення штучных удабрэнняў, збалансаваных па ўсіх неабходных спажыўных рэчывах і мінералах пад канкрэтныя сарты і гібрыды сельскагаспадарчых раслін (у мэтах найлепшага іх засваення раслінамі і трансфармацыі ў якасную прадукцыю);

распрацоўкі і ўкаранення рацыянальных тэхналогій утрымання і кармлення сельскагаспадарчай жывёлы, заснаваных на гуманных метадах і максімальным уліку патрэбнасцей жывёльных арганізмаў (патрэбна выключыць ненармальнае і жорсткае абыходжанне з жывёлай, у тым ліку яе ўтрыманне ў антысанітарных умовах);

распрацоўкі і ўкаранення арганізацыйных і эканамічных метадаў гаспадарання, якія стымулююць атрыманне экалагічна чыстай і бяспечнай для здароўя чалавека прадукцыі, а таксама падтрымання і ўмацавання якасці і імунітэту прыроднага асяроддзя.

Вырашэнне названых задач, на базе якіх павінны быць сфармуляваны прынцыпы і правілы эфектыўнага і рацыянальнага вядзення сельскай гаспадаркі, можа і павінна гарантаваць атрыманне высакаякасных, біялагічна каштоўных і экалагічна бяспечных харчовых прадуктаў, якія будуць адпавядаць неабходным крытэрыям рыначнай канкурэнтаздольнасці і спрыяць росту якасці і ўзроўню жыцця насельніцтва краіны.

Гэта павінна пакласці канец састарэлай сельскагаспадарчай палітыцы, калі ставілася задача вытворчасці прадукцыі любой цаной. У будучым у такіх значных галінах, як сельскагаспадарчая і харчовая, перавагу трэба аддаваць не проста вытворчасці, а вытворчасці, якая з'яўляецца мэтазгоднай, бяспечнай і гарантуе абарону правоў спажыўцоў. Адначасова давядзецца ўлічваць яе рэсурсазберагальны і прыродаахоўны аспект.

Каб канчаткова замацаваць новую сельскагаспадарчую палітыку, патрабуецца цеснае ўзаемадзеянне наступных сфер грамадскай арганізацыі:

спажыўцоў сельскагаспадарчай сыравіны (як правіла, гэта перапрацоўчыя прадпрыемствы) і гатовых харчовых прадуктаў (гэта ў асноўным рознічныя спажыўцы, якія прадстаўляюць насельніцтва). У аснове кожнай вытворчасці павінны знаходзіцца спажывецкія перавагі і інтарэсы, а не наадварот, як гэта было раней, калі спажыўцы вымушаны былі набываць тое, што ім прапаноўвалася, і не мелі права выбару. Гэта значыць, у аснове тэхналагічнага ланцужка вытворчасці харчовых прадуктаў павінны быць не сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, а рознага роду канчатковыя спажыўцы — аптовыя і рознічныя;

сельскагаспадарчых таваравытворцаў. Крытэрыі вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі і сыравіны для перапрацоўкі павінны быць падпарадкаваны крытэрыям спажывання;

камбікормавай прамысловасці. На першы погляд можа падацца, што гэта пабочнае звяно, якое не ўпісваецца напрамую ў харчовую сістэму. Сапраўды, у традыцыйным разглядзе, які пераважаў у мінулыя гады, вытворчасць камбікармоў не было прынята ўключаць у мэтавыя задачы харчовай палітыкі, яна знаходзілася як бы ў баку ад агульных задач аграрнай стратэгіі. Але гэта памылковае ўяўленне. Аказваецца, якасць, каштоўнасць, збалансаванасць і бяспека камбікармоў непасрэдна ўплываюць на стан арганізма сельскагаспадарчай жывёлы і ў канчатковым выніку на якасць і каштоўнасць жывёлагадоўчай прадукцыі. Тым больш, што камбікармы з'яўляюцца асновай кармлення многіх відаў жывёл. Значыць, камбікормавая прамысловасць павінна быць у ліку асноўных звенняў агульнага ланцужка вытворчасці харчовых прадуктаў, а яе параметры таксама, як і ў сельскай гаспадарцы, залежаць ад інтарэсаў канчатковых спажыўцоў;

перапрацоўчай і харчовай прамысловасці. Арганізацыя гэтай сферы (аб'ёмы вытворчасці, асартымент прадуктаў, якасць, формы, пастаўкі) павінна быць падпарадкавана спажывецкаму попыту, гэта значыць сферы спажывання. Безумоўна, паміж сферамі прапановы і спажывання неабходна пэўная збалансаванасць, і ў аснове гэтай збалансаванасці павінны знаходзіцца інтарэсы і перавагі канкрэтных спажыўцоў;

гандлю і гандлёвага абслугоўвання. Трэба сказаць, што раней гэта сфера грамадскай арганізацыі таксама па шэрагу прыкмет не адпавядала агульнай сістэме забеспячэння і абслугоўвання канчатковых спажыўцоў. Але ў цяперашні час гандаль павінен стаць адным з асноўных элементаў эфектыўнай харчовай палітыкі. Гандаль — гэта сфера, дзе наглядна праяўляюцца спажывецкія якасці пастаўленых харчовых прадуктаў і дзе адбываецца непасрэднае ўзаемадзеянне пастаўшчыкоў і спажыўцоў. Эфектыўнасць арганізацыі гандлю пры рынку вы-

значае задаволенасць пераваг канчатковых спажыўцоў, а ў выніку і эфектыўнасць вытворчасці сельскагаспадарчай сыравіны і гатовых харчовых прадуктаў;

аграрнай палітыкі і стратэгіі. Бясспрэчна, адным з ключавых звенняў сістэм устойлівага і збалансаванага харчовага забеспячэння краіны з'яўляецца выпрацоўка навукова абгрунтаванай стратэгіі перспектыўнага развіцця аграпрамысловага комплексу і ў яе кантэксце — дзейсных механізмаў дзяржаўнага рэгулявання аграпрамысловай вытворчасці і прадуктовага рынку, а таксама стымулявання гаспадарчай дзейнасці сельскіх таваравытворцаў.

Спажыўцы сваёй перавагай і выбарам павінны аказваць рашучы ўплыў на вытворчасць і асартымент прадуктаў харчавання, іх якасць. Але, каб аблегчыць ім прыняцце рашэння аб набыцці канкрэтных харчовых прадуктаў, важна па прыкладзе іншых развітых краін укараніць у рэспубліцы два асноўныя знакі якасці на важнейшыя прадукты:

знак якасці экалагічна чыстай прадукцыі, які прызначаны адрозніваць харчовыя прадукты, выробленыя з улікам усіх нарматываў экалагічнай бяспекі, ад масы іншых прадуктаў харчавання. Трэба думаць, што гэты распазнавальны знак якасці выкліча хуткі рост попыту на адпаведныя віды харчовых прадуктаў і будзе спрыяць пашырэнню іх асартыменту і вытворчасці;

знак якасці, які абазначае мінімальны стандарт, якога павінны прытрымлівацца сельскагаспадарчыя таваравытворцы зыходзячы з інтарэсаў спажыўцоў. Гэты знак важна прысвойваць тым відам харчовых прадуктаў, якія створаны з улікам патрабаванняў па ахове навакольнага асяроддзя і абароне прыроды, біялагічна мэтазгодным утрыманні і кармленні сельскагаспадарчай жывёлы, а таксама атрыманы без прымянення генетычна мадыфікаваных арганізмаў (гэта значыць без удзелу геннай інжынерыі).

У сувязі з гэтым сельскагаспадарчыя таваравытворцы будуць імкнуцца пастаўляць на рынак тую прадукцыю, якая будзе адпавядаць неабходным крытэрыям якасці, уключаючы міжнародныя стандарты. Для гэтага неабходна ўвесці ў парадку абавязковага правіла для ўсіх катэгорый таваравытворцаў выкананне патрабаванняў інтэрнацыянальнай сістэмы стандартызацыі прадукцыі. У такім выпадку даходы таваравытворцаў будуць вызначацца не столькі паказчыкамі колькасці, як якасці. У выніку меры дзяржаўнай падтрымкі аграпрамысловай вытворчасці таксама павінны быць сканцэнтраваны ў асноўным на забеспячэнні неабходнай якасці прадукцыі ў сувязі з пераходам на экалагічна бяспечнае вядзенне галін раслінаводства і жывёлагадоўлі, а таксама ў мэтах атрымання біялагічна каштоўных харчовых прадуктаў.

Аграпрамысловы комплекс Беларусі мае ў асноўным жывёлагадоўчую спецыялізацыю. Значыць, пераход жывёлагадоўлі рэспублікі на новыя стандарты якасці патрабуе ў першую чаргу мадэрнізацыі камбікормавай прамысловасці. Камбікармы і рацыёны жывёлы павінны быць высакаякаснымі і збалансаванымі па ўсіх макра- і мікраэлементах, уключаючы бялковыя кампаненты, вітаміны і іншыя жыццёва важныя інгрэдыенты. Можна сказаць так: што і ў якім выглядзе ўключаецца ў кармы жывёлы, тое па-сапраўднаму і вызначае якасць жывёлагадоўчай прадукцыі, а ў канчатковым выніку і здароўе чалавека. Гэта трэба ведаць і ўлічваць. Не выпадкова гаворыцца, што чалавек — гэта тое, чым ён харчуецца.

Мэтай мадэрнізацыі камбікормавай прамысловасці з'яўляецца дасягненне празрыстасці вытворчасці, забеспячэнне паставак жывёлагадоўлі канцэнтраваных кармоў высокай энергетычнай і біялагічнай каштоўнасці, каб можна было атрымліваць жывёлагадоўчую прадукцыю неабходнай якасці з улікам патрэбнасцей насельніцтва і зыходзячы з біялагічных і медыцынскіх нарматываў. Такім спосабам можна сфарміраваць устойлівы давер айчынных спажыўцоў да якасці жывёлагадоўчай прадукцыі, стварыць дастатковыя экспартныя фонды, павысіць цікавасць замежных экспарцёраў да беларускіх харчовых прадуктаў і даць нацыянальным таваравытворцам устойлівую перспектыву развіцця.

У сваю чаргу перапрацоўчая і харчовая прамысловасць, гандаль павінны быць генератарамі новых ідэй якасці прадуктаў харчавання. Яны забяспечваюць прамыя і зваротныя сувязі паміж вытворцамі і спажыўцамі, вызначаюць крытэрыі якасці, прывабнасці і бяспечнасці харчовых прадуктаў, ствараюць неабходны асартымент і даюць магчымасць выбару прадуктаў харчавання зыходзячы са спажывецкіх інтарэсаў. Гэтыя сферы праводзяць гатовую прадукцыю па тэхналагічным ланцужку ад вытворцаў і пастаўшчыкоў сельскагаспадарчай сыравіны да спажыўцоў гатовых харчовых прадуктаў. А значыць, прадастаўляюць сельскагаспадарчым таваравытворцам адпаведныя каналы збыту. Зразумела, якасныя, бяспечныя і даступныя харчовыя прадукты могуць хутка знаходзіць сваіх канчатковых спажыўцоў, у той час як дарагая і недастаткова прывабная прадукцыя можа ствараць немалыя эканамічныя праблемы яе вытворцам і пастаўшчыкам у сувязі са складанасцямі яе збыту.

Новая аграрна-харчовая палітыка павінна ажыццяўляцца з дапамогай шэрага канкрэтных мер арганізацыйнага, эканамічнага, вытворчага, фінансавага і збытавога характару. Пры гэтым важна зыходзіць з наступных прынцыпаў:

замест фінансавай, эканамічнай і матэрыяльнай падтрымкі кожнай вытворчасці, як гэта было раней і назіраецца цяпер (мэтазгоднай і бесперспектыўнай, прыбытковай і стратнай), неабходна падтрымка эфектыўнай, рэсурсаэканомнай і прыродазберагальнай вытворчасці, якая дазволіць атрымаць якасную, каштоўную і бяспечную прадукцыю;

замест марнатраўнага, спусташальнага і безгаспадарнага выкарыстання зямель неабходна адаптыўная сістэма вядзення сельскай гаспадаркі, якая заснавана на навуковых прынцыпах і ўлічвае асаблівасці рэгіёнаў, зон і розных тыпаў глеб, а таксама прадугледжвае ахову навакольнага асяроддзя і абарону прыроды;

замест адсталых і бесперспектыўных метадаў утрымання жывёлы, дрэннага і недастатковага яе кармлення, жорсткага абыходжання патрэбна сістэма экалагічна бяспечнай жывёлагадоўлі і якаснага кармлення, якая ўлічвае асаблівасці і патрэбнасці жывёльных арганізмаў;

замест агрэсіўнага асяроддзя вырошчвання сельскагаспадарчых раслін, калі выкарыстоўваюцца завышаныя дозы мінеральных удабрэнняў (часта незбалансаваныя па элементах сілкавання) і хімічных сродкаў абароны, неабходна сістэма эколага-біялагічнага земляробства і раслінаводства, якая ў максімальнай ступені ўлічвае асаблівасці культур і сартоў, а таксама мэты атрымання якаснай і бясшкоднай прадукцыі;

замест металаёмістых, груваскіх і малапрадукцыйных сельскагаспадарчых машын і агрэгатаў, якія нявечаць прыроду, неабходна збалансаваная па складзе сістэма машын і механізмаў, якія надзейныя па якасці і эксплуатацыі, у максімальнай ступені ўлічваюць асаблівасці раслінных і жывёльных арганізмаў, а таксама забяспечваюць падтрыманне прыроднай раўнавагі;

замест адміністрацыйных метадаў гаспадарання і кіравання вытворчасцю, якія не здольны аператыўна рэагаваць на змяненні гаспадарчай сітуацыі і згубна ўплываюць на развіццё прадпрымальніцтва, ініцыятыву і самастойнасць таваравытворцаў, неабходна сістэма самакіравання, самагаспадарання і самавызначэння прадпрыемстваў і працоўных калектываў, што павінна забяспечыць работу на прынцыпах самаакупнасці і самафінансавання гаспадарчай дзейнасці.

Па меры ўдасканалення аграрнай палітыкі ўсё большую актуальнасць павінны набываць задачы ўстойлівасці і бяспечнасці вядзення сельскай гаспадаркі. Да мерапрыемстваў, якія будуць спрыяць доўгатэрміновай устойлівасці і бяспечнасці аграпрамысловай вытворчасці, трэба аднесці:

пераход на метады дзяржаўнай падтрымкі сельскай гаспадаркі ў адпаведнасці з рэкамендацыямі і правіламі Сусветнай гандлёвай арганізацыі, якія прадугледжваюць у першую чаргу не прамыя датацыі вытворчасці і цэн на прадукцыю, што звычайна прыводзіць да скажэння канкурэнцыі і механізмаў цэнаўтварэння, а ў большай ступені ўскоснае субсідзіраванне аграпрамысловага комплексу ў ас-

ноўным пры дапамозе ўмацавання аграрнай навукі, развіцця селекцыі і насенняводства сельскагаспадарчых культур, удасканалення племянной справы ў жывёлагадоўлі, павышэння ўрадлівасці сельскагаспадарчых зямель і шэрага іншых мер, якія называюцца «зялёным кошыкам», забяспечваюць больш натуральнае развіццё аграрнай вытворчасці і спрыяюць захаванню навакольнага асяроддзя;

пераразмеркаванне бюджэтных сродкаў і цэнтралізаваных рэсурсаў са сферы вытворчасці ў сферу развіцця сельскай сацыяльнай інфраструктуры і аховы прыроднага асяроддзя;

цесную ўвязку макраэканамічных рычагоў і інструментаў рэгулявання аграпрамысловага комплексу (субсідый, крэдытаў, пазык, падаткаў) з сацыяльнымі і экалагічнымі крытэрыямі;

прыняцце заканадаўчых і нарматыўных актаў, накіраваных на гуманізацыю сельскай гаспадаркі і перш за ўсё на паляпшэнне ўтрымання і кармлення сельскагаспадарчай жывёлы, адаптацыю новых тэхналогій да патрэбнасцей жывёл і раслін, выключэнне непажаданых хімічных прэпаратаў і стымулятараў росту жывёл і раслін, прымяненне экалагічна і біялагічна бяспечных кармавых сродкаў і кампанентаў, зніжэнне рэалізацыйнай вагі сельскагаспадарчай жывёлы (вядома, што дзеючыя ў цяперашні час установкі на цяжкавагавую жывёлу прыводзяць да дадатковых затрат кармоў, да ператрымкі жывёлы па працягласці адкорму і, як правіла, зніжэння якасці прадукцыі), пашырэнне ўдзельнай вагі шматгадовых траў, сенакосных і пашавых угоддзяў і мінімізацыю пасеваў тэхнічных культур, якія выклікаюць спусташэнне ўрадлівасці глеб і забруджанне зямель павышанымі дозамі хімічных прэпаратаў;

пераход па краіне ў цэлым на навукова абгрунтаваную спецыялізацыю сельскай гаспадаркі з улікам рацыянальнага размяшчэння відаў вытворчасці і галін па зонах і рэгіёнах рэспублікі, у аснову чаго павінны быць пакладзены крытэрыі рэсурса- і прыродазберажэння, аптымізацыі затрат і іх акупнасці, уключаючы ўдасканаленне сістэмы севазваротаў у кожным сельскагаспадарчым прадпрыемстве;

увядзенне практыкі інтэрвенцыйнага дзяржаўнага рэгулявання развіцця аграпрамысловай вытворчасці і функцыянавання харчовага рынку, у сувязі з чым цэнтралізаваныя рэсурсы павінны накіроўвацца ў першую чаргу ў тыя сферы гаспадарання, якія сталі стрымліваць агульны прагрэс аграпрамысловага комплексу (для пераадолення тармажэння) і дзе назіраецца яўная дыспрапарцыянальнасць аднаўлення (у мэтах выроўнівання развіцця сфер і галін і падтрымання неабходнага вытворчага і харчовага балансу па попыце і прапанове);

прызнанне (грамадскае, заканадаўчае, эканамічнае) прыярытэту інтарэсаў, пераваг і жаданняў канчатковых спажыўцоў, а таксама здароўя насельніцтва перад вытворчымі і эканамічнымі мэтамі аграрнага развіцця.

Галоўнымі мэтамі бюджэтнай падтрымкі развіцця сельскай гаспадаркі павінны стаць паляпшэнне ўмоў жыцця ў вёсцы, павышэнне канкурэнтаздольнасці аграрнай вытворчасці, падтрыманне і ўмацаванне прыроднай раўнавагі. Разам з тым для абароны насельніцтва ад сумніўнай прадукцыі і аховы навакольнага асяроддзя неабходна значна павысіць патрабаванні да механізмаў і вынікаў геннай інжынерыі, у прыватнасці да вырошчвання і рэалізацыі генетычна мадыфікаваных арганізмаў. Так, выкарыстанне метадаў сучасных біятэхналогій павінна быць пад строгім кантролем дзяржавы. У сувязі з гэтым побач з новымі пошукамі ў галіне перспектыўных біятэхналогій патрэбна пашырыць навуковыя даследаванні ў галіне біябяспекі, каб стварыць базу для рэгуляванага і адказнага антрапагеннага ўмяшання ў генны апарат раслінных і жывёльных арганізмаў.

Прыярытэтнымі задачамі перспектыўнага развіцця аграпрамысловага комплексу з'яўляюцца меры па пераходзе на энергаэфектыўныя і рэсурсазберагальныя тэхналогіі вытворчасці. Для Беларусі — гэта задачы першаступеннай значнасці, улічваючы яе абдзеленасць прыроднымі крыніцамі энергіі і ў сувязі з гэтым вялікі дэфіцыт энерганосьбітаў. Створаны дэфіцыт патрабуе не толькі эка-

номіі энергіі і рацыянальнага яе выкарыстання, але і пошуку новых, пакуль нетрадыцыйных для рэспублікі крыніц энергетычных рэсурсаў і асабліва такіх, якія пастаянна аднаўляюцца, як раслінная сыравіна (рапс, на базе якога можа вырабляцца алей і біядызельнае паліва, хуткарастучая драўніна і інш.), энергія ветру і сонца, біягенныя адыходы, біягаз і г. д. Гэтыя нетрадыцыйныя віды энергетычных рэсурсаў асабліва актыўна ў апошні час распрацоўваюцца і выкарыстоўваюцца ў развітых краінах Заходняй Еўропы. Так, у Германіі прынята спецыяльная праграма «Біягенныя гаруча-змазачныя матэрыялы», на рэалізацыю якой у 2001—2004 гадах выдзялялася штогод 20 мільёнаў марак, у прыватнасці на падтрымку першаснага абсталявання і пераабсталявання сельскагаспадарчых машын для выкарыстання біялагічных змазак, якія хутка расшчапляюцца, і гідраўлічных маслаў.

Таксама ў мэтах павышэння выпрацоўкі электраэнергіі з біямасы ў Германіі прыняты Закон аб аддачы перавагі крыніцам энергіі, якія аднаўляюцца. Згодна з гэтым законам атрыманая з біямасы электраэнергія мае пераважныя гарантыі бюджэтнага субсідзіравання. Напрыклад, для падтрымкі канкурэнтаздольнасці сельскагаспадарчай вытворчасці ў Германіі ўведзена ў 2001 годзе цвёрдая падатковая стаўка на дызельнае паліва, якое выкарыстоўваецца ў сельскай гаспадарцы. Паводле гэтага закону, яна складае 0,57 маркі за літр.

На нашу думку, прыйшоў час у Беларусі таксама, як і ў Германіі, засяродзіць намаганні на распрацоўцы і шырокім выкарыстанні тых відаў энергарэсурсаў, якія экалагічна і біялагічна бяспечныя і актыўна аднаўляюцца. Па нашых меркаваннях, уласныя аднаўляльныя крыніцы энергіі могуць складаць у Беларусі ад усяго аб’ёму расходавання не менш 25 працэнтаў.

Немалаважнымі перспектыўнымі задачамі для Беларусі трэба назваць вырашэнне праблем, звязаных з пераводам усёй інфраструктуры жывёлагадоўлі на новыя экалагічна і біялагічна бяспечныя метады ўтрымання і аднаўлення, уключаючы кармленне, размнажэнне, рэалізацыю і транспарціроўку жывёлы. Гэта прадугледжвае ў першую чаргу выпрацоўку і рэалізацыю мер абароны жывёлы, гуманнага абыходжання, уліку патрэбнасцей канкрэтных відаў жывёл для іх нармальнага развіцця. Важна адысці ад тэхналогіі ўтрымання кароў і іншай жывёлы на прывязі падчас адкорму, стварыць умовы для свабоднага перамяшчэння і руху жывёлы, пашырыць практыку пашавага і выгульнага ўтрымання, стварыць надзейную якасную кармавую базу для дастатковага кармлення жывёлы з улікам патрэбнасцей арганізма (замест абмежаванага і нармаванага кармлення). Справа ў тым, што стойлавае ўтрыманне жывёлы, а тым больш яе ўтрыманне на прывязі не толькі не з’яўляюцца гуманнымі, але і прыводзяць да парушэння метабалічных (абменных) працэсаў у арганізме жывёлы, залішняга назапашвання ў яе арганізме непажаданых солей і шлакаў, што потым выклікае пагаршэнне якасці атрыманай жывёлагадоўчай прадукцыі. А калі дадаць да гэтага аднатыпнасць кармлення жывёлы на прывязі, асабліва кансерваванымі кармамі (сілас, сянаж), незбалансаванымі па макра- і мікраэлементах, бялковых кампанентах і вітамінах, то жывёлагадоўчая прадукцыя не толькі перастае быць карыснай, але становіцца шкоднай і небяспечнай для здароўя чалавека.

Такім чынам, бяспечнае і гуманнае ўтрыманне сельскагаспадарчай жывёлы неабходна ў першую чаргу для атрымання якаснай прадукцыі і бяспекі самога чалавека. Напрыклад, у той жа Германіі ў мэтах пастаноўкі на навуковую аснову ўсёй работы па абароне жывёлы, перш за ўсё ў сувязі з пераходам на экалагічна бяспечнае ўтрыманне і транспартаванне жывёлы, вырашана пры Федэральным навуковым цэнтры па сельскай гаспадарцы стварыць спецыяльны Навукова-даследчы інстытут абароны і ўтрымання жывёлы. На думку нямецкіх вучоных і спецыялістаў, гэта апраўдана, таму што ўвесь тэхналагічны ланцужок развіцця жывёлы — ад яе ўзнаўлення да рэалізацыі на перапрацоўку — будзе знаходзіцца пад строгім наглядам вучоных.

На жаль, у Беларусі гэтай праблеме пакуль не толькі не надаецца належная ўвага, але яна ўвогуле выпадае з поля зроку як спецыялістаў — арганізатараў вытворчасці, так і вучоных. У сувязі з чым маніторынг і якасць жывёлагадоўчай прадукцыі вымушаны жадаць лепшага. У краіне няма нават дастатковай колькасці спецыяльных лабараторый глыбокага спектраскапічнага аналізу якасці жывёлагадоўчай прадукцыі, абсталяваных сучаснай і навейшай тэхнікай. Часцей за ўсё якасць прадукцыі вызначаецца прымітыўнымі органалептычнымі метадамі — па масе (вазе) і ўтрыманні тлушчу, практычна без уліку іншых як карысных, так і шкодных кампанентаў. Да прыкладу, цяжкавагавая жывёла і жывёла высокай укормленасці не толькі не сведчаць аб добрай зыходнай якасці жывёлагадоўчай сыравіны, але хутчэй наадварот — аб непажаданасці такіх крытэрыяў.

У кантэксце вырашэння гэтых задач неабходна ўдасканаленне страхавой і падатковай сістэмы і цэнавай палітыкі. Так, пашырэнне практыкі экалагічнай сельскай гаспадаркі патрабуе новай сістэмы страхавання вытворчасці, дзе не менш 50 працэнтаў страхавых плацяжоў павінна кампенсавацца за кошт бюджэтных сродкаў. Трэба зыходзіць з таго, што вядзенне сельскай гаспадаркі экалагічнымі метадамі значна ўскладняе вытворчасць і ўзмацняе яе рызыку. Адмова ад масіраванага прымянення хімічных прэпаратаў і пераход пераважна на біялагічныя метады вядзення вытворчасці выклікаюць неабходнасць больш высокіх затрат працы і прымянення спецыяльных машын і тэхналогій, што немагчыма без пастаянных інавацый і вынаходстваў. Вядома, такія метады вытворчасці павінны мець надзейныя гарантыі падтрымкі і абароны, у тым ліку пры дапамозе ўдасканалення сістэмы страхавання.

Гэтак жа павінна быць удасканалена сістэма падаткаабкладання і цэнаўтварэння экалагічна бясшкоднай сельскагаспадарчай вытворчасці. Падаткі і цэны павінны быць адаптаваны да экалагічна бяспечнай сельскай гаспадаркі і стымуляваць атрыманне і пашырэнне продажу якасных і каштоўных харчовых прадуктаў. Так, стаўка падаткаабкладання даходаў ад рэалізацыі экалагічна бяспечнай сельскагаспадарчай прадукцыі павінна быць прыкладна ў два разы ніжэйшай у параўнанні з падаткамі на даходы ад звычайнай вытворчасці. У той жа час рэалізацыйныя цэны на экалагічна і біялагічна каштоўную сельскагаспадарчую прадукцыю павінны быць у агульным на 30—50 працэнтаў вышэй сярэднестатыстычных цэн на традыцыйныя харчовыя прадукты. У сувязі з гэтым рэнтабельнасць экалагічнай вытворчасці будзе не ніжэй звычанай сельскай гаспадаркі і стане адпавядаць нарматыўна неабходнай. У выніку будзе фарміравацца надзейная эканамічная база ўстойлівага пашырэння аб'ёмаў вытворчасці якасных і каштоўных прадуктаў харчавання.

Такім чынам, названыя групы прыярытэтных задач прадугледжваюць неабходнасць уліку мультыфункцыянальнай ролі сельскай гаспадаркі ў харчовым забеспячэнні краіны, а менавіта патрабаванняў устойлівага развіцця аграпрамысловай вытворчасці, аховы навакольнага і прыроднага асяроддзя, абароны жывёл і раслін, падтрымання ўрадлівасці зямель, укаранення інавацыйных тэхналогій, забеспячэння бяспекі харчовых прадуктаў.

З улікам гэтых і звязаных з імі патрабаванняў, а таксама грамадскіх і эканамічных перамен важна выпрацаваць і ўстанавіць у краіне новыя крытэрыі ў галіне аграрнай і харчовай палітыкі, якія ўключаюць разам з прынцыпамі ўстойлівасці аграпрамысловай вытворчасці ахову сельскагаспадарчых жывёл і раслін, падтрыманне балансу прыроднага і навакольнага асяроддзя, абарону праваў спажыўцоў, а таксама рыначную накіраванасць вытворчасці і збыту харчовых прадуктаў. Да таго ж патрэбна вызначыць новыя мэтазгодныя арыенціры цэнтралізаванай бюджэтнай і прававой падтрымкі сельскай гаспадаркі і сельскіх рэгіёнаў, рэгулявання ўнутранага рынку прадуктаў харчавання, фарміравання неабходнага экспартнага патэнцыялу, развіцця знешнеэканамічных адносін і інтэграцыі аграхарчовага комплексу ў сістэму сусветнай сельскай гаспадаркі і міжнароднага

гандлю. Акрамя таго, у межах новай аграрнай палітыкі неабходна надаць больш пільную ўвагу пытанням стандартызацыі і якасці атрыманай прадукцыі, расфасоўкі, упакоўкі і маркіроўкі прадуктаў харчавання з улікам іх дыферэнцыяцыі па крытэрыях бяспекі, кантролю рынку мадыфікаваных і генетычна змененых прадуктаў, устанаўленні незалежных ад геннай інжынерыі відаў вытворчасці, зон вырошчвання сельскагаспадарчых культур і тыпаў экалагічных прадпрыемстваў, а таксама пытанням вытворчай, фінансавай, праваой і бюджэтнай дысцыпліны.

Да найбольш важных і перспектыўных мерапрыемстваў у кантэксце новай аграрнай палітыкі патрэбна аднесці:

1) удасканаленне сістэмы прафесійнай адукацыі сельскагаспадарчых работнікаў і мэтавай асветы шырокіх слаёў спажыўцоў. Гэта мерапрыемства вырашае дзве важнейшыя праблемы. Першая заключаецца ў неабходнасці павышэння якасці прафесійнай адукацыі кіраўнікоў, спецыялістаў і кадраў масавых прафесій у пытаннях вядзення сельскай гаспадаркі і асабліва ў галіне экалагізацыі вытворчасці, атрымання біялагічна бяспечнай сельскагаспадарчай прадукцыі, стандартызацыі і маркіроўкі харчовых прадуктаў, выкарыстання навейшых рэсурсаэфектыўных тэхналогій і тэхнікі, асваення рыначных метадаў гаспадарання. Другая прадугледжвае арганізацыю асветы шырокіх слаёў насельніцтва ў пытаннях правільнага харчавання, выбару і падбору харчовых прадуктаў, ведання элементарных правіл іх стандартызацыі і маркіроўкі, складання дамашніх бюджэтаў зыходзячы з рэальных даходаў і неадкладных выдаткаў на спажывецкія тавары.

Трэба заўважыць, што другая праблема ў Беларусі вырашаецца пакуль дужа слаба. Праяўляецца поўная недасведчанасць насельніцтва ў спажыванні прадуктаў харчавання. Таму асвета спажыўцоў застаецца важнай мэтавай задачай новай эканамічнай палітыкі краіны. Да гэтага ў першую чаргу павінна адносіцца прадастаўленне поўнай і аб'ектыўнай інфармацыі аб здаровым спосабе харчавання і аб магчымых шляхах ухілення ад многіх хвароб, звязаных з няправільным харчаваннем. Тут важна рэальная і даступная інфармацыя як аб прычынах лішняй вагі, так і аб перадумовах узнікнення недастатковай вагі ў многіх людзей, асабліва дзяцей;

2) афіцыйнае ўвядзенне дзяржаўнага біязнака — знака якасці экалагічна бяспечнай і біялагічна каштоўнай прадукцыі. Характэрна, што многія айчынныя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы выпускаюць фактычна бясшкодную і якасную прадукцыю і ў асноўным вымушана — з-за недахопу сродкаў на хімічныя меліяранты. Але адрозніць гэту прадукцыю ад іншых відаў вытворчасці ў краіне практычна немагчыма з прычыны адсутнасці спецыяльнага біязнака.

Увядзенне дзяржаўнага біязнака дазволіла б дыферэнцыраваць эканамічныя рэгулятары і стымулы (падаткі, цэны, субсідыі, крэдыты) па відах вытворчасці ў сувязі з якасцю і бяспечнасцю прадукцыі і тым самым зацікавіць сельскіх таваравытворцаў у пашырэнні вытворчасці біялагічна каштоўных харчовых прадуктаў;

3) узмацненне дзяржаўнага кантролю за вытворчасцю і выкарыстаннем сучасных навейшых біятэхналогій, перш за ўсё звязаных з генетычнай мадыфікацыяй жывёльных і раслінных арганізмаў, якія выкарыстоўваюцца для атрымання прадуктаў харчавання. Вядома, што генная інжынерыя адначасова мае як шанцы хуткага забеспячэння насельніцтва разнастайнымі і даступнымі харчовымі прадуктамі, так і рызыку непрадказальнага ў перспектыве ўздзеяння незвычайных (ненатуральных, камбінаваных) прадуктаў на здароўе і генетычны код людзей, асабліва маладога ўзросту, а таксама рызыку атрымання новых відаў, сартоў і гібрыдаў раслін і жывёл, паводзіны якіх у прыродзе могуць выклікаць вялікія праблемы ў канкурэнцыі з раслінамі і жывёламі натуральнага паходжання.

Трэба сказаць, што спажыўцы харчовых прадуктаў у многіх развітых краінах вельмі скептычна ставяцца да выкарыстання генетычна мадыфікаваных арганізмаў у галіне сельскай гаспадаркі і харчовай прамысловасці, хоць разумеюць значэнне «зялёнай геннай інжынерыі» (інжынерыя, прызначаная здзейсніць

рэвалюцыю ў забеспячэнні насельніцтва харчовымі прадуктамі). У сувязі са шматлікімі і далёка не вядомымі вынікамі выкарыстання новых метадаў геннай інжынерыі ўрады некаторых развітых краін і грамадскія арганізацыі выступаюць за ўзмацненне абароны здароўя людзей і падтрыманне балансу прыроднай раўнавагі (Германія, Швейцарыя, Англія і інш.);

4) прызнанне ў якасці неадкладнай задачы ўдасканаленне сістэмы вырошчвання і ўтрымання сельскагаспадарчай жывёлы (асабліва маладняку), а таксама апрацоўкі і абароны сельскагаспадарчых раслін. Так, ахова жывёлы, гуманнае абыходжанне з ёю, утрыманне і кармленне жывёл зыходзячы з патрэбнасцей нармальнага развіцця іх арганізмаў, а таксама абарона раслін і вырошчванне сельскагаспадарчых культур на аснове ведання асаблівасцей і патрэбнасцей раслін павінны стаць як базай распрацоўкі і ўкаранення ў аграрную вытворчасць новых тэхналогій, тэхнічных сродкаў і метадаў арганізацыі гаспадарчай дзейнасці, так і базай новай доўгатэрміновай аграрнай палітыкі. Важнейшыя патрабаванні экалагічна бяспечнага ўтрымання жывёлы, абароны раслін, падтрымання і павышэння ўрадлівасці зямель трэба прыняць за аснову выпрацоўкі спецыяльных прававых норм і ўключыць у дзеючае заканадаўства. Папраўкі да заканадаўства павінны датычыцца ў асноўным метадаў групавога ўтрымання, утрымання на прывязі і нармаванага кармлення, калі жывёла не мае ўмоў для неабходнага руху і дастатковага спажывання корму, метадаў і якасці кармлення розных полаўзроставых груп жывёл зыходзячы з патрэбнасцей іх развіцця, а таксама метадаў і форм абароны раслін, калі масіраванае прымяненне штучных меліярантаў хоць і спрыяе росту ўраджаю, але прыводзіць да зніжэння спажывецкай каштоўнасці атрыманай прадукцыі. У прыватнасці, патрабуецца перагляд дзеючых правіл мінімальнай плошчы для ўтрымання кароў, цялят, жывёлы на адкорме, свіней і парасят у адпаведнасці з міжнароднымі прававымі палажэннямі аховы жывёлы і апошнімі вынікамі навуковых даследаванняў паводзін жывёл. Жывёла павінна мець магчымасць праяўляць розныя формы натуральнай актыўнасці ў адпаведнасці з яе пароднымі і ўзроставымі характарыстыкамі. Дарэчы, патрабаванне па ахове жывёл стала канстытуцыйнай нормай заканадаўства краін Еўрапейскага Саюза;

5) захаванне, аднаўленне і павышэнне ўрадлівасці сельскагаспадарчых зямель у кантэксце падтрымання і ўмацавання прыроднай і экалагічнай раўнавагі. Гэта надзвычай важна, таму што ў апошнія пятнаццаць гадоў у сувязі з развіццём крызіснай сітуацыі ў эканоміцы інвестыцыі ў падтрыманне ўрадлівасці зямель знізіліся да крытычна нізкага ўзроўню. У некаторых рэгіёнах і прадпрыемствах прасочваецца нават адмоўны баланс урадлівасці глеб. Але ж вядома, што ўрадлівасць сельскагаспадарчых угоддзяў у Беларусі толькі прыкладна на адну трэць з'яўляецца натуральнай і больш чым на дзве трэці — створанай штучна (чалавекам). Гэта патрабуе пастаянных інвестыцый у аднаўленні якасці сельскагаспадарчых зямель.

Разам з тым інвестыцыі ў навейшыя тэхналогіі і тэхніку павінны прыводзіць да стварэння сельскагаспадарчых машын і агрэгатаў, якія спрыяюць захаванню і ўмацаванню прыроднага і глебавага балансу. Тэхніка ў поўнай меры павінна быць адаптавана да ўмоў і занальных асаблівасцей зямель, складу глеб, структуры раслінаводства і жывёлагадоўлі. Патрэбна адмовіцца ад глебаспусташальнай тэхнікі, якая робіць зямлю малаўрадлівай і малапрыдатнай, зніжае яе імунныя ўласцівасці.

Зямля без перабольшання — жывое і актыўнае асяроддзе для вырошчвання сельскагаспадарчых культур. У ёй павінны быць створаны спрыяльныя ўмовы для жыццядзейнасці карысных глебавых мікраарганізмаў, працякання натуральных хімічных рэакцый, фарміравання эфектыўных водных, паветраных, цеплавых і сілкавальных рэжымаў для росту раслін. Калі ўсе гэтыя ўмовы з'яўляюцца спрыяльнымі — расліны развіваюцца нармальна, калі ж яны парушаны і не збалансаваны — сельскагаспадарчыя культуры не могуць даваць неабходнага ўраджаю.

У сувязі з гэтым важна перайсці на метады рацыянальнага, глебаахоўнага і адаптыўнага гаспадарання і адысці ад марнатраўнага, безгаспадарчага, драпежнага і спусташальнага выкарыстання зямель. Бо не сакрэт, што ў многіх месцах можна назіраць не толькі безгаспадарчае прымяненне сельскагаспадарчых зямель, але і прама агрэсіўныя метады выкарыстання зямлі і прыроды, што, натуральна, не можа не сказацца на дабрабыце самога чалавека. У спрыяльных прыродных і экалагічных умовах чалавек адчувае сябе камфортна і зручна, у неспрыяльных — разгублена і трывожна. Не кажучы ўжо аб тым, што дэградзіраваныя землі не толькі не даюць патрэбнага ўраджаю, але і атрыманая на іх прадукцыя не можа характарызавацца ўстойлівымі паказчыкамі якасці.

Калі ставіць задачу вызначыць узровень дабрабыту грамадства, то трэба ўлічваць не толькі кошт спажывецкага харчовага кошыка. За адзін з галоўных паказчыкаў здароўя грамадства трэба прыняць узровень экалагічнай і прыроднай раўнавагі, які, дарэчы, можна ацаніць па наяўнасці натуральнай бiяразнастайнасці і стану ўрадлівасці зямель;

6) стварэнне ў краіне буйных спецыялізаваных зон вытворчасці экалагічна чыстай прадукцыі. Напрыклад, віцебскі рэгіён і тэрыторыя беларускага Палесся, дзе ў структуры ўгоддзяў пераважаюць асушаныя тарфяна-балотныя глебы, і асабліва Прыпяцкая нізіна з яе алювіяльнымі пойменнымі землямі (самымі ўрадлівымі на тэрыторыі Беларусі, прынятымі за 100 балаў), заліўнымі і пойменнымі лугамі, сенажацямі і пашамі павінны стаць пераважнымі зонамі экалагічна чыстай малочнай і мясной жывёлагадоўлі, якая развіваецца ў большай меры за кошт утрымання жывёлы ў натуральных умовах і на аснове высакаякасных травяных кармоў, атрыманых на гэтых землях. Тут можна выраблясць высакаякасную і адносна недарагую малочную і мясную прадукцыю на працягу ўсяго года, як правіла, экстэнсіўным нізказатратным шляхам, не прыбягаючы да дарагіх інтэнсіўных фактараў. Гэта значыць практычна на адных травах, без дабаўкі іншых кармавых інгрэдыентаў, калі арганізаваць пашавы перыяд з ранняй вясны да позняй восені. У астатні перыяд года — зімой — можна выкарыстоўваць высакаякасныя сена і сянаж, якія нарыхтоўваюцца на гэтых угоддзях, скормліваць іх жывёле з улікам навуковых рэкамендацый. У выніку якасць і сабекошт малочнай і мясной прадукцыі становяцца па-за канкурэнцыяй і могуць лёгка заваёўваць самыя прэстыжныя рынкі збыту.

Па навуковых ацэнках, віцебскі рэгіён і Палессе могуць і павінны стаць асноўнымі валаўтваральнымі зонамі краіны ў вытворчасці экалагічна чыстай малочна-мясной прадукцыі. Кажучы словамі мясцовых старажылаў, — гэта Богам створаны край для таннага малака і мяса. Іншых больш прыдатных умоў для развіцця малочнай і мясной жывёлагадоўлі ў краіне адшукаць проста немагчыма.

Аналагічна па іншых відах прадукцыі таксама неабходна ствараць у краіне асноўныя валаўтваральныя рэгіёны, якім трэба надаваць прыярытэтныя магчымасці развіцця. У выніку паступова сфарміруецца найбольш рацыянальная міжрэгіянальная спецыялізацыя і будзе рэалізавана навуковая канцэпцыя па аптымізацыі размяшчэння сельскагаспадарчай вытворчасці на ўсёй тэрыторыі рэспублікі;

7) прыняцце рэспубліканскай праграмы «Экалагічная сельская гаспадарка», якая павінна ўтрымліваць комплекс мер падтрымкі і стымулявання вытворчасці, заснаванай пераважна на натуральных і біялагічных фактарах развіцця. Праграма прызначана вызначаць мэтазгодныя аб'ёмы вытворчасці экалагічна чыстай прадукцыі зыходзячы з попыту і прапановы і задаваць іх дынаміку на перспектыву з улікам рэальнага росту плацежаздольных магчымасцей спажыўцоў. Мерапрыемствы праграмы павінны ахопліваць усе сферы — пачынаючы ад вытворчасці якаснай сыравіны і заканчваючы спажываннем гатовай прадукцыі. Безумоўна, у кожнай сферы павінны прадугледжвацца свае спецыфічныя меры і рычагі рэгулявання і падтрымкі збалансаванага павелічэння прапановы і попыту. Да таго ж не вытворчасць павінна ўносіць і навязваць прапанову, а попыт дыктаваць аб'ёмы і якасць вытворчасці і ўмовы прапановы;

8) рэалізацыю стратэгіі ўстойлівага і стабільнага развіцця аграпрамысловага комплексу, для чаго павінны быць выпрацаваны доўгатэрміновыя крытэрыі дынамікі аграпрамысловай вытворчасці, уключаючы эканамічны апарат яе забеспячэння. У межах канцэпцыі ўстойлівасці найбольш важнымі з'яўляюцца меры па пераспецыялізацыі і перазанятасці лішку работнікаў з сферы сельскай гаспадаркі ў іншыя галіны, напрыклад у сферу аграсэрвісу, камунікацыйнага забеспячэння, гандлю, агратурызму, народных рамёстваў і промыслаў. Разам з тым неабходна прыняцце мер па стварэнні новых рабочых месцаў як у сферы самой сельскай гаспадаркі, так і ў сферы забеспячэння нармальнага функцыянавання сельскіх тэрыторый з улікам неабходнасці ўзмацнення маніторынгу і кантролю экалагічнай і прыроднай раўнавагі. Зыходзячы з вопыту развітых краін, трэба ісці па шляху пераважнага павелічэння новых рабочых месцаў і адкрыцця новых перспектыў для жыцця і занятасці сельскага насельніцтва па-за сферай сельскагаспадарчай вытворчасці. З ростам прадукцыйнасці, якасці і эфектыўнасці сельскагаспадарчай працы непасрэдна ў сферы вытворчасці павінна заставацца ўсё менш работнікаў (пры адпаведным росце ўзроўню прафесіяналізму, прадпрымальніцтва, кваліфікацыі, рацыяналізму). Вызваленыя работнікі павінны пераходзіць у іншыя сферы занятасці з умовай іх перакваліфікацыі;

9) умацаванне аграрнай і экалагічнай навукі, прызначанай распрацаваць перспектыўную сістэму мер і механізмаў эфектыўнай арганізацыі аграпрамысловай вытворчасці ў цеснай сувязі з падтрыманнем прыроднай раўнавагі і абаронай навакольнага асяроддзя. У прыватнасці, патрабуецца актывізаваць навукова-даследчыя работы па найбольш рацыянальным выкарыстанні мясцовых відаў энерганосьбітаў, пераводзе аграпрамысловых прадпрыемстваў і сельскіх тэрыторый на лакальнае энергасамазабеспячэнне і нават надаць сельскагаспадарчым прадпрыемствам ролю вытворцаў энерганосьбітаў (вырошчванне рапсу, нарыхтоўка саломы і торфу для біяпаліва і г.д.). У сувязі з гэтым неабходна палепшыць эканамічныя ўмовы для пашыранага аднаўлення сельскагаспадарчай сыравіны ў якасці энерганосьбітаў у мэтах атрымання чыстых і змешаных відаў біягеннага паліва. Патрабуецца палепшыць умовы інвестыцыйнай падтрымкі канструявання і стварэння эфектыўных установак па вытворчасці біяэнергіі, а таксама выкарыстанні энергіі ветру і сонца. Мэтазгодна адаптаваць і ўзаемаўвязаць энергасістэмы і энергасеткі, якія перадаюць розныя віды энергіі, уключаючы энергію, што выпрацоўваецца з біямасы і мясцовай сыравіны.

Усё гэта патрабуе, безумоўна, значных затрат на падтрымку і стымуляванне вучоных, канструктараў і праекціроўшчыкаў, занятых пошукам інавацыйных рашэнняў у галіне энергазабеспячэння і энергаэфектыўнасці. Але без такіх выдаткаў немагчыма дасягнуць патрэбнай выніковасці навукі і вытворчасці, энергетычнай і экалагічнай збалансаванасці аграпрамысловага комплексу.

Галіновыя аграрныя навукова-даследчыя ўстановы, якія ў цяперашні час уваходзяць у склад Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, выконваюць практычна ўвесь комплекс фундаментальных і прыкладных даследаванняў эфектыўнага развіцця аграпрамысловага комплексу і з'яўляюцца неад'емнай часткай рэалізацыі аграрнай палітыкі дзяржавы. Яны распрацоўваюць навуковыя механізмы прыняцця аб'ектыўных рашэнняў і непасрэднага ўкаранення іх вынікаў у вытворчасць у мэтах павышэння яе выніковасці. Аднак сама матэрыяльная база навуковых устаноў, як і сістэма матывацыі навуковай працы ў краіне, патрабуе карэннага ўдасканалення. Калі гэтага не ўсвядоміць і не зрабіць, то не выключана, што айчынная аграрная навука не толькі будзе адставаць у сваім развіцці ад аналагічнай замежнай, але і ўнутры краіны перастане адпавядаць надзённым патрабаванням сельскіх таваравытворцаў.

Разам з гэтым неабходна ўмацаваць асновы і пашырыць маштабы навуковых даследаванняў у галіне экалогіі і абароны прыроднага асяроддзя. Цяпер гэтыя даследаванні ў рэспубліцы адстаюць і ўжо не адпавядаюць пастаўленым задачам.

Але яшчэ больш няўцешныя даследаванні ў галіне бяспекі харчовай прадукцыі і абароны правоў спажыўцоў. Тут наогул даследуюцца толькі асобныя фрагменты гэтай важнай праблемы. Акрамя таго, адсутнічаюць нават спецыялізаваныя навуковыя структуры па многіх прыярытэтных звеннях у харчовым ланцугу, а існуючыя навуковыя арганізацыі раз'яднаны па ведамствах і па функцыях.

У якасці неадкладнага рашэння намі бачыцца неабходнасць стварэння спецыяльнага навуковага цэнтра па харчаванні і харчовых прадуктах пры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, які павінен аб'ядноўваць усе існуючыя навукова-даследчыя і праектна-канструктарскія ўстановы і прадпрыемствы па гэтай праблеме і выконваць функцыі каардынатара навуковых даследаванняў па ўсім комплексе задач у межах прадуктовых ланцужкоў, уключаючы пытанні тэхнікі, тэхналогій, асартыменту, збыту, задавальнення спажывецкага попыту і г. д.;

10) удасканаленне сістэмы вядзення сельскай гаспадаркі. Актуальнасць гэтай меры выклікана тым, што ў апошнія дзесяцігоддзі, асабліва ў апошнія гады на тэрыторыі Беларусі сталі відавочнымі прыродна-кліматычныя анамаліі — засухі, нераўнамернасць ападкаў па тэрыторыі пры адносна невялікіх яе памерах, познавясновыя і раннялетнія замаразкі, дэфармаваныя зімы, актыўныя водныя і ветравыя эрозіі глеб і інш. Нярэдка гэта звязваецца з празмерным антрапагенным умяшаннем чалавека ў прыроду — асушэннем вялікіх масіваў балот, буйнамаштабнай меліярацыяй, скарачэннем лясоў, хімічным забруджаннем паветра, вады, глебы і інш. Як бы там ні было, але ўсё гэта патрабуе новых метадаў арганізацыі і вядзення аграпрамысловага комплексу. Па-першае, для таго каб «згладзіць» анамальныя з'явы прыроды, папярэдзіць іх негатыўны ўплыў на прадукцыйнасць сельскай гаспадаркі. Па-другое, каб адаптавацца ў арганізацыі вытворчасці да форс-мажорных акалічнасцей прыроднага асяроддзя. Напрыклад, шматгадовымі назіраннямі ўстаноўлена, што ў Гомельскай вобласці ў апошнія гады выпадае ападкаў менш на 15 — 20 працэнтаў у параўнанні з больш раннімі перыядамі і іншымі рэгіёнамі рэспублікі, у выніку чаго тут на лёгкіх пясчаных і супясчаных глебах у летні перыяд адчуваецца моцны недахоп вільгаці. Натуральна, гэта патрабуе змянення традыцыйнай спецыялізацыі многіх сельскагаспадарчых прадпрыемстваў вобласці, размешчаных на такіх глебах. А менавіта — прымянення спецыяльных метадаў апрацоўкі зямель, якія захоўваюць вільгаць, увядзення адаптаваных да гэтых умоў севазваротаў сельскагаспадарчых культур, вырошчвання засухаўстойлівых культур і г. д. Гэта значыць, што неабходна глыбока навуковая сістэма земляробства і вядзення сельскай гаспадаркі, якая ўлічвала б асаблівасці рэгіёнаў і прыродных умоў і ў большай ступені ўвязвала б патрэбнасці вытворчасці і магчымасці навакольнага асяроддзя;

11) эканамічнае і фінансавае аздараўленне сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. Вядома, што ў працэсе пераходнага перыяду ад ранейшай адміністрацыйна-каманднай сістэмы кіравання да новай рыначнай арганізацыі вытворчасці адбыліся вялікія дэфармацыі ў механізмах цэнаўтварэння, падаткаабкладання, крэдытавання і субсідзіравання аграпрамысловага комплексу, у выніку чаго многія сельскагаспадарчыя прадпрыемствы займелі вялікія даўгі па абавязковых плацяжах. У разліку на адну статыстычную гаспадарку такія даўгі дасягаюць 1,3—1,5 мільярда рублёў. Гэта, натуральна, скоўвае іх нармальную гаспадарчую дзейнасць і не дае магчымасці эфектыўнага функцыянавання. Даўгі прама перашкаджаюць набыццю неабходных рэсурсаў для абнаўлення матэрыяльнай базы, падтрымання глебавай урадлівасці, стварэння нармальных умоў жыццезабеспячэння для сельскагаспадарчай жывёлы і раслін. Вытворчасць пачынае весціся за кошт назапашанага патэнцыялу ў папярэднія гады, у сувязі з чым змяншаецца якасць зямель, падае прадукцыйнасць жывёлы. Прыродныя рэсурсы эксплуатуюцца на знос.

Бясспрэчна, такая сістэма гаспадарання з'яўляецца спусташальнай і патрабуе фінансавай санацыі ў першую чаргу сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. Для арганізацыі нармальнай вытворчай дзейнасці ў новых умовах сельскагаспа-

дарчыя прадпрыемствы павінны быць вольнымі ад старых даўгоў, што ўзніклі ў большасці выпадкаў з прычыны незбалансаванай дзяржаўнай мікраэканамічнай палітыкі, мець магчымасць працаваць на прынцыпах самаакупнасці і самафінансавання, своечасова абнаўляць рэсурсы, наладжваць вытворчасць у цеснай адпаведнасці з падтрыманнем прыроднага асяроддзя;

12) забеспячэнне ўстойлівага сацыяльна-эканамічнага развіцця сельскай гаспадаркі, што прадугледжвае ў першую чаргу збалансаванасць сацыяльнай інфраструктуры вёскі і павышэнне ўзроўню сацыяльнага абслугоўвання сельскага насельніцтва, прывядзенне яго ў адпаведнасць з зацверджанымі сацыяльнымі гарантыямі, стандартамі і нарматывамі. Гэта павінна быць прадугледжана ў сістэме заканадаўства і накіравана на ўмацаванне асноў сацыяльнай бяспекі грамадства.

Надзейнасць і ўстойлівасць сацыяльнага забеспячэння і абслугоўвання сельскага насельніцтва павінны стаць асновай росту агульнай культуры і самадастатковасці сельскага жыцця, асветы і адукацыі ў пытаннях экалогіі і прыродакарыстання, а таксама ў пытаннях якасці спажывання харчовых прадуктаў, у тым ліку канкрэтных прадуктаў харчавання. Забяспечаныя і адукаваныя людзі, як правіла, уважліва і з павагай адносяцца да прыроды, імкнуцца гарманічна ўпісацца ў навакольнае асяроддзе, арганізаваць несупярэчлівы лад жыцця і дзейнасці.

З прычыны росту эканамічных і дэмаграфічных праблем у аграпрамысловым комплексе, а таксама ў сувязі з пераходам да рынку праблематыка сацыяльнай бяспекі павінна стаць адным з галоўных прыярытэтаў краіны і мэтай стабілізацыі сістэмы сацыяльнага забеспячэння насельніцтва. Сельская гаспадарка павінна набыць сацыяльную накіраванасць, замест пераважна вытворчай і эканамічнай. Гэта дазволіць адысці ад спажывецкага настрою грамадства, у прыватнасці сельскага насельніцтва, у адносінах да прыроды і навакольнага асяроддзя.

Такім чынам, для вырашэння такой важнай праблемы, як дасягненне сацыяльна-эканамічнай стабільнасці сельскай сацыяльнай інфраструктуры, неабходны адпаведныя бюджэтныя і цэнтралізаваныя інвестыцыі (сацыяльная інфраструктура — гэта клопат дзяржавы), а таксама дастатковыя ўласныя сродкі прадпрыемстваў для павышэння аплаты працы і даходаў работнікаў, стварэння належнай якасці жыцця сельскіх людзей.

Разам з тым важна пераарыентаваць асноўныя субсідыі з падтрымкі сельскагаспадарчай вытворчасці на развіццё сельскай сацыяльнай інфраструктуры і збалансаванае функцыянаванне сельскіх тэрыторый, уключаючы ўсю сістэму камунікацый — інжынерных, транспартных, дарожных і г. д. Такая пераарыентацыя прадугледжана нормамі і правіламі Сусветнай гандлёвай арганізацыі, куды Беларусь намерваецца ўступіць у бліжэйшай перспектыве. Пераключэнне сродкаў падтрымкі на сацыяльную інфраструктуру не скажае прынцыпаў самафінансавання і самагаспадарання таваравытворцаў і не дэфармуе адносін рыначнага гандлю харчовымі прадуктамі. Захаванне сацыяльных і экалагічных стандартаў адносіцца да мер «зялёнага кошыка», што з'яўляецца асноўным патрабаваннем Сусветнай гандлёвай арганізацыі пры ацэнцы стану і перспектыў сельскай гаспадаркі краін, якія імкнуцца стаць яе членамі;

13) рэалізацыю комплексу мер арганізацыйнага, эканамічнага, тэхналагічнага і прававога характару па прывядзенні ўсёй сістэмы вядзення сельскай гаспадаркі ў рэспубліцы ў адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі якасці і бяспекі харчовых прадуктаў у сувязі з будучым уступленнем у Сусветную гандлёвую арганізацыю і неабходнасцю стварэння для айчыннай прадукцыі канкурэнтных пераваг. Беларусь павінна стаць паўнапраўным членам гэтай арганізацыі і пазбегнуць дыскрымінацыі з боку вядучых сусветных экспарцёраў і імпарцёраў харчовых прадуктаў. Неабходна ўключыцца ў міжнародны падзел працы і заваяваць імідж надзейнага партнёра і пастаўшчыка якаснага харчавання на замежныя

рынкі. Устойлівая перспектыва аграпрамысловага комплексу Беларусі — у раўнапраўным узаемавыгадным партнёрстве пры інтэграцыі ў еўрапейскую эканоміку.

Сельская гаспадарка Беларусі ў цэлым павінна быць арыентаванай на экспарт. Толькі ў выніку гэтага яна можа стаць канкурэнтаздольнай на ўнутраным і знешніх рынках. Краіна павінна заняць устойлівую нішу ў структуры сусветнага гандлю аграпрамысловай прадукцыяй. Гэта будзе служыць надзейнай крыніцай валютных сродкаў і навейшых тэхналогій для паскоранага развіцця нацыянальнага аграпрамысловага комплексу. Па разліках, экспарт аграпрамысловай прадукцыі Беларусі можа і павінен складаць не менш аднаго мільярда долараў ЗША, або ў тры-чатыры разы больш, чым у цяперашні час. Для гэтага ёсць дастатковыя патэнцыяльныя магчымасці — прыродныя, працоўныя, навуковыя, тэхналагічныя. Неабходна толькі новая арганізацыя аграпрамысловага комплексу, пабудаваная на стымуляванні самагаспадарання, самаразвіцця і прадпрымальніцтва таваравытворцаў, а таксама на эканомным выкарыстанні ўсіх відаў рэсурсаў.

Беларусь як патэнцыяльны член Сусветнай гандлёвай арганізацыі павінна імкнуцца найбольш поўна адпавядаць патрабаванням сусветнага гандлю, але ў той жа час мэтанакіравана праводзіць нацыянальную аграрную палітыку, якая ў першую чаргу накіравана на максімальны ўлік патрэбнасцей сваёй краіны — харчовую незалежнасць, бяспеку харчовай прадукцыі, абарону правоў і здароўя спажыўцоў, ахову навакольнага і прыроднага асяроддзя (экалагічную бяспеку);

14) прыняцце неадкладных мер па пераадоленні беднасці і адсталасці вёскі. Не сакрэт, што цяперашні выгляд многіх беларускіх вёсак засмучае. А яшчэ больш — збядненне і расслаенне сельскага насельніцтва. Немалая колькасць жыхароў не імкнецца да актыўнай дзейнасці і грамадска карыснай працы, вядзе асацыяльны лад жыцця. Многія прызвычаіліся абыходзіцца мінімумам сродкаў і не ставяць задачы зарабіць. Атрымалі масавае распаўсюджанне ўтрыманства (надзея не на сябе, а на патэрналізм вышэйшых структур) і ўраўнілаўка пры пераразмеркаванні матэрыяльных даброт.

Аналізуючы выдаткі на харчаванне і рацыёны сельскіх жыхароў, таксама варта канстатаваць, што ў сваёй большасці яны з'яўляюцца недастатковымі. Сумарная каларыйнасць харчавання сельскага насельніцтва цяпер складае ў сярэднім 2800 — 2900 ккал, пры нарматыве 3500. Прычым набор прадуктаў — даволі невялікі, з якіх асноўнымі з'яўляюцца хлеб, бульба, сала і мяса, некаторыя віды гародніны (капуста, агуркі).

Пераадоленне беднага і недастатковага харчавання — важнейшая задача новай аграрнай палітыкі. Для гэтага неабходна вырашыць адначасова тры праблемы: а) прадаставіць магчымасць зарабляць, зняць усе абмежаванні на атрыманне заробку пры дапамозе працы; б) зацікавіць у атрыманні заробку, у прадпрымальніцтве, росце прадукцыйнасці працы; в) устанавіць цесную ўзаемасувязь паміж вынікамі вытворчасці і аплатай працы, эфектыўнасцю гаспадарчай дзейнасці і даходамі работнікаў пры ўмове ўвядзення моцных стымулаў і адпаведнай матывацыі.

Трэба рабіць стаўку на добрых работнікаў, дзейсных і прадпрымальных, і на ўстанаўленне высокіх крытэрыяў матывацыі прадукцыйнай і эфектыўнай працы. У выніку не толькі павысіцца ўзровень жыцця і якасць харчавання сельскіх людзей, але і з'явіцца магчымасць назапашваць сродкі для доўгатэрміновых капітальных укладанняў у будаўніцтва сучаснага жылля і набыццё персанальных тэхнічных сродкаў. Людзі будуць разлічваць пераважна на сябе, на атрыманне свайго заробку. Праявіцца спаборнасць. Вёска будзе хутка пазбаўляцца ад сіндрому бесперспектыўнасці і непаўнацэннасці, а ўся яе інфраструктура — мадэрнізавацца, набываць сучасныя прывабныя формы;

15) удасканаленне ўсёй сістэмы цэнтралізаванага і вытворчага кіравання ў аграпрамысловым комплексе. Трэба сказаць, што цяпер гэта адно з асноўных звенняў фарміравання новай аграрнай палітыкі. Рыначная эканоміка несумяшчальная

з дырэктыўным адміністраваннем, якое па сваёй прыродзе не можа ўлічыць усёй кан'юнктуры бягучых змен эканамічнай сітуацыі. Рыначная эканоміка дынамічная і рухомая, дырэктыўныя метады — кансерватыўныя і статычныя.

Аднак яшчэ больш несумяшчальная з адміністрацыйным цэнтралізаваным кіраваннем сельская гаспадарка, якая не толькі залежыць ад рыначнай і эканамічнай кан'юнктуры, але і ад хуткіх прыродных перамен. Па сутнасці, адміністраванне ўступае ў прамую супярэчнасць з законамі прыроды і прынцыпамі рацыянальнага гаспадарання, бо ў большасці накіравана на дасягненне мэтавых задач любой цаной. Ад гэтага нярэдка прамая і самая вялікая шкода прычыняецца прыроднаму асяроддзю, якое эксплуатуецца без уліку яго магчымасцей. Прырода, экалогія вымушаны расплачвацца за кансерватызм адміністравання.

Выйсце бачыцца ў адмове ад метадаў цэнтралізаванага адміністравання і пераходзе на прынцыпы эканамічнага і прававога рэгулявання аграпрамысловай вытворчасці, а таксама ў прадастаўленні сельскагаспадарчым прадпрыемствам і таваравытворцам правоў на самастойнае гаспадаранне ў межах спецыяльнага рэгулятыўнага заканадаўства. Рацыянальнаму і рэсурсазберагальнаму гаспадаранню ў большай меры адпавядаюць прынцыпы самакіравання, самавызначэння, самаразвіцця і самаарганізацыі прадпрыемстваў, працоўных калектываў і таваравытворцаў. Гэтыя прынцыпы не толькі заснаваныя на самаакупнасці і самафінансаванні гаспадарчай дзейнасці, але і на ўстанаўленні аптымальных прапорцый паміж вытворчасцю і рэсурсаспажываннем, даходамі і расходамі, мэтамі гаспадарчай дзейнасці і магчымасцямі прыроднага асяроддзя.

Такім чынам, прадстаўленая сукупнасць мерапрыемстваў, якія вызначаюць сутнасць новай аграрнай палітыкі, паказвае, што ў цэнтры эканамічнай сістэмы павінна быць не вытворчасць (хоць яна і прызначана забяспечыць харчовую бяспеку), а чалавек з яго надзённымі патрэбнасцямі і ўмовамі жыццезабеспячэння, дзе галоўнае месца належыць не толькі харчовым прадуктам, але і прыроднаму, навакольнаму асяроддзю. Можна нават вывесці своеасаблівую формулу нармальнага і бяспечнага развіцця чалавека: харчовая бяспека + (плюс) экалагічная + (плюс) эканамічная + (плюс) энергетычная + (плюс) знешняя бяспека. Рэалізуючы ўсе гэтыя функцыянальныя віды бяспекі, чалавек набывае стабільныя ўмовы жыцця і дзейнасці, гэтак званы камфорт і дабрабыт.

У самым пачатку было сказана, што Праграма адраджэння і развіцця вёскі на 2005—2010 гады прынята для практычнай рэалізацыі. Але яе мэтавыя ўстаноўкі не дадуць патрэбнага эфекту, калі падчас ажыццяўлення праграмных крытэрыяў будуць упускацца задачы стварэння новага сельскага ўкладу жыцця, новай якасці жыцця сельскіх работнікаў, новага работніка, зацікаўленага ў інавацыйным удасканаленні аграпрамысловага комплексу, новага асяроддзя пражывання, у цэнтры якіх павінна быць абарона прыроднага і навакольнага асяроддзя. Толькі ў комплексным і поўным разуменні, пачынаючы ад чалавека і навакольнага асяроддзя і заканчваючы вытворчасцю і збытам якасных харчовых прадуктаў, уключаючы ўсе магчымыя функцыі бяспекі, можна дасягнуць мэт гэтай праграмы і рэалізацыі яе задач, прызначаных падняць узровень нацыянальнага беларускага аграрнага комплексу да ўзроўню развітых еўрапейскіх краін.

***Пераклад з рускай М. Міхайлава.***





**Мікалай КАТЭНКА,**

кандыдат гістарычных навук

# «ХАЛОДНАЯ ВАЙНА». ЯК ЯЕ РАЗУМЕЦЬ?

Кожны раз, калі я бяру гістарычны артыкул і пачынаю чытаць, баюся, што зноў нешта ў нашай гісторыі не так. І не можаш зразумець самога сябе.

Сёння яшчэ не знікла імкненне не толькі не лічыцца з гісторыяй, але і калі не адмяніць яе зусім, то хоць бы перайначыць. Хоць кожны, хто імкнецца гэта зрабіць, сцвярджае даўно вядомую ісціну, што «гістарычная навука — гэта комплекс грамадскіх навук, які вывучае мінулае чалавецтва ва ўсёй яго канкрэтнасці і разнастайнасці».

Да месца будзе прывесці афарызм В. В. Ключэўскага: «Мінулае патрэбна ведаць не таму, што яно прайшло, а таму, што, адыходзячы, не ўмела забраць свае вынікі». Мне здаецца, сёння гэты выраз як ніколі актуальны.

Размова пойдзе аб «халоднай вайне».

Дык вось, чытач бярэ кнігу амерыканскіх вучоных Юджына Трані і Дональда Дэвіса «Першая халодная вайна», над якой аўтары працавалі больш за дваццаць гадоў. На фактычных матэрыялах вучоныя пераканаўча даказалі, што «халодная вайна» пачалася задоўга да 1946 года, калі У. Чэрчыль у сваёй праграмнай прамове ў Фултанскім універсітэце абвясціў палітыку «халоднай вайны» і заклікаў да стварэння англа-амерыканскага саюза для барацьбы з «сусветным камунізмам на чале з Савецкай Расіяй».

Чытачам старэйшага пакалення тэрмін «халодная вайна» знаёмы па яго азначэнні ў Вялікай Савецкай Энцыклапедыі: «халодная вайна» — тэрмін, які азначае варожы палітычны курс, што пачалі праводзіць урады заходніх дзяржаў у адносінах да СССР і іншых сацыялістычных краін пасля заканчэння Другой сусветнай вайны.

Дзве думкі, якія адлюстроўваюць і два перыяды ў азначэнні тэрміна «халодная вайна».

Нельга не згадзіцца з амерыканскімі вучонымі ў тым, што «халодную вайну» распачала адміністрацыя амерыканскага прэзідэнта Вільсана. Але гэта вайна не закончылася ў 1933 годзе, як яны сцвярджаюць, у выніку ўстанаўлення дыпламатычных адносін паміж СССР і ЗША. «Халодная вайна» пачалася 7 лістапада 1917 года. Яна не спынялася, а працягвалася аж да заканчэння Другой сусветнай вайны і з’явілася прэцэдэнтам для «халоднай вайны» 1946—1991 гадоў.

Калі разглядаць гэты працэс у цэлым, не цяжка прыйсці да высновы, што першая «халодная вайна» вялася паміж першай сацыялістычнай дзяржавай і Злучанымі Штатамі Амерыкі з 1917 да 1946 года (можна характарызаваць як пачатковы этап «халоднай вайны»). З утварэннем сусветнай сістэмы сацыялізму «халод-

ная вайна» вялася паміж дзвюма грамадска-палітычнымі сістэмамі аж да 1991 года (наступны этап «халоднай вайны»).

Гэта амаль стогадовае процістаянне. Пацвярджаецца гэта тым, што дваццаць восьмы прэзідэнт ЗША Томас Вудра Вільсан заняў свой пост у 1913 годзе, і да 1920 года ён і яго дзяржсакратары Лэнсінг і Колбі сфармулявалі ўсе пастулаты, адчаканеныя ў формуле «халодная вайна» ў канцы 1940-х гадоў вуснамі Уолтэра Ліпмана.

Іх можна сфармуляваць у тэрмінах: падазронасць, узаемнае неразуменне, непрыязнасць, страх, ідэалагічная варожасць, дыпламатычная ізаляцыя.

Праводзім паралель, пералічваем формы і метады «халоднай вайны» пасляваеннага перыяду аж да 1991 года:

утварэнне сістэмы ваенна-палітычных саюзаў (НАТО, СЕАТО, СЕНТО і інш.) і стварэнне шырокай сеткі ваенных баз;

фарсіраванне гонкі ўзбраенняў, уключаючы ядзерную і іншыя віды зброі масавага знішчэння;

выкарыстанне сілы, пагрозы сілай або назапашанне ўзбраенняў як сродку ўздзеяння на палітыку іншых дзяржаў («атамная дыпламатыя», «палітыка з пазіцыі сілы»);

прымяненне сродкаў эканамічнага ціску (дыскрымінацыя ў гандлі і інш.);

актывізацыя і пашырэнне падрыўной дзейнасці разведвальных службаў;

заахвочванне путчаў і дзяржаўных пераваротаў;

антыкамуністычная прапаганда і ідэалагічныя дыверсіі («псіхалагічная вайна»);

перашкоджанне ўстанаўленню і ажыццяўленню палітычных, эканамічных і культурных сувязей паміж дзяржавамі.

Сённяшняму чытачу больш зразумела другая група тэрмінаў. Яму больш знаёмы падзеі 1917 года, грамадзянскай вайны і інтэрвенцыі па савецкіх выданнях і як бы знутры. Нам жа ўяўляецца, што іх веданне або хоць бы знаёмства з тымі ж падзеямі звонку дапамогуць разабрацца ва ўсіх хітраспляценнях гэтых падзей, а спалучэнне гэтых поглядаў дае нам магчымасць зразумець сутнасць пачатку «халоднай вайны». Нашы гісторыкі ўслед за амерыканскімі вучонымі процістаянне таго перыяду называюць «першай халоднай вайной», датуючы яе 1920—1933 гадамі. Я ж адважуся сцвярджаць, што гэта быў першы этап «халоднай вайны», бо стэрэатыпы, якія ўзніклі пасля Першай сусветнай вайны, лёгка адрадзіліся пасля Другой сусветнай вайны і дамінавалі да апошняга дзесяцігоддзя XX стагоддзя.

У цяперашніх умовах, калі ЗША імкнуцца да ўстанаўлення аднапалярнага свету, «халодная вайна» працягваецца, хоць двухполюсная формула сусветнага ўпарадкавання спыніла існаванне ў выніку паражэння сацыялістычнай сістэмы і поўнай перамогі ЗША і іх саюзнікаў.

І зноў звернемся да выдатнага расійскага гісторыка В. В. Ключэўскага, які адзначыў надзвычайную паўтаральнасць расійскай гісторыі. Аднак відавочна, што паўтаральнасць характэрна не толькі для нашай, але і для ўсёй сусветнай гісторыі.

У формах і метадах «халоднай вайны» перыяду грамадзянскай вайны і інтэрвенцыі і пасляваеннага перыяду (1945—1991 гг.) знаходзім дзіўнае падабенства. Ідэі паплечнікаў Томаса Вільсана і пасляваенных амерыканскіх палітыкаў часоў адміністрацыі Трумэна падобныя як дзве кроплі вады. Адзіная розніца — на пачатку 1920-х гадоў не было такога глабальнага саперніцтва, якое разгарнулася ў эпоху ракетна-ядзернай зброі. Гэта дае падставу называць палітыку адміністрацыі Вільсана першай «халоднай вайной». Я ж называю гэту палітыку першым этапам «халоднай вайны». І вось чаму. ЗША не прызнавалі Савецкі ўрад да 1933 года, аднак аж да самага пачатку Другой сусветнай вайны ў палітыцы Рузвельта мы знаходзім элементы «халоднай вайны». У амерыканскага боку не

ўзнікала ніякага жадання заняцца пошукам хоць якіх-небудзь агульных інтарэсаў да таго часу, пакуль Савецкі Саюз не страціць сілу або не стане паводзіць сябе ў адпаведнасці з амерыканскімі стандартамі.

Так, было збліжэнне ЗША і СССР. Да яго прывёў заняпад амерыканскага знешняга гандлю, выкліканы дэпрэсіяй 1930-х гадоў. Другая сусветная вайна зблізіла дзве дзяржавы, але пасля вайны зноў развяла іх палітыка.

Ды было і тое, што амерыканцы, як і ў 1920-я гады, занялі пазіцыю чакання і неўмяшання. Два гады ідзе Другая сусветная вайна. Савецкі Саюз, сцякаючы крывёй, фактычна адзін на адзін супрацьстаіць фашысцкаму блоку, а ЗША толькі ў жніўні 1941 года ўступілі ў вайну.

Інфармацыйная вайна працягвалася і ў 1930-я гады, і ў гады вайны.

Прыёмы ўнушэння, увядзення ў зман дэзінфармацыяй распрацаваны ў ЗША яшчэ ў 1939 годзе. Усе яны зводзяцца да наступнага:

прыём «гульні ў прастору», які прадугледжвае дасягненне папулярнасці любой цаной, папулізм, пустыя абяцанні;

прыём «ператасоўкі», заснаваны на тэндэнцыйнасці, падачы толькі адмоўных фактаў, рознага роду выдуманых сенсацый;

прычэпліванне зневажальных ярлыкоў;

прыём «пераносу», які прадугледжвае прыняцце пададзенай каштоўнасці ў якасці безальтэрнатыўнай.

І сёння на Захадзе, а перш за ўсё ў ЗША, гэтыя прыёмы праводзяцца ў жыццё, у тым ліку і супраць нашай краіны. Вакол Беларусі плятуцца іезуіцкія сеткі. Чаму? У нашай краіне адбылася стабілізацыя кіравання дзяржавай. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь дастаткова цвёрда кантралюе сітуацыю ў краіне, у тым ліку і процідзейнічае знешняму ціску.

Пад асабліва злосныя нападкі трапляюць вынікі мінулагодніх выбараў у парламент і рэферэндуму, які прадаставіў А. Р. Лукашэнку права балаціравацца на пост Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у 2006 годзе. Справа дайшла нават да варожых выпадаў у адрас кіраўніка суверэннай дзяржавы з боку прэзідэнта ЗША Дж. Буша і яго спадручнай Кандалізы Райс.

Беларусь праводзіць палітыку яднання славянскіх народаў, стварэння Саюза Беларусі і Расіі. Такая палітыка зусім не адпавядае імперскім інтарэсам і крэсліць планы стварэння буфернай зоны паміж НАТО і Расіяй. Гэта яўна не ўваходзіць у намеры ЗША. Прыклад Украіны таму пацвярджэнне. Амерыканскія паліттэхнолагі зрабілі ўсё, каб не дапусціць да ўлады прарасійскага Януковіча, адкрыта выбраўшы там свайго стаўленіка Юшчанку.

Тыя, хто плануе і вядзе інфармацыйна-псіхалагічную вайну супраць нашай рэспублікі, выдатна разумеюць, што ў нас формула «прэзідэнт — народ» дзейнічае бездакорна. Пераарыентаваць свядомасць большасці грамадзян у патрэбным кірунку і прымусіць іх падпарадкавацца волі любой з апазіцыйных партый — задача даволі складаная і бадай што невыканальная.

Мы адзначалі, што на першым этапе «халоднай вайны» не было такога рэзкага процістаяння ў галіне ўзбраенняў. І гэта праўда. Але праўда і тое, што не хто іншы, як прэзідэнт ЗША Рузвельт летам 1942 года зацвердзіў план праекта па стварэнні атамнай бомбы. А ўжо ў 1945 годзе ЗША правялі выпрабаванне новай звышмагутнай зброі. І ў гэтым жа годзе яны скінулі дзве атамныя бомбы на японскія гарады Хірасіму і Нагасакі.

Савецкі Саюз у адказ прымае экстраннае рашэнне аб арганізацыі атамнай прамысловасці. 29 жніўня 1949 года на Сяміпалацінскім палігоне праведзены першыя выпрабаванні савецкай атамнай бомбы, а ўжо праз чатыры гады 20 жніўня 1953 года ў СССР адбыўся першы вадародны выбух, які поўнасцю перакрэсліў ядзерную перавагу ЗША.

Асноўныя прыкметы «халоднай вайны» праявіліся з новай сілай, але ўжо ва ўмовах нястрымнай ядзернай гонкі ўзбраенняў.

Такім чынам, «халодная вайна» зарадзілася пры прэзідэнце Томасу Вільсане ў эпоху Першай сусветнай вайны, развівалася да канцэпцый Трумэна і Рэйгана пасля Другой сусветнай вайны. З поўнай упэўненасцю можна сцвярджаць, што першымі байцамі «халоднай вайны» былі Вільсан і яго паплечнікі.

Прыкметы «халоднай вайны» можна выявіць яшчэ да пачатку Першай сусветнай вайны. Царская Расія з'яўлялася для ЗША цытадэллю дэспатызму. І ЗША і Расія праяўлялі малую ўзаемазацікаўленасць. ЗША пад ціскам свайго яўрэйскага лобі дэнансавалі ў 1912 годзе гандлёвы дагавор ад 1832 года, якім дыскрымінаваліся яўрэі з амерыканскімі пашпартамі пры ўездзе ў Расію. Ці гэта не прэлюдыя да папраўкі Джэксана-Вэніка ў 1970-я гады, у якой прадастаўленне СССР статусу найбольшага спрыяння ў гандлі спалучалася са свабодай яўрэйскай эміграцыі. Дарэчы, гэтая папраўка да цяперашняга часу не адменена.

ЗША ўжо 3 лютага 1917 года першымі прызналі Часовы ўрад князя Львова. Яны спадзяваліся на тое, што ў вайну з Германіяй цяпер будзе ўцягнута ўся дэмакратычная Антанта. Ды, аднак, Амерыка не ўступіла ў вайну. Яна спадзявалася, што рускі народ пакладзе ўсе свае сілы на алтар агульнай перамогі над Германіяй. Пралік ЗША быў значны. У выніку памылковых рашэнняў амерыканскага прэзідэнта была ўпушчана унікальная магчымасць пазбегнуць многіх катаклізмаў XX стагоддзя і захаваць у Расіі нованароджаную дэмакратыю шляхам актыўнай падтрымкі Часовага ўрада. Гэта на думку амерыканскіх гісторыкаў.

А мы маем тое, што маем.

Вільсан жадаў працягу вайны, але рукамі расійскага народа. Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 года перакрэсліла яго планы. Бальшавікі, узяўшы ўладу, сталі абаронцамі. ЗША нічога не зрабілі і чакалі краху бальшавіцкай улады. Яны арганічна не пераносілі бальшавізму. Вывад амерыканскай дэмакратычнай адміністрацыі аб імкненні бальшавікоў звергнуць свабодны капіталізм і замяніць яго экстрэмісцкай формай пралетарскага дэспатызму ў 1917 годзе лёг у аснову адносін паміж ЗША і Савецкай Расіяй і ўжо ніколі не мяняўся. Амерыканцы яшчэ тады лічылі магчымым забыць аб дэмакратыі ў адносінах да Савецкай Расіі і з дапамогай войскаў устанавіць у ёй ваенную дыктатуру. Аднак умяшанне ЗША ва ўнутраныя справы Расіі не супадала з дэмакратычнымі прынцыпамі прэзідэнта Вільсана і супярэчыла ізаляцыяніецкай палітычнай традыцыі краіны.

На ўзброеную інтэрвенцыю Вільсана падштурхнуў брытанскі і французскі ціск. Саюзнікаў больш за ўсё хвалявала вайна. Інтэрвенцыя з'явілася вынікам выхаду Расіі з Першай сусветнай вайны, і яе мэтай было аднаўленне Усходняга фронту. Акрамя таго, амерыканцы з дапамогай інтэрвенцыі імкнуліся нейтралізаваць японскую экспансію на Далёкім Усходзе. І яшчэ адна акалічнасць. Ідэалагічная варожасць Савецкай дзяржавы прымусіла ЗША зрабіць спробу засцерагчы сябе ад распаўсюджання бальшавіцкай пагрозы.

Чытачы, якія закончылі школу ў 70-я — 80-я гады мінулага стагоддзя, не могуць не ўспомніць, што ЗША ў нашай гісторыі паказваліся галоўным натхняльнікам, арганізатарам і ўдзельнікам інтэрвенцыі, які планаваў расчляненне, а затым каланіяльнае і эканамічнае заняволенне Расіі. Гэта сталінская догма панавала на працягу ўсёй Другой сусветнай вайны і зноў дасягнула піку ў 1948—1953 гады.

Змяняліся часы, змяняліся лідэры, а каб ім дагадзіць, змяняліся і погляды гісторыкаў. Многія з іх пераглядалі сваё стаўленне да падзей 1917 —1920 гадоў.

Толькі ў 1972 годзе намецілася вяртанне да ацэнкі інтэрвенцыі саюзных дзяржаў у духу 1920-х гадоў.

Гарбачоўская перабудова аказала ўплыў на разуменне становішча спраў у тыя гады і, натуральна, размова ўжо ішла не аб абароне Савецкай Расіі, а на карысць інтэрвенцыі.

Аднак звернемся да фактаў.

Вільсан не мог пайсці на адкрытую інтэрвенцыю, таму што Кангрэс ЗША ў такім выпадку павінен быў аб'явіць Расіі вайну. Толькі ў маі 1918 года пад уп-

лывам саюзнікаў і «ястрабаў» уласнай адміністрацыі ён здаўся і пагадзіўся на абмежаваную інтэрвенцыю. Летам у Архангельску высадзіліся амерыканскія войскі ў складзе каля пяці тысяч чалавек, а ва Уладзівасток прыбылі з Філіпін яшчэ восем з паловай тысяч амерыканскіх салдат.

Па ваенных мерках трынаццаць з паловай тысяч салдат на тэрыторыі вялікай краіны не такая ўжо і значная колькасць. Але з прыбыццём амерыканскіх войскаў у рэвалюцыйную Расію яшчэ зырчэй разгарэўся касцёр грамадзянскай вайны. На гэты час чэхаславацкія войскі зверглі савецкую ўладу ад Урала да Ціхага акіяна. Заходнія краіны «падкармілі» белагвардзейцаў на поўдні Расіі, на Украіне і ў Крыме. Мы з вамі больш знаёмыя з унутранымі фактарамі грамадзянскай вайны ў Расіі, але прыведзены прыклад сведчыць і аб немалаважнасці яе знешніх фактараў.

Адміністрацыя Вільсана сутыкнулася з яўным нежаданнем свайго народа працягваць вайну. Савецкі ўрад у абмен на дыпламатычнае прызнанне і спыненне інтэрвенцыі быў гатовы прызнаць незалежнасць Фінляндыі, Польшчы і Украіны, царскія даўгі, адчыніць дзверы для замежных інвестыцый і канцэсій.

Зноў жа такія знешнія фактары, як рэвалюцыя ў Венгрыі, рэвалюцыйны рух у Германіі, Польшчы, Прыбалтыцы, Аўстрыі і Італіі, пахіснулі ў амерыканцаў жаданне прызнаваць Савецкую ўладу і ўстанаўліваць з Расіяй дыпламатычныя адносіны. У канцы 1918 года і ў 1919 годзе пачалося шырокае ўмяшанне Захаду ва ўнутраныя справы Савецкай Расіі. Менавіта ў гэты час «гарачая» вайна стала саступаць месца «халоднай».

Дакументам, які аформіў першую «халодную вайну», па словах амерыканскіх вучоных-гісторыкаў Дэвіса і Трані, была нота дзяржсакратара Колбі ад 9 жніўня 1920 года.

Нота была складзена па даручэнні Вільсана. У ёй ні слова не гаварылася аб адмове Савецкага ўрада ад царскіх даўгоў і даўгоў Часовага ўрада, аб нацыяналізацыі амерыканскай уласнасці ў Расіі, аб гандлі паміж дзвюма краінамі. ЗША аб'явілі Расіі «каранцін» і заклікалі заходнія краіны пераняць іх прыклад.

Пазней, у 1923 годзе, экс-прэзідэнт ЗША Вільсан назваў Кастрычніцкую рэвалюцыю ў Расіі знамянальнай падзеяй стагоддзя. Бальшавікі нанеслі ўдар капіталізму, а каб пазбегнуць такога лёсу, неабходна захоўваць прынцыпы справядлівасці. Заходняя цывілізацыя павінна пакончыць з нераўнапраўнымі адносінамі да іншых краін у імя дасягнення ўсеагульнага дабрабыту. Перад заходняй дэмакратыяй стаіць першарадная задача выратавання цывілізацыі. Амерыка, як найвялікшая дэмакратыя, павінна першай вырашыць гэту задачу.

Але як ў 1920-я гады, так і ў цяперашні час амерыканская адміністрацыя заставалася глухой да заклікаў Вільсана. Тады ЗША выкарысталі ізаляцыю СССР, а ў 1991 годзе прывялі яго да гібелі. ЗША атрымалі поўную перамогу ў «халоднай вайне». Але яна з новай сілай працягваецца ў новых умовах, калі ЗША імкнуцца да ўстанаўлення аднапалярнага свету шляхам паўсюднага навязвання амерыканскага ладу жыцця, амерыканскай дэмакратыі.

Тады ж, у 1920-я гады, Колбі заклікаў да непрызнання Савецкага ўрада, Кенан у 1940-я гады — да памяркоўнасці і цярпення ў адносінах да СССР, Лэнсінг заклікаў да назірання з боку і чакання.

Ці не адсюль і ўзнікла ідэя стрыманасці, якая пакладзена ў аснову дактрыны Трумэна?

На працягу дзесяцігоддзяў захоўваецца пэўная пераемнасць амерыканскай палітыкі ў адносінах да СССР.

Уважлівы погляд на дактрыну 1920-х гадоў не можа не адзначыць яе паўтарэнне ў канцы 1940-х і ў 1970-я гады. Тады процістаялі ЗША — СССР, а пасля Другой сусветнай вайны — дзве грамадска-палітычныя сістэмы. Сёння ў новых гістарычных умовах вядзецца другая «халодная вайна», больш бязлітасная, больш жорсткая, больш цынічная.

Трэба адзначыць, што Савецкі Саюз прыкладаў шмат намаганняў для ліквідацыі «халоднай вайны» і нармалізацыі міжнародных адносін. У выніку росту магутнасці СССР і краін сацыялістычнай садружнасці ў пачатку 1970-х гадоў стаў магчымым паварот у бок разрадкі міжнароднай напружанасці. Гэта паспрыяла заключэнню шэрага пагадненняў паміж СССР і ЗША, стварэнню сістэмы дагавораў і пагадненняў, згодна з якімі пасляваенныя граніцы ў Еўропе лічацца недатыкальнымі, а таксама падпісанню Заключнага акта Нарады па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе і іншых дакументаў.

Усё гэта дазволіла савецкім палітыкам заявіць аб краху «халоднай вайны». Гісторыкам цяперашняга пакалення даводзіцца больш удумліва працаваць над матэрыяламі і гістарычнымі фактамі 1970-х гадоў.

Сцвярджаю: краху «халоднай вайны» не адбылося. Яна працягвалася. З вуснаў палітыкаў мы чулі словы аб паглыбленні працэсаў разрадкі, наданні ёй незваротнага характару. Гэта рабілася, каб дагадзіць савецкім лідэрам. Амерыканцы настойліва і ўпарта ішлі да перамогі ў «халоднай вайне». Іх імкненне закончылася поўнай перамогай.

Пачатая ў 1930-х гадах інфармацыйная вайна ўзмацняецца. Яе мэта на сучасным этапе найбольш выразна сфармулявана З. Бжэзінскім у кнізе «Вялікая шахматная дошка»: «На працягу бліжэйшых дзесяцігоддзяў можа быць створана рэальна функцыянуючая сістэма глабальнага супрацоўніцтва, пабудаваная з улікам геапалітычнай рэальнасці, якая паступова возьме на сябе ролю рэгента, здольнага несці цяжар адказнасці за стабільнасць і мір ва ўсім свеце. Геастратэгічны поспех у гэтай справе належным чынам узаконіць ролю Амерыкі, як першай, адзінай і апошняй менавіта сусветнай звышдзяржавы».

Для гэтага ЗША і іншыя краіны НАТО не шкадуюць ні сіл, ні сродкаў.

«Халодная вайна», курс на нарошчванне ваеннай магутнасці ЗША служылі ў 70-я — 80-я гады XX стагоддзя асновай захавання высокай долі федэральнага ўрада ў дзяржаўных расходах. Толькі з 1946 да 1977 года памеры ваенных расходаў ЗША выраслі, паводле даных статыстыкі, у 14,4 раза — з 27,5 мільярда да 395 мільярдаў долараў. Асабліва высокімі тэмпамі раслі яны ў 1980-я гады, у перыяд ліквідацыі міфічнай тэхналагічнай і ракетнай «пагрозы» СССР.

Савецкія палітыкі пераконвалі нас у «краху халоднай вайны», а ідэолагі і стратэгі знешняй палітыкі ЗША зноў звярталіся да міфічнага лозунга аб «пагрозе камунізму». У 1982 годзе адміністрацыя Р. Рэйгана прыняла шматмільярдную праграму пераўзбраення Амерыкі (1982—1988 гг.) — гэта гіганцкая сума ў 1,7 трыльёна долараў.

У канцы XX стагоддзя дзве глабальныя сістэмы, якія стварылі ва ўмовах «халоднай вайны» патэнцыял шматразовага знішчэння чалавечай цывілізацыі ў інтарэсах уласнага самазахавання, перанеслі эпіцэнтр узаемнага процістаяння на сусветную перыферыю.

У выніку паражэння адной з супрацьлеглых сістэм у «халоднай вайне» двухполюсная формула сусветнай будовы спыніла існаванне. Вынікамі перамогі ЗША ў «халоднай вайне» з'явіліся тэктанічныя геапалітычныя зрухі, фарміраванне аднапалярнага свету і дэцэнтралізацыя яго ваенна-палітычнага ландшафту, эрозія нацыянальных дзяржаў і ліквідацыя дзяржаўнай манаполіі на насілле. Ужо сёння на першы план вылучаецца фактар недзяржаўных ваенізаваных структур і сістэм, што дазваляе гісторыкам назваць «халодную вайну», якая цяпер вядзецца, «чацвёртай сусветнай вайной». Я супраць таго, што яна пачалася 11 верасня 2001 года, калі першы з самалётаў, захопленых баевікамі арганізацыі «Аль-Кайда», урэзаўся ў паўночную вежу Сусветнага гандлёвага цэнтра ў Нью-Йорку. Яна пачалася раней, калі ЗША стваралі ў Афганістане ўзброеныя атрады талібаў, а затым увялі ў гэту краіну свае войскі для барацьбы з імі. А як назваць амерыканскую агрэсію «Бура ў пустыні» ў Іраку? А як назваць натаўскае нашэсце на чале

з ЗША на Югаславію? А пошук ядзернай зброі зноў жа ў Іраку і фактычная яго акупацыя? Гэта ж не што іншае, як дзяржаўны тэрарызм!

Безумоўна, сёння намнога зніжаны фактар міжнародных узброеных канфліктаў і баявых дзеянняў у іх класічным разуменні, але чалавечая кроў працягвае ліцца ручаямі і рэкамі. ЗША навязваюць сваю дэмакратыю агнём і мячом пад выглядам барацьбы з тэрарызмам. ЗША і некаторыя заходнія дзяржавы падводзяць тэрарызм пад такое яго разуменне, якое адпавядае іх практычным інтарэсам.

Можа, і маюць рацыю тыя, хто называе барацьбу з тэрарызмам «чацвёртай сусветнай вайной». Гэта вайна, якую нельга выйграць. Яе маштабы, геаграфічныя зоны і метады яе вядзення пастаянна змяняюцца. Толькі паўстае пытанне, чаму адны краіны так люта нападаюць на тэрарызм, другія — маўкліва сузіраюць неўзаконеныя пабоішчы, трэція — застаюцца абыякавымі.

Усё ж калі тэрарызм мае ўжо міжнародныя маштабы, то настаў час перагледзець само паняцце «тэрарызм» і выпрацаваць міждзяржаўныя дакументы, якія дазволяць змагацца супраць гэтага глабальнага зла. Нельга дапусціць, каб толькі адна краіна, няхай нават самая дэмакратычная ў свеце, вызначала дзяржавы, адкуль зыходзіць тэрарызм, і змагалася супраць яго не ў міжнародным маштабе, а менавіта з непажаданым урадам. А пакутуе ні ў чым не вінаваты народ.

Яшчэ пакуль не адменена юрыдычнае дзеянне шэрага базавых дакументаў ААН эпохі дэкаланізацыі, якія апраўдваюць партызанскую вайну, а значыць і тэрарызм як яе непазбежную вытворную. Яшчэ выкарыстоўваюцца двайныя, трайныя і шматразовыя стандарты «рэальнай палітыкі». Яшчэ ЗША і некаторыя іх заходнія партнёры ў залежнасці ад кан'юнктуры эксплуатуюць інтэрпрэтацыю «права народаў на самавызначэнне».

Ва ўсіх сваіх акцыях і заявах імперыялістычныя ястрабы не перастаюць гаварыць аб распаўсюджанні іх рэакцыйнай дактрыны аб «укараненні свабоды» на ўсе кантыненты і дзяржавы, аб сваіх намерах сілай падпарадкаваць «вось зла», вострыць нажы на Іран, Паўночную Карэю, не хаваюць намераў прамой агрэсіі супраць Расіі і Беларусі, уварвання ў межы іншых дзяржаў СНД.

А тэрарызм у гэты час распаўзаецца па ўсім свеце. Ідзе не толькі «халодная вайна» ў такім сэнсе, як мы яе разумелі да 1991 года, ідзе чацвёртая сусветная вайна без фронту, тылу і флангаў. Наважуся сказаць, што ўжо сёння лінія фронту вымалёўваецца па лініі размежавання цывілізацый. Ваенізаваныя сістэмы існуюць ва ўсім арабскім свеце. Яны не дзяржаўныя, аднак маюць нацыянальную прыналежнасць, але без дзяржаўнага статусу. Яны бачаць дасягненне рэальных або дэклараваных мэт толькі шляхам прымянення насілля і ваеннай сілы. Зыходзячы з гэтага можна сцвярджаць, што з канца XX стагоддзя ідзе чацвёртая сусветная вайна. І вось чаму.

Першая сусветная вайна (1914—1918 гг.) і Другая сусветная вайна (1939—1945 гг.) праходзілі па ўсіх класічных правілах і канонах.

Першая «халодная вайна» (пачатак 1920-х гадоў — 1991 год) у сваім развіцці прайшла два этапы і закончылася поўнай перамогай ЗША і іх саюзнікаў. Яе таксама можна лічыць сусветнай «халоднай вайной».

У цяперашні час ідзе чацвёртая сусветная вайна з усімі прыкметамі «халоднай вайны», але па маштабах, формах і прыёмах гэта не што іншае, як «гарачая» вайна ў многіх геаграфічных зонах.

***Пераклад з рускай М. Міхайлава.***



Анатоль БАРОЎСКІ

# ДОРЫЦЬ ДОБРЫЦА ДАБРЫНЮ...

- *Юбілейны настрой*
- *Нафтаперапрацоўчы праз прызму навукі*
- *Талент людскога натхнення*
- *Духоўнасць — найперш*
- *Заўвагі на палях*

Некалі даўно, а калі дакладней, то ў тыя ж самыя часы, калі пачынаў будавацца Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод, і я неяк спрычыніўся да яго ўзвядзення. Можа, гэта і задужа гучна — «спрычыніўся», а мо і дакладна, — гэта ўжо з якога боку паглядзець.

Не з кельмай жа працаваў, не канавы капаў ці за рычагамі бульдозера сядзеў, не... Я на той час працаваў у гаркаме партыі, і таму часта пасылала нас начальства, а асабліва першы сакратар, Анатоль Малафееў, на аб'екты будоўлі. І прападалі мы там з ранку да вечара... Мы павінны былі прысутнічаць на партыйных сходах, правяраць, як рашэнні апошніх партыйных з'ездаў ператвараліся ў жыццё, ці зроблена наглядная агітацыя...

Я назапашваў уражанні на будучае, а мой старэйшы таварыш Леанід Прокша, сталы пісьменнік, занатоўваў і занатоўваў нешта ў свой блакнот. На перакурах, у час адпачынкаў, падыходзіў і пытаўся, перапытваў, удакладняў.

А калі вярталіся ў Мазыр разам у адным аўтобусе, таксама не пераставаў цікавіцца ў людзей пра іх клопаты. Прозвішча запіша, потым распытвае, адкуль той прыехаў на будоўлю... Я толькі здзіўляўся яго апантанасці і ўвішнасці. Я ведаў, што ён узяўся за напісанне кнігі пра будоўлю і назву прыдумаў ужо — «За Добрыцай-рэчкай». Добрыца — рачулка, якая ўецца паміж кустоўя і ўзгоркаў, бруіць нястомна ўжо не адно стагоддзе, агінае вялікую будоўлю.

Калі прыехалі ў горад, Леанід Януаравіч папытаўся:

— Мо да мяне ў гасцініцу зазірнеш, пакажу табе першыя нататкі?..

Згадзіўся з радасцю, бо мне, пачынаючаму пісаку, было цікава, як тое ўбачанае відовішча будоўлі пераплаўлялася ў радкі.

Ён паклаў перада мною стосік спісанай паперы:

— Чытай.

З першых радкоў я быў уражаны. Уражаны падыходам да раскрыцця гэтай тэмы, простасцю і вобразнасцю. Чытаючы, я ўжо ўяўляў, што мы зноў знаходзімся паміж рабочых, ходзім сцежкамі будоўлі і наваколля...

*«... Ёсць на Палессі невялічкая рэчка Добрыца. Выцякае яна з крыніц за вёскай Кустаўніца. На другім канцы вёскі крынічная вада Добрыцы ўпадае ў большую рэчку — Нараўлянку, а тая недзе пад Нароўляй — у Прыпяць. Далей, у шырокай рацэ, плыве добрыцкая вада ў слаўны Днепр і праз усю братнюю Украіну, стольны горад Кіеў — у Чорнае мора.*

*Больш паўтысячы гадоў таму назад пасяліліся ў гэтым глухім кутку Палесся тры браты: Міцька, Санька і Косця. З гадамі вакол іх сяліб выраслі вёскі: Міцькі,*

*Санюкі і Кустаўніца. Вякамі цішыню над Добрыцай парушалі стук молата ў кузні, сякеры на зрубе, цапоў на таках, скрып непадмазаных колаў, клёкат буслоў, дуда пастуха на досвітку, а ў святочныя дні гукі бубна, скрыпкі і цымбалаў.*

*У пачатку дваццатага стагоддзя ў гэтыя прывычныя гукі раптам уварваўся рэзкі гук матора. Карэта, у якой сядзеў пан Горват, рухалася па дарозе без каня... Старыя людзі, якім давялося бачыць такое дзіва, з усмешкай успамінаюць цяпер той аўтамабіль. Прайшоў час, і стала не навіной бачыць кустаўняка на сваім аўтамабілі.*

*За Добрыцай пачыналася дарога на Міхалкі, адтуль шлях з прысадамі бяроз паўз вёскі Бібікі, Тварычаўку, Раеўскія, Матрункі, Бабраняты, Бабры вёў у Мазыр — горад, вядомы з дванаццатага стагоддзя. Да рэвалюцыі 1917 года выходзілі на гэты шлях усе, каму цесна і галадна было ў роднай хаце. За вёскамі бедалагі азіраліся на саламяныя стрэхі і вандравалі ў свет, як крынічная вада з Добрыцы, і губляліся ў людскім моры. А потым прыходзілі пісьмы: «Гарую глыбока пад зямлёю...», «Узялі мяне ў служанкі»... і рэдка — «вучуся...»*

*Але самыя вялікія падзеі за ўсё існаванне Кустаўніцы пачаліся з канца шасцідзесятых гадоў. За Добрыцай разгарнулася будаўніцтва завода-гіганта. Палескую глуш парушыў гул бульдозераў, скрэпераў, самазвалаў. Пра вялікую будоўлю загаварылі па радыё, тэлебачанні, у газетах. І стала вядома ўсёй краіне назва палескай вёскі, у якой давялося і мне некалі «жыць і працаваць...»*

*— Бабры.*

*— Бабры? — За драўлянымі хацінамі віднеліся дамы і краны над імі. — Дык гэта мы ўжо за Мазыр выехалі?*

*— Яшчэ не. Цяпер Бабры — горад. У гэтых дамах будуць жыць нафтавікі. А той вялікі гмах — вучылішча геолагаў.*

*Выскачылі на шырокую асфальтаваную дарогу. Па ёй амаль упрытык рухаліся нагружаныя пяском, гравіем, жалезам, бетонам магутныя самазвалы, трактары з прычэпамі.*

*— Гэта дарога на Міхалкі? — не перастаю пытацца.*

*— На Міхалкі. Там жа вузел нафтаправода «Дружба», і там пачынаюцца тры яго лініі: адна ў Венгрыю, другая — у Чэхаславакію, трэцяя — у Польшчу і Германію. А непадалёку, у раёне Рэчыцы і Ельска, ідзе здабыча беларускай нафты. Таму і выбралі гэта месца над Прыпяццю пад будаўніцтва завода.*

*— А тут, — Леанід Уладзіміравіч ківае ўбок шырокага поля, — ля вёскі Раеўскія, знайшлі багатыя залежы спажыўнай солі. Вякамі палешуку не ставала солі.*

*Па гэтай жа дарозе ў ваенныя гады мужыкі ехалі ў горад, каб выменяць соль на сала, муку, бульбу. А яна ляжала побач, у зямлі...*



*«У пачатку трыццатых гадоў я не раз тупаў па гэтай дарозе. Абапал яе шумелі разгалістыя старыя бярозы. Пасярод так званага Кацярынінскага шляху, у сыпучым пяску, ішла каляя, пракладзеная калёсамі. Ідзеш, бывала, стомішся, прысядзеш адпачыць пад бярозай і сумна ўглядваешся, ці не пакажацца якая фурманка. А цяпер вунь гудуць, равуць машыны, аж зямля дрыжыць. Не думаў я, ды і не мог думаць, што такое будзе тут, на Мазырскім Палессі. Сам на ўроку гаварыў вучням, стоячы ля карты (зрэшты, тое, чаму нас вучылі): «Бедны наш край. Няма ў нас ні нафты, ні каменнага вугаю, ні жалезнай руды, ні солі». Аказваецца, ёсць у нас, на Беларусі, нафта! Гэтая звестка ўсхвалявала і гарапашных старых эмігрантаў, якія да рэвалюцыі з беднай Беларусі выехалі шукаць хлеба за акіян...»*

— Цікава напісана, — прызнаюся я. — І з гэтага кароткага тэксту адкрыўваю для сябе не вядомае раней...

Мы гутарылі дапазна, гаварылі пра літаратуру, пра тую ж будоўлю, пра будучае Беларусі. І потым мы сустракаліся не раз з земляком. І як выйшла кніга, і яшчэ пазней. Не раз прысутнічаў творца на нашых літаратурных аб'яднаннях «На хвалях Прыпяці», вучыў слову, даваў парады...

Мае субяседнікі расказваюць пра тое, што на будоўлю прыязджала чатыры разы камісія Дзяржбуда БССР, што Пётр Міронавіч Машэраў прылятаў колькі разоў на верталёце з Васілём Фёдаравым — міністрам нафтавай прамысловасці СССР. Усім запомнілася, як Машэраў, разгарнуўшы на капоце «Волгі» план забудовы НПЗ, казаў будаўнікам: «Сябры мае, такую махіну без навукі не пабудаваць! І працаваць потым абавязкова прыйдзецца, звяраючы свае крокі з навуковатэхнічным прагрэсам...»

З таго часу, ад пачатку будоўлі, праляцела ўжо больш як трыццаць гадоў.

І захацелася мне прайсціся сваімі сцежкамі і сцежкамі першапраходцаў, дарогай пісьменніка Леаніда Прокшы, зрабіць, так бы мовіць, нейкі працяг яго кнігі, працяг з перапынкам у тры дзесяцігоддзі.

Перад тым як паехаць на МНПЗ — Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод, — завітаў да старшыні гарвыканкама Валянціна Васільевіча Барысенкі.

— НПЗ — наш гонар і слава. Дзякуючы яму, наш горад мае такое прыгожае аблічча. Гэта яшчэ і візітная картка нашага Мазыра. Завод з кожным годам набірае сілу. Творчы калектыў не стаіць на месцы. Інтэлектуальная эліта працоўнага калектыву шукае, вынаходзіць і ператварае ў жыццё свае самыя смелыя праекты. І ўсё пастаўлена на навуковую аснову. Але падрабязней няхай вам раскажуць пра ўсё самі людзі...

* * *

З чаго пачынаць?

У душы нарастала нейкае хваляванне. Бо хацеў сустрэцца са сваім юнацтвам, з тымі перажываннямі і клопатамі, якімі я быў тады абцяжараны. А яны былі нялёгкія, ой якія нялёгкія тыя клопаты!

І калі па тэлефоне намеснік дырэктара па персанале і сацыяльным развіцці Аляксей Віхор сказаў, што можам сустрэцца толькі на наступны дзень, абрадаваўся: за гэты час я паспею духоўна настроіцца на сустрэчу з Добрыцай і заводам...

Сёння рухавік усяго — эканоміка. Яна рухае прагрэс і навуку. Таму я і вырашыў свае подступы да галоўнага пачаць з упраўлення эканомікі гарвыканкама, кіраўніком якога з'яўлялася Валянціна Назаранка.

— НПЗ і навука? — перапытвае мяне Валянціна Аляксееўна. — Пытанне крыху неардынарнае, але пастараюся на яго адказаць. Нафтаперапрацоўчы завод — гэта наша жывіца, наша сілкаванне. Бо яго яшчэ можна назваць і горадаўтваральным прадпрыемствам. Багацее завод — набывае новае аблічча Мазыр. Што тычыцца навукі, то я скажу наступнае. З 1994 года праводзіцца шырокама-

штабная рэканструкцыя. Мэта яе — павелічэнне глыбіні перапрацоўкі нафты і выхад светлых нафтапрадуктаў, павышэнне якасці прадукцыі. На сёння завершаны работы па чацвёртым этапе рэканструкцыі — будаўніцтве комплексу каталітычнага крэкінгу... На прадпрыемстве распрацаваны план развіцця на бліжэйшыя гады, які вызначае канцэпцыю далейшай паэтапнай рэканструкцыі тэхналагічнай схемы завода. А мэта — павышэнне якасці прадукцыі да ўзроўню патрабаванняў сусветнага рынку...

— Завод сёння — гэта...

— Аснову завода складаюць два тэхналагічныя комплексы ЛК-6у, у склад якіх уваходзяць установкі, што забяспечваюць перапрацоўку нафты і аўтамабільных бензінаў, рэактыўнага і дызельнага паліва, а таксама атрыманне звадкаваных газаў і кацельнага паліва. Пры працы двух комплексаў ЛК-6У сумарная магутнасць завода дасягнула дзесяці мільёнаў тон нафты ў год...

— Што прынёс для завода мінулы год?

Летась перапрацавана каля дзесяці мільёнаў тон нафты, што амаль на трыццаць працэнтаў больш, чым пазалетась. Павялічаны аб'ёмы ўласнай перапрацоўкі нафты больш чым у паўтара раза. Стабільная праца ўсіх тэхналагічных аб'ектаў завода, увод у эксплуатацыю новых установак дазволілі павялічыць аб'ёмы таварнай прадукцыі амаль на трыццаць два працэнты ў параўнанні з папярэднім годам, пры заданні 17 працэнтаў.

Што яшчэ? Больш васьмідзесяці працэнтаў уласнай прадукцыі рэалізуецца на экспарт. Летась экспарт склаў больш як дзевяцьсот мільёнаў долараў ЗША.

— Валянціна Аляксееўна, вы — мазыранка?

— Не, — усміхаецца субяседніца, — з Кобрына я. У 1985 годзе скончыла Інстытут народнай гаспадаркі. Па размеркаванні прыехала працаваць сюды. Працавала ў гархарчпрамгандлі. Потым — вызвалены камсамольскі сакратар на швейнай фабрыцы. Інструктар гаркама партыі. Ну, а пазней тут стала працаваць — звязала працу з эканомікай. Ці было цяжка? Вельмі. Кожны год планка патрабавальнасці падымалася і падымалася, і нельга было адставаць ад асноўнага рытму жыцця. Трэба было вучыцца. І я скончыла Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. У нас у горадзе дваццаць тры прамысловыя прадпрыемствы. Але найбольшую ўвагу мы, канечне ж, удзяляем нафтаперапрацоўчаму заводу. Бо ўдзельная вага яго ў агульнагарадской вытворчасці складае дзевяноста чатыры працэнты. А ад даходнай часткі гарадскога бюджэту — сорак тры працэнты.

— Чытаць часу хапае?

— Балючае пытанне... Але стараюся. На першым плане эканамічныя газеты і часопісы. Для душы — гістарычныя раманы і аповесці. Люблю вельмі чытаць пра мінулае нашай радзімы...

* * *

А начаваць я пайшоў да даўніх сваіх сяброў — Яўгена і Галіны Дашкевічаў. Галіна Мікалаеўна — паэтка, аўтар некалькіх паэтычных кніжак. Працуе ва універсітэце, кандыдат філалагічных навук. Яўген сваю працоўную дзейнасць звязаў з тэлерэтранслятарам, вежа якога размешчана над будынкам былога педінстытута, — сёння педагагічнага універсітэта.

— Пісаць пра НПЗ будзеш? — перапытала Галіна. — Дык там жа наш сынок працуе — Мікола, начальнікам секцыі 300 комплексу ЛК-6у. Для яго завод стаў родным... Шмат чаго цікавага расказвае пра сваю працу. Скончыў разам са сваім сябрам Яўгенам Віхорам Мазырскі інстытут — інжынерна-педагагічны факультэт.

— Сынам намесніка дырэктара Аляксея Віхора?

— Так. А пачынаў працаваць простым рабочым — машыністам комплексных установак. А потым сябры рашылі набыць канкрэтную спецыяльнасць — разам з іншымі паступілі ў Наваполацкі універсітэт на хіміка-тэхналагічны факультэт...

Не маглі нагаварыцца, успамінаючы пра наша літаб'яднанне, пра паэтаў і пісьменнікаў, якія выйшлі з мазырскай зямлі... Спаць ляглі далёка за поўнач, а ранічкай, на цямочку, я ўжо чакаў каля крамы «Белыя росы» машыну. Вадзіцель Сяргей пад'ехаў у прызначаны час, і мы адразу паімчалі ўбок нафтаперапрацоўчага. Знаёмая дарога, знаёмыя ўказальнікі назваў вёсак — паваротка на Лельчыцы, Каменка, Крынічны, Барбароў... А потым паварочаем леваруч ад дарогі — на Нароўлю, пад Міхалкі...

Яшчэ здалёк відаць тэхналагічныя ўстаноўкі, градзірні, трубы ЦЭЦ... І факел на вільчыку шэрай трубы...

Добры дзень, завод! Не пазнаю цябе. Ты іншы. Ты — сучасны. Ты маеш еўрапейскі выгляд. Адметная кропка на карце Беларусі.

Паралельна дарозе цягнецца жалезка. То трамвайная траса. Па ёй ездзяць нафтаперапрацоўшчыкі на працу і з працы. Завод працуе круглыя суткі. А некалі дзесяткі і сотні аўтобусаў імчаліся на будаўнічую пляцоўку і назад — падвозілі рабочых. Сёння ж трамвай — зручна і цывілізавана. Паўгадзіны ўсяго доўжыцца час язды ад горада да завода.

Падумаў: «Назад абавязкова паеду трамваем... Ніводнага разу не ездзіў. Цікава, напэўна, ехаць сярод бяроз і сосен, праз палі і лугі... У мароз ці ў слату ў трамваі цёпла. А летам пад салаўіны пошчак ехаць дык і зусім асалода... Людзі прывыклі ўжо, лічаць усё натуральным і прывычным. Ці ўяўляў такое Леанід Прокша? Мусіць, не...»

Так проста на тэрыторыю завода не прайсці. На прахадной трэба мець пропуск, і цябе агледзяць: з чым ты прыйшоў туды, з чым выходзіш... Зразумела, аб'ект стратэгічны, і прапускная сістэма жорсткая. Заўсёды, як працаваў у газеце, меў пры сабе пасведчанне, а цяпер узяў толькі «корачкі» сябра Саюза пісьменнікаў. Але ад мяне патрабавалі пашпарт... І вялікія былі праблемы атрымаць пропуск. І тут пастараўся Сяргей, які прывёз мяне, зняў усе бар'еры, якія ўзніклі на маім шляху, правёў за прахадную, завёў у кабінет загадчыцы аддзела па бытавых праблемах Ніны Іванаўны, пазнаёміў, а мне сказаў:

— Ну, а цяпер вы ўжо самі...

А потым шлях прывёў мяне да вядучага інжынера па навукова-тэхнічнай інфармацыі Веры Пятровай, затым да галоўнага энергетыка Уладзіміра Грэнца, намесніка галоўнага інжынера па інфармацыйных тэхналогіях Генадзя Карасёва... Сустрэчы, гутаркі, уражанні...

Праз нейкі час я адчуваў сябе няхай не зусім сваім чалавекам, але і не чужым. Адчуў, што маё сэрца пачало біцца ў такт з рытмам жыцця гэтага магутнага прадпрыемства. У кожным выпадку, мне таго хацелася...

* * *

Расказвае дырэктар Адкрытага акцыянернага таварыства «Нафтаперапрацоўчы завод», лаўрэат конкурсу «Чалавек Справы—2002», Анатоль Аляксандравіч Купрыянаў:

*— Днём нараджэння нашага прадпрыемства мы лічым 30 студзеня 1975 года. Гэта калі на секцыі 100 комплексу ЛК-6у № 1 быў атрыманы першы бензін. Гэтая гістарычная падзея адбылася праз дванаццаць гадоў пасля таго, як у 1963 годзе Савет народнай гаспадаркі СССР зацвердзіў заданне на праектаванне Мазырскага НПЗ (генеральным праектантам прадпрыемства выступіў праектны інстытут «Грозгіпранафтахім»).*



Генеральны дырэктар ОАО «Мазырскі НПЗ» А. А. Купрыянаў.

*Месца пабудовы завода ў Мазыры было невыпадковым, бо паблізу пралягалі нафта-і прадуктаправоды, існавала разгалінаваная сетка чыгуначных і аўтамабільных магістраляў. Да таго ж, у другой палове шасцідзесятых — пачатку сямідзесятых гадоў на тэрыторыі Прыпяцкага прагіну адно за адным пачалі адкрывацца месцанараджэнні свайго, айчыннага, «чорнага золата».*

*Наш завод стаў першым прадпрыемствам новага пакалення, на якім былі пабудаваны і апрабаваны ў эксплуатацыі самыя сучасныя на той момант нафтаперапрацоўчыя комплексы, распрацаваныя аўтарскім калектывам інстытута «Ленгіпранафтахім» — Ленінградскія камбінаваныя ўстаноўкі (ЛК-6у) магутнасцю 6 мільёнаў тон нафты ў год кожная. Асаблівасць іх заключалася ў тым, што некалькі тэхналагічных установак былі пабудаваны ў комплексе, які змог перапрацоўваць нафту па поўным цыкле з выпускам таварнай прадукцыі: высокаактанавага аўтабензіну, гідраачышчальнага дызельнага паліва, рэактыўнага паліва, звадкаванага газу, кацельнага паліва.*

*Як і ўсё новае, гэтая ўстаноўка стала своеасаблівым «вопытным палігонам» для выпрацоўкі тэхнічных рашэнняў, выпраўлення недакладнасцей, закладзеных яшчэ пры праектаванні комплексу. Адным з самых сур'ёзных недахопаў лічылася незбалансаванасць магутнасцяў пярвічных і другасных працэсаў. А сумесная праца аўтараў праекта і заводскіх спецыялістаў дазволіла вырашыць як гэтую праблему, так і сотні іншых. А ў выніку атрымалася, што вытворчасць комплексу павялічылася да васьмі мільёнаў тон нафты ў год.*

*Трэба сказаць, што нашы спецыялісты працавалі з навуковым падыходам да праблемаў прадпрыемства. За вельмі кароткі перыяд (1975—76 гг.) заводскія спецыялісты ўнеслі трыста рацыяналізатарскіх прапаноў па ўдасканальванні работы комплексу. Усе тыя наватарскія і навуковыя ідэі былі сабраны ў «Чырвоную кнігу-300», якая стала унікальным вучэбным дапаможнікам для нафтаперапрацоўшчыкаў Савецкага Саюза. Карысталіся гэтай кнігай і нашы работнікі, калі ўзводзілі комплекс ЛК-6у № 2, які быў уведзены ў эксплуатацыю ў 1978 годзе. З таго часу магутнасць завода склала ўжо 16 млн. т нафты ў год. У 80-х гадах адна за адной былі пабудаваны тры ўстаноўкі «Парэкс» па вытворчасці вадкіх парафінаў, устаноўкі рэгенерацыі сернай кіслаты і «Дэтол» — па вытворчасці бензолу.*

*Аднак жыццё рухаецца па сваіх законах. З цягам часу аказалася, што простая тэхналагічная схема, па якой быў спраектаваны завод, ужо не забяспечвала неабходную для яго прыбытковай эксплуатацыі глыбіню перапрацоўкі нафты. А падзеі 90-х гадоў толькі «падлілі масла ў агонь»: неплацяжы, цэнавая завіруха, рэзкае скарачэнне паставак сыравіны, разбурэнне адпрацаванай сістэмы «вытворца — спажывец», якая выклікала глыбокі эканамічны крызіс, паставілі пад пагрозу само існаванне завода. Ва ўмовах значнага (амаль у чатыры разы) падзення аб'ёмаў перапрацоўкі вуглевадароднай сыравіны востра паўстала пытанне аб неадкладных мерах па павышэнні эфектыўнасці вытворчасці шляхам павелічэння глыбіні перапрацоўкі нафты. Тады і пачалася перпрацоўка варыянтаў маштабнай рэканструкцыі нашага прадпрыемства...*

*Выбар быў зроблены на карысць схемы паэтапнага правядзення рэканструкцыі. Што гэта такое? Кожны з этапаў разглядваўся як асобны валютаакупаемы праект, у выніку рэалізацыі якога павялічваўся выхад светлых нафтапрадуктаў і ствaралася сыравінная база для наступных этапаў. Такая гнуткая схема паслядоўнай і паэтапнай рэканструкцыі абумовіла магчымасць далучэння грашовых сродкаў (у тым ліку і замежных крэдытаў) па частках — пад кожны этап асобна.*

*На сёння завершаны чатыры этапы рэканструкцыі завода. Што гэта дало прадпрыемству? Пабудаваны цэлы шэраг аб'ектаў, якія забяспечваюць павелічэнне глыбіні перапрацоўкі нафты і вытворчасць высокаякаснай канкурэнтаздольнай таварнай прадукцыі. Самым буйным праектам стаў чацвёрты этап рэканструкцыі — будаўніцтва комплексу каталітычнага крэкінгу, у склад якога ўвайшло 13 аб'ектаў. Для ўзвядзення гэтага комплексу патрачана больш як 145 мільёнаў долараў. А сумарны кошт работ па чатырох этапах рэканструкцыі склаў 284 мільёны долараў.*

*Рэзка ўзрос за апошнія гады аб'ём перапрацоўкі нафты ўласнай закупкі. За восем месяцаў мінулага года, напрыклад, каля 42 працэнтаў з перапрацаванай заводам нафты складае менавіта такая. Асноўная частка прадукцыі завода накіроўваецца на экспарт у Венгрыю, Румынію, Польшчу, Чэхію, Славакію, Літву, Латвію, Эстонію, Расію, Малдову, Украіну, Англію, Нідэрланды, Германію. Хачу падкрэсліць, што рынкі далёкага зарубежжа — дамінуючыя.*

*А мы глядзім ужо ў заўтрашні дзень. Без творчага патэнцыялу, без навуковага падыходу нельга рухацца ў будучыню. Гэта ўсе разумеюць. І таму стараюцца не адставаць, а абганяць час... У гэтым закладзены будучы поспех і перамогі на сусветных рынках.*

* * *

Не лётаў на верталёце над тэрыторыяй НПЗ, але тыя, каму тое пашчасціла зрабіць, кажуць, што завод нагадвае гіганцкі касмадром. А ноччу з вышыні ён падобны да вулля з мядовымі сотамі... Можна праводзіць і іншыя паралелі і параўнанні, але, як бы яно ні было, завод уражвае сваёй велічнасцю і адметнасцю.

Успомнім першыя новабудоўлі пасля семнаццатага года мінулага стагоддзя. І ў дакументальных стужках, і ў мастацкіх, што нам паказвалі, абавязкова на першым плане клубы дыму і пары... Мы не маглі, гледзячы на экран, пачуць пахі тых атрутных дымоў, як і не ведалі пра ўплыў, які яны аказвалі на здароўе чалавека.

Тут жа нічога і блізка няма да тых эфектных кіношных эпізодаў. Паветра чыстае, як і ўсюды на Палессі. А непадалёк ад завода блішчаць сажалкі — ачыстныя збудаванні. У іх жыве не толькі рыба, а і ракі.

І дарожкі выкладзеныя брусчаткай, і газоны летам з кветкамі ўсюды. І адышлі ў нябыт гразоцце і калюжыны, бруд і смецце, калі будавалі завод. Адным словам, культурны цэнтр, а не хімічнае прадпрыемства. Прыгожы завод, прыгожыя людзі, апранутыя ў прыгожыя строі. На тварах усмешкі, задаволенасць... І, мусіць жа, гонар за свой завод, на якім яны працуюць.

Мой наступны субяседнік — Генадзь Карасёў. Ён намеснік галоўнага інжынера па пытаннях інфармацыйных тэхналогій.

— Калі гаварыць афіцыйна, то я прадыктую вам сухімі словамі тое, з чаго мы павінны пачаць нашую размову, — прамовіў Генадзь Георгіевіч. — Вось вынятка з майго выступу: «Сучасны рынак патрабуе пастаяннага павышэння якасці кіравання прадпрыемствам, пошуку новых падыходаў да арганізацыі маркецінгу, вытворчасці і збыту прадукцыі і паслуг, а таксама скарачэння часу на прыняцце нейкіх адказных рашэнняў. На сёння лепшым інструментам для назапашвання і апрацоўкі такой інфармацыі, які дазваляе глыбока аналізаваць вынікі дзейнасці

прадпрыемства, а таксама прагназаваць і планаваць яго развіццё, наладзіць улік і кантроль матэрыяльных і фінансавых патокаў, з'яўляецца аўтаматызацыя вытворчых працэсаў, навуковы падыход і камп'ютэрызацыя рабочых месцаў кіраўнічага персаналу. За апошнія тры гады аўтаматызаваны практычна ўсе рабочыя месцы заводакіравання — каля паўтысячы, — і з кожным годам пастаянна ўдасканальваюцца ўзровень і якасць вытворчых бізнес-працэсаў, укараняецца інтэграваная сістэма кіравання прадпрыемствам...»

— Даўно вы на заводзе, Генадзь Георгіевіч?

Субяседнік усміхаецца, адкладвае ўбок паперы, адсоўваецца ад стала:

— Харошае пытанне... Даўно. Амаль з першых дзён яго нараджэння. Па размеркаванні прыехаў я сюды. Выйшла да юбілею кніга пра завод. Дык у гэтай кнізе мой юначы здымак. Пачынаў слесарам КВП — кантрольна-вымяральных прыбораў. Сам я з Волагды, але ўжо даўно стаў беларусам. Жонка працавала эканамістам на дрэваапрацоўчым камбінаце. Двое сыноў маем. У Мінску жывуць — электроншчыкі-камп'ютэршчыкі. А дачка Вольга вучыцца на эканаміста ў БДУ. Працуе і вучыцца.

— Ці заўсёды стабільна ішлі справы на заводзе?

— Канечне ж, не... Калі б мы не задумваліся пра будучае, то даўно былі б банкрутамі. З пабудовай кожнай установкі мы імкнуліся да таго, каб мінус ператварыць у плюс. На кожнай тоне нафты. Замежны рынак дыктуе свае параметры. Важны паказчык нашай працы — глыбіня перапрацоўкі нафты. Гэта працэнт выхаду высокаякаснай прадукцыі з чорнага золата. Вось гэты самы працэнт і з'яўляецца сведчаннем эфектыўнасці працы.

— І які сёння працэнт складае глыбіня перапрацоўкі нафты?

— Шэсцьдзесят восем працэнтаў. Мы лічым, што гэты паказчык неблагі. Бо пяць гадоў таму ён складаў усяго пяцьдзесят восем працэнтаў. А калі ўспамінаць пачатак рэканструкцыі, то ўсяго сорак восем.



— На Захадзе, канечне ж, вышэйшы? Я чытаў у інтэрнэце, што ў Еўропе глыбіня перапрацоўкі складае восемдзесят працэнтаў, а ў Злучаных Штатах Амерыкі — ажно дзевяноста пяць працэнтаў. Ці дагоніце і перагоніце, як некалі імкнуліся за савецкім часам, тую ж Амерыку?

Генадзь Георгіевіч пасур'ёзнеў:

— Пытанне складанае, але вырашальнае. Творчым калектывам завода разам з вучонымі распрацаваны канкрэтны план тэхнічнага абнаўлення завода да 2014 года. Мы ўжо сёння зводзім тры новыя ўстаноўкі. Калі план ажыццявіцца, а мы і не сумняваемся ў гэтым, то здолеем выйсці на параметры амерыканскіх паказчыкаў глыбіні перапрацоўкі нафты. Праўда, на гэта патрабуецца 450 мільёнаў долараў. А аку-

пяцца яны за гадоў чатыры... Мы заўсёды імкнуліся ўкладваць прыбытак у рэканструкцыю завода, і гэта заўсёды давала дадатны эфект. Даб'ёмся яго і пры ажыццяўленні гэтага плана. На Захадзе ў 2008 годзе плануецца ўвядзенне жорсткіх мераў да якасці нафтапрадуктаў — бензіну і дызельнага паліва. А гэта пагражае забаронай для транспарту, што будузе ўжываць паліва са шкоднымі хімічнымі рэчывамі. Плануецца шырокамаштабная акцыя па ачышчэнні навакольнага асяроддзя. Уступіць у свае правы экалагічная палітыка. А калі нафтавыя прадпрыемствы не змогуць выпрацоўваць высокаякаснае паліва, то адразу будуць выцеснены з міжнароднага рынку. І страцяць прыбытак. Тая ж гісторыя з самалётамі. Рынак заваёўваюць «Боінгі», якія найменш атручваюць паветра. Вось пра гэтыя фактары мы і павінны думаць сёння. Не ўпішамся, так бы мовіць, у міжнародныя стандарты, адстанем, то гэта вядома чым пагражае...

— Для любога прадпрыемства, каб яно працавала і развівалася, у першую чаргу неабходна электраэнергія. Ці ёсць тут праблемы?

— Абсалютна з вамі згодзен. Але пра гэта вам раскажа наш галоўны энергетык Уладзімір Эдуардавіч Грэнц.

* * *

Оўруч з Мазыром, акрамя шасейнай дарогі, злучаны і чыгункай. Калі шаша амаль напрамкі выходзіць на горад, то чыгунка перад самым Мазыром рэзка скіроўваецца ўлева — робіць адметную дугу. Рэдка хто задумваўся над гэтай з'явай. Даць такі значны крук — гэта ж і выдаткі, і падоўжаны час працы.

Не маглі тады, на пачатку XX стагоддзя, пры адсутнасці неабходнай тэхнікі, рабочыя пакласці чыгунку напрамкі. Не маглі яны адолець перад сабой перашкоду — Мазырскую граду, на якой знаходзіліся вёскі Скрыгалаў і Барбароў...

Край балот і лясоў, і тут такая з'ява — узвышша, узгоркі. Вядомы вучоны Аркадзь Смоліч у сваёй кнізе «Географія Беларусі» (1919) так апісвае гэтую мясціну (пакідаючы напісанне таго часу):

*«Сярод Палесься, але ўжо на ўсходзе яго ляжыць досіць значны востраў, створаны Мазырскім узвышшом. Гэтае ўзвышшо ляжыць адзінока ў вялізарнай катліне Палесься і, здаецца, ня зьвязана зь іншымі беларускімі ўзвышшамі. Затое магчыма яго сувязь з Валынскімі горамі (Валынскія горы зложаны з крышталёвых скалаў, адносячыхся да Архэйскае эпохі).*

*У кожным разе там, дзе цяпер ляжыць Мазырскае ўзвышшо, відаць, істанаваў нейкі горб яшчэ ў даўнейшыя, перадлядніковыя эпохі, а на яго ўжо налеглі зьверху лядавіковыя пласты.*

*Вышыня ўзвышша каля 100 саж. Зьверху пакрыта яно лёссам. Прарываючыся праз узвышшо, Прыпяць пракапала сабе глыбокую даліну, у якой адкрываюцца старыя (олігоцэнскія глыбокія яры, прарэзуючы ўзвышшо. Сярод гэткіх яроў разбудаваўся Мазыр».*

Мы ведаем, што сажань раўняўся 2,136 метра. А слова *лёс* азначае аднародную, неслаістую, тонказярністую, порыстую, карбанатную пароду — часцей светла-жоўтага, радзей — палевага колеру.

А ў нізіне, ніжэй Прыпяці, і быў абраны ландшафт, спрыяльная мясціна для будаўніцтва Палескага нафтагіганта.

Мазыр сёлета адзначае тры даты.

Адна з іх — галоўная — юбілей горада. Мазыру сёлета 850 гадоў.

Нафтаперапрацоўчаму заводу ў студзені споўнілася трыццаць гадоў.

У 1155 годзе князь Юры Даўгарукі аддаў Мазыр ва ўладаранне чарнігаўскаму князю Святаславу Вольгавічу. Пра гэта сведчаць некалькі радкоў у летапісе. З гэтага сведчання і пачынаецца гісторыя старажытнага дрыгавіцкага горада.

Але гэта з навуковага падыходу. Апошнія археалагічныя даследаванні і раскопкі сведчаць пра тое, што горад можа быць старэй на некалькі соцен гадоў.

Знаўцы выказваюць думку, што недзе на мяжы VIII і IX стагоддзяў тут узнік адзін з племянных цэнтраў дрыгавічоў. І таму напрошваецца лагічны вывад — горад Мазыр з'яўляецца адным са старажытных гарадоў паўднёвай Беларусі. Тураў у летапісах упамінаецца пад 980-м годам, Пінск — 1097, Гомель — 1142, Брагін — 1147...

Сівая гісторыя гэтага унікальнага краю цесна знітавана з сённяшнім днём.

У біяграфію жыцця Мазырскага Палесся ўпісваюцца ўсё новыя і новыя старонкі. Калі археолагі адшуквалі ў зямлі сведчанні даўніны і перыяды адметных падзей, то разведчыкі глыбіняў зямлі адшуквалі прыродныя багацці, чым ганарыцца сёння Палессе. Соль, граніт, нафта, залежы руды... Усяго не пералічыць. Нават алмазы і золата схаваны ў нашай зямлі, толькі да іх мы яшчэ не можам дабрацца. Але прыйдзе час...

Некалі паэт Кастусь Кірэенка пісаў у сваім вершы: «Не завіце маю рэспубліку краем балот і лясоў...» Даўно ўжо не завуць так Беларусь. Сапраўды, балоты і лясы наша неацэннае багацце, але яшчэ шмат чаго схавана ў глыбінях зямлі... Беларусь стала высокатэхналагічнай краінай, з глыбокім навукова-тэхнічным патэнцыялам, са сваімі дасягненнямі, якія выводзяць яе на сусветны ўзровень...

Пакуль што здабываюць соль, граніт, нафту... Пабудаваны прадпрыемствы па іх здабычы і перапрацоўцы. І пра іх ведаюць ва ўсім свеце. Асабліва пра НПЗ.

Пабудаваны па ўсёй рэспубліцы цеплаэлектрацэнтралі, якія даюць цяпло і энергію як прадпрыемствам, так і людзям.

Без электраэнергіі не можа існаваць і Мазырскі нафтаперапрацоўчы...

* * *

— Так, не можа, — згаджаецца Уладзімір Грэнц. — Энергарэсурсы — рухаючая сіла любога прадпрыемства. Без гэтага мы не змаглі б пабудаваць наш завод. У працэсе эксплуатацыі былі пабудаваны тэхналагічныя аб'екты, якія прызначаліся для забеспячэння энергіяй свайго ж прадпрыемства. Размеркавальныя прыстасаванні, падстанцыі напружанасцю ў 110 кВт, 6 кВт, 0,4 кВт... Яны цяпер досыць паспяхова эксплуатуюцца. Персанал завода шмат чаго зрабіў па іх удасканальванні як у рэвізіі абсталявання, рамонту, так і ў павышэнні надзейнасці працы.

За апошні час укаранілі прыстасаванні, так бы мовіць, самазапуску, якія падавалі б энергію ў перыяд спаду ці збою напругі. І шмат чаго іншага мы ўкаранілі ў вытворчасць...

Але навука сёння рухаецца наперад. У апошніх распрацоўках мы пачалі прымяняць рэлейныя тэхналагічныя аб'екты і электратэхнічнае абсталяванне, распрацаванае на мікрапрацэсарнай тэхніцы. Калі раней на размеркавальным прыстасаванні прымяняліся рэлейныя засцярогі, то цяпер яны заснаваны на мікрапрацэсарных элементах. Персанал наш расце, удасканальваецца, «падкоўваецца» навукова і тэхнічна, і таму кожны імкнецца атрымаць адпаведную вышэйшую адукацыю. Калі раней электрык уяўляўся толькі з адкруткай і пасаціжамі, то цяпер персанал працуе выключна з працэсарнымі ноўтбукамі.

Яшчэ адзін элемент. Калі на пачатку будаўніцтва тэхперсанал і электраперсанал вёў рэжым назірання за станам схем электраабсталявання завода, то цяпер па сістэме АРМ — аўтаматызаваныя рабочыя месцы. Яны могуць вывесці на экран любую схему і даведацца пра няспраўнасць ці перабой сілкавання. Усё ідзе праз камп'ютэр. Гэта што тычыцца дзяжурнага персаналу, які працуе кругласутачна.

Спецыялістамі электратэхнічнай лабараторыі кіруе таленавіты знаўца Уладзімір Мінчук.


*Галоўны энергетык завода У. Грэнц.*

— Колькі слоў пра паралельны профіль — выпрацоўку ўласнай электрычнай энергіі. Яшчэ ў 1996 годзе ў нас была пабудавана адна з першых на тэрыторыі СНД вопытна-прамысловая газатурбінная станцыя. Яна прымянялася на базе рухавікоў Мікалаеўскага завода «Машпраект». Гэта дазволіла нам выпрацоўваць уласную электрычную і цеплавую энергію. Спачатку мы яе выкарыстоўвалі на дызельным паліве, а потым для таннасці сабекошту цеплавой электраэнергіі перайшлі на вакуумны газоль. Наша перспектыўная задача — перавесці гэтую станцыю на яшчэ больш эканамічны від паліва — сухі газ катрэцінгу (каталітычны крэцінг). Ён з'яўляецца не таварнай прадукцыяй, і нам выгадна перайсці на яго выкарыстанне, таму што вакуумны газоль перайшоў у разрад таварнай прадукцыі...

Так што без навуковага падыходу і эканамічных ведаў нам не абысціся.

— Скажыце, калі ласка, колькі год вы на нафтаперапрацоўчым?

— Ды, лічы, з 1973 года. А прыехаў разам з жонкай, Надзеяй Мікалаеўнай, з Казахстана. Тады ж была аб'яўлена Усесаюзная ўдарная будоўля. Пачынаў працаваць інжынерам электратэхнічнай лабараторыі. Надзея працавала тут жа — эканамістам. Трыццаць два гады аддаў заводу. Так што юбілей завода — і мой юбілей. Я ўжо даўно беларус. Дачка стала беларускай. І двое яе дзяцей, а мае ўнукі, таксама беларусікі. Была ў мяне магчымасць пераехаць працаваць у Латвію, на Украіну, — прапаноўвалі высокія пасады. Але душа ўжо прыкіпела да гэтага прыгожага краю, і сёння я лічу, перакананы нават, што Беларусь для маёй сям'і і маіх нашчадкаў стала Радзімай з вялікай літары.

* * *

Адзін з галоўных клопатаў прадпрыемства — ахова навакольнага асяроддзя, экалогія. Расказваў мне пра гэта галоўны тэхнолаг Уладзімір Собаль.

Мы гаварылі пра тое, што асноўнае ўздзеянне на навакольнае асяроддзе ў вытворча-гаспадарчай дзейнасці завода аказваюць наступныя фактары — спажыванне прыродных рэсурсаў, выкіды ў атмасферу, выдзяленне брудных рэчываў пры спальванні сумесі адыходзячых газаў на факельнай устаноўцы, адвод ачышчанай сцёкавай вады ў Прыпяць, якая з'яўляецца аб'ектам рыбнай гаспадаркі, забруджванне глебы і грунтовай вады пры ўзнікненні выліву нафтапрадуктаў на таварна-сыравіннай базе і міжцэхавых камунікацыях...

Але, як сцвярджае мой субяседнік Уладзімір Сцяпанавіч, удасканальванне вытворчых працэсаў неразрыўна звязана з укараненнем прыродаахоўных мерапрыемстваў. А яны ўключаюць у сябе: увод у эксплуатацыю новага блока ўстаноўкі па вытворчасці серы і блока адпаркі кіслай вады, што дазволіць знізіць выкіды ў атамасферу дыяксіна серы на 2500 тон у год; рэканструкцыю другой сістэмы нафтавыдалення на ачыстных збудаваннях, што зніжае выкіды вуглевадародаў у атмасферу на 320 тон у год; укараненне сістэмы ультрафіялетавага

абясшкоджвання (УФА) сцёкавых водаў, а гэта выключыла поўнасцю выкарыстанне высокатаксічнага хлору; з мэтай зніжэння спажывання свежай тэхнічнай вады ўведзены ў эксплуатацыю новы блок зваротнага водазабеспячэння магутнасцю 4000 кубічных метраў у гадзіну.

Таму, усведамляючы значэнне па вырашэнні экалагічных праблем на больш якасным узроўні, з мэтай вядзення планамернай працы па зніжэнні нагрузкі на навакольнае асяроддзе ў зоне ўплыву прадпрыемства, кіраўніцтва нафтаперапрацоўчага завода прыняло рашэнне аб стварэнні і ўкараненні сістэмы карыстання прыроднымі рэсурсамі на навуковай аснове, якая б адпавядала патрабаванням міжнародных стандартаў.

У сувязі з гэтым у рамках сістэмы дагляду за навакольным асяроддзем перыядычна здзяйсняецца маніторынг па наступных кірунках — выкіды ў атмасферу, выкід сцёкавых вод у Прыпяць, рэжымныя назіранні за падземнымі водамі, праца з адходамі вытворчасці...

Праводзіцца навукова-даследчая праца па магчымым выкарыстанні адходаў, па зніжэнні забруджвання глебы і падземных водаў, па стварэнні геаінфармацыйнай сістэмы маніторынгу воднага басейна. Здзяйсняецца супрацоўніцтва з кампаніяй SNS-Lavalin (Канада), якая працуе пад эгідай ААН, для распрацоўкі мерапрыемстваў па аздараўленні басейна Дняпра.

— Мы ўсё павінны зрабіць для таго, каб не толькі не забруджваць прыроду, а дапамагчы ёй стаць здаровай і чыстай, прыгожай і лекавай, — сказаў на развітанне Уладзімір Собаль. — Мы яе дзеці, і таму павінны адносіцца да яе ашчадна.

* * *

Намеснік генеральнага дырэктара па персанале і сацыяльным развіцці Аляксей Віхор таксама родам не з Беларусі, але, як і ўсе астатнія, хто з ім пачынаў працаваць на ўзвядзенні і пуску па атрыманні першай прадукцыі, даўно лічыць сябе беларусам.



*Калектыў тэхнічнага аддзела, сярод іх галоўны тэхнолаг У. Собаль.*

Але, так бы мовіць, усё па парадку...

— Кожны час мае свае адметныя рысы, — расказвае Аляксей Міхайлавіч, — але і на пачатку ўзвядзення нафтагіганта і ў першыя дні працы навукова-тэхнічны патэнцыял быў даволі значны. Прадпрыемства мела тады высокі тэхналагічны ўзровень аўтаматызацыі. Як службы галоўнага механіка, так і энергетыка, галоўнага прыбарыста — і ўсе астатнія... Што ні кажы, а гэта было прадпрыемства сучаснае і высокатэхналагічнае. Наш завод не проста шараговае прадпрыемства, а стратэгічнае, якое складае эканамічную бяспеку нашай дзяржавы. А зыходзячы з таго, што навукова-тэхнічны прагрэс набірае сілу на ўсім зямным шары (вылічальная, камп'ютэрная тэхніка), то, канечне ж, і наша прадпрыемства не павінна таптацца на месцы. Для гэтага ўсе службы маюць перспектыўныя планы свайго развіцця і святое правіла — іх прытрымлівацца, ператвараць у жыццё.

...Аляксей Віхор нарадзіўся на Тульшчыне. Зауцкі раён... Шэсць кіламетраў ад яго сядзіба Паленава і Ака. Прыгожая мясціна, як прызнаецца Аляксей Міхайлавіч. Маленькія рэчкі, мясцовасць з узгоркаў і нізінаў. На лыжах катацца — раздолле... Пасля школы паступіў у Тульскі політэхнічны інстытут. Факультэт — сістэмы аўтамататычнага кіравання лятальных апаратаў. Потым — армія... Служыў на Палессі лейтэнантам у ракетнай дывізіі. Закончыў службу акурат у дзень свайго нараджэння — чацвёртага красавіка. А потым сустрэў студэнтку філалагічнага факультэта Мазырскага педінстытута Ніну, якая стала яго жонкай. Яна прыехала з Крыўчы Брагінскага раёна... Скончыла вучобу і працавала выкладчыцай роднай мовы і літаратуры. Праз Ніну Іванаўну і прызвычаіўся да беларускай літаратуры. Прачытаў у арыгінале творы Караткевіча і Быкава, Шамякіна і Мележа... І чым больш паглыбляўся ў беларускую літаратуру, тым больш яна захоплівала яго, зачароўвала... Падабаецца, калі гавораць на ёй літаратары, настаўнікі, якія выкладаюць гэты прадмет, проста вяскоўцы з глыбінкі, але ніяк не можа зразумець, чаму так непрыгожа размаўляюць на ёй дыктары радыё і тэлебачання, — як быццам хочуць адштурхнуць слухачоў ад яе, як быццам даказваюць, што яна непрыгожая і немілагучная... Яны збядняюць мову беларусаў, нават псуюць яе... Такія асабістыя думкі мае на гэты конт муж выкладчыцы беларускай мовы і літаратуры.

— У 1980 годзе нарадзіўся малодшы сын — Аляксей, — працягвае суразмоўца, — так што выходзіць Аляксей Аляксеевіч... Дарэчы, імя Аляксей наша сямейнае. Атрымалася так, што ў майго бацькі быў старэйшы брат — Аляксей. Падчас вайны, у сорак другім годзе, быў маёрам-артылерыстам. На жаль, загінуў пад Сталінградам... А калі нарадзіўся я — у сорак шостым, то бабуля, маці бацькі, сказала, каб назвалі мяне ў гонар яе сына. Нарадзіўся ў Тульскай вобласці, але два гады жылі ў Кіеве. Бацька мой кіяўлянін, а маці — тулячка. Бацькі разам ваявалі, заканчэнне вайны напаткала іх у Бухарэсце.

У Алёшы, малодшага сына, нарадзіўся сын... Паўтара года яму... Сына назваў Яўгенам. А ў мяне сярэдні сын Яўген. Атрымліваецца, што ў мяне сын Яўген Аляксеевіч і ў яго. Мой сын хрысціў яго сына — у Тураве. Акрамя таго, што сын стаў дзядзькам, ён яшчэ і хрышчоны бацька...

— Аляксей Міхайлавіч, азіраючыся назад, у сваю маладосць... Што бачна там, ці правільныя крокі зроблены ў жыцці?

— Што там бачна? Юнацтва бачна. Летуценнасць і рамантыка... Крокі? Правільныя, але кожны з нас хацеў бы нешта перарабіць, перайначыць.... Тады яно нябачна было, а цяпер... Здаецца, усё правільна рабілі, як вучыла партыя, як вучыў камсамол, як патрабавала ідэалогія. Мы імкнуліся да пасад, грызлі граніт навукі, чыталі процьму кніг (класікаў і неабходнай тэхнічнай літаратуры), але не задумваліся над духоўнасцю, над удасканальваннем і ачышчэннем сваёй душы. Так, сёння час навукова-тэхнічнага прагрэсу, перадавой тэхналогіі. Сёння дзеці і ўнукі не маюць часу пасядзець над томікам Пушкіна ці Багдановіча, раманам Талстога ці Дастаеўскага. Думаюць, навошта, калі ўсё экранізавана. Але як мно-

га чалавек страчвае, калі не смакуе «на зуб» і вока напісанае слова, не атрымлівае ад гэтага асалоду... З аднаго боку, тэхнічны прагрэс — гэта неабходнасць, але ж з другога... З пункту гледжання духоўнага развіцця, абагачэння асобы, духоўнага самаўдасканальвання — тут вялікі недахоп. Можа, я і памыляюся недзе, не ведаю... Чалавека фарміруе наваколле і грамадства. Але гэтага, мне здаецца, недастаткова. Чалавек павінен дарасці да ўсведамлення, што пабудаваць і сфарміраваць сябе як асобу духоўна зможа і павінен толькі сам. Калі мае дзеці вянчаліся ў Тураўскай царкве, я бачыў адухоўленыя твары і ў айца Сяргея, і ў маладажонаў, — на мяне сышло незвычайнае пачуццё, якое цяжка перадаць словамі... І тады я задумаўся над шмат якімі рэчамі... Свет павярнуўся да мяне зусім іншым бокам, светлым і чароўным. Ёсць высокая і неабходная патрэба — навука і прагрэс, але я зразумеў, што ёсць духоўныя рэчы, якія стаяць вышэй за ўсё, якія нават недасягальныя для чалавечага розуму.

* * *

За акном мільгацяць свечкі бяроз, прыцярушаныя галіны сосен. Белізна б'е ў вочы, аж слепіць.

З рознымі пачуццямі я вяртаўся дадому. І хочацца зрабіць такія-сякія запісы.

Калі хадзіў па заводзе, размаўляў з людзьмі, то чуў сваю родную, мазырскапаляшуцкую гаворку. Але калі хадзіў па калідорах заводакіравання, то не ўбачыў ніводнай шыльдачкі ці слова па-беларуску. Выпусцілі кнігу аб працоўным шляху свайго прадпрыемства. Ухвальна. Але — найперш — па-расейску, потым на ангельскай мове, а на роднай і месца не знайшлося... Так, нафтаперапрацоўшчыкі выконваюць законы эканомікі і сусветных стандартаў, але чамусьці абыходзяць бокам Закон аб мове.

Ды ў той жа юбілейнай кніжцы не ўпамянулі нават пра першую кнігу слыннага пісьменніка Леаніда Прокшы. Але ж тады самую цяжкую работу па закладцы фундамента рабілі палешукі, і пра іх пісаў пісьменнік. Балюча трошкі за такія адносіны... Даруй ужо, Леанід Януаравіч, ім такую прыкрасць...

... А вунь ужо і Мазыр.

Мы ныраем то ўніз, то падымаемся наверх, на ўзгорак, і перад намі адкрываецца белая панарама прымазырскіх палёў...

Ззаду, на сядзенні, сядзяць муж з жонкаю. Размаўляюць паміж сабой...

— То ж радасць якая ў нас, Пятро, унучка нарадзілася, дзякаваць Богу, — гаворыць жанчына з Кустаўніцы. — Як жа, цікава, назавуць яе, маленькую мазыраначку?

— Якое імя да спадобы, такім і назавуць, — адказвае гаспадар...

Я ж грэюся іх цяплом, іх гаворкай, іх душэўным настроем... І ён перадаецца мне, і ўжо цяплее на сэрцы, і я прымружваю вочы, калываючыся ў такт дарожнага руху... І ці не голасам Леаніда Прокшы прамаўляецца замова:

— Хай добрыцца вам, людзі! Хай шчасціцца і госціцца, і душа вяселіцца, і радасць спеліцца!..

...А недзе ззаду засталася рэчка Добрыца. Мусіць, спіць пад тонкім ільдом, прыходу вясны чакае, каб зноўку зажурчэць вясёлым і спеўным раўчаком.

Чакаць вясну — заўсёды прыемна.



**Ева ЛЯВОНАВА**

# «НЕ АДЗІНОКІ ВОСТРАЎ...»

## *Васіль Быкаў і сусветная літаратура*

Леў Талстой у лісце да М. М. Страхава ад 1876 г., маючы на ўвазе непадзельную злітнасць усіх элементаў мастацкага твора, пісаў, што «кожная думка, выказаная словамі асобна, страчвае свой сэнс, страшэнна паніжаецца, калі бярэцца адна з таго счаплення, у якім яна знаходзіцца», выключаецца «з бясконцага лабірынта счапленняў, у якім і месціцца сутнасць мастацтва». Але тое ж самае адбываецца, паводле майго глыбокага перакanання, калі з мастацкай цэласнасці твора вылучаюцца толькі нацыянальныя аспекты і выключаецца іншанацыянальная прысутнасць, агульначалавечая праблематыка; непазбежны вынік гэткага падыходу — аднабаковасць успрымання і разумення твора, у прынцыпе несумяшчальная з ідэяй шматмернасці сапраўднай эстэтычнай з'явы. У той жа час аналіз інтэркантэкстуальнага дыскурсу твора не толькі спрыяе раскрыццю яго шматмернасці, але і не дазваляе занізіць планку яго мастацкасці, дапусціць у адносінах да яго ацэначную адвольнасць.

Неабходнасць спасціжэння беларускай літаратуры ў кантэксце сусветнай уяўляецца надзвычай актуальнай. Прычым менавіта сусветнай, з заходнееўрапейскімі, амерыканскімі, усходнімі літаратурамі ўключна, бо беларуска-славянскія літаратурныя і культурныя ўзаемасувязі ўсё ж неаднойчы станавіліся аб'ектам навуковых даследаванняў (хаця і падпадаючы ў розны час і ў рознай ступені пад пэўныя каноны і нярэдка звужаючыся да сацыяльна-зместавых параметраў). Паўтаруся: шматстайныя праблемы бытавання і развіцця беларускай літаратуры ў святле замежнага мастацкага досведу — з ліку самых надзённых для сённяшняй айчыннай навукі.

Творчасць Васіля Быкава ў гэтым сэнсе — не толькі не выключэнне, але і надзвычай багатая глеба, і зварот апошнім часам беларускіх літаратуразнаўцаў да ўзаемадачыненняў пісьменніка з сусветнай літаратурай цалкам заканамерны. Найчасцей пры гэтым аналізуюцца яго этыка-эстэтычныя сыходжанні і разыходжанні з замежнай літаратурай пра Другую сусветную вайну, а таксама стасункі з французскім экзістэнцыялізмам у асобах Альбэра Камю і асабліва Жана Поля Сартра; даводзілася пісаць пра гэта і мне ў шэрагу артыкулаў і кнізе «Агульнае і адметнае: Творы беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя ў кантэксце сусветнай літаратуры» (Мн., 2003). Безумоўна, гэта вельмі істотны і ўдзячны складнік творчасці В. Быкава, аднак ён не вычэрпвае ўсёй палітры тыпалагічных і кантактна-генетычных сувязяў нашага славутага празаіка з літаратурным замежжам.

---

***Лявонава Ева Аляксандраўна*** *нарадзілася 4 верасня 1953 года ў Крычаўскім раёне. Скончыла БДУ. Абараніла кандыдацкую дысертацыю ў АН СССР (1985). Дацэнт кафедры замежнай літаратуры БДУ. Выдала кніжкі «Плыні і постаці», «Беларуская літаратура XX стагоддзя і еўрапейскі літаратурны вопыт», «Агульнае і адметнае», аўтар шматлікіх падручнікаў і артыкулаў у перыядычным друку.*

Зрэшты, удумлівыя даследчыкі і раней, няхай фрагментарна, звярталі ўвагу на супольнасць тэм і матываў у В. Быкава і іншанацыянальных аўтараў. Перадусім трэба аддаць належнае Алесю Адамовічу; сапраўдны эрудыт, які вольна пачуваўся ў сусветнай літаратурнай прасторы, ён не толькі ў працы над уласнымі творамі, але і ў прачытанні чужых, у тым ліку быкаўскіх, смела сягаў у яе прастору, звяртаўся да класічнага і сучаснага «чужога слова» (М. М. Бахцін).

На карысць пільнай увагі В. Быкава да замежнага — блізкага і далёкага — мастацкага вопыту сведчыць і апошняя прыжыццёвая кніга пісьменніка «Доўгая дарога дадому» (2002). У поле зроку аўтара патрапілі прадстаўнікі самых розных нацыянальных літаратур — расійскай (А. Чэхаў і І. Бунін, Л. Талстой і Ф. Дастаеўскі, А. Ананьеў і В. Астаф'еў, В. Някрасаў і В. Аксёнаў, Я. Еўтушэнка і К. Сіманаў, Р. Бакланаў і Ю. Бондараў, В. Ерафееў і А. Сафронаў, А. Твардоўскі і А. Салжаніцын, У. Багамолаў і іншыя), французскай (Ж. Верн, А. Камю, Ж. П. Сартр, Н. Сарот, А. Роб-Грые), польскай (Я. Парандоўскі, В. Варашыльскі, Я. Івашкевіч, Е. Путрамент), балгарскай (Н. Вылчаў), іспанскай (М. дэ Сервантэс), англійскай (Т. Карлейль) і інш. І не толькі пісьменнікі, але і майстры кінематографа, жывапісцы, кампазітары, філосафы (Л. Бунюэль, Ч. Чаплін, К. Малевіч, П. Пікасо, А. Шнітке, М. Бярдзяеў, К. Г. Юнг, Р. Пайпс, Ф. Фукаяма, А. Швейцар…). Ужо пералік гэтых імёнаў (а яго можна доўжыць, што ніжэй і будзе мною зроблена) паказвае: пісьменніка цікавілі і рэалісты, і авангардысты, і экзістэнцыялісты.

Дастаткова складаным, я б сказала — дваістым, было стаўленне В. Быкава да рэалістычнага мастацтва. З аднаго боку, прыналежнасць да рэалізму самога празаіка, і перавага, якую ён аддаваў рэалістычнаму метаду, відавочныя і неаспрэчныя. У свой час, адказваючы на анкету А. Адамовіча аб месцы беларускай літаратуры сярод іншых нацыянальных літаратур, В. Быкаў гаварыў: «Мне думаецца, што ёсць два шляхі: або аналітыка, максімальнае паглыбленне ў сацыяльнасць, непрадузяты рэалізм жыцця, або псеўдарамантыка, псеўдарэалізм, стылёвыя пошукі, ілюстрацыйнасць». Мусіць, залішне ўдакладняць, які з гэтых шляхоў пісьменнік лічыў сваім.

Але, з другога боку, літаральна ў роспач прыводзіў В. Быкава сацыялістычны рэалізм з яго нарматыўнасцю і аднафарбнасцю, у выніку якіх асноваўтваральныя патрабаванні рэалізму — аналітызм, гістарычная канкрэтыка, праўдападабенства — часта абярталіся якраз адмаўленнем ад праўды. Сваё негатыўнае стаўленне да практыкі сацыялістычнага рэалізму ён патлумачыў, у прыватнасці, на прыкладзе ўласнай шматпакутнай аповесці «Мёртвым не баліць», за якую яму дасталося не толькі ад літаратурных крытыкаў, але і ад некаторых палкаводцаў, што лічылі: Кіравакградская аперацыя была здзейснена нашай арміяй вельмі паспяхова. «Можа быць, з гледзішча Крамля так яно і было, — напіша В. Быкаў у кнізе «Доўгая дарога дадому». — Але было іншае гледзішча — салдата з заснежанага поля, залітага крывёй і здратаванага гусеніцамі танкаў, на якім быў амаль цалкам разгромлены наш полк». Паводле аўтара, «Мёртвым не баліць» — «ці не адзіная аўтабіяграфічная аповесць, дзе ўсё ці амаль усё — праўда. Але менавіта тое, што праўда, і стала непрымальным для сацрэалізму. Можна сказаць, што галоўным ворагам гэтага славутага метаду была праўда».

З іншага боку, прыналежнасць да рэалізму не перашкаджала В. Быкаву (і гэта паказальна для яго мастакоўскай пазіцыі) па вартасці ацэньваць эстэтычныя пошукі авангардыстаў, іх дзёрзкія жанрава-кампазіцыйныя і стылёвыя эксперыменты, абумоўленыя жаданнем абнавіць — у адпаведнасці з рэаліямі новага часу і пэўнымі канцэптуальнымі меркаваннямі — літаратурную мову, увасобіць непаўторна-індывідуальнае бачанне свету і чалавека ў ім. Прычым ацэньваць тады, калі лаяльнае стаўленне да мастацкага іншамыслення яшчэ не было, умоўна кажучы, легалізавана ў савецкай навуцы, і большасць пісьменнікаў і крытыкаў асцерагаліся публічна дэманстраваць нават звычайную цікавасць да заходняй літаратуры.



В. Быкаў жа не толькі аддаваў ёй даніну, але і адкрыта выказваў заклапочанасць «недастатковай эстэтычнай сталасцю» беларускага прыгожага пісьменства, абумоўленай не ў малой ступені і тым, што яно не засвойвае філасофска-мастацкія адкрыцці замежных творцаў. А. Адамовіч у сваёй працы «На бестэрміновай перадавой», падрыхтаванай яшчэ ў 1970—1971/1972 гг., цытуе, напрыклад, наступнае выказванне В. Быкава: «Беларуская літаратура — не адзінокі востраў у акіяне мастацтва, — яна ў рэчышчы многіх іншых літаратур, дзе займае сваё нейкае месца. Месца гэтае, думаецца, не заўсёды пастаяннае. Мусіць, найлепш гэта можна параўнаць з ракой, дзе струменяць розныя плыні — адны ля стрыжня, другія ля берага, іншыя круцяць сюды-туды ці зусім знікаюць, іншыя магутна імчаць па сярэдзіне ракі. Мне думаецца, што наша літаратура мае ўсе магчымасці ў гэтым рэчышчы дабрацца да самага стрыжня або апынуцца недзе паблізу ад яго, для чаго нам спрыяюць нашы адносна багатыя, мала распрацаваныя сацыяльныя пласты жыцця, амаль не кранутая тэма горада, мноства сацыяльна-палітычна-нацыянальных праблем, пэўныя магчымасці маладога стылю, які развіваецца і яшчэ не склаўся канчаткова. Праўда, усё гэта можа абярнуцца і сваёй адмоўнасцю, бо ў нас яшчэ малавата літаратурных традыцый, недастаткова эстэтычная сталасць. Гэта апошняе пэўным чынам стрымлівае літаратурнае развіццё, асабліва што датычыць такіх... напрамкаў, як псіхааналіз, экзістэнцыялізм. Мне думаецца, што, як і кожная маладая літаратура, беларуская мае багатыя магчымасці, але як яны будуць рэалізаваны, залежыць не толькі ад яе».

З цягам часу разуменне неабходнасці для беларускай літаратуры ўрокаў сусветнага мастацтва, якіх не цураліся і не цураюцца ўсе іншыя нацыянальныя літаратуры, не толькі не знікае, але і ўзмацняецца, усё настойлівей гучыць у шматлікіх артыкулах і інтэрв'ю. «Вядома, — гаварыў В. Быкаў у адным з інтэрв'ю, — мастацтва нараджаецца з пэўных праяваў жыцця (найбольш рэалістычнае мастацтва), але таксама і з унутраных, душэўных імпульсаў, сігналаў аўтарскай падсвядомасці. Суадносіны таго і іншага ў кожным творы кожнага аўтара дужа няпэўныя. Бываюць творы, нібы само жыццё, «спыненае імгненне»; бываюць створаныя выключна з ірацыянальных элементаў, дзе ад рэальнасці, бадай, нічога няма. Мабыць, каштоўнасць тых ды іншых вызначаецца ўсё ж не так спосабам адлюстравання, як характарам творцы, сутнасцю яго часам выразнага, а часам загадкавага таленту» (Ю. Залоска. «Дыялогі з Васілём Быкавым». Мн., 1995).

Нямала такіх разважанняў месціць у сабе і мемуары В. Быкава «Доўгая дарога дадому». «Даўно вядома, — зазначае ён, — што складнікі культуры — жыццё і сама культура. Адно без другога мала што значаць і ў літаратуры... Але, як пасля зразумеў, культура — рэч бязмерная. Колькі яе ў каго ні ёсць, наўрад ці можна сказаць, што хапае. Культура — мора, бязмежны акіян, назапашаны чалавецтвам праз тысячагоддзі. Зрэшты, як і жыццё таксама. Мабыць, нікому немагчыма тое ды іншае ахапіць у поўным аб'ёме». «Але, — з горыччу прамаўляе

пісьменнік, — для нашага чалавека мала клопату было да сусветнай культуры — яму абы дапяцца да культуры савецкай. Нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па змесце». В. Быкаў узгадвае размову з А. Адамовічам, што датычылася суадносінаў жыццёвага вопыту і культуры; паводле абодвух, для мастацтва патрэбна ўсё, «але што напачатку?» В. Быкаў канстатуе, што «тое ды іншае разам рэдка здараюцца ў жыцці, штосьці ідзе наперадзе. Прынамсі ў нашых літаратурах…» Дарэчы, падобныя разважанні пісьменніка ўяўляюць цікавасць і для тэарэтыкаў літаратуры; яны, да прыкладу, гучаць ва унісон з высновамі вядомых французскіх кампаратывістаў: «…любы твор ёсць вынікам чалавечай дзейнасці, спараджэннем псіхікі чалавека, ягонага духоўнага развіцця, кола прачытаных твораў — усяго таго, што складае пажытак для творчага ўяўлення чалавечага розуму» (П. Брунэль, К. Пішуа, А.-М. Русо. «Што такое параўнальнае літаратуразнаўства?» Мн., 1996).

Для В. Быкава не падлягае сумневу заканамернасць змен у «культурнай парадыгме», якія б адпавядалі не толькі сацыяльна-гістарычным, але і асобасным, псіхалагічным навацыям. «Век індывідуалізму, дарэшты расквітнеўшы, уступае месца вынайдзенаму Юнгам феномену бессвядомага калектыўнага. Калісь то быў феномен, цяпер — агульнаўпадабаны працэс, што ахапіў краіны і кантыненты. Мабыць, культура, як і жыццё, у сваіх выявах зменлівая, шматаблічная і бясконцая».

В. Быкаў успамінае, як «уважліва і з некаторым здзіўленнем» слухалі ён і іншыя савецкія пісьменнікі выступленні замежных майстроў культуры і літаратуры ў Рыме на кангрэсе КОМЭСА, еўрапейскай пісьменніцкай арганізацыі, «пра літаратурны авангард, вядома ж, заходні, — у нас тады свайго яшчэ не было»; Сартр, Антаніёні, Вігарэлі «гаварылі зусім не так і не пра тое, што мы прывыклі чуць на радзіме». Узгадвае, як горача рэагавалі «заходнія маэстра», славутыя французскія неараманісты Ален Роб-Грые і Наталі Сарот, на прамову расійскага літаратуразнаўцы Віктара Шклоўскага, ці не адзінага з членаў савецкай дэлегацыі прыхільніка авангардызму.

Кола ўзаемадачыненняў пісьменніка з сусветнай літаратурай, як вышэй ужо адзначалася, такое шырокае, што больш падрабязна я спынюся толькі на некалькіх яго, так бы мовіць, дыскурсах — «нямецкім» і «амерыканскім». Апроч таго, звярнуся да біблейскай канстанты ў быкаўскай мастацкай сістэме.

Добра вядома, якую ролю адыграла Германія ў лёсе В. Быкава на схіле яго жыцця. Зрэшты, дастаткова цеснымі былі сувязі мастака з абедзвюма нямецкімі дзяржавамі яшчэ да іх ўз'яднання. Толькі ў ГДР у перакладзе на нямецкую мову пабачыла свет паўтара дзясятка яго кніг, ненамнога меней — у ФРГ; дарэчы, першым творам В. Быкава, апублікаваным на нямецкай мове (у заходнеберлінскім выдавецтве «Propileen»), была, па сведчанні аўтара, аповесць «Мёртвым не баліць». Нарэшце, што да ўласна зместу твораў, падзеі ў іх, кажучы словамі А. Адамовіча, «коцяцца па прасцягах еўрапейскага мацерыка — ад Беларусі і Украіны да Венгрыі, Германіі, Альпаў…»

У адной толькі «Доўгай дарозе дадому» гучаць імёны Ё. В. Гётэ і Ф. Ніцшэ, Б. Брэхта і Э. М. Рэмарка, Г. Бёля і Г. Граса, К. Хойбнера і іншых нямецкіх творцаў. Да прыкладу, В. Быкаў узгадвае абставіны свайго знаёмства са славутай працай Ніцшэ «Так сказаў Заратустра»: ён прачытаў яе ў час вайны, знайшоўшы ў занятай савецкім войскам пад камендатуру хаце псаломшчыка ў абязлюдзелай прыфрантавой малдаўскай вёсцы. Праца нямецкага філосафа скрозь, як вядома, насычана алюзіямі на трагедыю Гётэ «Фаўст»; але ж асацыяцыі з ёю спараджае і творчасць самога В. Быкава, бо многія яго героі — прадстаўнікі фаўстыянскага тыпу «шукальніка», гэта асобы, што мусяць здзяйсняць вызначальны для сябе выбар, і найчасцей паміж жыццём і смерцю — на карысць апошняй як адзінай магчымасці да апошняга ўздыху заставацца чалавекам.

Але, падобна, Гётэ і сам па сабе, а не толькі і не столькі праз пасрэдніцтва Ніцшэ (хаця і гэта не выключана), вельмі займаў беларускага пісьменніка.

У «Доўгай дарозе дадому» неаднойчы з той або іншай нагоды прыводзяцца трапныя словы і думкі геніяльнага нямецкага творцы (напрыклад: «Паміж двума поглядамі — не ісціна, а праблема»). Калі, зноў жа, выйсці за межы мемуараў і звярнуцца непасрэдна да мастацкіх твораў, то і ў іх знойдзем гётэўскія матывы і нават сустрэнем імя Гётэ. Так, вуснамі аднаго з персанажаў «Трэцяй ракеты» В. Быкаў прамаўляе: « Я ўсё думаў: усё ж яны, немцы, не якія азіяты, яны далі чалавецтву Баха, Гётэ, Шылера, Энгельса. Аказалася, увесь іхні сэнс — Гітлер. Вось што можа зрабіць адзін чалавек з нацыяй, якая даверыцца яму. Хаця не ўсе аднолькавыя. Некаторыя думаюць па-свойму. Напэўна, кожны чалавек — ад прыроды чалавек. Жыццё робіць з яго генія або злыдня. Немцы прадалі Гітлеру свае душы, і ён зрабіў іх злыднямі. Гэта страшна — прадаць аднаму ўсе душы. Апрача ўсяго іншага, гэты адзін стане вампірам. Ён захоча акіяна крыві…» Гэты фрагмент быкаўскай аповесці адсылае, відавочна, да аднаго з галоўных матываў «Фаўста» Гётэ — дамовы з д'яблам, матыву, што бярэ пачатак у нямецкай народнай кнізе XVI ст., а пазней увасобіцца ў творах Ф. Дастаеўскага, Г. Гесэ, Т. Мана, У. Фолкнера і многіх іншых.

Інтэрпрэтацыя «вечных», «вандроўных» вобразаў і матываў — толькі адзін, але надзвычай важны аспект рэцэпцыі В. Быкавым сусветнага эстэтычнага вопыту, пераканаўчы доказ таго, што, як пісаў вядомы расійскі кампаратывіст С. Тураеў, «у мастацкім развіцці чалавецтва выразна выяўляюцца пэўныя сувязі, рэальныя прыкметы перазоваў часоў і народаў». І ў гэтыя перазовы арганічна ўплятаецца голас беларускага пісьменніка.

Цытуе В. Быкаў вядомае выслоўе заснавальніка «эпічнага тэатра» Б. Брэхта: «Сапраўды, няшчасная краіна, якая мае патрэбу ў героях…» З гэтым нямецкім пісьменнікам, як і з шэрагам іншых, яго лучыць найперш прытчавасць твораў — рыса, якую акцэнтавалі многія даследчыкі прозы В. Быкава. Менавіта быкаўскія аповесці сталіся ў свой час нагодай для тэарэтычных разваг А. Адамовіча наконт «прытчападобнага» рэалізму і адрознага ад яго рэалізму «простага», «непрытчападобнага», наконт «прытчападобнасці» як вельмі істотнай «дадатковай афарбоўкі, жанравай і стылёвай, у сучаснай сусветнай прозе і драматургіі». «Прытчападобнасць» у рэалістычнай літаратуры, — піша ён у кнізе «Здалёк і зблізку», — праяўляецца па-рознаму, але яе традыцыйная асаблівасць — гэта завостранасць маральных высноў, падштурхоўванне да абсалютных высноў і ацэнак, шматзначнасць сітуацый і вобразаў. Аднак побач з прывычнай і традыцыйнай прытчай — з агаленасцю думкі і маралі, са «здыманнем дэкарацый», умоўнасцю характараў і палажэнняў ёсць і больш сучасная яе разнавіднасць: гэта таксама «прытча» (па агаленасці думкі і завостранасці «маралі»), але з крайне рэалістычнымі акалічнасцямі і з усім магчымым багаццем «дыялектыкі душы». Якраз А. Адамовіч ва ўжо ўзгаданай працы «На бестэрміновай перадавой» паставіў імя В. Быкава поруч з імёнамі Б. Брэхта і яшчэ аднаго славутага немца, аўтара пабудаванай на біблейскім матэрыяле тэтралогіі «Іосіф і яго браты» Томаса Мана, адзначанай найвышэйшай ступенню прытчавасці: «…Томас Ман апранае кароценькую біблейскую прытчу ў рэаліі старадаўняга быту, гісторыі, псіхалогіі — такія найпадрабязныя і «перажытыя», — што пачынаеш нібы верыць у цуд уваскрошання даўно памерлых, пра які трызняць адны фантасты. Двухтомнае футра сучаснага рэалізму на высахлым цельцы муміі-прытчы надало ёй надзіва рэальнае жыццё і «сучаснае»: старажытнасць шырока і маляўніча нахлынула на нас...»

Асобнага аналізу заслугоўваюць этыка-эстэтычныя аналогіі паміж творамі В. Быкава і Э. М. Рэмарка, прычым раманамі апошняга не так пра Другую, як пра Першую сусветную вайну, увесь катастрафізм якой яму ўдалося паказаць найглыбейшым чынам — мусіць, дзякуючы і трагічнаму досведу асабістага ўдзелу ў той сусветнай разні. В. Быкаў успамінае, што Рэмарк быў ці не першым з тых «славутых заходніх аўтараў, да таго ў нас невядомых», якіх пачалі выдаваць з часоў хрушчоўскай адлігі. Рэмарк «адразу знайшоў немалую папулярнасць сярод



*Васіль Быкаў з Алесем Адамовічам.*

чытацкай моладзі. (Парыж, жанчыны, кальвадос. Але і «На Заходнім фронце без пераменаў».) Калі французскіх жанчын і свабоднае каханне ўлады неяк трывалі, дык «Заходняга фронту без пераменаў» стрываць не маглі». Заўважу, што Рэмарк і раней быў вядомы савецкаму чытачу, у тым ліку беларускаму; у 1931 г. у перакладзе на беларускую мову Хведара Шынклера выйшаў раман «На Заходнім фронце без перамен» (дастаткова аператыўна, бо ў самой Германіі раман быў выдадзены ў 1929 г.), але пераклад быў зроблены з рускай, а не з мовы арыгінала, меў адпаведныя купюры і суправаджаўся прадмовай сумна вядомага Карла Радэка. Іншая справа, што вельмі хутка твор з яго антымілітарысцкім зместам, своеасаблівы мастацкі маніфест «страчанага пакалення», на радзіме Рэмарка забаранілі, нацысты спалілі раман на першым жа вогнішчы з кніг, а аўтара абвясцілі «паражэнцам» і «здраднікам». На доўгі час Рэмарк быў выключаны з чытацкай сферы і ў Савецкім Саюзе; у 60-я ж гады яго хоць і пачалі выдаваць, але таго ж «Заходняга фронту» «трываць не маглі» з-за жорсткай праўды аб вайне, якая заўсёды ёсць болем і пакутамі, брудам і смерцю. «Трываць не маглі» рэмаркаўскага «акопнага гледзішча», якое — кіруючыся не Рэмаркам, а рэаліямі франтавога вопыту — падзялялі і Р. Бакланаў, і В. Някрасаў, і В. Быкаў.

У «Доўгай дарозе дадому» пісьменнік распавёў, як «аператыўна было пушчана ў абарот зняважлівае ў нас азначэнне р э м а р к і з м (разрадка аўтара. — **Е. Л.**), які, бы бірку быку на рогі, вешалі на таго ці іншага аўтара. Першым такой «пашанай» быў ганараваны Булат Акуджава з яго невялічкай, але ёмістай аповесцю «Будзь здароў, шкаляр»... То была добрая аповесць». Але ж, як вядома, і сам В. Быкаў не пазбегнуў абвінавачванняў у «рэмаркізме», у адсутнасці «гістарычнага, пераможнага пафасу» ў «Сотнікаве» ды іншых творах, у якіх пільныя крытыкі знаходзілі праяўленні «рэмаркізму» ў яго разбуральным дзеянні.

Аб'ектыўна погляды на вайну Э. М. Рэмарка і В. Быкава сапраўды блізкія. Абодвух ваенная тэма цікавіла найперш маральным аспектам. «Мяне ж прыцяг-

вала менавіта мараль», — заўважае В. Быкаў у «Доўгай дарозе дадому». Гэта датычылася самых розных праблем — і трагічнага лёсу дзіцяці, імкненню якога ў што б то ні стала загінуць у барацьбе з фашыстамі часам усяляк садзейнічалі дарослыя «дабрадзеі»; і гераізму — уяўнага і сапраўднага; і прыроды подзвігу, з усіх разнавіднасцяў якога В. Быкаў, па яго ўласным вызначэнні, аддаваў перавагу «подзвігам духу»; і ворага — не толькі і не столькі знешняга, «нямецкага фашыста, але і кагось… мала за немца лепшага», якім быў не толькі здраднік або дэзерцір, але і «перастрахоўшчык, кар'ерыст, эгаіст»; і вайны, і партызанскага руху, у якіх пісьменніку таксама бачылася «не менш цікавага…найперш сваёй маральнай праблематыкай».

Нямала агульнага і ў сюжэтнай атрыбутыцы твораў нямецкага і беларускага пісьменнікаў, і ў непрыяздобленым, непрыхарошаным бачанні вайны. Нездарма ў сувязі з прозай В. Быкава А. Адамовіч прыгадваў «Чорны абеліск» Э. М. Рэмарка, дзе ёсць разважанні аб тым, як па-рознаму «памятае франтавік вайну — адразу пасля яе сканчэння і праз шмат гадоў. Спачатку ён адварочваецца ад усяго, што нагадвае аб перажытым, бачаным; потым — ён гатовы ўсё бачыць ужо не ў крывавых, а ў «ружовых» фарбах». Калі зыходзіць з жыцця і творчасці Рэмарка і Быкава, з імі такога «ператварэння» не адбылося.

Яднаюць іх і стылёвыя якасці, якія абумовілі мастацкую манеру Рэмарка і якія ў дачыненні да Быкава А. Адамовіч вызначыў як «стылёвы сплаў жорсткага рэалізму з лірычнай апавядальнай стыхіяй». Такім чынам, выкарыстоўваецца нават паняцце, амаль ідэнтычнае ўведзенаму ў абыходак нямецкімі даследчыкамі літаратуры пра Першую сусветную вайну, найперш твораў Рэмарка, — Hartstil (жорсткі стыль), які звычайна чаргуецца з тонкім, шчымліва-кранальным лірызмам. Паказальна, што вызначэнне «жорсткі сучасны рэалізм» сустракаецца і ў самога В. Быкава — у «Доўгай дарозе дадому», у сувязі з гісторыяй і перадумовамі напісання «Альпійскай балады».

З нямецкіх пісьменнікаў другой паловы XX ст. найбольшае ўражанне на В. Быкава аказаў Генрых Бёль. Улетку 1983 г. В. Быкаў браў удзел у пісьменніцкім кангрэсе ў Кёльне; «…з самай яркай прамовай, — успамінае В. Быкаў, — выступіў на ім Генрых Бёль». Паслухаць славутага суайчынніка, нобелеўскага лаўрэата 1973 г., на плошчы перад бібліятэкай, дзе праходзіў кангрэс, сабраўся вялізны натоўп, які пасля, разам са слухачамі ў зале, праводзіў Бёля авацыямі. Быкаў, тады ўжо знаёмы з успамінамі і аўтабіяграфіяй Бёля, ведаў, што ў час вайны лёс звёў іх у адных мясцінах, у Малдавіі і пад Ясамі, і што, хутчэй за ўсё, яны ўдзельнічалі ў адных баях. «Там я, — піша В. Быкаў, — кантужаны, вярнуўся ў свой батальён, а Бёль, сімулюючы хваробу, дамогся адпраўкі ў тыл — такая была рознасць нашых пазіцый у той вайне». Адбылася і размова паміж Быкавым і Бёлем пра іх «вайсковую агульнасць». Нямецкі мастак слова, паводле беларускага пісьменніка, «сягаў высока і глядзеў на свет Божы інакш — шырака і непадлегла. Ва ўсякім разе я заўжды з вялікай цікавасцю чытаў тое нешматлікае з ягонай публіцыстыкі, што паяўлялася на рускай мове». В. Быкаў гаворыць аб працяглым і неаспрэчным уплыве Бёля на свядомасць еўрапейцаў, які пачаў слабнуць толькі пасля яго смерці ў 1985 г. «Але тады, — піша В. Быкаў, — на яго месца ў Нямеччыне прыйшлі ягоныя маладзейшыя аднадумцы, такія, як, напрыклад, Гюнтар Грас, што прадоўжылі гуманізм вялікага немца». Узгадае аўтар «Доўгай дарогі дадому» — у сувязі са становішчам беларускай мовы на радзіме — і выказванне Бёля пра мову як «апошняе апірышча свабоды».

Не менш істотным у мастацкай парадыгме В. Быкава з'яўляецца дыскурс «амерыканскі». Міжволі ўзгадваюцца словы вядомага амерыканскага крытыка Джона Олдрыджа з надзвычай паказальнай назвай — «Ільвы паміраюць» (1963): «…мы страцілі амаль усіх, каго лічым класікамі сучаснай амерыканскай літаратуры: двух нашых самых славутых і таленавітых раманістаў старэйшага пакалення Уільяма Фолкнера і Эрнеста Хэмінгуэя… Прысутнасць побач з намі…гэтых

пісьменнікаў мы цанілі не менш за іх кнігі. Здавалася, што прынамсі з таго часу, як большасць з нас сябе памятае, яны заўсёды з намі, усёмагутныя і несмяротныя, як багі, напаўняючы нас усведамленнем, што мы ў стане «выносіць прысутнасць» гігантаў у нашых шэрагах, што нешта неаспрэчна выдатнае стаіць паміж намі і ваяўнічай нікчэмнасцю…»

Дзеля чаго я дазволіла сабе гэткую разгорнутую цытату? Па-першае, калі ўсяго толькі на месца імёнаў амерыканскіх мастакоў слова паставіць імя нашага празаіка, сэнс цытаты не зменіцца і будзе дакладна адпавядаць разуменню значэння Васіля Быкава для нас: і мы самі, звычайныя смяротныя, былі чагосьці вартыя, пакуль сярод нас жыў і тварыў ён; і ў нас, беларусаў, былі падставы для гонару і годнасці; і нам было што прад'явіць культурнаму свету па самым вялікім рахунку. Па-другое, Фолкнер і Хэмінгуэй належалі да тых іншанацыянальных пісьменнікаў, якіх В. Быкаў ведаў і любіў і чыім духоўным спадкаемцам заставаўся цягам усяго свайго творчага шляху.

Зрэшты, увагу В. Быкава прыцягвалі самыя розныя амерыканскія пісьменнікі — ад Тэадора Драйзера (чый раман «Сястра Керы» ён чытаў, зноў жа, на агнявых пазіцыях, у зацішку паміж баямі, пазычыўшы ў сябра, лейтэнанта Бяражнога) да Джона Стэйнбека, аўтара знакамітых «Гронак гневу» і «Зімы трывогі нашай». У сваіх мемуарах В. Быкаў распавёў, як недзе тою парой, калі часопіс «Юность» меўся надрукаваць (але так і не надрукаваў) пераклад яго аповесці «Мёртвым не баліць», Стэйнбек прыехаў у Маскву і наведаўся ў рэдакцыю «Юности», дзе «дужа горача падтрымаў маладых» (Я. Еўтушэнку, А. Вазнясенскага, В. Аксёнава і іншых), пасля чаго ў Савецкі Саюз дарога амерыканскаму мэтру была закрыта раз і назаўсёды.

У. Фолкнера (які, да слова, моцна паўплываў і на стылістыку А. Адамовіча) В. Быкаў цаніў не толькі за яго літаратурную спадчыну, але і за яго мастакоўскі стаіцызм. Як вядома, аповесць «Мёртвым не баліць» па-руску ўсё ж выйшла — у «Новым мире» і была сустрэта «аператыўным бамбаваннем» з усіх інстанцый, абвешчана «безумоўнай няўдачай аўтара». Для В. Быкава, па яго ўласных словах, «важнай была не ацэнка твора, не адносіны да яе начальства, а тое, ці сапраўды гэта — н я ў д а ч а (разрадка аўтара. — **Е. Л.**)? Тое важна было для маіх наступных задумаў». Пэўнай маральнай падтрымкай сталася ў гэтым выпадку якраз пазіцыя У. Фолкнера, які лічыў, што менавіта творчая параза, калі гэткая здараецца, і ёсць сапраўдны крытэрый годнасці і вартасці мастака. «Ягоны вопыт тады быў для мяне важны», — падкрэсліць В. Быкаў, перад гэтым працытаваўшы вядомае фолкнераўскае выказванне: «…няўдача для мяне вышэй за ўсё. Пачаць штось, што табе не пад сілу — ты нават не можаш спадзявацца на поспех, але ўсё ж спрабаваць і стрываць паразу, пасля спрабаваць зноў. Во для мяне ўдача».

Але самым вялікім літаратурным уражаннем стаў для беларускага празаіка Э. Хэмінгуэй, асабліва яго раман («самы значны», на думку В. Быкава) «Па кім звоніць звон». Пісьменнік быў незвычайна ўзрушаны знаёмствам з поўным тэкстам рамана; ён узгадвае факты (сёння ўжо агульнавядомыя) спачатку нежадання ўладаў наогул выдаваць гэты твор у нашай краіне, а затым яго, па сутнасці, скажонага выдання — праз шматлікія купюры, з-за якіх раман быў скарочаны амаль на трацціну. «Мне далі ў Маскве надрукаваны на тонкай паперы рукапіс, які я ўважліва прачытаў дома і адчуў сябе дужа бедным. Тое, што мы намагаліся і ніяк не маглі зразумець у вайне, знакаміты Хэм зразумеў і напісаў яшчэ ў 30-я гады. З таго часу, а можа, і раней, сутнасць вайны не змянілася. Ваенная сутнасць наогул наўрад ці мяняецца праз стагоддзі. Толькі на першы погляд здаецца, што наша вайна не такая, як папярэдняя, у чымсь кожная наступная вайна іншая, а ў выніку ўсе аднолькавыя. Мінае час, і ўсе зліваюцца ў адно ёмістае і ненавіснае людзям азначэнне — вайна. Хэмінгуэй адкрыта сказаў, што «вайна — гэта бардак» і што вайна ў 30 год здаецца зусім іншай, чым у 18—20 гадоў, што даўнім

уражанням і пачуццям ня варта занадта верыць. І што найлепшая школа для пісьменніка — нешчаслівае дзяцінства… і што проза — гэта «архітэктура, а не майстэрства дэкаратара».

Са скрухай В. Быкаў далей піша: «А мы столькі шчыравалі над стылем, прысмакам слова, забыўшыся пра выснову іншага знакамітага аўтара (Уільяма Фолкнера), што калі надта клапаціцца пра стыль, дык не застанецца нічога, апроч стылю. Хэм не надта клапаціўся наконт узаконенага стылю, затое яго хутка прызналі заснавальнікам уласнага стылю». Стыль Хэмінгуэя на сёння дастаткова добра вывучаны: лаканізм, «сечаныя» фразы, прынцып айсберга, насычанасць падтэкстамі, найглыбейшы псіхалагізм, прытчавасць. Многія з гэтых якасцяў уласцівыя і прозе В. Быкава. Заўважу да месца, што асобнай мэтай даследавання можа і павінна быць тыпалогія творчасці Э. Хэмінгуэя і В. Быкава: падставы для гэтага даюць і тэмы, і экстрэмальнасць, «памежнасць» сюжэтных калізій, сітуацый выбару, і трагізм, якім скрозь прасякнуты творы абодвух, і многае іншае. Абодва ўшчыльную судакранаюцца з экзістэнцыялісцкай канцэпцыяй чалавека і свету, найперш у яе сталым варыянце (на «вітку бунту», паводле вызначэння А. Камю); прапанаванае французскім пісьменнікам у яго Нобелеўскай лекцыі параўнанне кожнага мастака з прыкаваным да галеры свайго часу весляром, які мусіць веславаць як бы ні было цяжка, асацыіруецца з ключавой высновай «нобелеўскай» жа аповесці Э. Хэмінгуэя «Стары і мора» (а па сутнасці, і ўсёй яго творчасці) пра тое, што чалавека можна знішчыць, але нельга перамагчы. У сваю чаргу не ў меншай ступені яно асацыіруецца з сэнсам учынкаў шматлікіх літаратурных персанажаў беларускага творцы.

І ўсё ж найважней для В. Быкава была этыка-маральная, грамадзянская пазіцыя амерыканскага пісьменніка, яго своеасаблівы паводзінавы кодэкс. «Але, можа, самае значнае, што знайшлося для мяне ў вялікага гуманіста Хэмінгуэя, была праставатая, але дужа ёмістая думка: «Добра, калі вырашыш не быць дрэнню». Праўда, у нас аднаго рашэння для таго было мала, патрабавалася яшчэ шмат чаго, што часам было вышэй за жыццё, вышэй за твой чалавечы лёс».

Зрэшты, пра сваё паважлівае стаўленне да Хэмінгуэя В. Быкаў гаварыў і раней. У прыватнасці, у адказе на пытанне анкеты А. Адамовіча: «Якія два-тры пісьменнікі сусветнай літаратуры ідуць з Вамі праз усё творчае жыццё? Чаму?» — В. Быкаў (зазначыўшы: «Два-тры — гэта мала. Нават самых лепшых двух-трох недастаткова») поруч з Л. Талстым, Ф. Дастаеўскім, А. Чэхавым, К. Чорным, узгадвае і Э. Хэмінгуэя: «Хэмінгуэй для мяне дарагі перш за ўсё сваёй непрадузятасцю да вайны, якую ён называў вялікім бардаком, і нейкай даверліва-сяброўскай стрыманасцю».

Што характэрна, адразу пасля прызнання ў захопленасці творчасцю Хэмінгуэя В. Быкаў распавядае, як выспявала задума з «Круглянскім мостам», — «на гэты раз болей пад уплывам прачытанага, а не ўспомненага, перажытага». Няма сумневу, што сярод гэтага «прачытанага» была і проза вялікага амерыканца.

Безумоўна, уласна мастацкія творы В. Быкава адсылаюць да многіх іншых пісьменнікаў ЗША, напрыклад — Нормана Мейлера з яго раманам «Голыя і мёртвыя», які займеў вялікую папулярнасць у сусветнага чытача, а таксама Курта Вонегута, Уільяма Стайрана, Джэймса Джонса з іх, у першую чаргу, антыфашысцкімі, антымілітарысцкімі раманамі.

Асаблівы пласт сусветнай культуры і літаратуры, што вельмі істотна паўплываў на творчасць В. Быкава, — гэта Біблія. Біблейскімі алюзіямі і сімваламі, роздумамі над адвечнымі праблемамі веры і бязвер'я, узаемадачыненняў чалавека з Богам прасякнуты яго шматлікія публіцыстычныя і літаратурна-крытычныя артыкулы, гутаркі і інтэрв'ю, асабліва 80—90-х гадоў. «Хлусяць не багі, а людзі, крывадушнічаюць не багі», — менавіта гэтыя радкі вылучыў В. Быкаў з мастацкай спадчыны П. Панчанкі ў прысвечаным яму артыкуле «Паэзія дабрыні і мужнасці» (1981). Не абмінуў ён увагай філасофска-эстэтычнай прысут-

насці Кнігі кніг і ў творах многіх іншых беларускіх паэтаў і празаікаў. Так, пісьменнік высока ацаніў раман Уладзіміра Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», убачыўшы асноўную вартасць гэтай «прыгодніцка-рамантычнай гісторыі Хрыста» найперш «у яе выразных гуманістычных і выкрывальніцкіх тэндэнцыях, асабліва ў адносінах да ўсяго, што датычыцца «власть предержащих», якія ў сваёй сквапнасці да ўлады не спыняюцца ні перад крывёю і зладзейскім падманам, ні перад фальшам высокіх слоў. Бог, вера, хрысціянская мараль — толькі шырма ў іх эгаістычным імкненні да ўлады над чэрню». Найбольшае ўражанне на В. Быкава зрабіў узнёсла-патэтычны фінал рамана, самым непасрэдным чынам звязаны з біблейскай сімволікай: «Неапалімыя купіны дрэў стаялі на ўзгорках. Сумавала вакол капліцы шыпшына. А сейбіты падымаліся на вяршыню круглага пагорка, як на вяршыню зямнога шара. І першым ішоў насустрач нізкаму сонцу Хрыстос, мерна размахваючы рукамі. І, гатовае да новага жыцця, падала зерне ў цёплую мяккую зямлю. Выйшаў сейбіт сеяць на нівы свая» («Яркае і самабытнае дараванне», 1980). Да ліку пісьменнікаў, чыя творчасць насычана хрысціянскімі матывамі, В. Быкаў адносіў і Рыгора Барадуліна («Народная паэзія», 1992).

Шматкроць узгадвае В. Быкаў Хрыста і яго паплечнікаў, праецыруючы іхні лёс на трагічную беларускую і сусветную гісторыю. У 1985 г. у прамове на пленуме СП БССР ён, у прыватнасці, гаварыў: «Але, мабыць, так ужо заведзена на белым свеце, што да сапраўдных апосталаў дабра і справядлівасці лёс заўжды ставіцца няўдзячна: перш іх распінае, каб затым узвысіць...». Да такіх «апосталаў дабра і справядлівасці» В. Быкаў адносіў Марка Шагала, Янку Купалу, Уладзіміра Караткевіча. Біблейскай сімволікай ад пачатку да канца прасякнута, напрыклад, яго публікацыя «З цемры — да святла» (1992), прысвечаная Я. Купалу — «найбольшаму, галоўнаму апосталу» ў «даўгім, калі не бясконцым радзе». Па словах В. Быкава, Я. Купала «стаў сынам нацыі, абаронцам яе памкненняў. Менавіта гэтая акалічнасць і павяла яго на крыжаванне, асудзіўшы нацыю на сіроцтва... сваёй ахвярнай пагібеллю ён нязмерна ўзвысіўся ў часе і стаў недасяжны. Цяпер мы ведаем: ён не прыняў зло. Ён не мог адолець яго, але не мог і скарыцца яму... Падобна, Купала зрабіў свой выбар — самы жахлівы, але з часоў Ісуса Хрыста і самы чалавечны выбар». В. Быкаў не стамляўся нагадваць, што «...мы — народ. Вялікі ці малы, цывілізаваны ці не надта, але выразны і цэльны, створаны Богам на гэтай боскай зямлі». Нават лёс беларускай мовы — «мовы-ахвяры і мовы-героя адначасна» — ён прыпадабняў да лёсу Хрыста («Нацыянальная еднасць — інстынкт выжывання», 1992). Красамоўную назву дае В. Быкаў аднаму са сваіх артыкулаў, напісанаму за дзесяцігоддзе да смерці, — «Божа, дай нам волі і мудрасці...» (1992).

Неаднойчы прыцягвала ўвагу даследчыкаў філасофска-эстэтычная прысутнасць біблейскіх матываў і вобразаў у мастацкіх творах Васіля Быкава; яна дае аб сабе знаць пастаянна — ад самых ранніх аповесцяў да пасмяротна апублікаваных прыпавесцяў. Разглядалася ў гэтым ракурсе і аповесць «Сотнікаў» (1970). Думаецца, яе асэнсаванню ў святле біблейскай сімволікі надзвычай паспрыяла экранізацыя, здзейсненая Ларысай Шапіцька, з яе выразным імкненнем данесці да гледача агульначалавечую, хрысціянскую сутнасць твора, вытокі якой палягаюць у Новым Запавеце, і найперш — у аповедах евангелістаў. У сувязі з гэтым, паводле мемуараў В. Быкава, былі вялікія праблемы са здачай ужо знятай кінастужкі. «Пільныя наглядчыкі з розных органаў згледзелі ў ім празмернасць хрысціянска-рэлігійных матываў». Першапачаткова рэжысёр мела намер даць фільму і характэрную назву — «Узнясенне»; назва ж «Узыходжанне» (блізкая па сэнсе, але не тоесная) сталася кампраміснай. Менавіта праз прызму новазапаветнай сімволікі і аналізуюць літаратуразнаўцы аповесць «Сотнікаў» — тыя з іх, вядома, якія прызнаюць (а прызнаюць далёка не ўсе) удзел біблейскага матэрыялу ў стварэнні мастацкага свету В. Быкава (да прыкладу, глыбокія развагі на гэты конт змяшчае

ў сабе кніга І. Афанасьева «Кто восходит на Голгофу? Антивоенная идея в творчестве Василя Быкова». Мн., 1993).

Між тым, на мой погляд, ёсць падставы для аналізу аповесці «Сотнікаў» праз прызму сімволікі і нават сюжэтыкі не толькі новазапаветнай, але і старазапаветнай. Калісьці М. В. Гогаль зазначыў: «Адкрый кнігу Старога Запавету, ты знойдзеш там кожную з сённяшніх падзей, ясней за дзень убачыш, у чым яе правіна перад Богам…». Я ж зараз засяроджуся на прытчы пра Авеля і Каіна з Кнігі Быцця — адным з самых запатрабаваных сусветнай культурай і мастацтвам біблейскіх міфаў. Ён мае (магчыма, не ў апошнюю чаргу з-за сваёй сэнсавай складанасці і загадкавасці) устойліва-працяглую традыцыю філасофскага вытлумачэння і мастацкай інтэрпрэтацыі. Бадай, мэтазгодна прывесці гэтую прытчу: «Адам спазнаў Еву, жонку сваю; і яна зацяжарыла, і нарадзіла Каіна, і сказала: набыла я чалавека ад Госпада. І яшчэ нарадзіла брата яго, Авеля. І быў Авель пастыр авечак, а Каін быў земляроб.

Праз нейкі час Каін прынёс ад плёну зямлі дар Госпаду, і Авель таксама прынёс ад першародных статку свайго і ад тлушчу іхняга. І зважыў Гасподзь на Авеля і на дар яго, а на Каіна і на дар яго не зважыў. Каін моцна засмуціўся, і панікнуў твар яго . І сказаў Гасподзь Бог Каіну: чаму ты засмуціўся? і чаму панікнуў твар твой? калі робіш добрае, то ці не ўзнімаеш твар? а калі не робіш добрага, то ля дзвярэй грэх ляжыць; ён вабіць цябе да сябе, але ты пануй над ім. І сказаў Каін Авелю, брату свайму: пойдзем у поле. І калі яны былі ў полі, паўстаў Каін на Авеля, брата свайго, і забіў яго.

І сказаў Гасподзь Бог Каіну: дзе Авель, брат твой? Ён сказаў: не ведаю, ці ж я вартаўнік брату майму? І сказаў Гасподзь: што ты зрабіў? голас крыві брата твайго даносіцца да Мяне ад зямлі; і цяпер прокляты ты ад зямлі, якая раскрыла вусны свае прыняць кроў брата твайго ад рукі тваёй; калі ты будзеш апрацоўваць зямлю, яна не стане больш даваць моцы сваёй для цябе; ты будзеш выгнаннікам і блуканцам на зямлі. І сказаў Каін Госпаду Богу: пакаранне маё большае, чымся знесці можна; вось, Ты цяпер зганяеш мяне з улоння зямлі, і ад твару Твайго я схаваюся, і буду выгнаннікам і блуканцам на зямлі; і кожны, хто сустрэнецца са мною, заб'е мяне. І сказаў яму Гасподзь Бог: за тое кожнаму, хто заб'е Каіна, адпомсціцца ўсямёра. І зрабіў Гасподзь Бог Каіну знак, каб ніхто, сустрэўшыся з ім, не забіў яго. І пайшоў Каін ад твару Госпада і пасяліўся ў зямлі Нод, на ўсход ад Эдэма. І спазнаў Каін жонку сваю; і яна зацяжарыла і нарадзіла Эноха…» (Быц 4:1—17).

Сюжэт пра Каіна і Авеля скарыстаны ў аздабленні еўрапейскіх касцёлаў, натхніў на стварэнне жывапісных палотнаў Антоніо Алегры да Карэджа, Тыцыяна, Якопа Тынтарэта, Альбрэхта Дзюрэра, Пітэра Паўэла Рубенса, Рэмбрандта і інш. Паслужыў ён магутным сюжэтным падмуркам для многіх літаратурных твораў, у тым ліку «трамелагедыі» італьянскага пісьменніка, заснавальніка нацыянальнай трагедыі класіцызму Вітторыо Альф'еры «Авель», прысвечанай Вальтэру Скоту драматычнай містэрыі вялікага англійскага рамантыка Джорджа Гордана Байрана «Каін», верша агульнапрызнанага папярэдніка еўрапейскага сімвалізму, французскага паэта Шарля Бадлера «Авель і Каін» (верш увайшоў у адзіны прыжыццёвы зборнік Бадлера «Кветкі зла»). У той ці іншай ступені адгукнулася гэтая старазапаветная гісторыя ў многіх іншых творах сусветнай літаратуры — Фёдара Дастаеўскага, Томаса Мана, Уільяма Фолкнера, Хорхе Луіса Борхеса… Так, у рамане Ф. Дастаеўскага «Браты Карамазавы» матыў гэтай прытчы не толькі асацыятыўна распазнавальны ў сюжэце, але і гучыць самым непасрэдным чынам. На пытанне занепакоенага Алёшы пра брата Смердзякоў адказвае: «Чаму ж бы я мог ведаць пра Дзмітрыя Фёдаравіча; іншая справа, каб я пры іх вартаўніком быў…» Яшчэ бліжэй да адпаведнага месца ў прытчы словы Івана. «Ды я тут што? Вартаўнік я, ці што, майму брату Дзмітрыю? — раздражнёна адрэзаў было Іван, але раптам неяк горка ўсміхнуўся. — Каінаў адказ Богу пра забітага брата, а?..»

У беларускай літаратуры старазапаветная гісторыя пра Каіна і Авеля пазнаецца ў вершах Уладзіміра Караткевіча «Патоп (Старажытны беларускі апокрыф)», «Прыватная гісторыя» і іншых творах, у незавершаным рамане Кузьмы Чорнага «Вялікі дзень» (маецца на ўвазе забойства Адамам Блецькам зводнага брата Антона з-за зямлі), паэме Алеся Разанава «Жалеза» («Двое братоў / Выпраўляюцца ў поле, / А з імі — / Жалеза...»), у п'есе Андрэя Курэйчыка «Страчаны рай» і інш. Нарэшце — у самога Васіля Быкава, у яго прысвечанай памяці У. Караткевіча і пасмяротна апублікаванай прыпавесці «Мурашкі» («Адамавы дзеці ўдаліся зусім не ў памяркоўнага Адама, а хто ведае ў каго яны ўдаліся. Яшчэ змалку пачалі дурэць і сварыцца...»). Лёс першага ў гісторыі чалавецтва братазабойцы інтэрпрэтуе ў сваім вершы «Шлях Каіна» беларускі паэт Канстанцін Міхееў:

Влача за собою мотыгу в бурых кровоподтеках,
со дня рождения мира упрям, угрюм, неприкаян,
в обнимку с собственной тенью, ползущей следом в потемках,
по всем пустырям вселенной бредет одиноко Каин...

Ці не ўсе выразы з прытчы сталі крылатымі, а імёны братоў — свайго роду кодамі, цалкам пэўнымі знакамі, носьбіты ж гэтых імёнаў, Каін і Авель, успрымаюцца культурнай свядомасцю чалавецтва як архетыпы — у шэрагу самых значных вобразаў, што ўзыходзяць да біблейскіх тэкстаў. Многія фразы з прытчы былі выкарыстаны ў якасці назваў вядомых твораў выяўленчага мастацтва, кінематографа (напрыклад, вядомая і беларускаму гледачу амерыканская кінастужка «Вартаўнік брату майму»), літаратуры (узгадаю толькі раманы грузінскага пісьменніка Атара Чыладзе «І кожны, хто сустрэнецца са мною...» і беларускага празаіка Вячаслава Адамчыка «Голас крыві брата твайго»).

Да асэнсавання прытчы пра Авеля і Каіна неаднаразова звярталіся слынныя філосафы, як правіла, экстрапалюючы яе змест на крызісныя, трагічныя падзеі гісторыі і сучаснасці. Апошняя акалічнасць цалкам заканамерная; дастаткова нагадаць, што адпаведныя перыяды ў гісторыі розных краін часта знаходзяць адмысловыя характарыстыкі ў адной і той жа эмблематычнай вербальнай выяве «І пайшоў брат на брата...» Цяжка перажываючы драматычныя падзеі ў Расіі пачатку XX стагоддзя, Васіль Розанаў, у прыватнасці, гаварыў: «Зямля ёсць Каінава і зямля ёсць Авелева. І твая, рускі, зямля ёсць Каінава. Ты пракляў сваю зямлю і зямля пракляла цябе» («Апакаліпсіс нашага часу»). Усевалад Іванаў узводзіў паказаную ў лёсах Каіна і Авеля трагедыю чалавецтва да індывідуалізму, адно з гранічна яскравых увасабленняў якога бачыў у багаборніцтве байранаўскага Каіна («Крызіс індывідуалізму»). Варыяцыі гэтай жа тэмы знаходзім у яго працах «Ідэя непрымання свету», «Пра рускую ідэю», «Твар і маскі Расіі: Да даследавання ідэалогіі Дастаеўскага», у якіх ён апелюе да вобраза ўсё таго ж Каіна. Так, сцвярджаючы, што непрыманне свету, «багаборніцкае вар'яцтва», можа быць справядлівым і несправядлівым, прыклад першага У. Іванаў знаходзіў у лёсе Іова («Іоў апраўданы»), а прыклад другога — у лёсе Каіна, які разам са сваімі нашчадкамі апынуўся сярод «нізрынутых», што, падобна да Люцыпара, не вытрымалі выпрабавання ў сутыкненні з цёмнымі сіламі. Выдатны мысліцель, аўтар рэлігійна-філасофскіх і этычных прац (дарэчы, ураджэнец Віцебскай губерніі) М. А. Лоскі, спрабуючы вытлумачыць «усе недасканаласці» чалавека і прыроды, высветліць прычынна-выніковыя сувязі падзей у свеце, цытуе ў сваёй кнізе «Бог і сусветнае зло» словы з працы М. Бярдзяева «Аб прызначэнні чалавека: Досвед парадаксальнай этыкі»: «Маральная свядомасць пачалася з пытання Бога: Каін, дзе брат твой Авель? Яна скончыцца іншым пытаннем Бога: Авель, дзе брат твой Каін?»

Паспрабуем жа высветліць, якім чынам засвойвае старазапаветную прытчу (калі засвойвае) Васіль Быкаў у аповесці «Сотнікаў» — толькі ў агульнавядомым

этычным стрыжні ці больш дэталёва, як адбіваецца яе прысутнасць на мастацкай сістэме твора ў цэлым, якія эстэтычныя функцыі выконваюць у ім алюзіі на змест, канфлікт, сімволіку біблейскага тэксту.

Спынімся найперш на семантыцы мірных заняткаў біблейскіх і быкаўскіх герояў. Каін, паводле прытчы, — земляроб, яго брат Авель — пастух. Рыбак, літаратурны нашчадак Каіна, — таксама земляроб, селянін. Сотнікаў, відавочным пратыпам якога ёсць Авель, скончыў, як вядома, двухгадовы настаўніцкі інстытут і паспеў папрацаваць настаўнікам. Залішне нагадваць, што пастухоўства, пастырства традыцыйна асацыіруецца (і найперш у самой Бібліі, як у Старым, так і Новым Запавеце) з выхавальніцтвам, настаўніцтвам. Такім чынам, старадаўняй антыноміі «Авель — Каін» цалкам адпавядае антыномія «Сотнікаў — Рыбак»; абедзве ўтвараюць антытэзу «духоўнае — матэрыяльнае», якая нібы перарастае сябе і абяртаецца апазіцыямі «дабро — зло», «адданасць — здрадніцтва», «святло — цемра», «высокае — нізкае», «боскае — д'ябальскае» і да т. п.

Антытэза «духоўнае — матэрыяльнае» самым непасрэдным чынам падмацоўваецца (ці замацоўваецца) семантыкай імёнаў як біблейскіх, так і быкаўскіх персанажаў. Згодна з лінгвістычнымі росшукамі, імя «Каін» месціць у сабе агульнасеміцкі корань са значэннем «каваць», «каваль» — заняткам, паводле паданняў, магічным і пагрозлівым для астатніх людзей. Апрача таго, расійскі біблеіст Б. І. Берман бачыць этымалагічную сувязь імя «Каін» са старажытнаяўрэйскім дзеясловам «кана» («каніці») — «набываць уласнасць, рабіць сваім» (Библейские смыслы: Кн. 1. М., 1997). Іншы расійскі вучоны, Дз. У. Шчадравіцкі, заўважае таксама, што вытворнае ад «кана» «слова «каін» азначае медную або жалезную дзіду: гэта чалавек, які нібы са зброяй у руках ахоўвае сваю ўласнасць і імкнецца да яе прымнажэння» (Введение в Ветхий Завет: Т. 1. Книга Бытия. М., 1994). Такім чынам, імя «Каін» не толькі стасуецца са сферай матэрыяльнай, але ёсць і адэкватам натуры яго носьбіта — зайздроснай, раўнівай, жорсткай. У святле ж нашай тэмы семантычна значным уяўляецца нават разыходжанне паміж сапраўдным заняткам Каіна (земляроб) і закладзеным у яго імені (каваль), бо адпаведная супярэчнасць дае аб сабе знаць і ў выпадку з яго быкаўскім двайнікам (земляроб паводле занятку — рыбак паводле прозвішча).

Што да імя «Авель» (або «Гэвель»), то даследчыкі лічаць, што яно паходзіць ад дзеяслова «гава́ль» — «дзьмуць», «дыхаць». «Я пераклаў бы гэтае імя, — піша Б. І. Берман, — словам «тленнасць» (руск. «бренность». — **Е. Л.**). Гэвель — гэта той, чыё існаванне абрываецца, не абавязкова гвалтоўна, але па самой сваёй прыродзе...марнасць, тленнасць, тое, што рассейваецца, нібы па́ра». У процілегласць Каіну, вытворцу матэрыяльных каштоўнасцяў, чалавеку прыземленаму, цалкам звернутаму вонкі, які ўсё разумее «рэальна» і «канкрэтна», Авель — «чалавек духу, чалавек «паветранай лёгкасці», не прывязаны да зямлі, пастух». Гэткі і яго двайнік Сотнікаў, у якога — у адрозненне ад Рыбака з яго пяццю класамі, з маленства цяжкай фізічнай працай, спадзевам выключна на свае фізічныя сілы, на кемлівасць і спрытнасць, — была «іншая ступень свабоды», больш магчымасцяў, прычын і нагод для працы сузіральна-пазнавальнай, для роздуму, падрыхтоўвання сябе да маральнага выбару і духоўнага подзвігу, што прывёў яго на шыбеніцу і — узняў, узнёс над смерцю і часам. Памятаючы пра суадносіны паняццяў «пастухоўства», «пастырства», «настаўніцтва», прыслухаемся да меркавання знаўцы Святога Пісання Б. І. Бермана: «Вядома, задача чалавека — рабіць на зямлі (не ператвараючыся, аднак, у раба зямлі, аб чым Усявышні асабліва клапоціцца ў многіх месцах Бібліі), але духоўных вышынь хутчэй за ўсё можна дасягнуць, будучы пастухом... усе прабацькі — пастухі».

Сотнікаў — увасабленне стаіцызму, які не можа сфарміравацца сам па сабе і не даецца чалавеку адпачаткава, без папярэдняй маральна-інтэлектуальнай працы, ён заўсёды — плён духоўнасці, што набываецца ў выніку паслядоўных намаганняў, плён духоўнай мужнасці, маральнага светабачання, усвядомленай, выха-

ванай у сабе ахвярнасці. Плён, кажучы словамі самога В. Быкава, «катаржна-жыватворнай працы душы» («Мужнасць»). Дастаткова прасачыць за экзістэнцыяльнымі роздумамі Сотнікава (якія, да слова, часам сапраўды збліжаюцца з экзістэнцыялісцкімі), за паслядоўнасцю ягоных прыярытэтаў — у залежнасці ад зменлівых абставінаў. Калісьці ён баяўся загінуць, бо ўласны ваенны досвед пастаянна пераконваў яго ў неабвержнасці думкі, «што адзіная рэальная каштоўнасць у чалавека на свеце — яго жыццё. Калі-небудзь у дасканалым людскім грамадстве яно стане катэгорыяй-абсалютам, мерай і цаною ўсяго». Выходзячы жывым з чарговага бою, ён прытоена радаваўся, «што куля абмінула яго», — пры тым што і на фронце, і цягам пяці партызанскіх месяцаў ён рабіў усё «для свайго абавязку грамадзяніна, байца і камуніста». І вось цяпер, апынуўшыся на «сваім галоўным рубяжы», у памежнай (паводле вызначэння ўсё тых жа экзістэнцыялістаў) сітуацыі, калі чалавек «пераставаў быць чалавекам і ператвараўся ў часова жывую істоту, пазбаўленую права і цалкам аддадзеную ва ўладу гэтае банды наймітаў», калі пра звычайную салдацкую смерць нават і марыць не выпадала, Сотнікаў знаходзіць у сабе новыя магчымасці і якасці. Адмёўшы ўсякія ілюзіі адносна ўласнага будучага, ён — у становішчы смяротніка — умацоўваецца ў сваёй незалежнасці ад ворага, непадуладнасці яму, у сваёй «перавазе над іншымі і над сабой ранейшым таксама». Апошняй і неаспрэчнай — «перавазе смяротніка», «галоўнай і ўжо напэўна апошняй рэальнай каштоўнасці ў яго жыцці». «І Сотнікаў проста і лёгка, як штосьці элементарнае і зусім лагічнае ў яго становішчы, прыняў апошняе цяпер рашэнне: узяць усё на сябе», ахвяраваць сабой дзеля паратунку астатніх, праз смерць сцвердзіць, «здзейсніць тое, што не паспела здзейсніць жыццё». А іменна — надаць сэнс апошняму, абвергнуць яго выпадковасць і абсурднасць, як зрабіў гэта стары палкоўнік, міжвольным і нябачным сведкам перадсмяротнага лёсу якога стаўся Сотнікаў: пакалечаны немцамі ў час допытаў, з перабітымі кісцямі рук, затым расстраляны, палкоўнік за тыя некалькі хвілін перад расстрэлам перажыў сапраўдны трыумф, здзейсніў подзвіг не меншы, чым той, якім ёсць смерць байца на полі бою. Мусіць, не толькі прыклад бацькі, героя грамадзянскай вайны, але і гэты выпадак з палкоўнікам таксама адыграў сваю выхаваўчую, «настаўніцкую» ролю ў духоўным станаўленні Сотнікава, у яго «ўзыходжанні».

Зноў узгадаем: В. Быкава, паводле яго ўласных прызнанняў, заўсёды прыцягвалі маральныя аспекты чалавечых паводзінаў, глыбока цікавіла прырода найперш «подзвігаў духу». «З часоў Ісуса Хрыста і першых хрысціянаў, — скажа пісьменнік у «Доўгай дарозе дадому» ў сувязі з іншым сваім творам пра «подзвіг духу», аповесцю «Абеліск», галоўны герой якой таксама настаўнік, таксама «пастыр», — дух стаў немалаважным фактарам у барацьбе за выжыванне нацый ці этнасаў, — не меней важным за фізічную сілу, якая ў старажытнасці вырашала ўсё. Ды і ў самой літаратуры ўсё большую прыцягальнасць набывалі, так бы мовіць, подзвігі інтэлігенцкія, а не толькі салдацкія. Апошнія былі як бы трывіяльнай справай, тым больш на вайне. Калі ж подзвіг здзяйсняе той, хто прызначаны зусім для іншае, мірнай справы, тое ўжо ёсць штосьці выключнае і набывае асаблівае значэнне». Значэнне, дададзім, не практычна-прагматычнае, а экзістэнцыяльна-існаснае. Сотнікаў здзяйсняе менавіта такога кшталту подзвіг. Яго сэнс — у сцвярджэнні маральнага выбару, моцы чалавечага духу. У наданні мужнасці тым, хто разам з ім ідзе на шыбеніцу, і тым, хто застаецца. Многа гэта ці мала? Ф. М. Дастаеўскі ў працэсе падрыхтоўкі да напісання рамана «Ідыёт», маючы на ўвазе князя Мышкіна, занатаваў: «Бяссілле дапамагчы. Ланцуг і надзея. Зрабіць няшмат» і «Гучаць звяном. Зрабіць няшмат». З гэткіх «звенняў» — і подзвіг Сотнікава.

Зноў жа, у сувязі з вышэйсказаным і па аналогіі з прозвішчам Рыбака і імем Каіна, звяртае на сябе ўвагу разыходжанне паміж мірнай (настаўніцкай) прафесіяй Сотнікава і этымалогіяй яго прозвішча. Апошняе, відавочна, паходзіць ад

слова «сотнік», усе значэнні якога звязаны з вайсковай справай: «начальнік сотні воінаў у старажытнай Русі», «камандзір сотні ў стралецкім войску Расійскай дзяржавы XVI—XVII стст.», «ваенны чын у казацкім войску дарэвалюцыйнай Расіі». Застаецца, дарэчы, толькі падзівіцца быкаўскаму майстэрству аповеду, логіка якога — нават на такім глыбінным, сімвалічным узроўні — паслядоўна вядзе чытача да ўсведамлення несправядлівасці і жорсткасці ваеннай рэчаіснасці, што прымушала чалавека адмовіцца ад свайго сапраўднага прызначэння і рыхтавала яму зусім іншы лёс.

Нельга абмінуць увагай і такую надзвычай уражальную і, безумоўна, невыпадковую дэталь: імя Рыбака (Коля) у рэшце рэшт чытач даведваецца — з успамінаў персанажа пра сваё вясковае дзяцінства, калі ён, як і цяпер, апынуўся перад «пагрозлівай круцізной абрыву», толькі тады не разгубіўся, не спалохаўся, знайшоў годнае выйсце; а вось імя Сотнікава так ні разу і не прагучыць у аповесці. Цалкам магчыма, што такім спосабам (у шэрагу іншых, з алюзіямі на Біблію ўключна, мастацкіх прыёмаў) аўтар дэкларуе сімвалічна-філасофскую абагульненасць гэтага вобраза.

Кожная дэталь увогуле вельмі істотная ў быкаўскай паэтыцы, у тым ліку ў абраным намі ракурсе. Так, Сотнікаў гіне «з пятлёй на шыі», але ж, згодна са старажытнымі тлумачэннямі Бібліі, менавіта ў шыю быў забіты сваім братам Авель — ці то каменем, ці то суком. Іншы прыклад: у святле старазапаветнай прытчы (і, зразумела, Бібліі ў цэлым) з яе найістотнейшым, сюжэта-, канфлікта- і сэнсастваральным матывам ахвярапрынашэння не падлягае сумневу невыпадковасць зааморфнага кода ў быкаўскай аповесці — вобраза авечкі. Агульнавядома, што гэты вобраз у сусветнай культурнай традыцыі — у працяг яго біблейскага зместу — па сённяшні прачытваецца як сімвал нявіннай ахвяры, Agnus dei. Параўнаем, напрыклад: «Ён катаваны быў, але пакутаваў добраахвотна і не адкрываў вуснаў сваіх; як авечку, вялі Яго на пагібель, і як ягня перад тым, хто стрыжэ яго, было маўклівае, так Ён не адкрываў вуснаў сваіх» (Іс 53:7). Або эпізод смерці Сотнікава: паставіць апошнюю кропку — выбіць цурбан з-пад яго ног — павінен «нядаўні сябар» Рыбак, які збянтэжана курчыцца ўнізе, «баючыся і, мабыць, не могучы наважыцца на апошнюю і самую страшную цяпер справу». А калі Сотнікаў, апярэджваючы непазбежнае, пазбавіў Рыбака ад гэтага апошняга грэху, той «не адважыўся зірнуць на яго твар» і «бачыў перад сабой толькі жахліва выпрастаныя ў паветры ногі» вісельніка. Вернемся да аднаго з месцаў прытчы пра Каіна і Авеля: «І сказаў Гасподзь Бог Каіну: чаму ты засмуціўся? і чаму панікнуў твар твой? калі робіш добрае, то ці не ўзнімаеш твар?..» (Быц 4:6—7).

Знітаваным са старазапаветнай прытчай бачыцца і фінал «Сотнікава». Успомнім словы Госпада, звернутыя да Каіна: «што ты зрабіў? Голас крыві брата твайго даносіцца да Мяне ад зямлі; і цяпер пракляты ты ад зямлі, якая раскрыла вусны свае прыняць кроў брата твайго ад рукі тваёй…ты будзеш выгнаннікам і блуканцам на зямлі…І зрабіў Гасподзь Бог Каіну знак, каб ніхто, сустрэўшыся з ім, не забіў яго» (Быц 4: 10—15). Адсюль, як вядома, пайшоў выраз «Каінава пячатка»; нагнала, насцігла гэтае нязмыўнае ганебнае кляймо і здрадніка Рыбака, цяпер таксама, умоўна кажучы, «выгнанніка і блуканца», для ўсіх чужаніцу з чужаніцаў, які нават ужо дабрахоць пайсці з жыцця не можа і нязменнымі спадарожнымі якога ёсць і будуць цяпер страх і згрызоты сумлення. Ці не ўсё таму ж, у сімвалічна-біблейскім сэнсе, што сама зямля не жадае прыняць яго апаганенай, знішчальна-атрутнай крыві? Вядомы англійскі этнограф і гісторык рэлігіі Дж. Дж. Фрэзер параўнаў матыў «Каінавай пячаткі» са звычаямі, якіх прытрымліваюцца народы ў самых розных кутках зямлі. Аказваецца, многімі плямёнамі і абшчынамі забойца (тым больш забойца кроўнага сваяка) успрымаўся і ўспрымаецца як крыніца патэнцыяльнай пагрозы для людзей і самой зямлі і падлягае выгнанню або ізаляцыі. «Забойца, — піша даследчык у кнізе «Фальклор у Старым Запавеце», — чалавек зачумлены, аточаны атрутнай атмасферай, заража-

ны дыханнем смерці; адзін толькі дотык ягоны нішчыць зямлю». Прынцыпова важна, што як у біблейскім паданні, так і ў быкаўскай аповесці размова ідзе пра адносіны з зямлёй менавіта земляроба.

Праклятый і выгнаны, «пайшоў Каін ад твару Госпада і пасяліўся ў зямлі Нод, на ўсход ад Эдэма» (Быц 4:16). Будучыня Каіна незайздросная: заўсёднае адчуванне небяспекі, адчужанасць і непрыкаянасць, існаванне са страхам перад іншымі, перад сабой і ўнутры сябе, бо сакральна, «містычна, — па словах Дз. Шчадравіцкага, — усе людзі ёсць нібы адзін чалавек...той, хто губіць блізкага свайго, губіць самога сябе». Гэта добра паказана ў байранаўскай містэрыі «Каін». На пытанне братазабойцы:

…ці не магу я ўласнай смерцю
Прах брата ажывіць? Чаму б і не —
Няхай ён сёння ж вернецца ў жыццё,
А я ў зямлю сыду халодным прахам…
Бо цяжка мне блукаць з жыццём сваім… —

Анёл, выканаўца волі Бога, адказвае:

Забітага ніхто не ўваскрасіць.
Што зроблена, таго назад не вернеш.
Ідзі за днямі ўслед і пі да дна
Свой кубак гора, вызначаны лёсам.

Але дакладна гэткі ж незайздросны і далейшы лёс Каіна-Рыбака (пры ўсёй сэнсавай нятоеснасці з байранаўскай інтэрпрэтацыяй): ён яшчэ гоніць ад сябе думку пра ўласнае дачыненне да расправы над Сотнікавым, яшчэ спрабуе перакласці віну «на час, на абставіны», на вайну, немцаў, паліцыю, але — запозна, ён ужо ў зграі «пераможцаў», і з гэтага строю звароту назад няма. Усё больш выразна Рыбак усведамляе, што «гэтаю ліквідацыяй яго скруцілі лепш, чым учора супоняй. І хоць пакінулі жывога, але нейкім чынам таксама ліквідавалі», знішчылі «назусім, і самым неспадзяваным чынам». «Цяпер ён скрозь вораг. Усім. І, пэўна, самому сабе таксама… І на чорта яму цяпер тое жыццё? Каб служыць немцам?» І вось ужо няма «нават магчымасці выканаць сваю апошнюю волю» — звесці рахункі з жыццём, якое абярталася «неадольнай роспаччу», «катастрофай». Брудная прыбіральня і тая адмаўляе яму ў апошнім прыстанку. Сапраўды, «што зроблена, таго назад не вернеш…» Так абрынаецца тое, што Дастаеўскі называў «арыфметычным гуманізмам», Джордж Оруэл пазней — «здаровым арыфметычным сэнсам», а сам В. Быкаў — «прымітыўным прагматызмам». Рыбак, пісаў ён, — «прымітыўны прагматык, які зусім не суадносіць мэты са сродкамі. Вайна для яго — простая да прымітыву справа, з вычарпальнай паўнатой перададзеная пастулатам: «Чыя сіла, таго і права» і яшчэ «Свая кашуля бліжэй да цела». Ён не вораг па перакананнях і не нягоднік па натуры, але ён хоча жыць насуперак магчымасцям, у цяжкую хвіліну ігнаруючы інтарэсы блізкага, клапоцячыся толькі пра сябе. Маральная глухата не дазваляе яму зразумець глыбіню яго падзення. Толькі ў канцы ён з непапраўным спазненнем усведамляе, што ў некаторых выпадках выжыць не лепш, чым памерці…»

Але ці не самае галоўнае, што лучыць твор беларускага пісьменніка са старазапаветнай гісторыяй (і рознымі яе літаратурнымі інтэрпрэтацыямі), — гэта адвечная праблема асабістага выбару. Бог упершыню ўзаемадзейнічае з Каінам не як з чалавекам наогул, а як з канкрэтнай асобай; «з Каіна, — заўважае Б. І. Берман, — пачаліся асабістыя стасункі чалавека і Усявышняга». Больш таго, я б сказала, гэта асабістыя стасункі з кожным будучым чалавекам, калі б ён ні нарадзіўся, якая б часавая дыстанцыя не аддзяляла яго ад першай у гісторыі чалавецтва магілы. Той жа Б. І. Берман цалкам слушна мяркуе, што ў разуменні адказу Каіна «не ведаю, ці ж я вартаўнік брату майму?» многае залежыць ад таго, на якое слова будзе пастаўлены націск (а значыць, ад таго, хто прамаўляе, асэн-

соўвае словы Каіна). Ці ж я — **вартаўнік**? Або: ці ж **я** — вартаўнік? Ці ж не Ты, Госпадзі, вадзіў маёю рукой, ці не Ты ўклаў камень у яе, бо Ты ж ёсць вартаўнік усіх, Твая на ўсё воля? А можна змадэляваць і іншую акцэнтавую пазіцыю — на першыя словы: «**не ведаю**». Бо й насамрэч, ці мог ведаць Каін, якая цяжкая гэтая ноша — забойства, як невыносна з ёю існаваць; ці мог ён ведаць, што не забіваць ён мусіў брата, а ахоўваць яго? Паводле вырашэння праблемы выбару ўсе мы без выключэння падзяляемся на нашчадкаў Авеля і нашчадкаў Каіна. Выбар, мажлівасць якога закладзена ў сюжэце біблейскай гісторыі, робіцца і персанажамі В. Быкава. І намі. Дзеля гэтага напісаны твор.

Ці не супярэчыць прачытанне аповесці В. Быкава ў старазапаветным кантэксце кантэксту новазапаветнаму? На мой погляд, ніколькі. Найперш спашлюся на аўтарскае выказванне, не ўлічыць якое было б проста недаравальна. У «Доўгай дарозе дадому» В. Быкаў цалкам недвухсэнсава — і менавіта ў сувязі з «Сотнікавым», яго задумай і сутнасцю, — адсылае нас якраз да гісторыі першага братазабойства: «Аповесць «Сотнікаў»... нарадзілася не так «з галавы», як з пачуццяў, што былі натхнёныя хутчэй не вайной, а нашай сучаснасцю. Вядома, можна сказаць, што сюжэт біблейскай прыпавесці пра Авеля і яго брата Каіна жыве ў чалавецтве даўно і праяўляецца рэгулярна, у вайну тым болей. Але калі ў іншы час брат забіваў брата дзеля карысці — спадчыны ці багацця, дык у вайну — дзеля элементарнае, біялагічнае мэты выжыць. Тое быццам апраўдвала або, прынамсі, давала штось зразумець у шэрагу тагачасных матываў і наступстваў» (далей пісьменнік распаўсюджвае змест прытчы на пасляваенную, найперш літаратурную, далёка не мірную ў пэўным сэнсе рэчаіснасць). Але справа не толькі ў гэтым аўтарскім сведчанні. Як на мой погляд, аповесць В. Быкава ёсць арганічным сінтэзам кампанентаў Старога і Новага Запавету — можа, нават незалежна ад намераў пісьменніка, але, без сумневу, дзякуючы яго неперааўзыдзенаму таленту. Аднак гэта ўжо тэма для іншага даследавання.

М. М. Бахцін пісаў: «...спрабуючы зразумець і растлумачыць твор толькі з умоваў найбліжэйшага часу, мы ніколі не пранікнем у яго сэнсавыя глыбіні. Замыканне ў эпосе не дазваляе зразумець і будучага жыцця твора ў наступных стагоддзях... Творы разбіваюць грані свайго часу, жывуць у вяках, гэта значыць у вялікім часе...» Дадам: і ў вялікай прасторы, у цэласным культурным сусвеце, у актыўным дыялогу з іншанацыянальным мастацтвам. І калі з цягам часу агульнымі намаганнямі беларускіх даследчыкаў будзе напісана інтэркантэкстуальная гісторыя айчыннай літаратуры, В. Быкаў зойме ў ёй выключнае месца — з-за відавочнага ўзаемазваротнага суіснавання пісьменніка з сусветным мастацкім вопытам, агульналюдскасці філасофска-этычнай праблематыкі яго твораў, з-за яго універсальнага чалавекабачання.



Ларыса РАМАНАВА

# КАЛІ РАЗГАРАЕЦЦА САД ЧАЎНАКОЎ?*

***(Каляндар прадзення і ткацтва. Этнаграфічныя заўвагі)***

## ЛІПЕНЬ

**6 ліпеня**

Вечером, 23 июля, т. е. накануне св. Иоанна, все население села или деревни выходит в поле, к реке, к озеру или хотя бы к ручью. Избрав пригодное место, вбивают большой кол, наверху привязывают сноп, обкладывают соломою, на которую бросают прутья, полена, хворост и т. д. Потом зажигают, одни скачут через костер, другие бегают кругом непременно три раза. Бросая прутья в огонь, приговаривают: «Каб мой лен быу так вялик, як гетая хварасьцина».

Богиня лета Циоця господствует круглый год. С июля месяца черты Циоци делаются заметнее, она нисходит на землю, и воображение белоруса рисует ее дороднюю, красивою женщиною, убранною зрелыми колосьями, расхаживающею по полям. Нет сомнения, что это та же Сива, жена Перуна. Живе или Сиве поклонялись Поморяне и Чехи. Вацерод сравнивает ее с Цицерой. По описаниям, Сива имела в руках плоды, а волосы ея висели до земли. Сива научила людей возделывать землю, жать и обрабатывать лён. Не в одной Белоруссии, в дни, когда шествует эта богиня по земле (в дни Богородицы), народ избегает работ, подымающих пыль, чтоб не запылить глаза богине. Поэтому в эти дни никто не станет чесать и прясть лен, мыть белье, пахать землю, даже мести полы. (Кіркор, 1882.)

Адна жэнщчына грабла сена. І ў кусьце заплакал дзяцёначак маленькі. Яна тады абглядаецца: «Што ж плача дзіцятка?» Яна падходзіць — эта дзіцятка ляжыць у кусьце — голенькае-голенькае. Вот як нарадзілась — так і ляжыць. Яна тады гаворыць: «Божа мой! Што жа мне дзелаць? Чым мне яго накрыць?» Яна тады сьняла з галавы сваёй платок і дзіця эта накрыла. Тады думае: «Ну што эты платок? Давай спадніцу зьдзену!» Спадніцу зьдзела. Рашыла дамоў ужо ў рубашке ісьці. Запеленала етага дзіцёнка як умела і паклала ў гэты куст. Яна знала, што кто-та падклаў. Ну а патом, сколькі яна прашла ат таго места, выходзя жэншчына ёй наперад і гаварыт: «Чым Вас наградзіць за то, што Вы майму дзіцёнку цела прыкрылі?» А яна: «Нічога мне не нада». — «А сколькі ў цябе дзяцей?» — «А ў мяне дзяцей пяць сваіх». — «Ну, ты усё адно і гэтага пажалела, шостага, пакрыла і ў платок, і ў юбку. Ну так на вот табе кусочык палатна». Кагда-та палатно каталі ў трубкі. Ну так яна ёй паўтрубкі дала такога палатна, і гаварыт: « Вот раскатывай эта палатно і шый сваім дзецям. Эта табе такі падарак. Толькі не раскатывай яго саўсім, штоб не бачыла, што там усяродку». І яна ўсё шыла і шыла. Можа, і год, можа, і два этым дзецям этыя рубашачкі. Патом захацелася ёй паглядзець, што там, усярэдзіне, што… я раскатаю і шыю, а яна ўсё такая, трубачка. Ну, раскатала, паглядзела, пасьледнюю рубашачку пашыла, і ўсё. А там нічога і не было. Проста невідзімае яно бралась, палатно. Яна дзетак і абшывала. Эта невідзімая была. (Ад Еціпнёвай М. Ц., в. Барталамееўка.)

---

*Працяг, пачатак у № 7, 2005 г.

**12 ліпеня.** *Пачатак мясаеду (ад 12 ліпеня да 13 жніўня)*

На Пэтра лён зарывают. Потрошку вырвут и зароют там ...шоб прадива было много. (Толстая, 1986.)

**26 ліпеня**

Шэрсьць пралі летам. Як дождж на вуліцы, так сразу на работу. А зімой жа нада было палацён дванаццаць выткаць. (Ад Н. І. Грыньковай, зап. у Ветцы.)

У васкрысеньне нясьлі абыдзеньнік у царкву, там вешалі. Разы тры ці чатыры так дзелалі. Адзін раз наткалі на дождж... Другі — на кароў. Нясуць абыдзеньнік на пашу. Узбок ляжаў ад дарогі. На правы бок клалі ад дарогі. Ператыкалі сінім і красным, як хто. На тры нітачкі ператыкалі... разам на цэўку. Рушнік у царкву нясьлі пасьля таго. (Ад С. С. Самусевай, 1925 г. н., в Добрыч Кармянскага р-на.)

Аброчныя ручнікі, як не было дажджэй, ткалі. Бабы сабіраюцца. За дзень напрадуць, аснуюць і выткуць. Ета было ў трыццаць пятым, саракавым. Выткалі, йдзе сьцелюць… кала вады. І там моляцца Богу. Ета называецца — абудзёньнік. Пасьцелюць, тады убіраюць еты рушнік. Ета за адны суткі. З сабой яго не забіраюць, а на ваду кідаюць. Штоб быў дождж, як дажджа не было. Каб дождж пайшоў, у вадзе купаліся, у бяльлі. Скацерку ва ўдавы ўкрадуць, у калодзеж кідалі. (Ад А. І. Атрашковай, 1927 г. н., в. Іпалітаўка Чачэрскага р-на.)

Бабы сабіраліся, пралі ў адзін дзень, снавалі кросны, вот ткалі такое палаценца, і тады ўжо на крыжавой дарозе яго вешалі... Палаценца, калі дажджу не было. За адзін дзень ткалі. Называўся абыдзеньнік. Сабіраліся тыя жэншчыны, хто ўмелі прасьць, ткаць. Мая мама ўсігда пра эты абыдзеньнік гаварыла. Шчэ некалькі раз яны хадзілі так дзелаць. Рушнік — ён жа небялёны, нічога. Ну, кусок такі просьценькі наткуць, і ўсё. Зьдзелаюць там хвосьцікі такія. Завязуюць красіва, павесюць. Красіва перавязалі. Метры паўтары-два быў рушнік. Канешне, рана пачыналі рабіць рушнік, штоб пасьпець к вечару павесіць, штоб усё палучылась к вечару, да заходу сонца. (Ад Р. У. Паляковай, 1941 г. н., в. Літвінавічы Кармянскага р-на.)

Кагда жэншчына радзіла, прыходзіць бабка-павітуха, бярэць атсюда тры валаскі, бярэць грабёнку, рэжыць пуп на грабёнке, штоб рукадзельніца была, і атсюль тры валаскі, вяжэць пуп, штоб вумны дзіцёнак быў. І тады дзеўку ўматываець у пялёнкі. Жэнскія рвалі рубашкі. Хлапечую рубашку рвуць, уматываюць дзевачку, штоб любілі хлопцы. А ў мужчынскую первы раз не ўматываюць дзевачку, штоб мужыкоў не любіла. А хлопца павітуха бабіць, на кніжцы пуп рэжыць, штоб граматны быў. Кніжку любую бралі. А ў старыну — Біблію. (Ад групы жанчын в. Бяседавічы Хоцімскага р-на.)

Штоб дзіцёнак не хварэў — дома ета дзелалі — абвязвалі яго рушніком. Выцяруць так па целу. Як хрысьцішся правай рукой — так і рушнік павязвалі на грудзях справа — налева. Тады панясуць, павесяць на крыж... (Ад С. С. Самусевай, 1925 г. н., в. Добрыч.)

Ад чорнай балезьні зьнімуць з крыжа рушнік, абвяжуць вакруг пояса, тры дні пабудзя не зьнімаючы — тады назад нясуць на кладбішча. Радзі балезні так робяць. (Ад В. К. Лукомскай, 1921 г. н., в. Бабічы.)

## ЖНІВЕНЬ

**2 жніўня.** *Ілля*

Стараліся да Ільлі ўсё жыта зжаць. Калі хто не справіўся, сабіраліся ўсёй талакой, памагалі. Жыта ўбралі, тады ячмень убіраюць. Як усё ўбрана, лён дзёргалі. Як лета цёплае — лён дзьве нядзелі ляжыць, як халоднае — цэлы месяц. Ка-

стру ў печы палілі. Поскані пралі, пяньку пралі з канопляў. (Ад Г. Р. Грынько-вай Г., 1922 г. н., в. Неглюбка.)

Дзелалі «сонца» нейкае. Дзелалі засьцілачку. Усьцілалі так вот возьлі адна-го участка, а тады — і возьлі другога… Кажды так сабе дзелаў. «Ляжы, лён, улягайся, да ў сонца углядайся», — помню, матка казала… Саграбуць лён, тады і «сонейка» ета возьмуць, саграбуць. ( Ад М. В. Пернікавай, 1922 г. н., в. Селянін.)

А як лён ужо бяруць, дык к месячку ідуць і пяюць…І як жа бралі. Дзень жа пагода, дык сыплюцца галовачкі. Дык устаюць рана, шчэ цёмна, дык ідуць і бяруць, пакуль сонца ўсходзе. Узойдзе сонца, прыходзяць, пад'ядзяць, і пойдуць авёс жаць. А тады болей сонца падымецца, бягуць на сена. А тады ўжо зайшло сонца — зноў ідуць дамоў. Прыдуць, убяруцца там, ската накормяць і ідуць на лён. К месячке ідуць на лён. Ні было ні дня, ні ночы… (Ад Н. Ф. Журба, 1925 г. н., в. Дубраўка.)

**6 жніўня.** *Дзень св. Барыса і Глеба*

Хлеба-Бориса — за серпа берыса. Бо время жать. (Толстая, 1995.)

**14 жніўня.** *Макавей*

На Макавея лён свяцілі...

Кросны сьняцца к сплетням. (Ад В. А. Кавалёвай, в. Неглюбка.)

Палатно сьніцца — ета дарога, длінная, бальшая. Сіцац купляць, палатно — тое самае. Кросны — сплетні. Рушнік — дарога. (Ад Ф. Р. Валчковай, зап. у Ветцы.)

Ручнік сьніцца — ета дарога. Сухі ручнік, сухоя палаценца — харашо, проста дарога. Як мокры ручнік — ета сьлезавая дарога, з плачом кудысь ехаць пападзе. — Калі сьніцца посьцілка? (**Л. Р.**) — Сьветлая — кажуць: пісьмо ат кагось будзя. Ці скацерка на стале, ці платкі, так ета, кажуць, к пісьму, будзе ат родственьніка. Цёмная — ета што-та пячальнае. Кросны ткаць — сплетні. Белыя цьвяты, розы, мой галубок, ета — харашо. Прасьць ува сьне, шыць, вышываць — ета тожа харашо: сухоя ўсё. (Ад Г. Я. Суднека, 1937 г. н., в. Казацкія Балсуны.)

**28 жніўня.** *Першая Прачыстая. Успенне. Пачатак мясаеду (ад 28 жніўня да 27 лістапада)*

Во палатно, ілі снованае сукно, ілі зь лёну аснова, а патом ткуць шэрсьцю. А тады зваляюць сабе. Сьвіткі, армякі шылі — з чахлом, што коней пасьцілі. Андаракі валеныя, чорныя, цёмна-сінія. Красных не было. Былі оўцы чорныя — іх не нада было красіць. Красяць — кіпяцяць ваду, сыпяць краску. Як шэрсьць — льюць расол бураковы. Закіпела — сыпяць краску, адзежу кладуць. У Чачэрск хадзілі пешкі — за краскай, да вайны, на ярмалку і ў магазін. Другая Прачыстая і Первая — у Чачэрску быў «Красны торг», і пасьля Новага года, у первае васкрысеньне. Я езьдзіла на кані. На «Красным таргу» прадаваліся сундукі, дзежкі, кадкі... Езьдзілі на Панаса — 31 январа. Быў базар на Другую Прачыстую — 21 сенцябра. Кароў прадавалі. Сьвіньней прадавалі. Палатно прадавалі. З-за Сажа прывозілі на базар прадаваць усё дзеравяннае. (Ад С. І. Лашкевіч, 1927 г. н., в. Рудня.)

У маткі мёрлі дзеці. Яна й гаворя: «О Госпадзі!». Выткала будзённік, павесіла на Прачыстую. Во цэрква была ў Літвінавічах. Была Прачыстая — ікона. Век не забуду. Матушка-пакойніца як прыдзе туды, і плача, і плача... А тады ўжо нясуць і вешаюць аброчныя. Вот сабяруць дзевак, дзевак дзевяць, звечара. Нападуць, аснуюць і выткуць. Штоб да пеўняў выткалі. Выткуць яго, панясуць уночы, шчэ да пеўняў к калюзе. Як зімой — папяруць, высахне, і тады павесяць. Ці калі во... зімой, мароз ні мароз, лёд высякуць, штоб там памыць, і тады што — прынясуць яго скарэй. Грубку натопяць, пакачаюць на качалках. Вот высахне... а ужо вутрам рана паследні певень пяе, тады нясуць будзённік той і вешаюць...



*Экспедыцыя ў в. Неглюбка. Успамінаюць узоры тканых «платкоў». 2004 г.*

Бяруць дзіцёнка з сабой, і дзіцёнак тады вешае будзённік на Прачыстую. (Ад Е. Л. Ігнаценка, 1912 г. н., в. Літвінавічы.)

**31 жніўня.** *Флор і Лаўр*

На Храла і Ягор'я ня ткуць і ня пашуць — гаварылі беларусы на Смаленшчыне. (Лозка, 1993.)

**ВЕРАСЕНЬ**

Пранікамі насеньне білі. Лён вязалі ў кулі, у копань вязьлі. Па дзьве жардзінкі клалі наверх. Дзьве нядзелі ў копанях ляжыць, тады выцягнуць. Калі памыецца, умякне — вязуць у поле, пасьцеляць. Як улежыцца — дзьве, тры нядзелі — патруць. Еслі лён трэцца — улежыўся, сабіраюць у кулі, вязьмы круцяць. Каноплі ляжаць тры нядзелі. К Міхайлу пяньку і каноплі пазьбіраюць. (Ад В. А. Кавалёвай, в. Неглюбка.)

Бралі лён, слалі ў пакот, штоб трохі паляжаў. Лён бралі і вязалі… галоўкі паадбіваюць. Пранікам тады білі. Тады ўжо мачылі, у рэчцы мачылі, нядзелі дзьве, ці болей ляжаў. Мокры слалі. Тады апяць падбіралі. Слалі, у бані сушылі, мялі, тады трапалі… (Ад В. І. Герасіменка, в. Неглюбка.)

Пришла осень, начинают терти лен мялками. Я это делала сама. Начинаешь мять лен, сушить этот лен. Сначала, когда его обмолотили, лен выстилают на росу, там, где был сенокос. Там его расстилают рядками. И он лежит 7 недель. Лежит, потом его поднимают и начинают мять. Мять начинают, когда картошку покопают, когда все перебрали, копцы закопали. Когда все поделали, тогда начина-

ют браться за лен. Стерли этот лен. Потом сушат на печке или в печке, чтобы он высох. Потому что, когда он сырой, он жуется, а кострица от него не отлетает. Значит, его надо высушить хорошенько. Потом измять. Получается волокно. Но в волокне остается кострица. Тогда были такие досточки с ручечками, и треплешь его. Колено красное-красное левое. Бьешь по нему, треплешь его. Держишь жменьку и вытрепливаешь. Это все кострица отлетает, остается тонкое хорошее волокно... После трепания лен вычесывают деревянными гребнями. Вычесывают все, где было неровное волокно. Остается ровненькое волокно, как в косе волосы, такое ровненькое. Потом это идет на самое тонкое, на самое хорошее полотно. (Паводле В. Ф. Чатырка, 1925 г. н., в. Пясочная Буда.)

**21 верасня.** *Нараджэнне Прысвятой Багародзіцы, Другая Прачыстая. Багач — старажытнае свята заканчэння ўборкі зерневых*

Калі віхор ідзе, трэба чырвоную стужку з «барады» зьняць і кінуць яе ў віхор. Тады ён перастане круціць. (Ад В. І. Раманавай, 1944 г. н., в. Покаць.)

Эта культура ў нас завецца каноплі. У пасеве два роды: мужчынскі і жаночы. Каноплі сеіш, так з яго бярэш семяно — эта называецца пянька. Ана зрэе, іх раньшэ пралі, як Прячыстая, посьле Прячыстай. Дажэ замаразкі былі, так пралі. З пянькі плятуць вярёўкі, вожкі. А посканьні — эта ужэ мужскі род. Тыя бралі перад. Напрымер, у Спасаўку бралі, у аўгусьце. Бярэш у жменьку, з іх аж пылок горкі такі. Эта посканьні. Там семяна няма. Эта адно сеіцца. Бубкі адны, а расьце пянька і посканьні. Посканьні — тыя раньшэ бяруць, бяруць на валакно. Раньшэ шылі мужчынам штаны... з посканьней. А пянька — семяна бралі... з етага і сеялі. З посканьней валакно танейшае было. (Ад Г. Я. Суднека, 1937 г. н., в. Казацкія Балсуны.)

Тады ўжо было так — дзеці — пры сабе ж усі, сыны і дочкі. Дочкі замужам пайдуць. Дак у адным сяле жэняцца ўсі, да. Такая ўжо сьвякруха… Сын жэніцца — на штаны палатна. Ета — дзядзькам там, дзевярям. Залоўкам — ета ўжо рукавы строчкай абматуюць, рукавы, на адну рубашку. І абматаюць строчкай — як маладой — так там галнай ці краснай, стараватай — зялёнай ці сіняй. Ужо, знаць, стараватая — дак краснае ж не гадзіцца. А маладым і краснай… А дзевярям — ета на штаны палатна адпрядаюць, да на сарочку — са свайго палатна. — З посканей ці льняное? — Лён. З посканей не дарылі, усё — лён, штоб жа ж луччае ўсё.

Я ў санапрядку пряла. Зьбіраліся ў той хаці, хто пусьцця. Пускалі так: пуд жыта і бульбы два пуды за то, што мы як начном ад Другія Прячыстые… туды сабірацца, так як халодна і кончым — на Загавіны, што на Пост загаўляюцца, зіму мы там сакрушаімся. Як перясьпіш, пойдзіш дамоў… ізноў туда, у тую хату. І па дзьвенаццаць душ, і па трынаццаць. У хаце — такая во лаўка, на адной сьцяне, і на другой сьцяне доска. А тут такія пальніцы пакладзеныя. У тых досках пабітыя дзіркі на грябені — утыкаць... Грэбянь — само сабой, кудзеля — само сабой. Кудзелю — ета зьдзелана — й прывяжуць, а грэбянь — ета мычаць. Бяруць, напрымер, жменьку і мычаць. І тады грябёнкай пагрябуць, і яно выходзя вон роўненька, пряменька, і прядуць. Хто ў санапрядку, хто — у веряцяно… Сядзім так, пакуль зрумімся. Гармонь будзя йціць, пройдзя чэраз сяла, хлопцы папрыходзяць усі… Сяло ж наша было бальшоя — дзевяцьсот двароў. А гармоняў жа было… Хлопцаў было многа. Усё пакуль пераскачым — столькі й прялі. Такая была й пряжа наша… Толькі ўсё роўна сабіралісь уместа. Песьні пелі ўсякія, прыгожыя, не такія, як етыя… Лампа была керасінавая, дзесяты номер была. Падвесяць сярёд хаты яе, ну, і керасін жа харошы, яно было відна. А шыць, як ужо й та пятніца, напроціў пятніцы не прялі, с пятніцы не прялі, а толькі шылі. Садзяцца кругом, сьцеляць што сабе, каб сесьць — юбку ці што, лампу ету спускаюць і шыюць кругом. Сарочкі шылі, вышывалі…

Во, тады ж аглоблі… Атпрягуць калёсы, садзяцца, шыюць на аглоблі на тые… Як абрэмянная, штоб не садзілася ў аглоблях, на калёсах. На парозі штоб

ні стаяла, бо як ідзі — перясігай… І штоб пучкі — пучкі ж — была забалаць, на шыю вешалі, штоб на шыю не вешала, і клубка не клала (у падол. — **Л. Р.**), — ета штоб дзіцёнак не закручаваў пупавіны, і штоб не абматаваўсь клубкамы. Ета малодцы так прыказывалі. (Ад Чварковай Е. П., пас. Ляда.)

## КАСТРЫЧНІК

**11 кастрычніка.** *Іван Канаплянік*

Быў такі дзень — Іван Канаплянік, ета ў акцябрэ. Каноплі ж былі, поскані бралі. Малоцім каноплі, да й памочым, да й тком. Дзярюгі тком з канапель. (Ад В. І. Кавалёвай, 1931 г. н., зап. у Ветцы.)

Ну, а я знала, калі я радзілась. Я радзілась дзевятага акцябра ў пятнаццатам гаду. Мне матка сказала, калі я радзілась, — ета Іван ёсьць Канаплянік: «Ты радзілась, мая дачка, на Івана, на Канапляніка»… Чысло то знаю… (Ад Чварковай Е. П., п. Ляда.)

**14 кастрычніка.** *Пакроў*

Прялі ат Пакрова. Пакроў як пройдзе, начынаюць ляны мяць, насажываюць у бані. Толькі лён абаб'юць, тады яго сьцелюць дзе на лузе... а хто моча. Каторыя хочуць, штоб чорны быў лён — сьцеляць, а каторыя белы — мочуць. Нядзелю яго памочаць, выцягваюць, расьцілаюць, штоб прасох. Павяжуць у вязанкі. Пройдзе Пакроў, пачынаюць лён мяць, памнуць, патрэпяць. Ат Родзіч прадуць, снуюць і ткуць. (Ад М. Д. Сальнікавай, 1922 г. н., в. Казацкія Балсуны.)

…Бог хацеў вывясьць Іуду, штоб ён пайшоў за ім, з ада вывясьць усіх етых, штоб грэшныя не былі людзі. А ён жа ні пайшоў за Ім! Ну, вот Ён і сказаў: «Чаго ні каешся ў грахах? Ах, ты, пракляты, чаго ты медліш, чаго ні каішся ў грахах? Ці ты ні верыш, што Я ў цібе ёсьць Пакроў?..» (Ад Веры Яўхімаўны Патапнёвай, 1919 г. н., пас. Чамярня.)

За дзень — адну цэўку на самапрадцы напрадалі. З матавіл — у клубкі. Бывала, снавалі з матавіл. Снавалі ніткамі небялёнымі. Абальеш кіпятком аснову, кладзеш у ражку. Аснову плялі ў пляцёнку. Зьнімаюць аснову ўдвох, завязвалі. Ражка вядры на два, чугуны два грэюць вады, льлюць на кросны. Ураньні залівалі, стаялі дзень і ноч у вадзе. Назаўтра вылівалі, давалі, каб сьцякла вада. Тады надо часы тры праць пранікамы. Пралі дома, расьцілалі на палу. Пралі... учатырох, упяцёх. Мост памыюць, кой-чым засьцелюць і пяруць — доўга, штоб жа яны ўвапраліся, а не папраўшы, іх жа не вытчэш: будуць ніткі распаўзацца хлоп'ямі. (Ад А. С. Дударавай, 1920 г. н., в. Казацкія Балсуны.)

Мне кросны мае надаелі. Удзень гной пайду вазіць на кані, а ўвечары, нанач, трэба прасьці. Прадзеш да поўначы, нада і ноччу прасьць. Час прасьпіш, а тады ўставай, у печы тапі. (Ад П. А. Гарбузовай, 1921 г. н., в. Бабічы.)

Пралі на грабяні. Што астаецца па той бок грэбня — хавалі. Лякарственны... Парылі — ат нарываў. Заварывалі кіпячонай вадой і прыкладывалі ці апускалі ногі. (Ад В. С. Прыходзька, 1930 г. н.; В. Р. Прыходзька, 1936 г. н., п. Гібкі.)

Да вайны… напрадзеш — за пяць кілаграмаў пяць рублей плацілі, у гасударства здавалі пражу. Хлоп'ям пралі. (Ад Н. Д. Канузэлевай, 1918 г. н., в. Бабічы.)

Кудзелю на пралцы не астаўлялі, дапрадалі, штоб ні аставалася. Аснову на дварэ, барані Божа, не астаўлялі, сырасць на дварэ, пашкодзіць. Прыўрочывалі, штоб усё даткаць к празьніку, на празьнік кросны ні астаўлялі. На бальшыя празьнікі — на Паску, на Благавешчаньне стараліся даткаць. (Ад Ф. Р. Валчковай, зап. у Ветцы.)

Пралі па восені і лён, і воўну. Пралі ў любы дзень. У суботу з абеда пралкі хавалі — начынаіцца Сьвятая субота. У нядзелю не пралі. Вучылі прасьць з 11—12 гадоў. Ткаць вучылі з 7—8 гадоў.

Хто гаварыў «часаць», хто «абдзіраць» воўну. Пралі атдзельна белую і чорную, поразнь. Тады снавалі — на вуліцы на сьценцы ў хаці былі кружкі, ці ў хаці ў каго. Метраў шэсьць — такой дліны. Марына ходзя, снуе, парачкамі, ніткі 4—6 белых, 6 — чорных. Ткалі. Сукно ў Чачэрску красілі. Там жылі жыды... Можна было красіць проста і пад прэс. Проста красіць было дзешавей. Рулонамі сукно прыносілі дамоў... Марачка ткала бальшымі клеткамі, у сонавы цвет, такі вот — што-та срэдняе между сінім і фіялетавым. Ой, у Марачкі быў красівы андарак!

У дамашніх условіях можна было дзелаць пад прэс. Пяклі хлеб. Складывалі камлёт (шарсцяная жаночая спадніца. — **Л. Р.**), мацерыю — як плісіроўка, складуць у гармоньку, засьцеляць палаценца наверх. А тады хлеб гарачы клалі на палаценца. Чатыры круглыя булкі якраз умяшчаліся на ўсю дліну камлёта. Ляжаў хлеб, пакуль ні астыня.

У Покаці насілі камлёты. І андаракі тожа былі. Камлёты былі чорна-красныя. Кофтачкі былі з краснага саціну, унізу зацягвалі рызінку ці шнурок. Кофтачкі насілі пад напуск.

Баба мая брала ў цэркаў сьмяротную адзежу, штоб грахі ачышчаліся. Брала ў вузялочку. Сама спавядалася і адзежу асьвячала. (Ад Ф. Р. Валчковай, зап. у Ветцы.)

Паярак — з маладых авец — самая луччая воўна. Авечка з зімы да восені ходзя — тую воўну бралі на андаракі, на палатно, на валенкі. Авечка старая перазімуя — тая воўна не ідзе ў валку. Вясьнянка, якую стрыгуць вясной, самая плахая шэрсьць. Восеньская і паярак — самая луччая. Авечак стрыжэ і мужчына і жэншчына. (Ад В. К. Лукомскай, 1921 г. н., в. Бабічы.)

А то вот позна, хоць у тры часы, ну якія-небудзь прычудні палучаяцца. Бывае. У нас у Гарадку было, малые шчэ калі былі, расказывалі. Пряла маладзіца на такую вот кудзелю. Сядзіць возьлі вакна, прядзе. Колькі яна пряла, хто іе зная. «Ну вот, дапряду ету кудзелю» Так, кажа, ёй вясла веряцён, сьвязаных, — порь у вакно, во, у ета, у сьцякло. Тое, адхілена сьцякло, і веряцёна, вясла ета — сюды. Пака, кажа ні дапрядзеш усё, спаць ні ляжыш. Дак яна, кажа, добря, што ні расьціралася. За ета верацяно, і нітку вывядзя, дзьве, моць-моць — на веряцяно, і — бах. Другоя возьмя, другое веряцяно, моць-моць, нітку вывядзя, і — бах. На етыя веряцёны ніткі па дзьве, па тры наматала. Пасьледняя калі наматала, так, кажа, ёй з-за вакна падаецца голас: «Шчасьліва, што дабрала. А то б я цібе правучыў». Ну, яна спужалася, кінула і прялку, і ўсё. Смалу клалі на комінак і палілі тады. Яна, кажа, і смалу тую кінула, і ўсё, пабегла тады спаць. — Хто ж то быў? (— **Л. Р.**) — Ну, які-то невідзімяц ёй прэдставіўся. (Ад В. У. Давыдзенка, 1925 г.н., в. Казацкія Балсуны.)

## ЛІСТАПАД

### Памінальная субота

**2 лістапада.** *Дзяды*

Са скалькі гадоў адзенне для таго свету гатуюць? — Нада, што б усягда адзежа была гатова, бацюшка так сказаў. З маладых гадоў. Младзенцы паміраюць?! Ты, можа, сёньня ходзіш, а заўтра можаш памерці. І табе абы-што надзенуць. А можа, табе не нравіцца ета адзёжа. Адной жэншчыні адзелі чулкі шарсьцяныя. Яна сасьнілася: «Зачэм вы мне адзелі шарсьцяныя чулкі? Мае ногі ў шэрсьці». Есьлі б яна загатовіла сабе адзежу, і ўсё было б добра. І адной красные тапкі абулі. І яна тожа сасьнілася. І гавора: «Хаджу, як бусел. Нашто вы мне тапкі красные абувалі?..» Бачыш — ета кажыцца так, што як пакладуць, так і добра. Ажны — не. Нада гатаваць сабе адзёжу. У міне ўжо даўно — гадоў дваццаць адзёжа ляжыць. Нагатавала ўсё сабе, і просьценькае. Шаўкі не нада класьці на той

сьвет. Рубашачка начная просьценькая. Плацьцейка якое-небудзь. Вот сацін ілі лён — прастоя. Ні нада шаўкі. Шаўкі — яны з чарвей дзелаюцца… з усякага такога. Цяпер іскусьцьвеннае ўсё. Ні нада такога. А нада — простае, што на полі расьце. Лён, хлопак, сіцец… такое. Нада ж, калі чалавек памірая, кладуць льняны кусок у гроб, ліцавой стараной к верху, на дно гроба. Тады пакойніка кладуць…

…Посахам, посахам указаў ува сьне. Я падышла, уродзі к цэркві пашла, у царкву нашу халецкую. І кнігі ляжаць, кнігі, кнігі… І ён падышоў, і палачкай паказаў на еты знак (застаўка ў кнізе ? — **Л. Р.**). Я думала: што за знак… к чаму еты знак? А тады думаю: дай-ка я на той старане пагляджу. Адкрыла, а тут — малітаўка! Ета ўся кніга харошая. У ёй такая Божжая сіла сядзіць, што я ні знаю!!!

Я за свайго бацьку пачытала са сьлязамі на каленцах усю, панімножачку, па сваёй сілі, адну главу. Тут дваццаць глаў — кафізьмаў. Я адну главу пачытала, і тут — такія сьлёзы! Як жа мне мой бацька сьніўся: ідзе, — а ён жа ж быў багахульнік, мой бацька. І сьніўся, што « — Я ні ў Бога», сьніўся. А тады сьніцца: ідзе мой бацька такі вясёлы! Як на бацюшку падобны, толькі што ў бацюшкі рыза… Украшана — галубая лента, і розавая, украшана, нанізу. Ідзе мой бацька, вясёлы такі. Во… А адна жэншчына гаварыла, што за матку пачытала. Можна за жывых, можна за усопшых, за каго хочыш чытай. За матку пачытала. Прыходзіць, кажа, матка, адзёжа на ёй аж блішчыць. А яна кажа: «Ма, хто цібе так адзеў?» — «А ета міне Царыца Нябесная так адзела»... Купі сабе такую кнігу. У царства ўвойдзіш з такой кнігай. Будзіш чытаць, чытаць… Слаў Царыцу Нябесную і прасі за сібе, за дзіцей, за усопшага. Толькі — за аднаго каго маліся ат начала да канца. У міне было дзьве кнігі — я адну падарыла… 1883 года выпуску. (Ад Марыі Дзянісаўны Параевай, 1939 г. н., в. Хальч Веткаўскага р-на.)



*Матрона Цітаўна Еціпнёва, в. Барталамееўка. «Ляльку», зробленую ёй, пахаваюць пазней у жыце. 1989 г.*

Слалі нямёткі ў гроб, на самы ніз… На правую руку хустку ў дамавіну клалі — як ручнік, выцірацца на тым сьвеце. Адзеньне трэба браць няношанае, ненадзяванае. Як надзенеш ношанае — урагі падзяруць усё на шматкі, а так — не прыступяцца. Хустку — можна завязаць на галаву тую, у якой на прычашчэньне хадзілі… Платкі давалі тым, хто будзе маліцца. Як у хату ўвойдзе хто на абед (калі ў хаце — нябожчык. — **Л. Р.**), трэба сьвечку даць запаліць, платок даць. На 40 дзён платкі таму даюць, хто чытае.

Ад чорнай балезьні зьнімуць з крыжа ручнік,

абвяжуць кругом пояса, тры дні пабудзя не зьнімаючы, тады назад нясуць на кладбішча. Радзі балезьні так робяць.

Каб вылечыцца ад чорнай балезьні, нада было падлезьць з адной граніцы, мінаецца балезьнь. Там, ідзе мяжа праходзіць паміж палямі. — сваім і чужым. У шасьцідзесятых гадах адзін чалавек так рабіў, палягчэла яму трохі. Пералаз рабілі между Малінаўкай і Глухаўкай. З чужога поля на сваё нада было тры разы перdesignerлезьць. Падкоп дзелалі. На чужым полі адзеньне кідаў паношанае, абы-якое адзяваў для таго, а з сабой браў добрае. Пераадзяваўся ўжо тут, на сваім. Два разы той чалавек пералазіў — да ўсходу сонца і да захаду.

Нехрышчоным тожа ручнік вешаюць. Вешай усё... Гасподзь дзіцёнка асвабаждае, як матка памрэ. А так — ён у цемнаце да таго часу, пакуль матка не памрэ. Як памрэ — грахі к ёй пераходзяць. (Ад В. К. Лукомскай, в. Бабічы.)

Пасьвяцу паску і хаваю палаценачка тое пасьвяцонае. Чысьцянкае ж яно. Я паску ўсегда кладу і пасьвяцаю ў ёй. А тады прыношу, бацюшка ж пасьвеце, яно мокрае. Я яго прасушу, сьціраць не сьціраю. Яно у мяне ляжыць прасушанае для ўсякага случая. Ат дамавога, есьлі ў дварэ непарадак. Здаецца ўсякае там у хаце... Вот нада эта палаценачка, і атрэзаць з цэлае булкі акрайчык хлеба, і туды солькі ў сяродак утаптываць, і на ета палаценачка пасьвяцонае, і нагаварываць: «Добры вечар (добрае утра)! Вот, ты, мой дамавой, жыві радам са мной, жыві ж ты ўмесьце. Абходзься каля маёй скаціны і каля сям'і па чэсьці. А калі ж ты — чужы, насыльны, так ідзі к яму пагуляй, да ў іх на дварэ і ў хаце паганяй, а ў маём дварэ не бывай!» І, есьлі ат скаціны, у сараі клалі на бальку, а як жа — сям'ю, так класьць нада ў хаце, на Куце, дзе стаяць іконы. (Ад Еціпнёвай М. Ц., в. Барталамееўка.)

**10 лістапада.** *Параскева. Пятніца*

Радзіла мяне мая мамачка
у няшчасны дзень, шчэ у пятніцу,
Сьпілінала мяня мая мамачка
у пялёначкі, у шаўковыя,
і ў тры поясы, у траповыя,
укрывала мяня мая мамачка
ўсё ад ветрыку і ат дождзіку...
Да не ўкрыла мяня мая мамачка
ат няшчаснага ат замужэйка,
ат нялюбага ат падружэйка.

(Ад Еціпнёвай М. Ц., зап. у Ветцы.)

В цей день святкують лише жінки — не прядуть, не шиють, не золять і не розчісують волоссе. (Скуратівський, 1993.)

У пятніцу не пылі, не зялі. У пятніцу не пралі... не жлукцілі. У пятніцу шылі. (Ад В. С. Прыходзька, 1930 г. н.; В. Р. Прыходзька, 1936 г. н., п. Гібкі.)

Па пятніцах усё дзелалі, но не пралі. Маталі цэўкі... лён часалі, абдзіралі — прасьць. Сёньня дзевятая пятніца. У тую — дзясятая — абракаліся людзі, служылі, як даждзю не было. А есьлі прасьць? Гасподзь даець прызнак, убытак не самой, так парасёнку. (Ад М. Л. Марозавай, 1925 г. н., в. Стаўбун.)

Па пятніцах не пралі. Не хацелі Мацерь Божжай пыліць. Звалася так... Толькі не прялі, а шыць шылі. З лёну нельзя была (прасць. — **Л. Р.**). Мычку мыкалі, загатаўлівалі на сьледуюшчую нядзелю. Грэбень стаіць, і на яго надзелываець, штоб прясьць было. А патом пазаматаюць іх столькі, штоб на ўсю нідзелю хваціла, мяшок поўны. Зь лёну (па пятніцах. — **Л. Р.**) не пралі. Воўну толькі пралі, з авец. Авец стрыглі. Так воўну можна, а лён — не. (Ад П. Н. Максіменка, 1913 г. н., в. Казацкія Балсуны.)

Прасьць можна ці нільзя было — прадзеш, стараешся, дзяцей многа было. Прадзеш і ўдзень, і ўвечары, і ўноч прадзеш. Былі дні, калі прасьць нільзя бы-

ло — у празьнікі. У пятніцу можна. Толькі нада посная есьць. У Пост пачынаюць ткаць. (Ад П. В. Лешчанка, 1931 г. н., в. Літвінавічы.)

У сераду шыюць. У пятніцу шылі — сарочку, ткалі. У нядзелю — не. (Ад В. А. Кавалёвай, в. Неглюбка.)

У нас по пятницам пряли. У нас в субботу вечером... уже все. Баба самопрядку за грубку сховала, или накрыла ее, или вынесла в сенцы. Если в сенцы вынесла, то уже в воскресенье вечером она ее вносит в хату. Потому что она будет утром до света, на рассвете подымется и будет прясть, а холодная самопрядка плохо прядет. Значит, надо, чтоб она прогрелась. (Паводле В. Ф. Чатырка, 1925 г. н., в. Пясочная Буда.)

У суботу ні качалі на качалцы — штоб конь ні заваліўся, штоб карова ні завалілася. Ёсьць Чацьвер Сухі, калі нічога нільзя садзіць, замачаваць. (Ад П. А. Цімонінай, 1910 г. н., в. Крутое Кармянскага р-на.)

Мы хадзілі нанач на хвацеру. Сем дзевак нас хадзіла. Дак пад пятніцу хто вяжа, хто вышывае, кругом лампы садзімся, толькі вышывалі. А прясць ніхто не праў. Прясць у пятніцу нікагда не прялі. (Ад М. Р. Куляшовай, 1924 г. н., в. Пабеда.)

**11 лістапада.** *Настасся*

На прысвятак Настусі пачыналі стрыгчы авечак. (Васілевіч, 1993.)

**14 лістапада.** *Кузьма-Дзям'ян*

Последнiй выдающийся народный праздник, не лишенный мифологического значенiя — это Козьмы и Дамьяна 1-го ноября. ...Кажется, не может подлежать сомненiю, что св. Козьма и Дамiан в народном представленiи сохранили черты древних индусских близнецов Асвинов. Козьма и Дамiан не только врачи... но в то же время они, подобно Асвинам, соединяют любящiе сердца, покровительствуют свадьбам... (Кіркор, 1882.)

**15 лістапада**

Обминали коноплю и лен. (Некрылова, 1989.)

Костачка атпадае ад кастрыцы, калі лён мнуць… (Ад Н. І. Грыньковай, п. Ляда.)

**21 лістапада.** *Міхайла*

Не рубаем ни тапаром, ни нажом, ни красён не тком, што б ни абидиўся Михаил. Только кушать да посидеть можно. (Толстая, 1986.)

**27 лістапада.** *Загавіны на Пілiпаўку*

Куделица — первая неделя прядения в Филиппов пост. (Некрылова, 1989.)

Першы дзень и ў пост не прадуть, и ў Пилипаўку. Казали, што чэрви будуть. Як рана будзе на товари, на худобине — то чэрви будуть.

Прэдуть люди ўсю Пилипаўку, а ўжэ да Крышчэння — нэ прадуть. До Михайла трэба одные кросна вуткать, а другие ў Пилипаўку, а трэтьи — з Роздва ў мясоед, а чацвёртые — у пост.

Пэрэд Пилипаўкай на деды, як не прадзеш, оставиш кудель на потуси, то придэ Пилип, насэрэ, намарае, наложыт у кудэлю. Быў дид таки Пылип, пагубиў ўон свои волы, покинуў и искал 6 нэдэль. «Вот, — говорыт, — як я найду свои волы, буду постица». Уон заложыў пост... (Толстая, 1986.)

Кросны ставілі ў Піліпаўку, Мясоед, Вялікі Пост. К Калядам убіраюць кросны, цераз дзьве нідзелі ставяць зноў. Стаяць кросны на Масьлянай у хаце — па 2, 3 кроснаў. Саяны ткалі ў Вялікі пост, рушнікі — у пост. І ўлетку ткалі — кросна пад палатно (лён), скацеркі. У рад усі ткуць. Снавалі і ў пост. Паясы плялі летам на дварэ, зімой — у хаці. Пляла адна жэншчына. (Ад Фяськовай А. К., в. Заляддзе.)

Пасьцілкі ў доме, вытканыя Вуллянай Іванаўнай Кавалёвай. Узоры: «абтыканы сад», «балонка» (— **Л. Р.**). Усё — «абтыканыя сады», яны мне панравілісь… Зялёныя і красныя — гаряшчые «чаўначкі»… Нада, штоб жа ж падходзіла — зялёнае і краснае, а ета — галубое і сіняе… Пасьцілка мая «зьвёздамі» ёсьць у музеі… Тут — «сад чаўнакоў». «Куряняткі» — жоўцінькія, сьветла-жоўцінькія, цьвет нітак так называлі. — Чым тчэш? — «Куряняткамі». Салатавыя былі ніткі, зеленкаваценькія… (Ад В. І. Кавалёвай, пас. Ляда.)

У пост (Піліпаўку) пер'е дралі. Вышывалі ў пост. Карункі дзелалі. Смарчкі былі — бутылачка маленькая. Керасіну наллеш, туды трапачку пакладзеш — і гарыць. Смалу паложым на камінок. Лапці вязалі з нітак, са зрэб'я ільнянога. (Ад Бажаевай Л. С., 1929 г.н., в. Залаўе Чачэрскага р-на.)

## СНЕЖАНЬ

**6 снежня.** *Матрыхваны*

Дзень, вольны ад прадзення ў піліпаўскія вечары. Матрыпан у Піліпаўку празьнікуюць, штоб не прасці. (Лозка, 1993; Толстая, 1986.)

**9 снежня.** *Юры халодны*

На Юрыя ні пралі, ні вышывалі. (Ад Н. Д. Канузэлевай, в. Бабічы.)

**12 снежня**

Мама вучыла прасьць, пела. Ета штоб не драмала, як кудзелю прадзеш:

Ты не сьпі, Дрэма,
не драмі, Дрэма,
ты прачнісь, мая кручына.
Да палажу Дрэму ў зеляном саду
да пад ігрушаю спаці,
а сама ж пайду, маладзенькая,
на ўсю ночачку гуляці.

Кіну кужаль на паліцу,
сама пайду на вуліцу.
Пушчай кужаль мышы рубяць,
пушчай мяне хлопцы любяць.
Кужаль мышы парубілі,
мяне хлопцы спалюбілі.

(Ад Еціпнёвай М. Ц., Ветка.)

**19 снежня.** *Мікола зімовы, Мікольшчына*

Я была на «Сьвячэ «Мікола». Ета «Сьвяча» такая была ў Антонаўцы. Я ж во і аддавала рушнікі пераносіць. Вот моляцца ў адным домі. І другая захоча. Вот я абракнулася, я і забрала к сабе. Дак пераносяць мужыкі ікону, а не жэншчыны, мужыкі нясуць «Сьвячу». І на етым рушніку даўжны несьць, патаму што ета рушнікі ўсе пасьвяцоныя, у царкве сьвяціліся. Ні пасьвяцонага рушніка табе дажа ні дадуць к «Сьвячэ». І вот тады на етым рушніку нясуць. Прынясеш вышываны: «Не! — кажа, — еты не пайдзёт, еты не пасьвяцоны. Нада толькі на пасьвяцоным». (Ад В. К. Казаковай, 1. 11. 2002 г. зап. у в. Свяцілавічы Веткаўскага р-на.)

Не ткалі на Міколу, на Міхайла, на Раство, на Васільле… Мудрэй за ўсё панёвы ткаць. Каторые — так ткаць: у шэсьць нітоў і дзьве доскі. Снаваць трудна на панёву. Сарочак у каждай жэншчыны было па пяцьдзесят —тканых, вышываных. (Ад Грыньковай Г. Р., в. Неглюбка.)

Я была бірэмянная. І пара было іціць мне на базар парасёнка купіць. Зімні Мікола быў. Я тады ўзяла мяшок, пагляжу — дзірка. Узяла да зашыла тую дзірку. І радзіўся у міне сын. Тут во, на плячах — як патыкана іголкай. І ціпер у яго ета ё. Такая во прымета мая, сама зашыла ў еты дзень. Як радзіўся — мета ёсць на плячах. (Ад Л. М. Хутарцовай, 1912 г.н., в. Студзянец.)

...Аборку толькі адзін раз падпірязаеш на фартуку... Коўш — пад пояс, коўш падтыкаеш, пад фартук. А там — штоб быў хвосьцік пасерядзі... Падтыкалі вуглом панёвы. Як дзеўкі — так кароцінька ету панёўку насілі. Калісь малые... у скрыні найдзіш панёву... Коўш жа еты вісіць ня дзюбкай, а лоўка, перягнуць нада. Калышкі ж нада аставіць... Бывала, як харашо зьдзелаіш ету панёву, — дак прыгожа, і калышкі стаяць, і ўсё, і галубовы хвартук падчэпяць, да шчэ строчак да занізак навешаюць — дак ідзець як куплёная лялька!

...Нямётак етых было да радзімца да вайны, да трыццаць трэцьцяга году было. У трыццаць трэцім званы ськівулі, цэркаў шчэ стаяла... Так нямётку насілі старыя. Маладыя ж не насілі. Мы калісь малые завязывалі, усё вучыліся платкі завязываць...

Даўжны з-пад карсета тарчэць махры, а былі швівы ўжо, насьцілкі... Усё ж чорным, прыгажэнныя, ета ў маладых баб. Як яна бярэмянная, і ў запіні тады дажа пойдзя жаць. Там і зьдзене. — Калі народзіць — ужо не насіла запіну. Да зачым? Насіла. Карсет вабшчэ не зашчэплівалі старыя, так хадзілі, зашчэпяць зьверху, і ўсё. (Ад Чварковай Е. П., пас. Ляда.)

**22 снежня.** *Дзень св. Ганны*

Ткалі ўзімку, на Ганны ткалі, прасьць не пралі. (Ад В. А. Кавалёвай, в. Неглюбка.)

**31 снежня.** *Багатая (Шчодрая Куцця)у каталікоў*

Кросны с любога дзерава дзелаюць. Навоі рабілі з клёну, верацёны — з ліпы. (Ад В. А. Кавалёвай, в. Неглюбка.)

Снуеш, у хату хто ўвойдзе: «Памагай Бог, а што засьпеў — то на уток!» Гаварылі так. А другі чалавек увойдзя, падумая плоха... І што ж? Пазьбіраеш, у вуголчыках клубочкі найдзіш, і то не хапае... А то шчэ гаварылі: «Спор у кросны, што засьпеў, то на уток!» І яно ўсё харашо ідзе, як чалавек харошы. Так Гасподзь прыспаряя...

Снавалі ў назначаны дзень. Снавалі ў чацьвер, суботу. У панядзелак, сераду не снавалі. (Ад В. М. Саломеннай, 1932 г. н., в. Неглюбка.)

Верацяно рабілі з клёну. (Ад Н. І. Грыньковай, п. Ляда, зап. у Ветцы 23. 12. 1998 г. Л. Д. Раманава. — ЭМ ВМНТ, сш. 85, с. 31.)

***Падрыхтавала Ларыса РАМАНАВА.***







**Уладзімір КАЗБЯРУК**

# ПЛЁН НАВУКОВАЙ САДРУЖНАСЦІ

Цікавую старонку ў гісторыю беларускай літаратуры другой палавіны XIX стагоддзя ўпісала такая самабытная паэтэса, як Зоф'я Тшашчкоўская (Адам М-скі, дзявочае прозвішча — Манькоўская). Нарадзілася яна ў невялікім маёнтку Дарагавіца (сёння — гэта Капыльскі раён Мінскай вобласці). З беларускай мовай, якую сама яна ў адным з лістоў называла «нянькай дзіцячых гадоў», прыйшлі да яе песні і паданні нашага народа. Служыць гэтаму народу мастацкай творчасцю яна лічыла сваім свяшчэнным абавязкам.




Мінск-Варшава, 2004 г.

У 2004 годзе ў Варшаве выйшла з друку падрыхтаваная ў Мінску і Варшаве кніжка «Адам М-скі. Зоф'я Манькоўская. Цяпер і назаўсёды. Вершы». З'явілася яна пад грыфам дзвюх аўтарытэтных установ — Інстытута славістыкі Польскай акадэміі навук і Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Укладанне і падрыхтоўку тэкстаў ажыццяўляў Юрась Гарбінскі (ад імя Інстытута славістыкі), а рэдагаваў беларускія пераклады Уладзімір Мархель (прадстаўнік Інстытута літаратуры НАН Беларусі). Практычна ён і ажыццяўляў падрыхтоўку беларускамоўнай часткі зборніка. Усе творы паэтэсы, а таксама прадмова «Алтар яе душы», напісаная Ірынай Багдановіч, Юрасём Гарбінскім і Уладзімірам Мархелем, з'явіліся на польскай і беларускай мовах. Польскія вершы пясняркі на беларускую мову пераклалі Ірына Багдановіч і Уладзімір Мархель. Адну паэму пад назвай «Фрагмент» пераклаў Серж Мінскевіч. (Зацікаўлены чытач памятае яго як аднаго з перакладчыкаў паэмы Адама Міцкевіча «Дзяды».) Наогул якасць паэтычных перакладаў з польскай на беларускую мову заслугоўвае добрай ацэнкі. Усюды перакладчыкі захоўваюць колькасць радкоў арыгінала, а таксама змест і ў нейкай меры асаблівасці паэтычнага светабачання аўтара. У кнізе рэцэнзія кракаўскага аўтара Яна Пракопа змешчана на польскай, а беларускага даследчыка

---

*__Казбярук Уладзімір Міхайлавіч__ нарадзіўся 29 жніўня 1923 года ў в.Бандары Беластоцкага ваяводства (цяпер Польшча). Скончыў філалагічны факультэт БДУ. Працаваў выкладчыкам у школах. Вучыўся ў аспірантуры пры Мінскім педагагічным інстытуце імя М. Горкага. Кандыдат філалагічных навук.*

*Выдаў шмат манаграфій і кніг па творчасці Якуба Коласа, а таксама па праблемах беларускага параўнальнага літаратуразнаўства і славянскіх літаратурных сувязяў. Перакладае з польскай. Актыўна выступае ў перыядычным друку з крытычнымі артыкуламі.*

Міхася Тычыны (аднаго з кіруючых работнікаў Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАНБ) — на беларускай мовах.

На суд чытача выносіцца найбольш поўнае выданне паэтычных твораў Адама М-скага. Кніга ўключае таксама каментарыі (аўтары Ю. Гарбінскі і У. Мархель), а завяршаецца алфавітным спісам вершаў. «Беларускую малітву» Адама М-скага на польскую мову пераклаў Аляксандр Баршчэўскі. Што ж датычыць перакладаў самой паэтэсы, то яны друкуюцца на той мове, на якой былі зроблены, — або на беларускай, або на польскай.

Перш за ўсё хочацца звярнуць увагу на адну акалічнасць. У літаратуразнаўчых працах і іншых публікацыях называюць паэтэсу па-рознаму. Для польскіх аўтараў яна Адам М-скі — такім псеўданімам сама яна падпісвала свае творы на працягу ўсяго жыцця. Тут выкарыстоўваецца імя бацькі і скарочаная форма яго прозвішча Манькоўскі. У навуковых працах і энцыклапедычных выданнях яна вядомая як Зоф'я Тшашчкоўская. Гэта — яе прозвішча па мужу. Для некаторых беларускіх аўтараў яна перш за ўсё Зоф'я Манькоўская. Можна сустрэць і трансфармаванае яе ўласнае прозвішча — Трашчкоўская. У польскім літаратуразнаўстве Манькоўскай яе не называе ніхто ні ў энцыклапедыях, ні ў зборніках, дзе публікуюцца яе творы, ні ў даследаваннях. Сама пяснярка сваім прозвішчам па мужу не падпісвала сваіх твораў ніколі. І польскія чытачы пры яе жыцці не ведалі, хто хаваецца пад такім загадкавым псеўданімам Адам М-скі.

Наколькі заканамерным з'яўляецца амаль асноўнае выкарыстанне яе дзявочага прозвішча беларускімі аўтарамі? Думаецца, што гэта не зусім апраўдана. Тут неабходна ўсё ж такі ўлічваць перш за ўсё той псеўданім, якім яна ў сваёй творчасці карысталася сама, хаця было ў яе ўласнае прозвішча па мужу. І можна называць яе рэальнае прозвішча, якое яна сабе выбрала, выходзячы замуж. Так, як гэта робяць польскія аўтары.

Зацікаўлены чытач, якому кніга «Адам М-скі. Зоф'я Манькоўская. Цяпер і назаўсёды. Вершы» акажацца даступнай, упершыню атрымае магчымасць так блізка пабачыць усе паэтычныя здабыткі Зоф'і Тшашчкоўскай. А гэта істотна ўзбагачае наша ўяўленне пра беларускае літаратурнае жыццё той эпохі наогул. Не будзем забываць, што паэтэса жыла і тварыла ў беларуска-польскім літаратурным асяроддзі, расла пад апекай Уладзіслава Сыракомлі, падтрымлівала творчыя кантакты з Вінцэсем Каратынскім, Янкам Лучынам, прыкладвала намаганні для ажыўлення літаратурнага працэсу на нашай зямлі. Актыўная творчая і арганізацыйная дзейнасць такіх людзей, як Зоф'я Тшашчкоўская, Вінцэсь Каратынскі, Альгерд Абуховіч, Аляксандр Ельскі, Янка Лучына, пераканаўча сведчыць аб тым, што творчасць Францішка Багушэвіча — бацькі беларускага Адраджэння — была з'явай невыпадковай і адпавядала надзённым патрабаванням той эпохі.

Пра жыццё і творчы лёс пясняркі чарговы раз я пісаў нядаўна ў часопісе «Полымя» (2003, № 11), і тут паўтарацца няма патрэбы. А сам зборнік заслугоўвае таго, каб да яго аднесціся больш уважліва. Адкрываецца ён вершам Уладзіслава Сыракомлі «Святая Зафія», прысвечаным юнай сваячцы. Пра гэтую падзею сама паэтэса скажа ў лістападзе 1871 года ў лісце да Вінцэся Каратынскага: «Надышоў дзень маіх імянін, і дарагі мой пясняр перадаў мне напалавіну жартаўлівую, напалавіну чулліваю песеньку». Гэтая песня нагадвае нейкім чынам папулярную «Санта Лючыя». Словы «санта» значыць «святая».

Уступны артыкул «Алтар яе душы» пачынаецца кароценькай інфармацыяй аб працах польскіх аўтараў пра творчасць Адама М-скага. Тыя чытачы, што пажадаюць больш уважліва пазнаёміцца са спадчынай паэтэсы, атрымаюць карысныя арыенціры. Праўда, тут не згадваецца Багдан Жыранік, аўтар «Нарыса беларускай літаратуры» (1921 год, часопіс «Przymierze» — «Пагадненне»). А гэта ён паведаміў: «...З надзвычайнай лёгкасцю адчувае беларускую душу

наш паэт Адам М-скі (Зоф'я Тшашчкоўская). Яго беларускія песні поўныя свежасці і сапраўднай жаночай (у найбольш узвышаным сэнсе гэтага слова) любові да ўсіх, хто пакутуе, каго прыгнятаюць і крыўдзяць. Нягледзячы на бясспрэчную арыгінальнасць твораў М-скага, мы знойдзем у іх водгукі паэзіі ўсіх тагачасных паэтаў Белай Русі. (На жаль, беларускія творы М-скага дагэтуль нідзе не друкаваліся.)»

Такая каштоўная інфармацыя ў свой час накіравала мяне на пошукі ў польскіх архівах звестак пра Адама М-скага — Зоф'ю Тшашчкоўскую. У 1970 годзе мне яшчэ ўдалося наведаць у Варшаве самога Багдана Жыраніка. Але ў яго, на жаль, не захавалася ніякіх дакументальных матэрыялаў. Затое ў архівах удалося адшукаць яе карэспандэнцыю і беларускамоўныя вершы, якія пасля гэтага аказаліся даступнымі нашаму чытачу. А калі б не нарыс Багдана Жыраніка, то зусім невядома, колькі яшчэ дзесяцігоддзяў давялося б чакаць, пакуль спадчына паэтэсы трапіла б з небыцця да тых, хто ёю мог бы і павінен быў зацікавіцца.

Паэтычная спадчына Адама М-скага складае змест трох раздзелаў: I. Вершы і паэмы. II. З рукапіснай спадчыны. III. Пераклады і наследаванні. Творчасць яе — інтэгральная частка жывога, багатага, шматаблічнага літаратурнага працэсу той эпохі — і польскага і беларускага, а не з'ява выпадковая, адасобленая. Тут можна нагадаць, што «Беларускую малітву» паэтэса напісала пад уплывам папулярнай песні Карнэля Уейскага «Харал» і што сама яна перакладала на беларускую мову творы Яна Чачота, Марыі Канапніцкай, Тэафіля Ленартовіча.

Звернем яшчэ ўвагу на такі прыклад — вельмі характэрны і паказальны. Да верша «Над магілай Дэльфіны», апублікаванага ў часопісе «Głos» («Голас»; Варшава, 1897, № 50), зроблена аўтарская прыпіска: «На вясковым цвінтары мне прыгадаўся твор «Магіла Агамемнана» і адначасна перад вачыма пачалі паўставаць трагічныя жыццёвыя лёсы, схаваныя ва ўбогіх магілах. Мне здавалася, што ёсць шмат балеснай іроніі ў іх скаргах, выказаных формаю каралеўскай песні Славацкага, таму яе і выкарыстаў».

У нашым зборніку зусім не гаворыцца, што такое «Магіла Агамемнана», што гэта за «каралеўская песня Славацкага» і чаму робіцца спасылка на гэты твор. Сэнс заўвагі не растлумачваецца, і звычайны чытач практычна не зразумее, пра што тут вядзецца гаворка. А тут ёсць над чым падумаць і пра што паразважаць.

«Магіла Агамемнана» — VIII частка паэмы Ю. Славацкага «Падарожжа ў Святую Зямлю». Верш Зоф'і Тшашчкоўскай, таксама як і твор Ю. Славацкага, напісаны шасцірадковай паэтычнай страфой — секстынай, аднолькавым паэтычным памерам. Дзве першыя секстыны Славацкага канчаюцца словамі: «Jak mi smutno!» — «Як мне тужліва», а ў вершы «Над магілай Дэльфіны» ўсе 8 секстын маюць вось гэты самы канчатак. Аднолькава тужлівая інтанацыя абодвух твораў. Перажыванні ў адным і ў другім выпадку звязаны з пачуццямі, народжанымі наведваннем магіл, але тэматычна творы, можна сказаць, не пераклікаюцца. У Славацкага мы бачым сумны роздум над гістарычным лёсам роднай краіны, а ў Адама М-скага — пакутлівыя перажыванні ў сувязі з трагічным лёсам людзей, якія знайшлі там вечны спачынак. Затое не менш праніклівымі перажываннямі, звязанымі з небывала складанымі гістарычнымі падзеямі на працягу многіх стагоддзяў, прасякнуты іншы твор паэтэсы — цыкл санетаў «Стары Двор».

Пры аказіі варта нагадаць, што Агамемнан — міфалагічны цар Мікен, правадыр грэкаў у Траянскай вайне, адзін з галоўных герояў «Іліяды» Гамера, герой трылогіі Эсхіла «Арэстэя» (першая частка трылогіі — «Агамемнан»).

У вершы «Над магілай Дэльфіны» заўважаецца яшчэ і асацыяцыя са славутай «Одай да маладосці» Адама Міцкевіча. Міцкевічаўскі радок «Młodości! Orlich ty lotów potkga...» пакінуў свой след у радку: «Та — orlich lotów wyïynk zawrotną...»

У сувязі з разглядам верша «Над магілай Дэльфіны» просіцца яшчэ адна заўвага. У беларускім варыянце каментарыяў польскае «Z niewieściej doli» перакладаецца як «З долі нявесткі». А павінна быць «З жаночай долі», таму што польскае «niewiasta» значыць «жанчына».

Паколькі гаворка тут ідзе пра шырокі літаратурны кантэкст паэзіі Зоф'і Тшашчкоўскай, то можна яшчэ звярнуць увагу на верш „Калыханка» (1897), дзе робіцца спасылка на Самасьеру — выпадак не адзіны ў польскай літаратуры той пары.

Мне быў калыскай цёмны бор
І спеў ваяцкіх слоў,
Дасюль ім сэрца грае ўтор
І ў такт бруіцца кроў.
Бабулін спеў я чую зноў,
Ад Самасьеры гор,
Дасюль у такт бруіцца кроў
І грае сэрца ўтор.

У вершы адчуваецца водгулле падзей, перажытых самой паэтэсай. «Спеў ваяцкіх слоў», якім «сэрца грае ўтор» і «ў такт бруіцца кроў», не маглі не быць навеяны ўсім тым, што яна бачыла і перажыла, калі разам з мужам прымала ўдзел у руска-турэцкай вайне на Балканах.

У беларускім варыянце каментарыяў да верша «Калыханка» мы чытаем: «*Самасьера* — перавал у гарах Сьера дэ Гвадаррама на дарозе з Пургоса да Мадрыду; у 1808 г. яго не магла ўзяць пяхота Напалеона, і толькі польская кавалерыя, у складзе якой былі таксама беларусы і ліцвіны, пад камандаваннем генерала Вінцэнта Красіньскага, бацькі паэта Зыгмунта Красіньскага, з вялікімі стратамі пераадолела іспанскую абарону на перавале».

Беларускі варыянт кардынальна разыходзіцца з польскім. Там правільна называецца горад Бургас, а не Пургос. І няма там гаворкі пра «вялікія страты» і пра генерала Вінцэнта Красіньскага. Ён і сапраўды ваяваў у 1808 г. у Іспаніі, але Самасьеру штурмавалі кавалерысты Яна Казетульскага. Гэта яго згадвае Марыя Канапніцкая ў вершы «Цясніна Самасьеры».

Тая ж самая Самасьера, хоць і не называецца, але згадваецца ў V санеце з цыкла санетаў Адама М-скага «Стары Двор»:

Шляхецка-ратайскі люд, твае тут правіцы
Зямлю берaглі, крывавяць дагэтуль раны,
Знаў вораг далёка твае мячы і прылбіцы!
Знаў Грунвальд, Кірхольм і Хоцім, зналі ігліцы
Гішпанскіх гор, пустыні і акіяны,
Абертын, Жоўтыя Воды, Мацеявіцы…

«Ігліцы гішпанскіх гор» — гэта не што іншае, як Самасьера. Грунвальд, Кірхольм, Хоцім, Абертын — мясцовасці, якія праславіліся бліскучымі перамогамі польскіх войск. Затое ж цяжкімі паражэннямі закончыліся бітвы пад Жоўтымі Водамі (у вайне з Багданам Хмяльніцкім) і Мацяёвіцамі (тут ранены Тадэвуш Касцюшка трапіў у палон, і так закончылася паўстанне пад яго кіраўніцтвам).

У санетах усплываюць шматлікія знамянальныя падзеі з далёкай і больш блізкай гісторыі Польшчы праз пералік гарадоў і мясцовасцей, якія праславіліся перш за ўсё бліскучымі перамогамі ў шматлікіх бітвах, а некаторыя — і паражэннямі. У каментарыях паведамляюцца звесткі аб тых гістарычных падзеях. Аднак аўтары — не ўсё далі рады заўважыць і тут растлумачыць. У творы сустракаюцца не толькі «ігліцы гішпанскіх гор», але ёсць і радкі такога кшталту:

Канцамі крыл сваіх злучаючы два моры,
Арліца Пястаў прытуляе улюбёна
Пад іх, як маці, ўсе тут роды і плямёны,
Якім братэрства, вольнасці ўзыходзяць зоры.

Такой у мастацкай сістэме вобразаў перад вачыма чытача паўстае гісторыя Польшчы першых стагоддзяў мінулага тысячагоддзя, асэнсоўваецца і падаецца гісторыя нараджэння дзяржаўнага герба Польшчы — арла. Шматзначным з'яўляецца і радок: «Канцамі крыл сваіх злучаючы два моры». Быў час, калі Рэч Паспалітая расцягвалася ад Балтыйскага да Чорнага мора. «Арліца Пястаў» — белы арол на чырвоным полі — становіцца гербам дынастыі Пястаў у другой палавіне XII—XIII стагоддзях і дзяржаўным гербам краіны.

Апошні, VII санет, прыцягвае асаблівую ўвагу чытача сваёй спробай знайсці нечаканае падагульненне пранікнёнаму роздуму над амаль тысячагадовай гісторыяй роднай зямлі. Пасля стагоддзяў славы, перамог і росквіту наступіла пара заняпаду, пакут, пахавальных харалаў, галашэнняў, калі ў нябыт сышлі героі вялікіх спраў. Гэта — лейтматыў VI санета. Але затым наступіла эпоха адраджэння, надыход якога абвясціў Прарок, пра што мы даведваемся з санета:

І Ён прыйшоў, нібы жывыя ліры струны,
Крануўшы пальцамі, як вешч, нагробак роду.
І адчыніліся ключом Прарока труны,
І выйшаў кожны вязень смерці на свабоду.
Устаў, як Лазар, пульс жыцця пачуўшы тлумны,
Зірнуў вакол, як дужы леў, пястун прыроды,
Як не стрымаць пасля дажджу імклівасць водаў,
Палёт стралы, што ўмела лук пусціў бясшумны,
Так не стрымаць магутны Дух, што адрадзіўся
На тым шляху, дзе скрозь паразы…

Прозвішча Прарока не называецца. Затое ж у двухкоссі падаюцца яго вешчыя словы: «Літва! Мая Айчына, ты нібы здароўе!» Гэта — першы радок найслаўнейшай паэмы «Пан Тадэвуш». І такім чынам мы даведваемся, што гэта Адам Міцкевіч адрадзіў «магутны Дух» «на тым шляху, дзе скрозь паразы».

Нягледзячы на сваю бясспрэчную самабытнасць, на ўсе адрозненні, «Стары Двор» па сваім змесце пераклікаецца з «Магілай Агамемнана» Ю. Славацкага, хоць і не запазычвае адтуль нічога.

Вельмі важна і каштоўна тое, што ў каментарыях да канкрэтных вершаў называецца і прымаецца пад увагу аўтарская першапублікацыя мастацкіх твораў Зоф'і Тшашчкоўскай. Аднак жа сустракаецца ў іх і з'ява, якая не можна не выклікаць здзіўлення. У той час, як польскамоўныя публікацыі называюцца дакладна і выразна, пра беларускія вершы паэтэсы ні ў каментарыях, ні ва ўступным артыкуле не сказана, дзе, калі і кім яны былі ўпершыню апублікаваны ў беларускім друку. Ёсць толькі такая інфармацыя: «Паэтычная творчасць Зоф'і Манькоўскай — гэта неацэнны набытак беларускай і польскай літаратур канца XIX — пачатку XX стагоддзя. Пасля сямідзесятых гадоў XX ст., звязанага з адкрыццём яе верша «*Беларуская малітва*», напісанага па-беларуску, і яе перакладаў на беларускую мову твораў Марыі Канапніцкай, Тэафіля Ленартовіча, Яна Чачота, а таксама са з'яўленнем публікацый біяграфічнага характару, яна ўвайшла ў кантэкст гісторыі беларускай літаратуры канца XIX ст., яе імя з'явілася на старонках хрэстаматый па беларускай літаратуры». Аўтар каментарыя абяцае назваць гэтыя хрэстаматыі, адсылаючы чытача да зноскі. Там, аднак, усяго толькі робіцца спасылка на біябібліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменнікі». А ва ўступным артыкуле памянёная інфармацыя працягваецца наступным чынам: «Новае адкрыццё Адама М-скага як яскравай па-

этычнай з'явы беларуска-польскага культурнага сумежжа адбылося ў сярэдзіне дзевяностых гадоў, калі была падрыхтавана да выдання анталогія польскамоўнай паэзіі Беларусі XIX стагоддзя «*Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай*», дзе былі змешчаны некалькі перакладаў яе твораў, у тым ліку паэма «З жыцця і тугі»... Тут ужо ў зносцы паведамляецца прозвішча таго, хто здзейсніў «новае адкрыццё». Гэта — У. Мархель, укладальнік, аўтар прадмовы і каментарыяў зборніка. А таксама асноўны аўтар (як прадстаўнік Інстытута літаратуры) прадмовы «Алтар яе душы» да зборніка паэтычных твораў Адама М-скага.

Наогул жа каментарыі даюць надзейнае ўяўленне аб складанасці пошукаў у польскіх архівах і перыядычным друку далёкай ад нас пары, аб тым, якую вялікую работу давялося ажыццявіць у працэсе падрыхтоўкі збору паэтычных твораў Зоф'і Тшашчкоўскай. Кожны яе верш звяраўся або з прыжыццёвымі публікацыямі ў перыядычных выданнях, або з аўтографамі, што патрабавала адпаведных пошукаў у польскіх бібліятэках і архівах. Гэтая частка работы выпала на долю Юрася Гарбінскага.

У польскіх архівах захавалася яшчэ багатая эпісталярная спадчына Адама М-скага. Яна заслугоўвае бясспрэчнай увагі таму, што ў ёй зберагліся цікавыя звесткі пра жыццё і лёс самой пясняркі і пра тое асяроддзе, у якім яна жыла. Гэтая спадчына рыхтуецца да друку — таксама ў Варшаве. Пасля яе выхаду ў свет даследчыкі атрымаюць унікальную магчымасць аналізаваць творчасць паэтэсы з улікам усіх асаблівасцей яе ўласнага лёсу і грамадскага жыцця той гістарычнай эпохі.





# МЕТРЫКА

*літаратурная*

**480**

гадоў таму (1525) выйшла першае ва ўсходнеславянскім свеце выданне **«Апостала»**, перакладзенае на беларускую мову Францішкам Скарынам.

Адбываючы службу лекарам і сакратаром у віленскага біскупа, Францішак Скарына ў 1520 годзе заснаваў там друкарню і адэптаваў, пракаменціраваў і надрукаваў «Апостал».

**470**

гадоў таму нарадзіўся **Базылік** Цыпрыян (1535? — пасля 1600), дзеяч культуры на Беларусі, паэт, перакладчык, кампазітар, кнігавыдавец.

**445**

гадоў таму нарадзіўся **Рысінскі** Саламон Фёдаравіч (1560?—1625), паэт, філосаф, этнограф, педагог, вучоны-фалькларыст. Пісаў на лацінскай мове.

Родам з вёскі Рысін на Пскоўшчыне. На пачатку XVII стагоддзя быў прыдворным паэтам князёў Радзівілаў. Выдаў «Дзве кнігі пісьмаў Саламона Пантэра», у адной з якіх зрабіў пераклад вершаў А. Рымшы на лацінскую мову. З'яўляецца аўтарам «Кароткага пераказу спраў, здзейсненых Крыштофам Радзівілам...» з вершаваным апісаннем падзей Лівонскай вайны 1558—83 (Любча, 1614). Вынікам амаль трыццацігадовай збіральніцкай дзейнасці стаўся выдадзены ім у 1618 годзе (1854 — восьмае выданне) зборнік «Польскія прыказкі...», у якім С. Ф. Рысінскі параўнаў 1800 мясцовых беларускіх прыказак з лацінскімі, нямецкімі, італьянскімі ды інш., а таксама з выказваннямі-выслоўямі антычных і сярэдневяковых аўтараў. У 1983 годзе ў Беларусі выйшла кніжка Я. Парэцкага «Саламон Рысінскі» (на жаль, на рускай мове).

**325**

гадоў таму нарадзіўся **Трубніцкі** Юрый (1680?—1747), магілёўскі летапісец.

**265**

гадоў таму (1740) быў створаны **Нясвіжскі тэатр Радзівілаў**. Існаваў да 1792 г. Паказы адбываліся ў спецыяльным будынку — «камедыхаўзе» ў суправаджэнні Нясвіжскай капэлы Радзівілаў, а таксама ў прадмесці Нясвіжа Альбе пад адкрытым небам у «зялёным тэатры» і ў палацы «Касаляцыя». Ставіліся камедыі, трагедыі і оперы Уршулі Радзівіл, перакладзеныя і перароблены ёй творы Мальера, Вальтэра. У 1753—62 гадах М. К. Радзівіл Рыбанька папоўніў трупу акцёрамі, стварыў музычную, вакальную і балетную школы і аркестр народных інструментаў. Тэатр набыў прафесійны характар і стаў прыдворным, выязджаў у Слуцк, Белае, Жоўкву, Алыку. Пры К. С. Радзівілу Пане Каханку ў складзе тэатра былі драматычная група акцёраў, група італьянскіх спевакоў. Ставіліся балеты Дж. Пуціні, оперы Дж. Паізіела, Я. Д. Голанда, К. В. Глюка ды інш. З 1786 года працаваў нерэгулярна.

**255**

гадоў таму нарадзіўся **Князьнін** Францішак Дыянізы (1750—1807), беларускі і польскі паэт, драматург, перакладчык.

**205**

гадоў таму нарадзіўся **Масальскі** Юзаф Ануфрыевіч (1800 — пасля 1840), польскі пісьменнік, член таварыства філаматаў, удзельнік паўстання 1830 — 1831 гг.

Родам з Белічанаў пад Бярэзінаю. Вучыўся дома, пасля — у езуітаў у Магілёве, Полацкай акадэміі і Віленскім універсітэце. Пэўны час быў гувернёрам Ю. Славацкага. У 1823 годзе быў арыштаваны за прыналежнасць да таварыства філаматаў, здадзены ў салдаты. Служыў на Валыні. За ўдзел у паўстанні сасланы ў Сібір.

Выдаў двухтомнік «Poezje» (Вільня, 1827—1828). На беларускую мову перакладаўся У. Мархелем («Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай», Мн., 1998).

**205**

гадоў таму нарадзіўся **Ходзька** Дамінік Цэзары (1800—1863), літаратар, фалькларыст, этнограф.

**115**

гадоў таму нарадзіўся **Дарашкевіч** Янук (Іван Канстанцінавіч;1890—1943), беларускі паэт.

Родам з вёскі Меляшкі на Беласточчыне. Вучыўся ў роднай вёсцы і ў суседнім мястэчку Гарадок, дзе, дарэчы, пасябраваў з аднагодкам С. Пяцельскім, будучым паэтам М. Арлом. Разам з ім скончыў царкоўна-настаўніцкае вучылішча ў Ялоўцы. Настаўнічаў. У 1913 годзе ажаніўся і пераехаў на жыхарства ў Літву. Першыя вершы надрукаваў у газеце «Наша Ніва». У 1914 годзе быў мабілізаваны ў царскую армію. Пасля грамадзянскай вайны вярнуўся на Бацькаўшчыну, але неўзабаве пераехаў у СССР. Быў кадравым вайскоўцам. Служыў у Варонежы. Пісаў у вольны час вершы і займаўся перакладамі з А. Міцкевіча. Аднак нічога не друкаваў. З Варонежа быў адпраўлены на фронт. Загінуў у баі.

Яго вершы былі заўважаны М. Багдановічам, які ў сваім артыкуле «За тры гады» зазначыў пра Я. Дарашкевіча як пра аўтара, «што маюць палёт і талент, але мала шліфуюць яго». Рукапісная спадчына паэта загінула падчас вайны разам з домам у Варонежы.

**95**

гадоў таму нарадзіўся **Зарэчны** Цімох (сапр. Рублёў; 1910—1944), беларускі празаік.

Значная частка яго біяграфіі невядомая. Нарадзіўся на Случчыне. Вучыўся ў педінстытуце. Выкладаў у Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі беларускую мову і літаратуру. У 1944 годзе выехаў з Нясвіжа ў Польшчу. Па некаторых звестках, загінуў каля Гарадзеі.

Друкавацца пачаў з 1928 года. Выступаў з нарысамі і фельетонамі ў газеце «Савецкая Беларусь». Выйшла ў свет некалькі кніг яго нарысаў і фельетонаў, некаторыя з якіх напісаныя сумесна з С. Ліхадзіеўскім. Пасля паступова перайшоў да мастацкай літаратуры. Напісаў шмат апавяданняў, аповесцей і нават раман «Белы камень», урыўкі з якога публікавала газета «Чырвоная Беларусь». Пабачылі свет і асобныя зборнікі прозы Ц. Зарэчнага — «Маладосць», «Руднянскі пастушок». Пісаў ён і крытычныя артыкулы. Займаўся перакладамі твораў С. Новікава-Прыбоя, Г. Уэлса, М. Сервантэса, Я. Бранеўскага. Пералік, як кажуць, уражвае сваім эстэтычным і інтэлектуальным выбарам.

## ЖНІВЕНЬ

### 1

— **85** гадоў з дня нараджэння (1920) **Бандарчыка** Васіля Кірылавіча, беларускага этнографа. Нарадзіўся ў вёсцы Кірава Слуцкага раёна. Скончыў БДУ. У 1969—76 гг. дырэктар ІМЭФ АН Беларусі. Выдаў кніжкі «Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст.», «Гісторыя беларускай этнаграфіі. Пачатак XX ст.», «Гісторыя беларускай савецкай этнаграфіі», у якіх даследаваў асноўныя тэндэнцыі, кірункі і навуковыя плыні ў беларускай этнаграфіі, гісторыю матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў, вусную этнаграфічную творчасць. Адзін з аўтараў працы «Этнаграфія беларусаў» (1985).

Член-карэспандэнт АН Беларусі, доктар гістарычных навук, заслужаны работнік культуры Беларусі.

### 4

— **60** гадоў з дня заснавання (1945) **філіяла Літаратурнага музея Янкі Купалы** ў Вязынцы.

### 4

— **60** гадоў з дня заснавання (1945) **філіяла Літаратурнага музея Янкі Купалы** ў Ляўках.

### 6

— **165** гадоў з дня нараджэння **Абуховіча** Альгерда Рышардавіча (псеўд. граф Бандзінелі; 1840—1898), беларускага паэта, мемуарыста, перакладчыка.

Нарадзіўся ў Вёсцы Калацічы Глускага раёна. Вучыўся ў Слуцкай гімназіі. Шмат вандраваў па Еўропе. Жыў у Парыжы і Жэневе. Паводле некаторых звестак, удзельнічаў у паўстанні 1863—1864 гадоў. Быў высланы ў Сібір. У сваёй творчасці прытрымліваўся прынцыпаў народнасці, пісаў у рэчышчы крытычнага рэалізму. У байках «Ваўкалак», «Старшына», «Суд», «Воўк і лісіца» прачытваецца сатыра на паслярэформенную Расійскую імперыю, уздымаюцца пытанні пра свабоду чалавека. Пісаў таксама мемуары (публікаваліся ў 1916 годзе). Перакладаў з рускай і заходнееўрапейскіх літаратур. У 1991 годзе ў Мінску былі выдадзены «Творы» А. Абуховіча.

### 7

— **95** гадоў з дня нараджэння **Ермаловіча** Якуба (Якава Сідаравіча; 1910—1987), беларускага празаіка.

Нарадзіўся ў вёсцы Вяшэўка Бярэзінскага раёна. Скончыў Бярэзінскую сямігодку і двухгадовыя педагагічныя курсы ў Мсціславе. Працаваў настаўнікам і літработнікам раённай газеты ў Чэрвені. З 1933 года вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага педінстытута, але ў 1936 годзе быў арыштаваны і беспадстаўна асуджаны. У 1941 годзе прыгавор быў адменены Вярхоўным судом СССР, і ён быў вызвалены з-пад следства. З верасня 1944 года працаваў настаўнікам і завочна займаўся ў Магілёўскім педагагічным інстытуце, які скончыў у 1959 годзе. Друкавацца ў рэспубліканскіх выданнях пачаў з 1931 года. Пісаў вершы і апавяданні, якія друкаваліся ў газетах «Беларуская вёска», «Калгаснік Беларусі», «Звязда», «Літаратура і мастацтва», часопісах «Маладосць», «Беларусь». Выдаў кнігі прозы «Над Бярозай», «Душа чалавека», «Родная зямля», «Твар у твар», «След на зямлі», «Сіняя птушка». Жывучы сярод сялян і вясковай інтэлігенцыі, меў свой адметны почырк і свой падыход да жыццёвых з'яў.

### 7

— **95** гадоў з дня нараджэння **Мальцінскага** Хаіма Ізраілевіча (1910—1986), беларускага і яўрэйскага паэта, празаіка, драматурга. Пісаў на яўрэйскай мове.

Нарадзіўся ў Панявежысе (Літва). Вучыўся ў Віцебскім педтэхнікуме. Скончыў Кіеўскі інстытут народнай адукацыі. Працаваў у яўрэйскіх газетах «Юны ленінец» і «Акцябэр» у Мінску ў 1932—37 гадах. У 1939 годзе працаваў у Пінску ў абласной газеце. З 1940 зноў у Мінску — у газеце «Чырвоная змена». Быў цяжка паранены на фронце падчас Вялікай Айчыннай вайны. Пасля працаваў рэдактарам Беларускага дзяржаўнага выдавецтва і выдавецтва Яўрэйскай аўтаномнай вобласці. У 1951 годзе быў рэпрэсаваны. Рэабілітаваны ў 1956 годзе. З 1960 года зноў жыў у Мінску. У 1975 годзе выехаў у Ізраіль.

У друку выступаў з 1929 года. Пісаў на ідыш. Аўтар шматлікіх зборнікаў паэзіі і драматургіі. Выходзілі кніжкі Х. Мальцінскага і ў перакладах на беларускую мову, у тым ліку і вершы для дзяцей.

**7**

— **95** гадоў з дня нараджэння **Цітовіча** Генадзя Іванавіча (1910—1986), беларускага этнамузыказнаўца, дзеяча харавога мастацтва, дырыжора, народнага артыста Беларусі і СССР.

Нарадзіўся ў вёсцы Новы Пагост Міёрскага раёна. Скончыў Віленскую кансерваторыю. Вывучаў этнаграфію ў Віленскім універсітэце. Працаваў рэдактарам абласнога радыё і кансультантам Дома народнай творчасці ў Баранавічах. У 1939 годзе ўзначаліў адзін з лепшых харавых калектываў — Палескі народны хор (Ляхавіцкі раён). У 1952—1974 гадах — мастацкі кіраўнік створанага ім Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь. Збіраў і вывучаў народны фальклор, запісаў каля 3000 народных песень і танцаў. Аўтар 12 арыгінальных песень на словы беларускіх паэтаў і ўласныя, больш як 60 апрацовак беларускіх народных мелодый («Жавароначкі, прыляціце», «Ой, рана на Йвана», «Рэчанька»).

Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі і Дзяржаўнай прэміі. Народны артыст Беларусі. Народны артыст СССР.

**9**

— **155** гадоў з дня нараджэння **Абіхта** Рудольфа (1850—1921), нямецкага філолага-славіста, аднаго з першых даследчыкаў, перакладчыкаў і папулярызатараў беларускай літаратуры ў Германіі.

Нарадзіўся ў Намыславе ў Сілезіі. З 1900 года прафесар славянскай філалогіі Вроцлаўскага (Брэслаўскага) універсітэта. У 1917—18 гадах выкладаў беларускую мову ў Свіслацкай настаўніцкай семінарыі. Адзін з выдаўцоў беларускага буквара «Просты спосаб стацца ў кароткім часе граматным» (Вроцлаў, 1918). Пры яго садзейнічанні выдадзены зборнік па гісторыі культуры і геаграфіі «Беларусь» (Берлін, 1919).

**9**

— **95** гадоў з дня нараджэння **Геніюш** Ларысы Антонаўны (1910—1983), беларускай паэтэсы.

Нарадзілася ў маёнтку Жлобаўцы Ваўкавыскага раёна. Скончыла Ваўкавыскую польскую гімназію. У 1937 годзе выйшла замуж за ўрача і выехала з ім у Чэхію. У час нямецкай акупацыі пераследавалася ўладамі і заставалася без грамадзянства. Друкавалася ў газетах «Раніца», «Беларускі работнік», часопісе «Новы шлях». У 1948 годзе была арыштавана і пад прымусам прывезена з Прагі ў Мінск, дзе яе дапытваў сам Цанава. У 1949 годзе Вярхоўны суд БССР прыгаварыў паэтку да 25 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Адбывала пакаранне на Поўначы. У 1956 годзе тэрмін пакарання быў зменшаны да васьмі гадоў. Выйшаўшы на волю, пасялілася на радзіме мужа, у Зэльве на Гарадзеншчыне. Там і пражыла да смерці, так і не прыняўшы савецкага падданства.

Пісаць вершы пачала ў 1935, а друкавацца ў 1939 годзе. Асноўныя матывы творчасці — барацьба за незалежнасць Айчыны, услаўленне барацьбітоў за яе волю, ухвала людзей сваёй зямлі і дзіўнай прыгажосці яе прыроды.

Выдала зборнікі: «Ад родных ніў» (1942), «Невадам з Нёмана» (1967), «На чабары настоена» (1982) і дзве кніжкі для дзяцей («Казкі для Міхаські», «Добрай раніцы, Алесь!»). Пасля смерці выйшлі: «Белы сон» (1990), «Споведзь» (1993), «Выбраныя творы» (2000). Архіў змагарнай паэткі перададзены яе сынам у ЦНБ АН Беларусі. Жыццё і творчасць паэткі шырока прадстаўлены ў музеі Гудзевіцкай СШ Мастоўскага раёна.

**14**

— **80** гадоў з дня нараджэння **Міхальчука** Сяргея Апанасавіча (1925— 1995), беларускага празаіка, перакладчыка, заслужанага работніка культуры Беларусі (1972).

Нарадзіўся ў вёсцы Скабін Капыльскага раёна. Сярэднюю школу скончыў у Капылі. З 1944 года быў на фронце і ўдзельнічаў у баях у Польшчы і на тэрыторыі Усходняй Прусіі. Быў цяжка паранены. У 1946 годзе паступіў на журфак БДУ. Пасля атрымання дыплома (1951) працаваў рэдактарам у выдавецтвах (Дзяржаўнае выдавецтва БССР, «Беларусь», «Мастацкая літаратура»). З першымі апавяданнямі выступіў у 1941 годзе. Выдаў кніжкі для дзяцей: «Сто прыгод за адзін дзень», «Паштальён, шырэй крок!», «Зялёны лісточак», «Першы след». Перакладаў таксама з рускай і ўкраінскай моваў.

**17**

— **50** гадоў з дня нараджэння (1955) **Жамойціна** Алеся (Аляксандра Пятровіча), беларускага паэта.

Нарадзіўся ў вёсцы Малахоўка Баранавіцкага раёна. Скончыў Пружанскую сярэднюю школу-інтэрнат. Працаваў слесарам, служыў у СА, быў матарыстам на цеплаходзе «Днепра-Буг». У 1982 годзе завочна скончыў філалагічны факультэт БДУ. Працаваў шмат на якіх работах, пераважна настаўнікам у школах. З 1989 года — загадчык літаратурна-мемарыяльнага музея Ф. Багушэвіча ў вёсцы Кушляны Смаргонскага раёна.

Упершыню з вершамі ў рэспубліканскім друку выступіў у 1981 годзе. Выдаў зборнік паэзіі «Азірнуўшыся — не скамянею» (1989).

Шчыра віншуем спадара Жамойціна з юбілеем, жадаем яму здароўя і творчага плёну на карысць роднай Айчыны!

**19**

— **95** гадоў з дня нараджэння **Жаўрука** Алеся (сапр. Сінічкін Аляксандр Дзмітрыевіч); 1910—1942), беларускага паэта.

Нарадзіўся ў горадзе Сянно Віцебскай вобласці. Пасля школы паступіў у Рагачоўскі педагагічны тэхнікум. Атрымаўшы дыплом, настаўнічаў на Любаншчыне. У 1938 годзе скончыў Маскоўскі інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры імя М. Г. Чарнышэўскага. Займаўся ў аспірантуры пры АН БССР. У 1939 годзе прызваны ў Чырвоную Армію. Быў ваенным карэспандэнтам армейскай газеты. На фронце — ад пачатку вайны. Загінуў 23 жніўня 1942 года пад Сталінградам.

Першыя вершы надрукаваў у 1926 годзе. Выдаў зборнікі вершаў «Ручаіны», «Дняпро выходзіць з берагоў». Напісаў некалькі кніжак для дзяцей у сааўтарстве з А. Ушаковым, які таксама загінуў на фронце на самым пачатку вайны. Удвух жа яны напісалі і лібрэта аперэты «Зарэчны барок».

У 1960 годзе выйшла «Выбранае» А. Жаўрука, а ў 1987 — зборнік «Крывёю сэрца».

**20**

— **125** гадоў з дня нараджэння **Леўчыка** Гальяша (сапр. Ляўковіч Ілья Міхайлавіч; 1880—1944), беларускага паэта.

Нарадзіўся ў горадзе Слоніме. Скончыў там павятовае вучылішча і працаваў пісарам у міравога суддзі, пазней — у каморніка. З 1904 года жыў у Варшаве, працаваў чарцёжнікам у магістраце. Памёр у Варшаве.

З першымі публікацыямі выступіў у газеце «Наша Ніва» ў 1908 годзе. Выдаў зборнік вершаў «Чыжык беларускі» (Вільня, 1912). А вось падрыхтаваны зборнік вершаў «Беларускі жаваранак» выдаць не ўдалося. Друкаваўся ў заходнебеларускіх газетах і часопісах. Яго вершы змешчаны ў «Хрэстаматыі беларускай літаратуры» І. Дварчаніна (1927). У 1980 годзе выйшла кніжка выбраных твораў «Доля і хлеб».

**20**

— **80** гадоў з дня нараджэння **Міцкевіча** Барыса Паўлавіча (1925—1983), беларускага літаратуразнаўца.

Нарадзіўся ў вёсцы Зялёныя Лукі пад Гомелем. У 9-м класе быў эвакуіраваны з маці і сястрой у Свярдлоўскую вобласць. Служыў стралком і камандзірам аддзялення на 2-м Беларускім і 1-м Прыбалтыйскім франтах у 1943—45 гадах. Пасля дэмабілізацыі скончыў філфак БДУ. Вучыўся ў аспірантуры на кафедры замежнай літаратуры. Працаваў выкладчыкам на гэтай жа кафедры. У 1960 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю. З 1966 года быў дацэнтам і загадчыкам кафедры замежнай літаратуры. Першая публікацыя з'явілася ў 1955 годзе. Выдатна ведаў французскую мову. Папулярызаваў творчасць М. Твэна, Р. Тагора, Д. Дэфо, Г. Бічэр-Стоу, Ш. О'Кэйсі. Яго артыкулы публікаваліся ў часопісах «Полымя», «Беларусь», «Литературное обозрение», у зборніках і вучэбных дапаможніках. Распрацаваў і чытаў у БДУ спецкурсы: у цэнтры ўвагі яго дзейнасці былі пытанні гісторыі і методыкі выкладання замежнай літаратуры.

**24**

— **100** гадоў з дня нараджэння **Мардвілкі** Аркадзя Пятровіча (1905—1986), беларускага пісьменніка і перакладчыка.

Нарадзіўся ў вёсцы Языль Старадарожскага раёна. Вучыўся ў Слуцкай гімназіі. Цяга да літаратурнай творчасці прывяла яго ў Мінск, дзе ён стаў неўзабаве членам «Маладняка» і БелАППа. Адукацыю набываў у розных месцах па каліве: на фанетычных курсах новых моў у Ленінградзе, на Вышэйшых курсах новых моў пры Маскоўскім дзяржаўным універсітэце. З 1931 года выкладаў англійскую мову ў Беларускім аўтадарожным інстытуце. Пісаў вершы, а пасля прозу і крытыку. Друкаваўся ў часопісах «Маладняк», «Чырвоны сейбіт». Актыўная дзейнасць А. Мардвілкі на ніве беларускай літаратуры працягвалася да 1932 года, да разгромнага водгуку Л. Бэндэ на яго празаічны рукапіс «Маланчына смерць» (пад псеўданімам Аркадзь Лясны). У 1933 годзе быў незаконна рэпрэсіраваны і асуджаны да трох гадоў пазбаўлення волі. Пасля вымушанага перапынку ў творчай рабоце да беларусазнаўства ўжо не вяртаўся, а займаўся ў далёкім Ташкенце англійскай мовай і рускай лінгвістыкай. З 1960 да 1985 года працаваў там дацэнтам у Рэспубліканскім інстытуце рускай мовы і літаратуры.

**25**

— **95** гадоў з дня нараджэння **Корбана** Уладзіміра Іванавіча (1910—1971), беларускага сатырыка, байкапісца, заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

Нарадзіўся ў пасёлку Барань Аршанскага раёна. Працаваў токарам і адначасна вучыўся ў вячэрняй сярэдняй школе. У 1932—34 гадах служыў у Чырвонай Арміі. Працаваў шмат на якіх пасадах. Удзельнічаў у паходзе Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь. Завочна скончыў два курсы Мінскага юрыдычнага інстытута. У гады Вялікай Айчыннай вайны камандаваў стралковай ротай, працаваў у аператыўным аддзеле штаба дывізіі, удзельнічаў у баях пад Бранскам і Арлом, за вызваленне Беларусі, ва Усходняй Прусіі. Пасля вайны працаваў на заводзе «Чырвоны Кастрычнік». Быў дырэктарам цвікарнага завода ў Лідзе. З 1952 года — у часопісе «Вожык» (у 1967—1971 — галоўны рэдактар).

Першыя байкі надрукаваў у 1946 годзе. Выдаў зборнікі вершаў, баек і фельетонаў «Мы іх ведаем», «Байкі», «З вецярком», «Свінні ў рэпе», «Жук і мёд»,

а таксама зборнікі гумарыстычных апавяданняў «Да цешчы на бліны», «Дзядзькава крыўда». Пісаў вершы і байкі для дзяцей.

**26**

— **75** гадоў з дня нараджэння **Камароўскага** Яўгена Міхайлавіча (1930—1999), беларускага мовазнаўца.

**26**

— **70** гадоў з дня нараджэння **Клімковіч** Святланы Міхайлаўны (1935—2001), беларускага драматурга, празаіка, перакладчыка, крытыка.

Нарадзілася ў Мінску ў сям'і пісьменніка. У 1953 годзе скончыла сярэднюю школу. Вучылася на філалагічным факультэце БДУ. Працавала ў газетах «Голас Радзімы», «Літаратура і мастацтва». З 1972 да 1974 была рэдактарам часопіса «Народная асвета», а з 1977 года адказным рэдактарам бюлетэня «Тэатральны Мінск».

Упершыню надрукавала сваё апавяданне ў часопісе «Работніца і сялянка» ў 1969 годзе. Яе апавяданні, нарысы і казкі друкаваліся на старонках часопісаў «Беларусь» і «Маладосць». Аўтар п'ес «Дар ляснога цара», «Балада пра белую вішню», «Казка пра цара Юрыка і каваля Рымшу» ды інш. Перакладала з рускай і польскай моў. Аўтар лібрэта «Дзікае паляванне караля Стаха», інсцэніроўкі для беларускага тэлебачання па п'есе В. Дуніна-Марцінкевіча «Пінская шляхта».

Многія творы С. Клімковіч звязаны з гісторыяй і гераічным лёсам беларускага народа, ім уласцівыя вобразнасць, фантазія, псіхалагізм, шчырасць і эмацыянальнасць.

**31**

— **90** гадоў з дня нараджэння **Казекі** Янкі (Івана Дарафеевіча; 1915—2000), беларускага крытыка і літаратуразнаўца, заслужанага работніка культуры Беларусі.

Нарадзіўся ў вёсцы Кострычы пад Бабруйскам. У 1931 годзе скончыў Любоніцкую сямігодку і паступіў на вячэрняе аддзяленне Бабруйскага лесатэхнікума. У 1938 годзе скончыў літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута. Працаваў настаўнікам. З 1939 да 1954 служыў у арміі. У 1941 годзе ў баі пад Ельняй быў цяжка паранены. З 1942 года быў армейскім палітработнікам і выкладчыкам у ваенных вучэльнях. Пасля дэмабілізацыі — у рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва». З 1957 да 1967 года працаваў галоўным рэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР (пазней «Беларусь»). З 1967 года ў Галоўнай рэдакцыі БелСЭ. Першую рэцэнзію на кніжку С. Знаёмага «Біяграфія майго героя» надрукаваў у 1935 годзе. Крытычныя артыкулы, рэцэнзіі, літаратурныя партрэты, нарысы — важнейшыя жанры літаратурнай дзейнасці Я. Казекі. Аўтар шматлікіх манаграфій, кніжкі «Кузьма Чорны: Старонкі творчасці», зборнікаў літаратурна-крытычных артыкулаў «З невычэрпных крыніц», «Натхненне і майстэрства», «Голас часу» ды інш. Найбольш глыбокае асвятленне атрымалі яго работы, звязаныя з творчасцю Я. Коласа, К. Чорнага, І. Мележа, В. Віткі, А. Кулакоўскага. Прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і выданні аўтабіяграфій пісьменнікаў «Пяцьдзесят чатыры дарогі», «Пра час і пра сябе», «Вытокі песні». Адзін з арганізатараў пры стварэнні БелСЭ.

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі за ўдзел у выданні БелСЭ у 12 тамах (1976).

***Аўтар рубрыкі Леанід ГАЛУБОВІЧ.***



## *Паважаныя чытачы!*

*Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва», якая выпускае часопіс «Полымя», з-за аб'ектыўных прычын не пастаўляе свае выданні ў кіёскі і магазіны УП «Белсаюздрук» у абласцях. Таму раім чытачам і аўтарам афармляць падпіску ў паштовых аддзяленнях сувязі. А падпісныя цэны на «Полымя» наступныя:*

***індывідуальная (індэкс — 74985) на 1 месяц — 3500 руб., на 3 месяцы — 10500 руб.; ведамасная (індэкс — 00141) на 1 месяц — 4500 руб., на 3 месяцы – 13500 руб.; льготная (індэкс – 00727) на 1 месяц – 3700, на 6 месяцаў — 22200 руб.***

*У Мінску часопіс «Полымя» можна купіць як у кіёсках, так і ў магазінах УП «Мінгарсаюздрук». Нерэалізаваныя праз кіёскі і магазіны горада выданні пасля двух месяцаў з даты выхаду перадаюцца ў магазіны па наступных адрасах:*
*№ 3 — пр. Незалежнасці, 76, тэл. 232-46-23;*
*№ 8 — вул.Сурганава, 40, тэл. 232-45-10;*
*№ 15 — вул. М.Танка, 16, тэл. 284-31-06;*
*№ 18 — падземны пераход на пл. Перамогі, тэл.284-31-06*

*Нагадаем, што ў выпадку неабходнасці ўдакладніць наяўнасць патрэбных вам нумароў часопіса ў гандлёвых прадпрыемствах УП «Мінгарсаюздрук» або заказаць іх можна зноў жа праз магазін № 18 (тэл. 284-31-06) ці праз дыспетчара «Мінгарсаюздруку».*

***Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца. У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню.***

***e-mail: minsk@lim.by***

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220005, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў прозы, паэзіі, навукі, крытыкі і літаратуразнаўства — 284-80-12.

Стыльрэдактар *М. І. Гусева*
Камп'ютэрная вёрстка *С. І. Сяргейчык*

---

Падпісана ў друк з гатовых дыяпазітываў 01.08.05 г. Фармат 70×108 $^1/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 18,20. Ул.-выд. арк. 18,38. Тыраж 3113 экз. Зак. 1736.

---

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.



*Кандрат Крапіва. 1941 г.*

*Кандрат Крапіва з сынам Барысам. 1942 г.*





*Кандрат Крапіва з Кузьмой Чорным. 1942 г.*

*Сустрэча ў Маскве (злева направа): Кандрат Крапіва, Ларыса Александроўская, рэдактар газеты «Северо-Западный фронт» Ц. Міронаў і Міхась Лынькоў. 1942 г.*



Нашы індэксы
індывідуальны — 74985
ведамасны — 00141

# Чытайце ў наступным нумары:

Мар'ян Дукса
Мікола Шабовіч
Васіль Андрыеўскі
Вершы

Святлана Лобач
Знайдзі сябе
Навелы

Зіновій Прыгодзіч
Краіна Ранішняй Свежасці
Дарожныя нататкі

Леанід Землякоў
Улада і рэлігія ў сучаснай Беларусі

ПОЛЫМЯ

ISSN 0130 — 8068